УДК 808.26: 802.0
ББК 81.411.3
К 12

Рэцэнзенты: кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры гуманітарных і мовазнаўчых дысцыплін Гродзенскага філіяла ПУА «БІП – Інстытут правазнаўства» *І.С.Лісоўская;*

кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства *А.І.Багдзевіч.*

Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук, прафесар *П.У.Сцяцко.*

**Кавалёва, Л.Я.**

К 12 Англіцызмы ў тэрміналогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы : манаграфія / Л.Я Кавалёва ; навук. рэд. праф. П.У.Сцяцко. – Гродна : ГрДУ, 2007. – 186 с.

ISBN

У манаграфіі ўпершыню даследуюцца тэрміны англійскага паходжання ў сучаснай беларускай мове, іх асіміляцыя да фанетычных, граматычных і семантычных нормаў мовы-рэцыпіента.

Адрасуецца студэнтам філалагічных спецыяльнасцяў ВНУ, выкладчыкам беларускай і англійскай моў і ўсім, хто даследуе праблемы кантрастыўнай лінгвістыкі і словаўтварэння.

Бібліягр. 168 назваў.

**УДК 808.26: 802.0**
**ББК 81.411.3**

**ISBN**

# УВОДЗІНЫ

У гісторыі развіцця беларускай мовы вылучаюцца два этапы фармавання беларускай тэрміналагічнай лексікі.

Да першага адносяць развіццё і фармаванне тэрміналагічнай лексікі ў перыяд XIV – XVII стст. Першапачатковай асновай фармавання тэрміналагічнай лексікі старабеларускай мовы выступаюць «намінацыі розных прадметаў і з'яў прыроды ў народным маўленні і іх фіксацыя ў пісьмовых помніках старабеларускай мовы» [3, с.11].

Другі этап развіцця тэрміналагічнай лексікі і тэрміназнаўства як навукі – пачатак XX ст. На актывізацыю тэрміналагічнай працы ў той час зрабілі пэўны ўплыў значныя палітычныя і грамадскія падзеі і з'явы, што адбываліся ў краіне.

Асноўнай крыніцай стварэння тэрмінаў былі: кніжная лексіка новай беларускай мовы, агульнаўжывальная лексіка і іншамоўныя тэрміны. У беларускую тэрміналогію пачатку XX ст. трапляюць словы з розных заходнееўрапейскіх моў, сярод якіх ёсць і пэўная колькасць англіцызмаў, што замацаваліся ў тэрміналагічных слоўніках 20-х гадоў XX стагоддзя. Так, тэрміналагічны сельскагаспадарчы слоўнік фіксуе 9 тэрмінаў і тэрмінаспалучэнняў са словамі англійскага паходжання: *райграс* (rye grass); *комбайн* (combine); *компост* (compost); *дрэнаж* (drainage); *трактар* (track); *буфэрная мешанка; буфэрны стан; буфэрны рошчын ← буфер* (buffer); *штандартны мэтад ← стандарт* (standard), *тэрміналагічны слоўнік грамадазнаўства – 5 англіцызмаў: блёкада* (blockade); *бойкот* (boycott, ад C.Boycott); *концэрн* (concern); *мітынг* (meeting); *трэст* (trust), *слоўнік лясных тэрмінаў* – 4 англіцызмы: *компост* (compost); *парк* (park); *стандарта* (standard); *фут* (foot), *тэрміналагічны слоўнік права улучае 6 англіцызмаў: блёк* (block), *бойкот* (boycott), *блокада* (blockade), *клюб* (club), *лёкаут* (lock out), *чэк* (check) і г.д.– Тэрміналагічныя слоўнікі 20 гадоў XX ст. мелі пэўныя недахопы. Агульным для ўсіх 24 выпускаў лічыцца недакладнае вызначэнне межаў паняццевага зместу канкрэтных галін ведаў. Акрамя гэтага, у кожным з выпускаў змяшчаецца значная частка тэрмінаў, якія належаць да іншых галін навукі і паўтараюцца ў некалькіх выпусках (пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца і англіцызмы, зафіксаваныя ў праектах тэрміналагічных слоўнікаў 1926-1927 гадоў).

Найбольш інтэнсіўна беларуская тэміналогія пачала развівацца ў пасляваенны перыяд (пасля 1945 г.). У другой палове XX ст. айчынныя мовазнаўцы пачынаюць актыўна займацца праблемамі фармавання, упарадкавання, функцыянавання сучаснай беларускай тэрміналогіі.

---

[1]Напісанне тэрмінаадзінак падаецца паводле праектаў слоўнікаў 1926-1927 гг. выдання.

У канцы 80-х і на працягу 90-х гадоў беларуская тэрміналогія і тэрмінаграфія дасягнулі ў сваім развіцці значных поспехаў. Так, у 1987 г. выйшла з друку манаграфія Л.А.Антанюк «Беларуская навуковая тэрміналогія», у якой разглядаюцца пытанні фармавання і развіцця беларускай навуковай тэрміналогіі, задачы яе ўпарадкавання, вывучаецца працэс тэрміналагічнага словаўтварэння. За гэты пэрыяд (1990-я гады) выходзяць і спецыяльныя слоўнікі розных тэміналагічных кірункаў: «Руска-беларускі слоўнік па фізіялогіі раслін» (1992), «Руска-беларускі слоўнік па анатоміі і марфалогіі раслін» (1995), «Руска-беларускі фізічны слоўнік» (1994), «Руска-беларускі слоўнік матэматычных, фізічных і тэхнічных тэрмінаў» (1995), «Расейска-беларускі вайсковы слоўнік» (1997), «Руска-беларускі слоўнік па машынабудаванні» (1998), «Руска-беларускі фізічны слоўнік» (1999) і інш. У 1999 г. убачыў свет «Слоўнік іншамоўных слоў» А.М.Булыкі, у якім падаецца тлумачэнне іншамоўных лексічных адзінак, сярод якіх ёсць і англіцызмы.

Значны ўплыў на развіццё беларускай тэрміналогіі ў канцы XX – пачатку XXI ст. аказалі англійскія словы. Разглядаючы ролю англіцызмаў у фармаванні сучаснай беларускай тэрміналогіі, адзначым, што на працягу 80-х – 90-х гадоў XX ст. выходзяць з друку асобныя артыкулы, у якіх даследуюцца роля лексемаў англійскага паходжання на развіццё беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, іх уплыў на тэрмінатворчы працэс беларускай мовы: Л.А.Антанюк «Развіццё і задачы ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі»; кніга «Тэорыя і практыка беларускай тэрміналогіі» [8] у раздзелах «Тэрміны са звязанымі кампанентамі грэчаскага паходжання», «Тэрміны са звязанымі кампанентамі лацінскага і рамана-германскага паходжання». Параўнальны аналіз тэматычнай группы назваў ягад у англійскай і беларускай мовах праводзіць У.Кошчанка ў артыкуле «Беларуская наменклатура ягад на фоне англійскай» [80].

Найбольш дасканала вывучаюцца англіцызмы ў сучаснай беларускай мове ў навуковых працах Н.М.Даўгулевіч [44–46]. У яе артыкулах [47–49] разглядаюцца праблемы фанетычнага прыстасавання англіцызмаў да нормаў сучаснай беларускай мовы. У 2003 г. Н.М.Даўгулевіч абаронена дысертацыя на тэму «Фанетычная адаптацыя запазычанняў з англійскай мовы ў сучаснай беларускай мове» [50].

І ўсё ж, нягледзячы на аўтарытэт англійскай мовы ў свеце, працаў, прысвечаных глыбокаму аналізу тэрмінаў-англіцызмаў, іх выкарыстання, функцыянавання, прыстасавання да моўных нормаў, у сучаснай беларускай тэрміналогіі яшчэ няма.

Адсутнасцю комплекснага аналізу англійскамоўных адзінак у складзе сучаснай беларускай тэрміналогіі і абумоўлены выбар тэмы манаграфіі. У працы ўпершыню даследуецца марфалагічная і семантычная адаптацыя англіцызмаў у сучаснай беларускай мове, падрабязна апісваецца ўплыў англійскіх адзінак на тэрмінаўтваральны працэс у мове-рэцыпіенце. У працы звяртаецца ўвага на пытанні тэорыі развіцця і фармавання сучаснай беларускай тэрміналогіі, аналізуюцца тэрміналагічныя адзінкі-англіцызмы ў адпаведнасці з патрабаваннямі да тэрмінаў.

Аналіз значнай колькасці сучасных беларускіх лексікаграфічных даведнікаў дае падставы зрабіць падрабязнае размеркаванне тэрмінаадзінак паводле сферы выкарыстання ў сучаснай айчыннай тэрміналогіі.

Актуальнасць тэмы абумоўлена і тым, што «значнае месца ў сучасных даследаваннях тэрміналогіі займаюць праблемы супастаўляльнага вывучэння. У экстралінгвістычным аспекце гэта абумоўлена агульнымі для народаў усходнеславянскага моўнага арэалу і больш шырока – для розных краін і народаў задачамі развіцця навукі і тэхнікі. У лінгвістычным аспекце праблемы супастаўляльнага даследавання набываюць асаблівую актуальнасць у сувязі з задачамі моўнага ўпарадкавання і ўніфікацыі тэрміналогіі ва ўсходнеславянскіх мовах і задачамі міжнароднай уніфікацыі тэрмінаў з улікам іх спецыфікі як знакаў спецыяльных паняццяў» [4, с.24].

РАЗДЗЕЛ I

# ТЭРМІН, ТЭРМІНАЗНАЎСТВА. ГАЛОЎНЫЯ АДЗНАКІ ТЭРМІНА І ІХ ВЫЯЎЛЕННЕ Ў СКЛАДЗЕ АНГЛІЦЫЗМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Адзінага вызначэння паняцця «тэрмін» у сучасным мовазнаўстве не існуе. Пры вырашэнні яго выяўляюцца розныя канцэпцыі і падыходы.

А.А.Рэфармацкі дае наступную характарыстыку «тэрміну»: «Тэрміны – гэта словы спецыяльныя, абмежаваныя сваім адмысловым прызначэннем, словы, якія імкнуцца быць адназначнымі, як дакладнае выражэнне паняццяў» [119, с.47]. У ролі тэрміна, як зазначае Г.В.Вінакур, можа выступаць усякае слова, тэрміны – гэта не адмысловыя словы, а словы ў адмысловай функцыі. Адмысловая функцыя, у якой выступае слова ў якасці тэрміна, – гэта называльная функцыя [26, с.6]. Тэрміналаг В.П.Даніленка досыць грунтоўна раскрывае сутнасць паняццяў «тэрмін» і «тэрміналогія». Асноўнай функцыяй тэрміналагічнай лексікі з’яўляецца «намінацыйна-дэфініцыйная функцыя (або, паводле А.А.Рэфармацкага, намінацыйна-семасіялагічная), гэта значыць функцыя назвы (найменне) і выражэння спецыяльнага паняцця, рэгламентаванага ў сваіх межах дэфініцыяй» [42, с.8].

Даючы азначэнне тэрміну, В.П.Даніленка, як і іншыя вядомыя даследчыкі, вызначае тэрмін як слова ў функцыі назвы паняцця. «Пад тэрмінам мы разумеем слова (або словазлучэнне) спецыяльнай сферы выкарыстання, якое з’яўляецца назвай спецыяльнага паняцця і патрабуе дэфініцыі» [42, с.15]. Адной з асноўных прыкметаў, якая характарызуе тэрмін, лічыцца дэфініцыйная функцыя тэрміна. Канцэпцыя пра тое, што «слова выконвае намінацыйную або дэфініцыйную функцыю», была выказана В.У.Вінаградавым [25, с.16]. Услед за ім многія мовазнаўцы даюць розныя тлумачэнні дэфініцыйнай функцыі тэрміна. Напрыклад, Л.А.Капанадзе адзначае, што «тэрмін не называе паняцце, як звычайнае слова, а паняцце яму прыпісваецца... І ў слоўніках тэрмін не тлумачыцца, а вызначаецца, таму нельга гаварыць пра лексічнае значэнне тэрміна ў агульным сэнсе гэтага слова. Значэнне тэрміна – гэта азначэнне паняцця, дэфініцыя, якая яму прыпісваецца» [75, с.78].

Некаторыя навукоўцы (Н.А.Ляўкоўская) лічаць, што тэрміны нясуць падвойную функцыйную нагрузку: намінацыйную і дэфініцыйную і ў сувязі з гэтым можна выдзеліць тэрміны-азначэнні

(«унутраная форма змяшчае кароткае навуковае вызначэнне адпаведных паняццяў») і тэрміны-назвы (не вызначаюць, а называюць паняцце) [95, с.200].

У працах, прысвечаных пытанням агульнай тэрміналогіі, слова «тэрмін» лічыцца мнагазначным і яму даюцца наступныя азначэнні. «Тэрмін – гэта спецыяльнае слова (або словазлучэнне), якое прынята ў прафесійнай дзейнасці і выкарыстоўваецца ў адмысловых умовах. Тэрмін – гэта славеснае абазначэнне паняцця, якое ўваходзіць у сістэму паняццяў пэўнай галіны прафесійных ведаў. Тэрмін – гэта асноўны паняццевы элемент мовы для спецыяльных мэтаў» [137, с.14].

Колькі б азначэнняў «тэрміну» ні даваць, колькі б падыходаў да тлумачэння «тэрмін» ні даследаваць, можна сказаць адно: што агульнае тлумачэнне для слова «тэрмін» у агульным мовазнаўстве знайсці праблематычна.

Тэрмін, як любая іншая лексічная адзінка, мае прыкметы, якасці і рысы, характэрныя толькі для яго. Многія вядомыя даследчыкі разглядалі тэрмін як у агульналітаратурнай мове, так і ў складзе пэўнай тэрміналогіі. «Тэрміны існуюць не проста ў мове, а ў складзе пэўнай тэрміналогіі» [118, с.80].

А.А.Рэфармацкі спрабаваў вызначыць «ідэальнасць тэрміна». На яго думку, ідэальным лічыцца той тэрмін, «ад якога можна ўтварыць вытворныя тэрміны». Ён праводзіць мяжу паміж тэрмінамі і нятэрмінамі (агульнаўжывальнымі словамі). Навуковец сцвярджае, што «тэрмін павінен быць адмежаваным ад полісеміі, экспрэсіўнасці і нетэрміналагічных слоў, якія характарызуюцца мнагазначнасцю і экспрэсіўнасцю» [118, с.82]. Яго папярэднік Д.С.Лотэ лічыў, што тэрміну не патрэбен кантэкст, як агульнаўжывальнаму слову, г.зн. тэрмін: «1. адносіцца да пэўнай тэрміналогіі, што выступае замест кантэксту; 2. можа ўжывацца ізалявана; 3. павінен быць адназначным не ў агульналітаратурнай мове, а ў межах гэтай тэрміналогіі» [101, с.73].

Вывучэннем тэрмінаў займаецца такая навука, як тэрміназнаўства. Тэрміналогія пэўнай галіны ведаў або навукі вызначаецца як сукупнасць, сістэма тэрмінаў, якая суадносіцца з сістэмай паняццяў адпаведнай навукі ці галіны ведаў і функцыянуе ў структуры той ці іншай мовы (А.А.Рэфармацкі, В.П.Даніленка, Б.М.Галавін, С.В.Грынёў, Л.А.Антанюк, П.У.Сцяцко і інш.).

Адным з асноўных пытанняў тэрміназнаўства з’яўляецца вызначэнне месца тэрміналогіі ў лексічным складзе мовы. Так, В.П.Даніленка прытрымліваецца наступных падыходаў: 1) тэрміналогія

разглядаецца як самастойны пласт літаратурнай мовы; 2) тэрміналогія вылучаецца са складу лексікі літаратурнай мовы. Аналізуючы гэтыя два падыходы, даследчыца прыйшла да высновы, якую падзяляюць і іншыя мовазнаўцы: «тэрміналогію трэба разглядаць, вывучаць у тым моўным асяроддзі, у якім яна выкарыстоўваецца ў адмысловым прызначэнні ў асноўнай намінацыйна-дэфініцыйнай функцыі. Такім асяроддзем для тэрміналогіі з'яўляецца самастойная функцыянальная разнавіднасць агульналітаратурнай мовы (мовы навукі і тэхнікі)» [42, с.8].

Асвятляючы праблему «тэрміна» і «тэрміналогіі», даследчыкі вылучаюць шэраг патрабаванняў, уласцівых тэрміну. «Асноўнымі асаблівасцямі падобнага наймення з'яўляецца дакладнасць, адназначнасць, лаканічнасць і сістэмнасць» [8, с.10].

Абагульніўшы думкі даследчыкаў, П.У.Сцяцко вылучыў адметныя рысы, характэрныя для тэрміна: «1) сістэмнасць, 2) наяўнасць дэфініцыі (апісання зместу слова праз выяўленне яго адметных адзнакаў (лац. difinitio – «азначэнне»), 3) тэндэнцыі да монасемічнасці ў межах пэўнай тэрміналогіі, 4) адсутнасць экспрэсіі (эмацыйна-ацэнкавых значэнняў); 5) стылістычная нейтральнасць» [145, с.104].

Падагульняючы сказанае, адзначым наступныя патрабаванні да тэрмінаў:

1) сістэмнасць (узаемасувязь з іншымі адзінкамі тэрміналагічнай сістэмы ў плане зместу і ў плане выражэння);
2) лаканічнасць тэрміна;
3) монасемантычнасць (адназначнасць);
4) адсутнасць сінаніміі, дублетнасці і варыянтнасці;
5) адсутнасць аманіміі;
6) адсутнасць антаніміі.

Адметнасці, уласцівыя «тэрміну», спрыяюць размежаванню тэрміналагічных і нетэрміналагічных адзінак.

## 1.1 Асноўныя патрабаванні да тэрмінаў-англіцызмаў

*Сістэмнасць тэрмінаў-англіцызмаў.* Сістэмнасць – адна з адметных рысаў, уласцівых сучасным тэрмінам. Пры вызначэнні сістэмнасці трэба кіравацца непарыўным адзінствам тэрміналогіі і сістэмы паняццяў пэўнай навуковай галіны ведаў. Паводле Л.Дзінес, «сістэме паняццяў кожнай галіны ведаў адпавядае сістэма тэрмінаў, у якой тэрміны маюць пэўнае месца, што залежыць ад месца паняцця ва ўсёй гэтай сістэме паняццяў» [52, с.77].

Свае спецыфічныя рысы тэрміны набываюць толькі ў межах канкрэтнай тэрміналагічнай сістэмы, або тэрміналагічнага поля. «Тэрмінасістэму трэба разглядаць як сукупнасць спецыяльныхназваў, якая суадносіцца з адпаведным колам паняццяў. Унутры сістэмы тэрміны аб'ядноўваюцца па лексічна-семантычных групах, гэта значыць мае месца сістэмна-уніфікаваны працэс на парадыгматычным узроўні» [8, с.13].

Некаторыя даследчыкі (А.В.Суперанская, Н.В.Падольская) лічаць, што «сістэмнасць агульнай лексікі праяўляецца ў тэматычных групах асобных слоў, у іх структурнай аналогіі, у перабудовах і пераўтварэннях асобных менш актуальных слоў па мадэлі больш актуальных і частотных слоў» [137, с.115].

Адзначым, што патрабаванне сістэмнасці тэрміна павінна рэалізоўвацца ў плане зместу і плане выражэння, паколькі тэрмін – з аднаго боку, павінен дакладна арыентаваць на аб'ект у сістэме, а з другога – характарызавацца лексічнай сістэмнасцю і разглядацца ў яго адносінах да іншых тэрмінаў.

Прааналізуем у сувязі з гэтым адну групу тэрмінаў–англіцызмаў, якія праніклі ў беларускую мову і ўваходзяць у класіфікацыйны рад «*машыны»*. Тут трэба выявіць, як пэўная група тэрмінаў адпавядае патрабаванню сістэмнасці. Паняццевы змест кожнага англіцызма адлюстроўваецца ў адпаведнай дэфініцыі: *аверлок* – 'краеабкідальная швейная машына'; *баластэр* – 'машына для пакрыцця баластам чыгуначнага палатна'; *бульдозер* – 'землярыйна–транспартная машына з адвалам, прызначаная для зразання, перасоўвання, разраўноўвання грунту'; *аптайп* – 'аўтаматычная машына для фотанабору радкоў, якія аказаліся прапушчанымі набарнапішучай машынай'; *ватэр* – 'машына для прадзення бавоўны, ільну, воўны'; *віндроўэр* – 'уборачная машына, якая косіць збажыну, укладвае яе ў рады для далейшага дасыхання і даспявання'; *грэйдэр* – 'спецыяльная машына для выроўнівання палатна грунтовых дарог, планіроўкі адхонаў, пракладкі каналаў і інш.'; *драга* – 'плывучая землечарпальная машына, прызначаная для паглыблення рэк і азёр, а таксама для распрацоўкі рассыпных залежаў золата і плаціны'; *думпер* – 'самазвальная машына для перавозкі сыпкіх рэчываў на кароткія адлегласці'; *камбайн* – 'складаная машына, якая выконвае некалькі аперацый'; *кампаўнд* – 'паравая машына з 2-ма цыліндрамі, у якіх пара працуе паслядоўна'; *кутэр* – 'машына для тонкага здрабнення мяса, якая выкарыстоўваецца ў каўбаснай вытворчасці'; *ліфт* – 'машына для падымання пасажыраў і грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах і інш.'; *лудлоў* – 'наборная падко-

ваадліўная вялікакегельная машына з ручным наборам матрыц’; *люмітайп* – ‘электронная аднаратная літарапраекцыйная лагічная машына; забяспечвае атрыманне фотанабору шрыфтамі кегеля’; *летэрфот* – ‘фотанаборная машына для набору загалоўкаў’; *мюль-машына* – ‘машына для вырабу ваўнянай пражы’; *ратапрынт* – ‘малафарматная друкарская машына для друкавання афсетным спосабам’; *ролер* – ‘машына для скручвання чайных лістоў’; *рутэр* – ‘машына для раздраблення камяністых і цвёрдых грунтаў’; *сельсін* – ‘1. самасінхранізавальная электрычная машына для перадачы на адлегласць інфармацыі аб вугле павароту вала другой машыны; выкарыстоўваецца ў сістэмах аўтаматыкі і тэлемеханіцы. 2. барабанная машына для прамывання карысных выкапняў’; *скрэпер* – ‘землярыйна-транспартная машына для дарожных работ’; *статар* – ‘нерухомая частка электрычнай машыны ў сярэдзіне якой верціцца ротар’; *стопер* – ‘машына для бурэння свідравін, накіраваных уверх’; *стрыпер* – ‘машына для вымання стальных балванак са зложніцы’; *танк* – ‘баявая гусенічная машына’; *трымер* – ‘перасоўная пагрузачная машына для сыпкіх грузаў, якая адкідае іх убок на адлегласць да 30 м’; *турнадозер* – ‘машына для перасоўвання рэйкавых пуцей і лентачных канвеераў, якая выкарыстоўваецца ў кар’ерах’; *фільматайп* – ‘фотанаборная машына з ручной устаноўкай шрыфтавага шаблону і фотаматэрыялу’; *фолдэр* – ‘фальцавальная машына’; *фотасетер* – ‘фотанаборная машына, пабудаваная як радкаадлівальная машына ітэртып’; *фрызер* – ‘машына для ўзбівання і замарожвання сумесі паўфабрыкатаў у вытворчасці марожанага’; *хедлайнер* – ‘фотанаборная машына з ручной устаноўкай шрыфтавых шаблонаў і фотаматэрыялу’; *хескер-пікер* – ‘сельскагаспадарчая машына для ўборкі на палі спелых пачаткаў кукурузы’; *хескер-шрэдэр* – ‘машына для апрацоўкі кукурузы – вылушчвання сцёблаў у так званае кукурузнае сена’.

Аналізуючы дэфініцыі згаданых лексічных адзінак, выяўляем, што паміж гэтымі тэрмінамі існуе ўзаемасувязь. Яна ў тым, што тэрміны называюць машыны, якія выконваюць розныя функцыі для паляпшэння чалавечай дзейнасці (працы). Напрыклад, *баластэр* – выкарыстоўваецца ў будаванні дарог; *ватэр* – у лёгкай прамысловасці для прадзення розных відаў тканін; *кутэр* – для вытворчасці каўбасных вырабаў; *ролер* – для вытворчасці чаю; *ротапрынт* – у паліграфіі (для друкавання газет, часопісаў); *хескер-шрэдэр* – у сельскай гаспадарцы і інш. Такія тэрміны, як *аверлок, ватэр, мюль-машына* ўзаемазвязаныя між сабою, бо яны адносяцца да групы машын, што выкарыстоўваюцца ў лёгкай прамысловасці; да будаўніцтва належыць група машын, якая ўключае тэрміны *балас-*

*тэр, бульдозер, грэйдэр, думпер, камбайн, скрэпер, стопер*. Далей ідзе група машын, што выконваюць пэўныя функцыі ў сельскай гаспадарцы: *віндроўэр, камбайн, хескер-пікер, хескер-шрэдэр*. Значную групу складаюць тэрміны, узаемазвязаныя паміж сабою тым, што яны называюць віды машын, якія выконваюць пэўную працу ў паліграфіі (друкаванне газет, часопісаў, кніг і г.д.): *аптайп, верытайпер, лудлоў, люмітайп, летэрформ, ратапрынт, фільматайп, фотасетер, хедлайнер*. Такія тэрміны, як *драга, камбайн, рутэр, скутэр, стопер, стрыпер, трымер, турнадозер* выкарыстоўваюцца ў горназдабыўнай прамысловасці, дзе кожная з гэтых відаў машын выконвае сваю пэўную функцыю. Да харчовай прамысловасці належаць такія тэрміны, як *кутэр* (каўбасныя вырабы), *ролер* (чайныя лісты), *фрызер* (замарожванне паўфабрыкатаў).

Такім чынам, разгледжаныя тэрміны-англіцызмы ўваходзяць у адзін класіфікацыйны рад – «*машыны*». Кожная з гэтых лексічных адзінак адносіцца да сваёй мікрагрупы, дзе існуе ўзаемасувязь паміж тэрмінамі. Агульнай прыметай іх з’яўляецца тое, што яны абазначаюць машыны. Гэта і дазваляе аб’яднаць адпаведныя тэрміны ў адзін класіфікацыйны рад.

Аднак дэфініцыі гэтых тэрмінаў маюць свае дыферэнцыйныя прыметы. Так, *баластэр* – гэта машына ‘для пакрыцця баластам чыгуначнага палатна’; *грэйдэр* – машына ‘для выроўнівання палатна грунтовых дарог’; *ліфт* – ‘машына для падымання пасажыраў і грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах’ і г.д.

Разгледзім, як адлюстроўваецца сістэмнасць у плане выражэння ў названых тэрмінах. Аналізуючы названыя лексічныя адзінкі, вылучым некалькі мікрагруп, у якія ўваходзяць тэрміны, аб’яднаныя пэўным агульным тэрмінаэлементам. Так, *бульдозер* [англ. bull + dozer]; *турнадозер* [turn + dozer] – агульным у гэтых тэрмінах з’яўляецца элемент -<u>*dozer*</u>; *аптайп* [op + type]; *верытайпер* [very + typer]; *люмітайп* [lumen + type]; *фільматайп* [film + type] – наяўнасць у кожным з іх тэрмінаэлемента -<u>*type*</u>; *хескер-пікер* [husker + piker]; *хескер-шрэдэр* [husker + shredder] – аб’ядноўвае элемент <u>*husker-*</u> /шалупінне кукурузы/ і -<u>*er*</u>. Суфіксавы фармант -<u>*er*</u> аб’ядноўвае такія простыя тэрмінаадзінкі, як *баластэр* [ballast+er]; *грэйдэр* [grade+er]; *думпер* [dump+er]; *кутэр* [cut+er]; *ролер* [roll+er]; *рутэр* [root+er]; *скрэпер* [scrape+er]; *стопер* [stop+er]; *стрыпер* [strip+er]; *трымер* [trim+er]; *фолдэр* [fold+er]; *фрызер* [freeze+er].

Наяўнасць фарманта -<u>*er*</u> назіраецца і ў складаных тэрмінаадзінках: *віндроўэр* [wind+row+er]; *фотасетер* [photo+set+er]; *хедлайнер* [head+line+er]. Тут вылучаецца асобая мікрагрупа тэрмінаў ан-

глійскага паходжання, якія ў сваёй структуры не маюць агульных элементаў: *аверлок* [over+lock]; *мюль-машына* [mule+machine]; *ратапрынт* [лац. rota+ англ. print]; *сельсін* [selsyn ¬ англ. self + гр. synchronas]; *драга* [drag]; *камбайн* [combine]; *кампаўнд* [compound]; *ліфт* [lift]; *лудлоў* [ludlow]; *танк* [tank]. Так, прааналізаваўшы тэрміны, што называюць пэўную «машыну», наконт сістэмнасці ў плане выражэння, можна адзначыць, што значная частка гэтых тэрмінаадзінак з'яўляецца сістэмнай у плане структуры.

Такім чынам, названыя тэрміны сістэмныя ў плане зместу, а большая іх частка і ў плане структуры (выражэння).

Доказам сістэмнасці тэрмінаадзінак-англіцызмаў у плане зместу і ў плане выражэння з'яўляецца група, што належыць да класіфікацыйнага рада «*мінералы*». Паняццевы змест кожнага тэрміна (*англезіт* – 'мінерал класа сульфатаў, серна-кіслы свінец'; *айкініт* – 'рэдкасны мінерал'; *бадэліт* – 'мінерал, двухвокіс цырконію, які з'яўляецца крыніцай для атрымання цырконію'; *бранерыт* – 'мінерал, уранавая, торыевая і іншыя солі тытанавых кіслот; руда урану'; *бенітаіт* – 'мінерал тытанаў, сілікат барыю белага, сіняга колеру або бясколерны, выкарыстоўваецца як паўкаштоўны камень'; *брукіт* – 'мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў жоўтага, бурага або чорнага колеру, які з'яўляецца сыравінай для атрымання ферататыну'; *брусіт* – 'мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў белага або зеленаватага колеру, празрысты; з'яўляецца сыравінай для атрымання магнію'; *вад* – 'мінерал групы псіламелану, сумесь зямлістых і сажыстых агрэгатаў аксідаў і гідраксідаў марганцу чорнага або цёмнакарычневага колеру; руда марганцу, кобальту і нікелю'; *вівіяніт* – 'мінерал класа фасфатаў, водны фасфат двухвалентнага жалеза блакітнага колеру' і г.д.) сведчыць, што згаданыя тэрміны ўзаемазвязаныя тым, што яны абазначаюць пэўны мінерал, які мае ў сваём складзе розныя натуральныя рэчывы, і належаць да розных мінералагічных падкласаў. Агульная інтэгральная сэнсавая прымета – прыналежнасць да мінералаў. Згодна з гэтай асаблівай прыметай мы можам аб'яднаць дадзеныя тэрміны ў адзін класіфікацыйны рад. А размяжоўваць іх можна па дыферэнцыйных сэнсавых прыметах паняццяў, з якім суадносіцца кожны тэрмін.

Дыферэнцыйнымі прыметамі гэтых тэрмінаў з'яўляюцца натуральныя рэчывы, якія ўваходзяць у склад таго ці іншага мінералу, што адносіцца да пэўнага мінералагічнага класа. Напрыклад, *бадэліт* – двухвокіс цырконію; *брукіт* – вокіс і гідравокіс жоўтага, бурага і чорнага колеру; *вад* – зямлістыя і сажыстыя агрэгаты аксідаў і гідраксідаў марганцу; *мілерыт* – сульфід латунна-жоўтага ко-

леру; *сіліманіт* – сілікат шэрага, светла-бурага, бледна-зялёнага колеру; *эпсаміт* – сульфат белага колеру, часам бясколерны і інш. Так, у плане зместу згаданыя англіцызмы з’яўляюцца сістэмнымі.

Цяпер разгледзім сістэмнасць гэтых тэрмінаў у плане выражэння. Тут можна вылучыць асобную мікрагрупу тэрмінаў-англіцызмаў, якія маюць у сваёй структуры суфіксавы фармант класічнага паходжання -*<u>іт</u>*: *англезіт* [anglesite ← Anglesey + it(e)]; *айкініт* [aykinite ← Aykin + it(e)]; *бенітаіт* [benitaite ← San-Benita+ it(e)]; *бадэліт* [baddelite ← Baddeley + it(e)]; *бранэрыт* [brannerite ← Branner + it(e)]; *брукіт* [brookite ← Brooke + it(e)]; *брусіт* [brucite ← Bruce + it(e)]; *вівіяніт* [vivianite ← Vivian + it(e)]; *вітэрыт* [witherite ← Withering + it(e)]; *гастынгсіт* [hastingsite ← Hasting + it(e)]; *гібсіт* [gibbsite ← Gibbs + it(e)]; *даўсаніт* [dowsonite ← Dowson + it(e)]; *калеманіт* [colemanite ← Coleman + it(e)]; *каэсіт* [coesite ← Coes + it(e)]; *мілерыт* [millerite ← Miller + it(e)]; *пентландыт* [pentlandite ← Pentland + it(e)]; *сіліманіт* [sillimanite ← Silliman + it(e)]; *смітсаніт* [smithsonite ← Smithson + it(e)]; *тэнантыт* [tennantite ← Tennant + it(e)]; *эпсаніт* [epsonite ← Epson + it(e)]. Аднак сярод тэрмінаў-англіцызмаў, што адносяцца да класіфікацыйнага рада «*мінералы»,* ёсць адзінкі, якія не маюць агульных фармантаў і элементаў у сваёй структуры: *вад* [wad ← Wad]; *лабрадор* [labrador ← Labrador]. Такім чынам, прааналізаваныя лексемы сістэмныя ў плане зместу і ў большасці сваёй у плане выражэння.

Прааналізаваныя класіфікацыйныя рады «*машыны»* і «*мінералы»* з’яўляюцца сістэмнымі ў плане зместу і значная іх частка ў плане выражэння.

Гіпера-гіпанімічныя адносіны – істотны паказчык сістэмнай арганізацыі адзінак у агульным мовазнаўстве. Тут выдзяляюцца два тыпы слоў: гіпонімы (выражаюць відавыя паняцці) і гіперонімы (выражаюць родавыя паняцці).

У тэрміналогіях розных галін ведаў таксама можна перадаваць сістэмныя адносіны паміж паняццямі, прычым змест відавога паняцця шырэйшы за змест родавага паняцця. Гэта азначае, што значэнне слоў-гіпонімаў уключае большую колькасць семантычных кампанентаў, чым значэнне слоў-гіперонімаў. Гэтую з’яву можна выявіць на прыкладзе тэрміна-англіцызма, што належыць да навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, і ўласнабеларускіх тэрмінаў.

Так, гіперонім-англіцызм «камбайн» падпарадкоўвае сабе наступныя ўласнабеларускія гіпонімы: *<u>горны</u> камбайн* – ‘складаная машына, якая выконвае зарубку вугальнага пласта, адбойку і пагрузку на канвеер’; *<u>сельскагаспадарчы</u> камбайн* – ‘складаная ма-

шына, якая спалучае працэс уборкі збожжа з малацьбой і першаснай ачысткай зерня’; *электратрубазварачны камбайн* – ‘машына для аўтаматызаванага выканання зварных металічных труб’.

Больш дэталёвы аналіз гэтай мікрагрупы тэрмінаў паказвае, што яны сістэмныя ў плане зместу. Гэта значыць, што ў іх дэфініцыях ёсць агульная інтэгральная прымета – здольнасць выконваць шэраг паслядоўных аперацый. Таксама выяўляецца і дыферэнцыйная прымета: *горны* (к) -зарубка вугальнага пласта, адбойка і пагрузка на канвеер; *сельскагаспадарчы* (к) – выконвае ўборку збожжа з малацьбой і першаснай ачысткай зерня; *электратрубазварачны* (к) – для зварвання металічных труб. Інтэгральная прымета выражана агульным тэрмінаэлементам – *камбайн*, а дыферэнцыйныя – відавымі азначэннямі гэтага тэрмінаэлемента. Такім чынам, можна аб’яднаць згаданыя гіпонімы ў адзін рад «*складаная машына*».

Разгледзім сістэмнасць у плане выражэння відавых азначэнняў: *гор+**н**+ы; сельска+гаспадар+**ч**+ы; электра+труба+зварач-+**н**+ы.* Як бачым, у плане выражэння відавыя азначэнні часткова сістэмныя, бо структура адзінак *горны* і *электразварачны* адрозніваецца ад структуры відавога азначэння *сельскагаспадарчы.* Так, гэтыя гіпонімы сістэмныя ў плане зместу і часткова ў плане выражэння. Аб’ядноўвае іх ў адну мікрагрупу гіперонім англійскага паходжання «камбайн».

Увогуле, мікрагрупы, дзе сістэмнасць праяўляецца цалкам у двух планах – рэдкая з’ява. З даследавання англіцызмаў сучаснай беларускай тэрміналогіі вынікае, што для іх у асноўным характэрная сістэмнасць у плане зместу, а ў плане выражэння – яна частковая.

Сведчаннем сістэмнай арганізацыі тэрміналагічных адзінак намінацыйнага характару з’яўляецца і гіпанімія.

У плане зместу з сістэмнасцю тэрмінаў звязана іх дакладнасць. Тэрмін павінен выступаць у якасці назвы той дэфініцыі, якая яму дадзена. Калі дэфініцыя сфармулявана дакладна, з улікам інтэгральнай і дыферэнцыяльных прымет адпаведнага паняцця, то тэрмін з’яўляецца дакладным.

На думку даследчыкаў, «дакладнасць спецыяльнага найменьня, якая грунтуецца на адпаведнасці слоўнага абазначэння паняццю, з’яўляецца ключавым прынцыпам у тэрміналогіі» [8, с.10].

Аналіз тэрмінаадзінак англійскага паходжання паказвае, што дэфініцыі дакладна вызначаюць месца кожнага тэрміна ў пэўным класіфікацыйным радзе, суадносяць тэрмін з адпаведным паняццем. Гэта значыць, што для тэрмінаў, сістэмных у плане зместу, характэрная сэнсавая дакладнасць.

*Лаканічнасць тэрмінаў-англіцызмаў.* «Прынцыпова важным пытаннем развіцця і ўдасканалення моўнага афармлення беларускай тэрміналогіі выступае аналіз умоў і магчымасцей «згортвання» шматслоўных тэрмінаў і стварэння аднаслоўных тэрміналагічных намінацый, здольных дакладна перадаваць змест адпаведнага паняцця» [4, с.15]. Так, адно з асноўных патрабаванняў да тэрміна – быць лаканічным.

Праблема лаканічнасці тэрміна даследавалася многімі лінгвістамі–тэрмінолагамі. Кароткая форма тэрміна або кароткі варыянт тэрміна – «раўнапраўная па значэнні, але скарочаная пэўнымі спосабамі моўная канструкцыя тэрміналагічнага наймення таго самага паняцця» [42, с.181-182].

Тэрміназнаўцы, вывучаючы праблему ўтварэння кароткага варыянта тэрміна, прапануюць выкарыстоўваць розныя спосабы скарачэння даўжыні тэрміна і спрашчэння іх структуры. Так, В.М.Лейчык вылучае чатыры спосабы скарачэння і спрашчэння структуры тэрміна [97, с.63]. Да першага з іх адносіцца сінтаксічны спосаб (устараненне малаінфармацыйных элементаў тэрміна), да другога – словаўтваральны спосаб (устараненне малаінфармацыйнага тэрмінаэлемента і пераўтварэнне пакінутага ў назоўнік), да трэцяга – марфалагічны спосаб кампрэсіі тэрміна (уключае лексемы з суфіксамі лацінскага паходжання, ланцуговыя ўтварэнні, тэлескапічныя лексемы), чацвёрты спосаб кампрэсіі – фанетычны (розныя віды абрэвіяцыі).

В.П.Даніленка вылучае «тры найбольш распаўсюджаныя моўныя спосабы ўтварэння кароткіх варыянтаў тэрмінаў» [42, с.83]. Да першага даследчыца адносіць лексічнае скарачэнне. Вынікам гэтага спосабу з’яўляюцца суадносіны поўнага і кароткага варыянтаў тэрміна: словазлучэнне – словазлучэнне, словазлучэнне – слова. Лексічнае скарачэнне адбываецца шляхам апускання слова ў словазлучэнні і заменаю словазлучэння словам, якое суадносіцца паводле ўтваральнай асновы з адным з кампанентаў словазлучэння. Да другога – скарачэнне шляхам словаўтварэння. Тут выдзяляюцца некалькі спосабаў словаўтварэння, што выкарыстоўваюцца як прыёмы скарачэння тэрмінаў-словазлучэнняў: 1) афіксацыя; 2) словаскладанне; 3) абрэвіяцыя. Да трэцяга – скарачэнне шляхам сімволікі. У гэтым выпадку скарочаны варыянт – гэта сімвал, але ў адрозненне ад абрэвіятур сімвал не суадносіцца з першай літарай скарочанага слова [42, с.184-188].

Англійскамоўныя тэрміны, што пранікаюць у сучасную беларускую тэрміналогію, цалкам адпавядаюць патрабаванню лаканічнасці тэрміна.

Наш матэрыял паказвае, як патрабаванне лаканічнасці рэалізуецца ў тэрмінах-англіцызмах.

Важным сродкам у дасягненні лаканічнасці тэрміна лічыцца марфалагічны спосаб кампрэсіі тэрмінаў. Прыкладам могуць служыць: а) лексемы з суфіксамі лацінскага паходжання: *гастынгсіт* (Hastings); *гіпсіт* (G.Gibbs); *гапкаліт* (hopkalite); *глюоны* (glue) і інш.;

б) ланцуговыя ўтварэнні: *тэлетайпсетэр* (tele+type+setter); утварэнне шляхам словаскладання: *дынертэатр* (dinner-theater ¬ dinner + theater); *капігольд* (copyhold ← copy + hold); *баскетбол* (basketball ← basket+ball); *ватэрвейс* (waterway ← water+way) і г.д.;

в) тэлескапічныя лексемы: *камкордэр* (cam(era) + (re)corder); *матэль* (moto(rists) + (hot(ell); *транзістар* (tran(sfor) + (re)sistor); *інтэльсат* (Intelsat←Internstional Telecommunication Satellites); *фартран* (for(mula) + tran(slator); *пермінвар* (perminvar←perme(ability) + (invar(iable)) і г.д.

Фанетычны спосаб кампрэсіі тэрмінаў таксама выкарыстоўваецца для дасягнення гэтай мэты (скарачэнне тэрмінаадзінак). Тут ужываюцца розныя віды абрэвіяцыі, напрыклад, акронімы: *лазер* (Lazer←light Amplification by stimulated Emission of Radiation); *радар* (radar = radio detection and randing); *каф* (caf←cost+frieght) і г.д.

Як паказвае аналіз фактычнага матэрыялу, даўжыня тэрмінаўангліцызмаў скарачаецца за кошт літарных і гукавых абрэвіятур, шляхам словаскладання або ланцуговых утварэнняў. Перавагу тут можна аддаць тэрмінам, якія складаюцца з двух тэрмінаэлементаў.

## 1.2 Лексічна-семантычная характарыстыка тэрмінаў-англіцызмаў

*Монасемія тэрміна і яе выяўленне ў складзе англіцызмаў беларускай мовы.* Адназначнасць – гэта не ўласцівасць, якою павінен валодаць тэрмін, гэта патрабаванне да яго. «Ад любога тэрміна трэба патрабаваць яго адназначнасці ў межах пэўнай і роднасных тэрміналогій» [100, с.99].

У тэрміназнаўстве існуюць як прыхільнікі, так і праціўнікі гэтага погляду. Так, А.А.Рэфармацкі і Р.А.Будагаў да полісеміі тэрмінаў ставяцца адмоўна, бо тэрмін павінен «імкнуцца да монасеміі». «Кожны навуковы тэрмін мае адно пэўнае значэнне. Мнагазначнасць тэрмінаў з’яўляецца недахопам і часта стварае блытаніну» [18, с.23].

А.В.Суперанская таксама лічыць, што «тэрмін павінен абазначаць толькі адно навуковае або тэхнічнае паняцце, а апошняму

павінен адпавядаць толькі адзін тэрмін» [137, с.129]. Аднак, разглядаючы патрабаванне да монасеміі больш шырока, даследчыца падкрэслівае, што тэрмін можа быць адназначным у пэўным тэрміналагічным полі, а за яго межамі тая самая лексічная адзінка можа быць звязана з іншымі паняццямі [137, с.129].

Даследаванне дазваляе нам вылучыць шэраг тэрмінаадзінак з двума або некалькімі няблізкімі значэннямі, якія набываюць адназначнасць у пэўнай тэрміналогіі. Агульная колькасць такіх тэрмінаў-англіцызмаў складае прыблізна 50 тэрміналагічных адзінак. Да іх адносяцца такія тэрміны, як *аўтрыгер* – да тэхнічнай тэрміналогіі з значэннем ‘дадатковая апора, якая засцерагае ад перакульвання, перасовачная прылада’ і да марской тэрміналогіі – ‘лодка з вынаснымі ўключынамі для вёсел’; *катэр* – да марской тэрміналогіі з значэннем ‘невялікае самаходнае судна для розных мэт’ і да вайсковай тэрміналогіі – ‘ваенна-марская парусна-грабная шлюпка’; *кросінг* – да будаўнічай тэрміналогіі з значэннем ‘вентыляцыйны праход у шахце для раздзялення перасякальных струменяў паветры’ і да спартыўнай тэрміналогіі з значэннем ‘забаронены прыём у забегу, заездзе, калі адразу пасля абгону рэзка перасякаецца шлях саперніку’; *спікер* – да грамадска-палітычнай тэрміналогіі – ‘старшыня парламента ці яго ніжняй палаты’ і да спартыўнай тэрміналогіі – ‘асоба, якая аб’яўляе глядачам рашэнне суддзяў на спаборніцтвах у боксе’ і іншыя тэрміны.

З’яву полісеміі ў тэрміналогіі падтрымліваюць такія тэрміназнаўцы, як В.П.Даніленка, Б.Н.Галавін, В.С.Ахманава. Прызнаючы тэрміналогію часткай агульналітаратурнай мовы, яны лічаць, што тэрміны падлягаюць усім тым лексічна-семантычным працэсам, паводле якіх развіваецца слоўнікавы склад літаратурнай мовы ў цэлым. У сувязі з гэтым тэрміны могуць быць мнагазначнымі.

Мнагазначнае слова суадносіцца з некалькімі паняццямі. Лічыцца, што яно мае адно асноўнае значэнне, ад якога развіваюцца дадатковыя і пераносныя значэнні.

Трэба зазначыць, што некаторыя лінгвісты (С.Уілман) вылучаюць адзін з тыпаў полісеміі – бісемію (наяўнасць у слове двух значэнняў).

З’ява полісеміі, а часцей бісеміі, назіраецца і сярод англіцызмаў. На аснове даследавання фактычнага матэрыялу адразу зазначым, што колькасць тэрмінаў-англіцызмаў з двума або некалькімі значэннямі складаюць прыблізна 8,2 % ад агульнай іх колькасці.

Мнагазначныя тэрміны англійскага паходжання сустракаюцца ў такіх тэматычных групах, як:

а) эканамічныя тэрміны (увайшло каля 12 адзінак англійскага паходжання з некалькімі значэннямі): *андэррайтынг* – 1. размяшчэнне каштоўных папер па публічнай падпісцы праз пасрэднікаў, функцыі якіх звычайна выконваюць інвестыцыйныя банкі. 2. падпіска на акцыі. 3. прыём нерухомасці на страхаванне; *бенефіцыяр* – 1. асоба, якая атрымлівае даходы ад сваёй маёмасці пры перадачы яе другой асобе на даверанай падставе (пры сдачы ў арэнду, наём). 2. той, хто атрымлівае грошы паводле акрэдытыва або страхавога полісу; *бізнес* – 1. камерцыйная, біржавая або прадпрымальніцкая дзейнасць, накіраваная на атрыманне прыбытку. 2. дзелавое жыццё, эканамічная дзейнасць наогул у адрозненне ад іншых сфер жыцця, дзейнасці; *варант* – 1. пасведчанне, якое выдаецца таварнымі складамі аб прыняцці тавару на захоўванне. 2. дадатковае пасведчанне, якое выдаецца разам з каштоўнай паперай і дае яе ўладальніку права на дадатковыя льготы па сканчэнні пэўнага тэрміну; *ваўчар* – 1. пісьмовая распіска, паручыцельства, гарантыя або рэкамендацыя. 2. сертыфікат, які дае права на атрыманне стандартных адукацыйных паслуг. 3. індывідуальны прыватызацыйны чэк. 4. талон, які выкарыстоўваецца для аплаты тавараў і паслуг; *грант* – 1. мэтавыя сродкі ў грашовай або матэрыяльнай форме, якія даюцца дзяржавай фізічным і юрыдычным асобам на конкурснай аснове для правядзення навуковых даследаванняў, а таксама датацыя творчым калектывам, спартыўным камандам і інш. з дзяржаўнага або мясцовага бюджэту. 2. стыпендыя. 3. аднаразовае выдзяленне грашовай сумы або падараванне абсталявання, памяшкання культурным, навуковым і іншым установам і арганізацыям; *дылер* – 1. юрыдычная або фізічная асоба, якая з'яўляецца членам фондавай біржы і выконвае аперацыі з каштоўнымі паперамі. 2. супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай. 3. асоба або фірма, якая перапрадае тавары; *кансалцінг* – 1. парады спецыялістаў, кансультаванне. 2. эканамічная работа спецыяльных кампаній па кансультаванню вытворцаў, гандляроў, пакупнікоў у галіне эксперыментнай, тэхнічнай і эканамічнай дзейнасці; *нотыс* – 1. апавяшчэнне аб поўнай гатоўнасці судна да пагрузкі або разгрузкі. 2. апавяшчэнне аб пастаўцы рэальнага тавару паводле біржавага кантракту; *пенс* – 1. разменная манета Англіі. 2. старадаўняя англа-саксонская сярэбраная манета; *чэк* – 1. дакумент, у якім даецца распараджэнне банку выдаць ці пералічыць прад'яўніку пэўную суму грошай з бягучага рахунку асобы, што падпісала гэты дакумент. 2. квітанцыя касы аб прыёме грошай ад пакупніка, якая прад'яўляецца прадаўцу для атрымання тавару, і інш.;

б) палітэхнічныя тэрміны (каля 22 л.а.): *багінг* – 1. падслухоўванне з дапамогай электрычных сродкаў. 2. устройства мініяцюрных камераў для падслухоўвання, якое тайна манціруецца ў жыллі або адзенні; *блістэр* – 1. купалападобны выступ з празрыстай пластмасы на фюзеляжы самалёта для паляпшэння агляду і размяшчэння зброі і прыцэльных прыстасаванняў. 2. супрацьміннае патаўшчэнне корпусу карабля; *блок* – 1. прыстасаванне для пад'ёму грузаў у выглядзе кола з выемкай па акружнасці. 2. вузел машыны з некалькіх аднолькавых элементаў; *бокс* – 1. герметычная або ізаляваная камера для работы з мікраарганізмамі, радыёактыўнымі рэчывамі і інш. 2. металічная каробка, праз якую тэлефонны кабель уваходзіць у кабельную скрынку; *бульдозер* – 1. землярыйна-транспартная машына з адвалам, прызначаная для зразання, перасоўвання, разраўноўвання грунту. 2. гарызантальны прэс для гнуцця ў штампах сартавога і паласавога пракату; *дэфростэр* – 1. камера ў халадзільніку, якая мае ацяпленне і моцную цыркуляцыю паветра (для захавання яек). 2. прыстасаванне для абдзімання шкла аўтамабіля, каб не абмярзала; *міксер* – 1. механічны або электрычны апарат для хуткага змешвання, збівання чаго-небудзь. 2. ёмістасць для прыёму вадкага чыгуну з доменнай печы; *пікап* – 1. невялікі аўтамабіль, звычайна з адкрытым кузавам і адкіднымі сядзеннямі каля бартоў. 2. прыстасаванне ў камбайне для скошаных сцеблаў і транспартавання іх у малацільны апарат і інш.;

в) спартовыя тэрміны (каля 11 тэрмінаадзінак): *бадмінтон* – 1. спартыўная гульня. 2. камплект прылад для такой гульні; *бобслей* – 1. спартыўныя суцэльнаметалічныя сані з рулявым кіраваннем для скараснога спуску з гор па спецыяльна падрыхтаванай трасе. 2. скарасны спуск з гор на такіх санях; *гіт* – 1. прабег каня на кароткую дыстанцыю. 2. адзіночны забег ці заезд на пэўную дыстанцыю; *гол* – 1. забіты ў вароты мяч. 2. ачко; *краўч* – 1. стойка ў сагнутым становішчы ў боксе. 2. нізкая стойка пры спусках у лыжным спорце; *скейтбол* – 1. дошка на роліках. 2. катанне на дошцы з ролікамі; *стаер* – 1. спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу на доўгіх дыстанцыях. 2. конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на доўгіх дыстанцыях, і інш.;

г) музычныя тэрміны (прыблізна 7 англіцызмаў): *блюз* – 1. песня або танец амерыканскіх неграў, якія выконваюцца ў павольным тэмпе. 2. форма джазавай музыкі ў рытме і манеры выканання гэтай песні; *джаз* – 1. від прафесійнай, пераважна танцавальнай музыкі з характэрнай для яе імпрэвізацыйнасцю, што зарадзіўся ў ЗША XIX – XX стст. 2. аркестр з духавых, ударных і шумавых інстру-

ментаў для выканання такой музыкі; *мюзікл* – 1. музыкальна–сцэнічны твор, пераважна камедыйнага характару, пабудаваны на выкарыстанні элементаў аперэты, балета, оперы і эстрады. 2. кінафільм такога характару; *піянола* – 1. пнеўма-механічны інструмент для ігры на піяніна без піяніста. 2. раяль, піяніна з такім інструментам; *рэгтайм* – 1. танцавальная музыка амерыканскіх неграў, папярэднік джазу. 2. амерыканскі бальны танец і інш.;

д) грамадска-палітычныя тэрміны (– 6 тэрмінаў): *саміт* – 1. сустрэча або нарада кіраўнікоў дзяржаў. 2. дыпламатыя на вышэйшым узроўні; *праймерыз* – 1. пярвічныя сходы выбаршчыкаў у ЗША для вылучэння кандыдатаў на выбарныя пасады. 2. выбары дэлегатаў на партыйны з’езд у ЗША; *сноб* – 1. прадстаўнік буржуазнага дваранства, які слепа трымаецца моды, густаў і манер. 2. чалавек, які беспадстаўна прэтэндуе на вытанчаны густ, манеры, асобую інтэлектуальнасць і інш.; *лорд* – 1. спадчынны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі. 2. састаўная частка афіцыйных назваў некаторых вышэйшых пасад у Англіі (напр.: лорд-канцлер, лорд-мэр) і інш.

Акрамя гэтых, буйных па колькасці, адзінак тэрміналагічных разрадаў, мнагазначныя тэрміны-англіцызмы існуюць і ў філалагічнай тэрміналогіі: *дайджэст* – 1. выданне, якое змяшчае адаптаваны выклад мастацкага твора. 2. перыядычнае выданне, якое перадрукоўвае (часта скарочана) матэрыялы з іншых выданняў. 3. скарочаны варыянт любой кнігі ў перыядычным друку; у марской тэрміналогіі: *камандас* – 1. спецыяльны атрад узброеных сіл Вялікабрытаніі, якія прызначаны для разведвальна-дыверсійных дзеянняў. 2. атрады апалчэнцаў у арміі бураў у час англа-бурскай вайны; у юрыдычнай тэрміналогіі: *траст* – 1. даверанасць на вядзенне аперацый гаспадарчай і іншай сферах дзейнасці. 2. аб’яднанне, фонд; у біялагічнай тэрміналогіі: *мімікрыя* – 1. прыпадабненне некаторых жывёл і раслін да навакольнага асяроддзя па форме і колеру з мэтай самаахововы. 2. беспрынцыпнае прыстасаванне каго-небудзь да жыццёвых умоў.

Нягледзячы на тое, што аналіз англіцызмаў яшчэ раз сведчыць пра наяўнасць полісеміі ў тэрміналогіі, усё ж мнагазначнасць з’яўляецца сур’ёзным недахопам. Той самы тэрмін можа абазначаць блізкія паняцці, а гэта перашкаджае правільнаму разуменню сутнасці розных з’яў, абазначаных тым самым тэрмінам. Значыць, трэба імкнуцца да монасеміі ў тэрміналогіі.

Некаторымі навукоўцамі (Д.С.Лотэ, А.А.Рэфармацкі, С.М.Бурдзін, В.П.Даніленка, В.С.Ахманава і інш.) была закранута праблема сувязі тэрміна і кантэксту.

А.А.Рэфармацкі, адмаўляючы мнагазначнасць тэрміна, зазначаў, што тэрміну кантэкст не патрэбны, бо ён звязаны з тэрміналагічным полем, г.зн. з той тэрміналогіяй, у межах якой пэўны тэрмін існуе [118, с.85]. Вядомы рускі мовазнаўца Р.А.Будагаў, падкрэсліваючы незалежнасць тэрміна ад кантэксту і адмаўляючы полісемантычнасць, сцвярджаў, што кантэкст у тэхнічнай тэрміналогіі не дапамагае адрозніваць розныя значэнні тэрмінаў і перад намі заўсёды будзе існаваць пытанне, пра што тут ідзе гаворка [18, с.24].

Шэраг іншых лінгвістаў лічаць, што тэрміну патрэбен кантэкст, г.зн. для тэрмінаў характэрна з'ява полісеміі і для адрознення аднаго значэння тэрміна ад іншага выкарыстоўваецца кантэкст. Так, В.П.Даніленка сцвярджае, што кантэкст – адна з умоваў дасягнення семантычнай адназначнасці тэрмінаў. «Паўтаральнасць кантэксту замацоўвае за тэрмінам яго пэўнае значэнне» [42, с.60]. В.С.Ахманава падтрымлівае думку пра пэўную ролю кантэксту ў тэрміназнаўстве. «Змест тэрміна раскрываецца толькі праз яго рэальнае функцыянаванне, праз яго рэальны «метасінтаксіс» [11, с.8].

Разглядаючы праблему сувязі тэрміна і кантэксту, у якасці прыкладу прааналізуем адзінку <u>глей</u>:

1. з значэннем '*слой глебы светлай афарбоўкі, які ўтварыўся пад уплывам жыццядзейнасці анаэробных бактэрый'* згаданая лексема ўжываецца ў кантэксце *'Сіневатая ад глею дарога ідзе паміж тарфянога балота і полю.'* (К.Чорны)

2. з значэннем '*адклады на дне вадаёмаў, у склад якіх уваходзяць найдрабнейшыя часцінкі мінеральных і арганічных рэчываў'* – у кантэксце '*азёрныя глеі, запаўняючыя большым або меншым слоем дно азёрнай катлавіны, складаюцца з сумесі арганічных і мінеральных часцінак'*.

Тэрмінаадзінка <u>блакада</u> ўжываецца ў наступным кантэксце:

1. '*Наступленне Савецкай Арміі апярэдзіла новую блакаду Налібоцкай пушчы'*. (Брыль). Так, лексема 'блакада' тут выкарыстоўваецца ў значэнні '*акружэнне войск праціўніка (горада, крэпасці) для знішчэння ці паланення'*.

2. з значэннем '*сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на ізаляцыю якой-небудзь дзяржавы, каб прымусіць яе выканаць пэўныя ўмовы'* гэтая тэрмінаадзінка ўжываецца ў тэрміназлучэннях *эканамічная блакада; фінансавая блакада*;

3. у тэрміназлучэнні «*навакаінавая блакада»* гэты тэрмін выкарыстоўваецца з значэннем '*выключэнне функцыі якога-небудзь органа або сістэмы арганізма*'.

Падагульняючы адзначанае, нельга не згадзіцца з тым, што ў пэўных кантэкстных умовах здымаецца мнагазначнасць тэрміна і рэалізуецца толькі адно з яго значэнняў.

Такім чынам, значнай частцы тэрмінаў-англіцызмаў уласцівая монасемічнасць; з'ява полісеміі выяўляецца ў нязначнай ступені: гэта тлумачыцца тым, што англіцызмы найбольш інтэнсіўна пранікаюць у беларускую тэрміналогію толькі на працягу апошніх 20 – 30 гадоў і працэс засваення тэрмінаў-англіцызмаў у беларускай тэрміналогіі яшчэ не завяршыўся; для мнагазначных англіцызмаў патрэбен кантэкст, каб семантыку пэўнага тэрміна зразумець правільна.

*Сінанімія, варыянтнасць, дублетнасць тэрмінаў-англіцызмаў.* Адсутнасць сінонімаў у той ці іншай галіне ведаў – адно з галоўных патрабаванняў да тэрміна.

Некаторыя вучоныя лічаць недапушчальным праяўленне ў тэрміналогіі такой з'явы, як сінанімія, паколькі для тэрмінасістэмы характэрная ўзаемаадзначная адпаведнасць паміж тэрмінам і паняццем: адзін тэрмін – адно паняцце. Іншыя – наадварот, прызнаюць рэальнай тэрміналагічную сінанімію, дублетнасць, варыянтнасць. Так, В.П.Даніленка сцвярджае, што «сінанімія характэрная для пачатковых этапаў фармавання тэрміналагічных сістэм» [42, с.73].

Аднолькавага разумення тэрміна «сінанімія» не існуе ў тэрміназнаўстве. Некаторыя лінгвісты называюць сінонімамі словы: а) роўныя значэннем; б) блізкія паводле значэння. Тут трэба зазначыць, што шэраг аўтарытэтных навукоўцаў лічаць сінонімамі словы ў абодвух выпадках, а іншыя адносяць да іх адну з гэтых разнавіднасцей. Б.Н.Галавін пісаў, што «сінонімы – гэта словы з надта блізкім, але неаднолькавым значэннем» [33, с.99]. Паводле А.А.Рэфармацкага, сінонімы – тыя словы, якія называюць тую самую з'яву, але суадносяць яе з рознымі паняццямі, тым самым праз найменне раскрываючы розныя ўласцівасці пэўнай рэчы [117, с.91].

Т.Г.Амірава бачыць чатыры падыходы ў вызначэнні сінаніміі. Па-першае, сінонімы – гэта словы блізкія або аднолькавыя значэннем, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго адценнямі значэння. Па-другое, сінонімы – гэта словы, якія могуць узаемазамяняць адно аднаго ў кантэксце. Па-трэцяе, сінонімы – словы, якія абазначаюць тую самую рэч або тое самае паняцце. Па-чацвёртае, сінонімы – словы, блізкія значэннем, г.зн. узаемазамяняльныя ў якім-небудзь кантэксце, і словы, якія маюць агульны семантычны кампанент, адрозніваючыся толькі якім-небудзь адным кампанентам значэння [1, с.4].

Сінонімы вызначаюцца праз класіфікацыю. Паводле Д.С.Лотэ, Э.А.Натансон і інш., у тэрміналогіі выдзяляюцца два класы сіно-

німаў: абсалютныя і адносныя. Да абсалютных можна залічыць «тэрміны, значэнне якіх супадае цалкам, а да адносных – тэрміны, значэнне якіх супадае часткова» [110, с.24]. Паводле шырыні ўжывання (Д.С.Лотэ), тэрміны-сінонімы класіфікуюцца на 2 групы: паўнапраўныя сінонімы (тэрміны з'яўляюцца ўзаемазамяняльнымі ва ўсіх выпадках) і непаўнапраўныя – адзін з тэрмінаў або абодва маюць абмежаванае выкарыстанне [100, с.28]. Значнай увагі заслугоўвае класіфікацыя тэрмінаў-сінонімаў Ж.Е.Патапавай і В.М.Турчыным. Тут вылучаюцца наступныя віды сінонімаў: поўныя, дыстынктыўна-семантычныя, частковыя і комплексныя. Да поўных сінонімаў адносяцца тэрміны, семантычныя дыферэнцыяльныя прыметы якіх супадаюць у межах таго самага прадметна-лагічнага зместу. Дыстынктыўна-семантычныя сінонімы суадносяцца з той самай прадметна-лагічнай асновай і адрозніваюцца толькі семантычнымі дыферэнцыйнымі прыметамі. Комплексная сінанімія адбываецца ў сінанімічным радзе, які складаецца не менш чым з трох тэрмінаў, а трэці ў супастаўленні з першымі двума адрозніваецца дыферэнцыйнымі сэнсавымі прыметамі [116, с.79].

На аснове вывучэння англіцызмаў у сучаснай беларускай мове прасочым выпадкі выяўлення сінаніміі ў беларускай тэрміналогіі. Як вядома, сучасная беларуская тэрміналогія пачала складвацца ў 20-я гады XX стагоддзя. Тады сталі выходзіць з друку і праекты тэрміналагічных слоўнікаў розных галін ведаў. Сярод тэрмінаадзінак таго часу намі выяўлена пэўная частка тэрмінаў-англіцызмаў. Сярод іх і выпадак сінаніміі: англійскае запазычанне *компост* і беларускае слова *пагной.*

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў адбываецца найбольш інтэнсіўнае пранікненне англіцызмаў у многія мовы свету, у тым ліку і ў беларускую. Некаторыя з англійскіх запазычанняў з'яўляюцца ў сучаснай беларускай мове з пэўнай прычыны, а іншыя – як даніна модзе. Таму ў сучаснай беларускай тэрміналагічнай лексіцы існуюць тэрміны англійскага паходжання, якім уласцівыя сінанімічныя рады, дублетныя пары, а для некаторых характэрная варыянтнасць. Агульная колькасць такіх слоў складае прыблізна 9,5 %.

Вывучаючы асноўныя тэарэтычныя палажэнні адносна сінаніміі, мы вылучаем сінонімы і сінанімічныя злучэнні сярод англійскіх адзінак у такіх галінах тэрміналогіі, як: 1) эканамічна-фінансавая: *бартэр – абменны гандаль; маркетынг – гандаль; фрытрэдэрства – свабодны гандаль; чэк – квітанцыя; стандарт – норма, мадэль, узор; супермаркет – універсам, гандлёвы дом; бігбізнес – вялікая камерцыйная справа, маштабная гандлёвая здзел-*

*ка; бізнес – камерцыйная дзейнасць, біржавая дзейнасць, прадпрымальніцкая дзейнасць; бізнесмен – дзялок, прадпрымальнік, камерсант; кансалцінг – кансультаванне, парады спецыялістаў; паблісіці – вядомасць* і інш.; 2) тэхнічная**:** *бампер – аўтамабільны буфер; віндротар – ветраны рухавіх; паркінг – стаянка; тэлерэкордынг – запіс тэлеперадачы; фолдэр – фальцавальная машына* і інш.; 3) юрыдычная: *гангстэрызм – бандытызм; гангстэр – бандыт; кіднэпінг – выкраданне людзей; масакра – павальнае знішчэнне, забойства, бойня; рэкет – буйны шантаж; рэкецір – злачынец* і г.д.; 4) спартовая: *халахуп – гімнастычны абруч; форвард – нападаючы; рынг – пляцоўка для боксу; рэкорд – найлепшы вынік; джогінг – павольны бег; галкіпер – вратар* і інш.; 5) сельскагаспадарчая: *турнэпс – кармавая рэпа, інбрыдзінг – інцухт* і інш.; 6) батанічная: *велінгтонія – сэквоядэндрон* і інш.

Як бачым, некаторым адзінкам англійскага паходжання ўласцівая сінтаксічная сінанімія – «тэрміналагічныя злучэнні адрозніваюцца рознай сінтаксічнай сувяззю паміж кампанентамі» [106, с.181]. Тут вылучаецца такі тып сінанімічнай адпаведнасці, як слова – словазлучэнне: *кансалцінг – парады спецыялістаў, бізнес – камерцыйная дзейнасць, біржавая дзейнасць, прадпрымальніцкая дзейнасць* і інш.

У межах сучаснай тэрміналогіі назіраецца і такі тып сінаніміі, як дэфініцыйная сінанімія, калі «тэрмін выражае паняцце, але паняцце выражана і азначэннем тэрміна» [34, с.57]. У гэтым выпадку ў сінанімічную адпаведнасць уступаюць тэрмін і яго скарочаная дэфініцыя: *кросбрыдзінг – міжпароднае скрыжаванне, круіз – марское турыстычнае падарожжа, прэс-бюро – інфармацыйны аддзел у пасольствах, кілер – прафесійны забойца, рыэлтар – агент у продажы нерухомасці* і інш.

Адзначым, што некаторыя даследчыкі (Б.М.Галавін, Р.Ю.Кобрын) адзін з відаў сінаніміі (абсалютная) лічаць дублетнасцю. «Тэрміналогіям уласціва абсалютная сінанімія, што дае падставы называць гэтую з'яву тэрміналагічнай дублетнасцю» [34, с.53-54]. Размежаванне сінаніміі і дублетнасці праводзіў і А.А.Рэфармацкі: «Сінонімы і дублеты – гэта не тое самае. Сінонімы – гэта безумоўна розныя словы, дублеты – гэта афіксальныя варыянты слоў» [117, с.119]. Б.М.Галавін і Р.Ю.Кобрын адносяць да дублетаў «словы або словазлучэнні, якія аб'яднаныя паміж сабой тэрміналагічнай суаднесенасцю з тым самым навуковым паняццем і аб'ектам рэчаіснасці» [34, с.54]. Гэтую думку падтрымлівае і В.П.Даніленка: «У тэрміналогіі сінонімы суадносяцца з тым самым паняццем і аб'ек-

там, яны не характарызуюць розныя яго ўласцівасці. Гэтую з'яву некаторыя даследчыкі называюць тэрміналагічнай дублетнасцю» [42, с.73]. А.М.Талікіна ўвогуле адмаўляе з'яву сінаніміі ў тэрміналогіі, а тое, што лічыцца «тэрміналагічнай сінаніміяй», па яе меркаванні, уяўляе сабой з'яву дублетнасці [155, с.81]. Улічваючы згаданыя адрозненні паміж сінаніміяй і дублетнасцю, вылучым тэрміны-дублеты, паводле класіфікацыі А.А.Рэфармацкага, – поўныя і эліптычныя: *ватэрпола – пола, ватэрмашына – ватэр, грэйдэрная дарога – грэйдэр, кембрыйскі перыяд – кембрый, лорд-канцлер – лорд, мангравыя лясы – мангравы, азбука Морзе – морзе, скетынг-рынк – рынк, ніяцынамід – ніяцын* і г.д.

Акрамя сінаніміі і дублетнасці, у тэрміналогіі (галоўным чынам у сферы функцыянавання) сустракаюцца і варыянты тэрмінаў. Пад «варыянтамі» разумеюць «разнавіднасці таго самага тэрміна, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі і словаўтваральнымі элементамі ці сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адценняў і поўнасцю супадаюць сваім значэннем» [83, с.27].

Рэалізацыя лексічнай варыянтнасці, як адзначае В.П.Даніленка, адбываецца ў пачатковы перыяд стварэння «мовы навукі». Тут даследчыцай вылучаюцца тры асноўныя разнавіднасці рэалізацыі гэтай з'явы: 1) для таго самага паняцця ў мове выкарыстоўваецца некалькі запазычанняў з розных моў; 2) у мове запазычанню спадарожнічае спрадвечная лексіка; 3) з з'яўленнем запазычання ў мове ўтвараецца ўласнае слова, якое мае тое самае значэнне, што і запазычаная лексема [42, с.74].

У тэрміназнаўстве «сінонімы з'яўляюцца вынікам сінхроннага існавання двух варыянтаў наймення – поўнага і скарочанага». Сюды адносяцца «выпадкі паралельнага існавання поўнай формы наймення і абрэвіятурнага яго варыянта» [42, с.76].

Паводле А.І.Жураўскага, варыянты «можна падзяліць на тры асноўныя разрады: графіка-арфаграфічныя, фанетыка-арфаграфічныя і марфалагічныя, або словаўтваральныя [54, с.42-44].

Сабраны намі з лексікаграфічных прац матэрыял пацвярджае думку, што, акрамя сінаніміі і дублетнасці, сярод англіцызмаў ёсць і такая лексічна-семантычная з'ява, як варыянтнасць. Згодна з класіфікацыяй А.І.Жураўскага, намі вылучаюцца: а) фанетычна-арфаграфічныя варыянты англіцызмаў – *стрэнда – стрэнга, джыга – жыга, бустар – бустэр, барэтар – барэтэр, кластар – кластэр, прынтар – прынтэр, фідар – фідэр, керлінг – кёрлінг, скетынг-рынг – скецінг-рынг, сканер – скенер* і інш.; б) словаўтва-

ральныя – *анемарумбограф – анемограф, гідраформінг – рэформінг, лабізм – лобі* (з значэннем ‘сістэма кантор, банкаў і манаполіі пры законадаўчых органах некаторых краін, якія ўплываюць на заканадаўцаў з мэтай прыняцця або адхілення закона’), *лабіст – лобі* (з значэннем ‘агенты кантор і агенцтваў’); *бутэн – бутылен* і інш.

Прыклады паказваюць, што варыянтнасць сустракаецца даволі часта, што сведчыць пра няпоўнае ўпарадкаванне англійскамоўных адзінак у складзе сучаснай беларускай тэрміналогіі.

Аналіз англіцызмаў у складзе беларускай тэрміналогіі пацвярджае, што ў ёй ёсць з’явы сінаніміі, дублетнасці і варыянтнасці, хоць існаванне згаданых лексічна-семантычных з’яў і «парушае адно з асноўных патрабаванняў да тэрміна – патрабаванне кананічнасці» [92, с.311]. Гэта адна з прычын, што некаторыя даследчыкі разглядаюць сінанімію як адзін з недахопаў сучаснай тэрміналогіі. Аднак, як мы пераканаліся, сінанімія – распаўсюджаная з’ява ў тэрміналогіі, і таму лічыцца мэтазгодным разглядаць яе як натуральны працэс. Пры ўдасканаленні беларускай тэрміналогіі паступова трэба пазбаўляцца ад варыянтаў і абмяжоўваць выкарыстанне сінонімаў і дублетаў.

*Аманімія ў складзе тэрмінаў-англіцызмаў.* Праблема аманіміі ў тэрміналогіі разглядаецца многімі навукоўцамі (В.П.Суперанская, Э.Градзіньскій, Д.Н.Шмелёў, А.А.Рэфармацкі, Б.М.Галавін, Р.Р.Кобрын, Л.А.Антанюк і інш.).

У мовазнаўстве аманімія вызначаецца як «гукавое супадзенне дзвюх ці болей моўных адзінак, семантычна не звязаных паміж сабою» [146, с.17].

Вылучаюцца асноўныя крыніцы аманіміі:

«1. Размяжоўванне двух або некалькі значэнняў мнагазначнага слова....

2. Змяненне слоў, якія раней гучалі па-рознаму, іх канвергенцыя...».

3. Запазычанні з розных крыніц, калькі, пераклады...» [137, с.45].

Даследуючы праблему наяўнасці аманіміі ў тэрміналогіі, В.П.Суперанская лічыць, што «... магчымая аманімія слоў агульнай лексікі..., аманімія слоў агульнай і спецыяльнай лексікі..., і аманімія ўнутры спецыяльнай лексікі» [137, с.46]. Яе думка пацвярджаецца і прыкладамі запазычаных англіцызмаў:

1) аманімія слоў агульнай лексікі: *бедлам* – ‘лонданская бальніца’; *бедлам* – ‘неразбярыха, шум, вэрхал’;

2) аманімія слоў агульнай і спецыяльнай лексікі: *бар* – ‘нявялікі рэстаран або частка рэстарана’; *бар* – ‘галоўная рабочая частка ўрубавай машыны і горнага камбайна’ [154, с.339];

3) аманімія ўнутры спецыяльнай лексікі: *бокс* – ‘від спорту, бой на асобых правілах’; *бокс* – ‘агароджаная частка памяшкання ў лячэбных установах для ізаляванага ўтрымання хворага’ [154, с.394].

У тэрміназнаўстве, пры разглядзе пытання аб узнікненні аманіміі, даследчыкамі ў асноўным падтрымліваецца думка, што праяўленне гэтай лексічна-семантычнай з’явы «звязана з разыходжаннем семантычных сувязей паміж значэннямі полісемантычнага слова» [93, с.112].

Напрыклад, тэрмін-англіцызм *кластэр* мае два значэнні: 1. ‘група малекул, якія вылучаюцца сярод іншых падобных малекул і аб’ядноўваюцца ва ўстойлівыя ўтварэнні’. 2.‘паслядоўнасць, ланцужок моўных элементаў’.

Так, мы бачым, што ў першым выпадку згаданы англіцызм належыць да хімічнай тэрміналогіі, у другім – да філалагічнай. Такім чынам, гэтаму слову ўласцівая з’ява аманіміі, бо яно ўваходзіць у розныя тэрміналагічныя палі, унутры якіх набывае пэўную дэфініцыю. Гэты прыклад пацвярджае погляд В.П.Суперанскай і А.Х.Султанава наконт міжнавуковай аманіміі. Яны прапануюць лічыць раўнагучныя тэрміны, якія належаць да розных навук, проста рознымі тэрмінамі, сцвярджаючы, што ўзаемасувязь паміж такімі тэрмінамі носіць тэрміналагічны характар, а працэс іх утварэння ўяўляе сабой факт развіцця той ці іншай навукі [136, с.78-80].

Прыкладамі міжгаліновай тэрміналагічнай аманіміі могуць служыць наступныя адзінкі англійскага паходжання:

1. *бастон* – ‘высокаякасная баваўняная тканіна’ (належыць да тэкстыльнай тэрміналогіі); *бастон* – ‘танец павольнага тэмпу’ (музычная тэрміналогія).

2. *блакада* – ‘акружэнне войск праціўніка для знішчэння ці паланення’ (ваенная тэрміналогія); *блакада* – ‘выключэнне функцыі якога-небудзь органа або сістэмы ў арганізме’ (медыцынская тэрміналогія); *блакада* – ‘сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на ізаляцыю якой-небудзь дзяржавы, каб прымусіць яе выканаць пэўныя ўмовы’ (грамадска-палітычная тэрміналогія).

3. *блок* – ‘найпрасцейшае прыстасаванне для пад’ёму грузаў у выглядзе кола з жолабам і перакінутым цераз яго канатам’ (тэхнічная тэрміналогія); *блок* – ‘аб’яднанне дзяржаў, палітычных партый, груповак для сумесных дзеянняў’(грамадска-палітычная тэрміналогія).

4. *корнер* – ‘кароткатэрміновы дагавор з мэтай авалодаць рынкам шляхам скупкі акцый, тавараў, кантрактаў на біржах і перапродажу іх па манапольных цэнах’ (эканамічная тэрміналогія); *корнер* – ‘штрафны вуглавы ўдар у футболе’ (спартыўная тэрміналогія).

Ад міжнавуковай аманіміі трэба адрозніваць унутрысістэмную аманімію (у асноўным аддзеяслоўныя назоўнікі, у якіх разам са значэннем дзеяння развілося значэнне прылады дзеяння) і міжсістэмную аманімію (выкарыстанне ў функцыі тэрмінаў агульнаўжывальных слоў у пераносным значэнні) [115, с.17].

Наяўнасць міжсістэмнай аманіміі адлюстроўваецца ў наступных лексемах англійскага паходжання:

1. *бум* – ‘ужываецца як гукапераймальнае для абазначэння характэрнага глухога гуку вялікага звона’ (агульная лексіка); *бум* – ‘паскораны рост вытворчасці, цэн і іншых эканамічных паказчыкаў’ (эканамічная тэрміналогія); *бум* – ‘штучна ўзнятая шуміха вакол чаго-небудзь’ (агульная лексіка).

2. *старт* – ‘момант пачатку спартыўных спаборніцтваў або ўзлёту лятальнага апарата’ (спартовая тэрміналогія); *старт* – ‘пачатак чаго-небудзь’ (агульная лексіка).

3. *рэкардсмен* – ‘спартсмен, які ўстанавіў рэкорд’ (спартовая тэрміналогія); *рэкардсмен* – ‘чалавек, які дасягнуў найбольшых поспехаў у вытворчай працы’ (агульная лексіка).

Унутрысістэмныя амонімы-англіцызмы ў тэрмінасістэмах беларускай мовы не выяўлены.

Агульная колькасць тэрмінаадзінак-англіцызмаў, якім уласцівая з’ява аманіміі, складае ў беларускай тэрміналогіі прыблізна 3,3 %. Прааналізаваныя прыклады паказваюць, што аманімія не перашкаджае ўнармаванню сучаснай тэрміналогіі, паколькі спецыяльныя словы адносяцца да розных тэрмінасістэм, а значыць, не сутыкаюцца ў адным семантычным полі.

*Антанімія ў складзе тэрмінаадзінак-англіцызмаў*. Лексічна-семантычныя адносіны ў тэрміналагічнай сістэме мовы дапаўняюцца антаніміяй. «Антонімамі называюць словы з супрацьлеглай семантыкай, г.зн. суаднесенымі з паняццямі, што маюць супрацьлеглыя якасці» [137, с.53].

Перадумовай узнікнення антаніміі лічыцца той факт, што «істотныя адрозненні аб’ектыўнай рэчаіснасці адлюстроўваюцца як супрацьлеглыя паняцці ў логіцы і антанімічныя значэнні ў мове» [111, с.15].

«Для ўзнікнення антаніміі неабходна наяўнасць якаснай прыкметы ў значэнні слова». Згодна з гэтым большая колькасць антонімаў уласцівая якасным прыметнікам і прыслоўям. Акрамя гэтых часцін мовы, з’ява антаніміі назіраецца і ў назоўніках, і ў дзеясловах [137, с.53].

Антанімія як з’ява паняццевая характэрная для агульнай лексікі і тэрміналогіі. У тэрміналогіі гэтая з’ява дапамагае пазначыць край-

нія пункты тэрміналагічнага поля. Гэта адбываецца пры фармаванні наменклатур. Даследуючы праяўленне антаніміі ў наменклатурнай лексіцы, мовазнаўцы ўводзяць тэрмін «умоўная антанімія». На іх думку, умоўнымі антонімамі з'яўляюцца «назвы народаў на сумежных тэрыторыях, назвы ваяўнікоў або спартовых каманд у час спаборніцтваў» [137, с.54].

У тэрміналогіі вылучаюцца два тыпы антаніміі – лексічная і словаўтваральная [42, с.80]. Асаблівасцю функцыянавання першага тыпу з'яўляецца пэўная колькасць пар, дзе ў антанімічныя адносіны ўступае сам тэрмін або кампаненты аналітычных найменняў. Словаўтваральныя антонімы ўзнікаюць шляхам: 1. выкарыстання частак тэрмінаў-кампазітаў з супрацьлеглым значэннем; 2. чаргавання наяўнасці прэфікса з яго адсутнасцю; 3. чаргавання прэфіксаў з палярнымі значэннямі; 4. выкарыстання кампанентаў неаднаслоўных найменняў з процілеглым значэннем [94, с.12].

Гэтыя два тыпы антаніміі праяўляюцца ў сучаснай беларускай тэрміналогіі і сярод тэрмінаадзінак-англіцызмаў. Да англіцызмаў, што складаюць групу лексічных антонімаў, можна залічыць:

а) назоўнікі: *старт* – *фініш*: *старт* – 'момант пачатку спартыўных спаборніцтваў'; *фініш* – 'заключная частка спартыўных спаборніцтваў'; *брокер-джобер*: *брокер* – 'асоба або фірма, якая спецыялізуецца на пасрэдніцкіх біржавых аперацыях за плату ў форме пэўнага працэнта ад сумы зделкі'; *джобер* – 'біржавы маклер, які ажыццяўляе аперацыі за ўласны кошт'; *тралейбус* – 'гарадская пасажырская бязрэйкавая машына', *трамвай* – 'гарадскі пасажырскі транспарт, які рухаецца па рэйках' і інш.

б) прыметнікі–кампаненты неаднаслоўных тэрмінаў: *стартавая* (прамая) – *фінішная* (прамая); *тралейбусны* (парк) – *трамвайны* (парк) і г.д.

в) дзеясловы: *стартаваць* – *фінішаваць*; *лідзіраваць* – *аўтсайдзіраваць* і г.д.

У групе лексічных антонімаў значную колькасць складаюць тэрміны-назоўнікі. Гэта тлумачыцца тым, што ў беларускую мову з англійскай запазычваюцца назоўнікі-англіцызмы і, дзякуючы пэўным словаўтваральным сродкам, ад назоўнікаў утвараюцца прыметнікі і дзеясловы.

Сярод тэрмінаў-англіцызмаў сустракаецца і словаўтваральны тып антаніміі. Прыкладамі гэтага тыпу з'яўляюцца: а) назоўнікі, у якіх адбываецца чаргаванне наяўнасці прэфікса з яго адсутнасцю: *фрастацыя* – *дэфрастацыя*; *камфорт* – *дыскамфорт*; *нейтрон* – *антынейтрон* і г.д., б) назоўнікі, адзін з якіх мае прэфікс *мікра-*:

*фарада – мікрафарада*; *фільм – мікрафільм* (*мікра-* – г.зн. 'мера ў мільён разоў меньш, чым асноўная мера').

Словаўтваральны тып антаніміі рэалізуецца і за кошт кампанентаў аналітычных найменняў: *камфартабельная* (гасцініца) – *дыскамфартабельная* (гасцініца); *нейтронны* (зарад) – *антынейтронны* (зарад); *блочны* (дом) – *няблочны* (дом) і інш. У гэтых выпадках сродкамі выражэння супрацьлегласці з'яўляюцца прэфіксы *дыс-, анты-, не-* ў аднаго з кампанентаў антанімічнай пары.

Прааналізаваны матэрыял паказвае, што антанімія распаўсюджана ў асноўным сярод тэрмінаў-назоўнікаў англійскага паходжання. Што да дзеясловаў і прыметнікаў, то тут сустракаюцца адзінкавыя выпадкі існавання антанімічных пар.

## 1.3 Тэрмін і іншыя спецыяльныя адзінкі

Сучаснымі мовазнаўцамі былі выяўлены іншыя спецыяльныя лексічныя адзінкі, якія трэба адрозніваць ад тэрмінаў і нельга лічыць «тэрмінамі». Да гэтых адзінак С.В.Грынёў (і шэраг іншых мовазнаўцаў) адносіць номены (або наменклатурныя адзінкі), прататэрміны, тэрміноіды, перадтэрміны, квазітэрміны, прафесіяналізмы, прафесіянальныя жарганізмы [38, с. 80].

Шэраг прац прысвечаны наменклатурным назвам. Як спецыяльныя адзінкі номены былі выяўлены ў 1930 г. XX ст. Г.В.Вінакурам. Трэба зазначыць, што адзінай думкі наконт сутнасці гэтага паняцця няма. «Адны аўтары адносяць да наменклатуры толькі ўласныя імёны, прысвоеныя разнастайным рэаліям і аб'ектам навукі і тэхнікі. Іншыя лічаць наменклатурай адносна ўпарадкаваную сістэму назваў, якая выкарыстоўваецца ў якой-небудзь галіне (анатамічная, батанічная, назвы прафесій і да т.п.)» [8, с.19]. Так, унікальныя аб'екты даследаванняў, творы мастацтва, шэраг тэхнічных назваў, такіх, як маркі матэрыялаў, тэхнічныя вырабы, маркі машын, механізмаў: «Вайна і мір», «БАМ», Кітай-горад, ПБ-1. Номен і тэрмін маюць як агульнае, так і адметнае.

Даследчыкамі вызначаецца шэраг рысаў, характэрных як для номена, так і для тэрміна: у некаторых выпадках прыналежнасць да кантэксту; нейтральнасць лексемы; мэтанакіраваны характар з'яўлення ў мове; устойлівасць і ўзнаўляльнасць [38, с.75].

Яшчэ Г.В.Вінакур вызначыў некаторыя рысы, што размяжоўваюць тэрміналогію і наменклатуру: «...што датычыць наменклатуры, то ў адрозненне ад тэрміналогіі пад ёю трэба разумець сістэму

абсалютна абстрактных і ўмоўных сімвалаў, адзінае прызначэнне якіх у тым, каб даць як мага больш удалыя з практычнага погляду сродкі для вызначэння рэчаў, прадметаў безадносна да патрабаванняў тэарэтычнай думкі, што аперыруе гэтымі прадметамі» [26, с.121].

Паводле беларускіх мовазнаўцаў, номен адрознівае ад тэрміна: паняццевы змест, функцыя ў навуковым тэксце, спосабы сістэматызацыі, характар словаўтваральнай намінацыі, набор словаўтваральных сродкаў, адносіны да штучных моў [98, с.426-427]. Даецца наступнае азначэнне номену: «Номен – гэта проста назва канкрэтнага аб’екта, прадмета, у нязначнай ступені звязаная з паняццевым бокам. Такім чынам, адметнай рысай номена з’яўляецца яго называльная функцыя» [8, с. 19].

Вызначаючы адрозненні наменклатуры ад тэрміналогіі, некаторыя навукоўцы вылучаюць наменклатуру ў самастойны від спецыяльнай лексікі. Іншыя ж лічаць наменклатурныя адзінкі часткай тэрміналогіі. «Наменклатура – тая ж тэрміналогія, толькі яна выкарыстоўваецца не ў гнасеалагічным, як тэрміны, а ў анталагічным плане» [86, с.69].

У нашай працы наменклатура прызнаецца «як адмысловы від спецыяльнай лексікі, які структурна не ўваходзіць у тэрмінасістэму» [8, с.19]. Значную частку гэтага класу спецыяльнай лексікі англійскага паходжання складае наменклатура такіх прыродазнаўчых навук, як а) батаніка (8 наменклатурных адзінак англійскага паходжання): *кларкія* – ‘травяністая расліна сямейства скрыпнёвых з падоўжана-авальным лісцем і чырвонымі, ружовымі, белымі, фіялетавымі кветкамі’; *лістэр* – ‘расліна сямейства архідных, якая расце ва ўмераным клімаце Паўночнага паўшар’я’; *райграс* – ‘травяністая расліна з вузкім лісцем і мяцёлкавым або коласападобным суквеццем (пырнік)’; *сасафрас* – ‘дрэўная расліна сямейства лаўровых, пашыраная ў прыатлантычнай частцы Паўночнай Амерыкі’; *сенега* – ‘травяністая расліна сямейства крапінцовых’; *турнэпс* – ‘расліна сямейства крыжакветных, пашыраная ва ўмераных зонах, карняплоды якой ідуць на корм жывёле (сінонім – *кармавая рэпа*)’; *цік* – ‘дзікарослае дрэва сямейства вербенавых з моцнай драўнінай, якое расце ў лясной паласе Індыі’; *ямс* – ‘травяністая расліна з багатымі на крухмал клубнямі, якая расце ў тропіках і субтропіках’ і б) заалогія (да гэтай тэматычнай групы можна аднесці назвы птушак і жывёл): 1. найменні курэй (8 назваў англійскага паходжання): *сусекс* – ‘парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў Англіі’; *род–айланд* – ‘парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў ЗША’; *нью-гэмпшыр* – ‘мяса-яечная парода курэй, выведзе-

ная ў ЗША'; *арпінгтон* – 'парода курэй, выведзеная ў Англіі'; *аўстралорп* – 'мяса-яечная парода курэй'; *легорн* – 'парода яйценосных курэй з белым апярэннем'. Такую лексічную адзінку, як *плімутрок* – 'парода яйценоскіх і мясных курэй featuring рознага апярэння, выведзеная ў амерыканскім гарадзе Плімут', можна лічыць тэрмінам і аднесці да сельскагаспадарчай тэрміналогіі: «... у наш час часцей выкарыстоўваюць розныя лініі курэй парод корніш і плімутрок белы;... у гэты склад уваходзяць лініі пароды корніш і плімутрок 8 і 9». З вышэй паказаных прыкладаў вынікае, што словазлучэнні *плімутрок белы* і *плімутрок 8 і 9* з'яўляюцца номенамі, г.зн. – абазначаюць прыватныя паняцці і належаць да тэрміна «плімутрок», які выражае агульнае паняцце; 2. назвы качак (1 наменклатурная адзінка): *хакі-кэмпбел* – 'парода качак мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў Англіі'; 3. назвы авечак (3 наменклатурныя адзінкі): *гемпшыры* – 'парода мяса-воўнавых авец, выведзеная ў Англіі'; *ромні-марш* – 'парода скараспелых авечак, выведзеная ў Англіі'; *шрапшыры* – 'парода мясных каротка-воўнавых авец, выведзеная ў графствах Шрапшыр і Стафардшыр у Англіі'; 4. назвы буйной рагатай жывёлы (4 наменклатурныя адзінкі): *айршыры* – 'малочная парода кароў'; *герэфорды* – 'парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку'; *санта-гертруда* – 'парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку, выведзеная ў штаце Тэхас'; *шортгарн* – 'парода буйной рагатай жывёлы мяснога і мяса-малочнага напрамку прадукцыйнасці, выведзеная ў Англіі'; 5. назвы свінней (2 н.а.): *беркшыры* – 'парода скараспелых свіней, выведзеная ў Англіі'; *йаркшыры* – 'парода скараспелых свіней, якая вызначаецца вялікай вагой і высокай пладавітасцю'; 6. назвы коней (5 н.а.): *клейдэсдалы* – 'парода коней-цяжкавозаў, выведзеная ў Шатландыі'; *суфолкі* – 'парода цяжкавозаў, выведзеная ў Англіі'; *шайры* – 'парода буйных цяжкавозных коней, выведзеная ў Англіі'; *гунтэр* – 'дужы верхавы конь, які выкарыстоўваецца для спартыўнага палявання і скачкоў з перашкодамі'; *стыплер* – 'конь, спецыяльна прывучаны для скачкоў з перашкодамі'; *поні* – 'конь нізкарослай пароды, выведзены ў Англіі'.

Значная колькасць номенаў (10 н.а.) выяўлена ў такой тэматычнай падгрупе, як сабакаводства: *баксёр* – 'парода службовых сабак, у якіх круглая галава, кароткая морда, жоўтая поўсць'; *бульдог* – 'парода сабак з тупой мордай'; *бультэр'ер* – 'парода свойскіх сабак, выведзеная ў Вялікабрытаніі'; *вельштэр'ер* – 'парода паляўнічых сабак з падоўжанай мордай, выведзеная ў Вялікабрытаніі для палявання на лісоў і трусоў'; *дог* – 'парода службовых сабак з ка-

роткай поўсцю’; *дынга* – ‘драпежнік сямейства воўчых, які водзіцца ў Аўстраліі’ і г.д.

Па адной наменклатурнай адзінцы англійскага паходжання выяўлена сярод назваў рыб і дзікіх жывёл: *гупі* (англ. guppy) – ‘рыба атрада карпазубых’; *гібон* (англ. gibbon) – ‘самая малая чалавекападобная малпа з вельмі доўгімі пярэднімі канечнасцямі’.

Асобную частку наменклатурных адзінак з англійскай мовы складаюць назвы прафесій. Прыкладам тут могуць служыць (17 н.а.): *бармен* (barman) – ‘уладальнік ці службовец бара, які падае спіртныя напіткі за стойкай’; *бейліф* (bailiff) – ‘памочнік шэрыфа ў англамоўных краінах’; *букмекер* (book-maker ← book = запісваць + агент) – ‘асоба, якая збірае і запісвае грашовыя стаўкі на скачках’; *джобер* (jobber) – ‘біржавы маклер, які ажыццяўляе аперацыі за ўласны кошт, уступае ў здзелкі з брокерамі’; *докер* (docker) – ‘партовы грузчык, рабочы дока’; *дызайнер* (designer) – ‘мастак-канструктар, спецыяліст па мастацкім праектаванні эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў’; *дылер* (dealer) – ‘супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай’; *дыспетчар* (dispatcher) – ‘работнік, які рэгулюе рух транспарту або ход работы прадпрыемства з аднаго цэнтральнага пункта’; *інтэрв’юер* (interviewer) – ‘журналіст, які бярэ інтэрв’ю’; *камбайнёр* (combiner) – ‘механізатар, які працуе на збожжаўборачным камбайне’; *менеджэр* (manager) – ‘спецыяліст па арганізацыі і кіраванню ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання’; *салісітар* (solicitor) – ‘адвакат ніжэйшага рангу ў Англіі, які не мае права весці справы ў вышэйшых судах’; *рэпарцёр* (reporter) – ‘работнік газеты, радыё, тэлебачання, які падае рэдакцыі звесткі аб падзеях і здарэннях мясцовага жыцця’; *сюрвеер* (surveyor) – ‘інспектар замежных таварыстваў пры тэхнічным наглядзе за суднам’; *шэрыф* (sheriff) – ‘службовая асоба ў Англіі і ЗША, якая выконвае ў сваёй акрузе адміністрацыйныя і судовыя функцыі’.

Аналіз номенаў англійскага паходжання дазваляе зрабіць выснову, што пры выбары лексемы або словазлучэння для намінацыі сартоў раслін і парод жывёл улічваецца прынцып «лакальнай прыкметы, якая паказвае на тэрытарыяльную суаднесенасць сорту або пароды» [36, с.9-10].

Наш аналіз паказвае, што паміж наменклатурай і тэрміналогіяй існуюць размежаванні. Так, номенамі можна лічыць тыя адзінкі, якія:

1. выступаюць на правах імёнаў уласных у такіх сферах ужывання, як назвы сартоў раслін, пароды жывёл і г.д.;

2. абазначаюць прыватныя паняцці, якія вылучаюцца з агульных паняццяў паводле другарадных, часцей вонкавых прыкметаў;

3. вызначаюць у асноўным выніку чалавечай творчасці або прадметы з яго ўдзелам (сорт раслін, пароды жывёл, маркі машын і механізмаў).

Акрамя номенаў, шэрагам лінгвістаў былі выяўлены спецыяльныя адзінкі, якія таксама трэба адрозніваць ад тэрмінаў (тэрміноіды, перадтэрміны, квазітэрміны, прататэрміны, прафесіяналізмы).

Асноўным сродкам адрознення тэрмінаў ад номенаў, прататэрмінаў і тэрміноідаў, паводле С.В.Грынёва, з'яўляецца характар паняцця. «Так, тэрміны называюць агульныя паняцці, а номены... называюць адзінкавыя паняцці. Прататэрміны –... называюць не паняцці (якія ўзнікаюць з з'яўленнем навукі), а спецыяльныя з'яўленні.... Тэрміноід –..., выкарыстоўваецца для называння так званых натуральных паняццяў, г.зн. недастаткова ўсталяваных і неаднaзначна ўспрыманых паняццяў, якія не маюць выразных межаў, а значыць і дэфініцыі» [38, с. 77].

У адной з сваіх працаў С.В.Грынёў характарызуе і такую разнавіднасць спецыяльных адзінак, як перадтэрміны, «якія выкарыстоўваюцца ў якасці тэрмінаў для назвы новых сфармаваных паняццяў, але не адпавядаюць асноўным патрабаванням тэрміна (лаканічнасць)» [38, с.77]. З часам перадтэрміны замяняюцца тэрмінамі. Аднак, як сведчыць навуковец, перадтэрміны могуць станавіцца і квазітэрмінамі. Гэта адбываецца ў тым выпадку, калі працэс замены перадтэрміна тэрмінам зацягваецца.

Што да прафесіяналізмаў, то ў сучасным мовазнаўстве існуе 4 погляды на гэтую групу спецыяльных адзінак: а) атаясамліванне іх з тэрмінамі; б) дыяхранічнае размежаванне, што адносіць прафесіяналізмы да адзінак рамеснай лексікі, якая ўтварылася і функцыянавала ў перыяд сярэднявечча; в) у якасці крытэрыяў, уласцівых прафесіяналізмам, вылучаюцца: неўнармаванасць выкарыстання прафесіяналізмаў, функцыйна-стылёвая размежаванасць выкарыстання; наяўнасць эмацыйна-экспрэсіўных канатацый; г) залічэнне да прафесіяналізмаў ненамінацыйных утварэнняў і жарганізмаў спецыяльнага характару [38, с.78].

Значнай увагі тут заслугоўвае і тэрміналагічная праца такіх лінгвістаў, як А.В.Суперанская, Н.В.Падольская, Н.В.Васільева. – мі была закранута праблема развіцця, фармавання, выкарыстання спецыяльнай лексікі, да якой «адносяцца ўсе лексічныя сродкі, так або інакш звязаныя з прафесійнай дзейнасцю чалавека» [137, с.26].

Даследчыкамі вылучаецца шэраг разнавіднасцяў лексічных адзінак, якія нельга аднесці да спецыяльнай лексікі. «Мы не можам аднесці да спецыяльнай лексікі словы, што належаць да тэрытарыяльных дыялектаў...», «лексіку аргатычную, якая хоць і звязана з некаторай мэтанакіраванай дзейнасцю, але служыць не для называння і тлумачэння фактаў, а для іх утойвання... Не адносяцца да спецыяльнай лексікі і жарганізмы – словы, характэрныя для некаторых сацыяльных груп, асабліва – маладзёжных...;...архаізмы і неалагізмы літаратурнай мовы, паколькі ўнутры пэўнага жанру яны выкарыстоўваюцца ў якасці выяўленча-мастацкіх сродкаў» [137, с.27].

Як бачым, самі спецыялісты ў галіне тэрміналогіі з цяжкасцю размяжоўваюць тэрмін ад іншых спецыяльных адзінак; спецыяльную лексіку ад неспецыяльнай.

***

Такім чынам: а) тэрмінам-англіцызмам уласцівая сістэмнасць у плане зместу і ў большасці выпадкаў у плане выражэння; б) англійскія запазычанні цалкам адпавядаюць патрабаванню лаканічнасці тэрміна, якое рэалізуецца рознымі спосабамі (марфалагічны, фанетычны), перавага аддаецца тэрмінам, якія складаюцца з двух тэрмінаэлементаў; в) праяўленне такіх лексічна-семантычных з'яў, як сінанімія, варыянтнасць, дублетнасць, сведчыць пра няпоўнае ўпарадкаванне англіцызмаў у складзе сучаснай беларускай тэрміналогіі. Таму паступова трэба пазбаўляцца ад варыянтаў і абмяжоўваць выкарыстанне сінонімаў і дублетаў; г) аманімія не перашкаджае ўнармаванню сучаснай тэрміналогіі, паколькі тэрмінаадзінкі-англіцызмы належаць да розных тэрмінасістэм, г.зн., не сутыкаюцца ў адным семантычным полі; д) з'ява полісеміі праяўляецца ў нязначнай ступені, г.зн., што англіцызмы найбольш інтэнсіўна пачалі пранікаць у беларускую тэрміналогію толькі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў і працэс іх засваення ў беларускай тэрміналогіі яшчэ не завяршыўся; для мнагазначных тэрмінаў-англіцызмаў патрэбны кантэкст, каб іх семантыку зразумець правільна.

РАЗДЗЕЛ II

# АСНОЎНЫЯ ПРЫЧЫНЫ І СФЕРЫ ВЫКАРЫСТАННЯ АНГЛІЦЫЗМАЎ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Інтэнсіўнае пранікненне англіцызмаў у сучасную беларускую мову пачалося ў канцы XIX – пачатку XX ст. На гэта паўплывалі многія прычыны, якія падзяляюцца на дзве вялікія катэгорыі: экстралінгвістычныя і ўнутрылінгвістычныя [39, с.112]. Да экстралінгвістычных адносяцца: 1) культурны ўплыў аднаго народа на другі; 2) наяўнасць вусных і пісьмовых кантактаў; 3) павялічаная цікавасць да вывучэння пэўнай мовы; 4) аўтарытэтнасць мовы-крыніцы; 5) варункі моўнай культуры сацыяльных слаёў, якія прымаюць новыя словы. Да ўнутрылінгвістычных прычын належаць: 1) адсутнасць у мове-рэцыпіенце эквівалента для новага прадмета або паняцця; 2) выкарыстанне аднаго слова замест апісальнага зварота; 3) павелічэнне і захаванне камунікацыйнай дакладнасці лексічных адзінак шляхам унікнення палісеміі і аманіміі; 4) адсутнасць у роднай мове магчымасці дэрывацыі ад уласнамоўных слоў, у той час калі ад запазычаных сінонімаў гэта магчыма; 5) набыванне родавага, агульнага тэрміна для вядомых вузкіх найменняў [39, с.112].

У працэсе развіцця і фармавання сучаснай беларускай мовы складаюцца пэўныя сферы выкарыстання запазычанай лексікі.

А.М.Булыка, аналізуючы запазычаную лексіку, вылучае 14 лексічна-семантычных разрадаў, дзе кожны з іх аб’ядноўвае шэраг прадметна-тэматычных гуртоў [21, с.19].

З развіццём навукова-тэхнічнага прагрэсу, грамадскага і культурнага жыцця краіны пашыраецца і сфера выкарыстання запазычанай лексікі, якая пранікае ў іншую мову з новымі прадметамі, рэаліямі і з’явамі.

Тэрмінаадзінкі-англіцызмы інтэнсіўна пранікаюць у тэхнічную, гуманітарную і прыродазнаўчую тэрміналогіі. Тут вылучаюцца найбольш папулярныя лексічна-семантычныя разрады: спартыўная, тэхнічная, фізічна-матэматычная, марская, эканамічна-фінансавая, грамадска-палітычная, біялагічная, тэрміналогія культуры і мастацтва, сельскагаспадарчая, хімічная, мінералагічная, металургічная, паліграфічная, інфармацыйна-адукацыйная, тэкстыльная, медыцынская, вайсковая, прыродна-метэаралагічная, будаўнічая, гістарычная, юрыдычная, філалагічная, горназдабыўная, філасофская і чыгуначная.

## 2.1 Сферы найбольш актыўнага ўзбагачэння англіцызмамі

*Спартыўная тэрміналогія.* Самая вялікая колькасць тэрмінаў-англіцызмаў (145) замацоўваецца ў гэтым лексічна-семантычным разрадзе. Інтэнсіўнаму пранікненню спартыўных тэрмінаў у слоўнікавы склад беларускай мовы спрыяе галоўным чынам удзел беларускіх спартсменаў у розных спаборніцтвах, кантактаванне з замежнымі спартыўнымі клубамі, арганізацыямі, актыўнае развіццё сродкаў масавай інфармацыі і інтэрнацыянальная якасць гэтых слоў-тэрмінаў.

Семантыка тэрмінаў, што ўваходзяць у гэты разрад, дазваляе нам размяркоўваць тэрмінаадзінкі па некалькіх тэматычных групах.

Досыць вялікую групу складаюць англійскія запазычанні, што абазначаюць назвы спартыўных гульняў, спаборніцтваў, спартыўных гонак (каля 29 адзінак): *крос* (ад англ. cross), *крыкет* (ад англ. cricket), *пінг-понг* (ад англ. ping-pong), *пола* (ад англ. polo), *пушбол* (ад англ. push-ball), *ралі* (ад англ. rally), *рынк-хакей* (ад англ. rink-hockey), *гольф* (ад англ. golf), *картынг* (ад англ. carting), *керлінг* (ад англ. curling) і інш.

У наступную групу ўваходзяць англіцызмы – найменні асоб, якія маюць дачыненне да спорту. Да гэтай групы належаць агульнапрынятыя назвы асоб у спартыўнай тэрміналогіі (прыблізна 19 адзінак): *аўтсайдэр* (ад англ. outsider); *галкіпер* (ад англ. goalkeeper); *жакей* (ад англ. jockey); *інсайд* (ад англ. inside); *лайнсмен* (ад англ. linesman); *сервер* (ад англ. server); *спрынтэр* (ад англ. sprinter); *форвард* (ад англ. forward); *хаўбек* (ад англ. half-back) і інш.

У сучаснай беларускай спартыўнай тэрміналогіі замацаваўся шэраг англіцызмаў, што абазначаюць а) назвы водных відаў спорту, спосабаў плавання (7 адзінак): *трэджэн* (ад англ. trudgen); *кроль* (ад англ. crawl); *аверарм* (ад англ. over-arm); *батэрфляй* (ад англ. butterfly); *ватэрпола* (ад англ. water-polo); *віндсёрфінг* (ад англ. windsurfing); *сёрфінг* (ад англ. surfing); б) разнавіднасці бегу (2 лексемы): *джогінг* (ад англ. jog); *стыпль-чэз* (ад англ. steeplechase); в) розныя віды спартыўнай барацьбы (5 л.а.): *бокс* (ад англ. box); *армрэстлінг* (ад англ. armwrestling); *кетч* (ад англ. catch); *кікбоксінг* (ад англ. kick box); г) назвы спартыўных трэніровак, фізічных практыкаванняў, што выкарыстоўваюцца ў розных відах спорту (4 адзінкі): *трэнінг* (ад англ. training); *спарынг* (ад англ. sparring); *стрэтчынг* (ад англ. stretching); *хулахуп* (ад англ. hula-hoop).

Даследуючы англіцызмы ў спартыўнай тэрміналогіі, можна вылучыць прадметна-тэматычную групу запазычанняў, што аба-

значаюць назвы спартыўных збудаванняў, пляцовак; спартыўныя прылады, прыстасаванні; транспартныя спартыўныя сродкі; назвы спартыўнай формы, абутку (23 адзінкі): *хулахуп* (ад англ. hula-hoop); *шынгарды* (ад англ. shin guards); *кеды* (ад англ. kads); *кемпінг* (ад англ. camping); *клінкер* (ад англ. clinker); *корт* (ад англ. court); *пенчынгбол* (ад англ. punching-ball); *пунктбол* (ад англ. punktball); *рынг* (ад англ. ring); *скелетан* (ад англ. skeleton); *слайд* (ад англ. slide); *бумеранг* (ад англ. boomerang); *стэк* (ад англ. stick); *трэк* (ад англ. track).

Асобную тэматычную групу складаюць тэрміны – абазначэнні спецыфічных спартыўных элементаў; агульныя спартыўныя назвы, характэрныя для розных відаў спорту; удары па мячы, шайбе; віды, спосабы ўдараў і захвату спартыўных разнавіднасцей барацьбы (31 адзінка): *рокер* (ад англ. rocker); *свінг* (ад англ. swing); *смеш* (ад англ. smash); *пас* (ад англ. pass); *пенальці* (ад англ. penalty); *прэсінг* (ад англ. pressing); *гол* (ад англ. goal); *джолт* (ад англ. jolt); *драйв* (ад англ. drive); *дрыблінг* (ад англ. dribbling); *корнер* (ад англ. corner); *краўч* (ад англ. crouch); *хет-трык* (ад англ. hat trick); *холдзінг* (ад англ. holding); *бекхенд* (ад англ. back-hand); *аперкот* (ад англ. uppercut); *афсайд* (ад англ. off-side); *фальстарт* (ад англ. false start); *фініш* (ад англ. finish); *форхенд* (ад англ. forehand) і інш.

Некаторыя тэрміны англійскага паходжання складаюць прадметна-тэматычную групу найменняў: 1) адметныя назвы пэўных частак спартыўных спаборніцтваў, гульняў (6 адзінак): *гейм* (ад англ. game); *хаўтайм* (ад англ. halftime); *раунд* (ад англ. round); *сэт* (ад англ. set); *тайм* (ад англ. time); *тайм-аўт* (ад англ. time-out); 2) пэўная частка тэрмінаў-англіцызмаў належыць да коннага віду спорту (6 адзінак): *трот* (ад англ. trot); *фляер* (ад англ. flier); *стыплер* (ад англ. steepler); *гунтэр* (ад англ. hunter); *гіт* (ад англ. heat); *стаер* (ад англ. stayer); 3) адзінкавыя англіцызмы называюць стан спартсмена ў пэўным відзе спорту (2 адзінкі): *накаўт* (ад англ. knock-out); *накдаўн* (ад англ. knock-down).

Як паказвае аналіз, беларуская спартыўная тэрміналогія значна ўзбагацілася за кошт англійскіх лексемаў. Улічваючы, што англійская мова з’яўляецца папулярнай у наш час, яе спартыўныя тэрміны будуць актыўна папаўняць слоўнікавы склад беларускай мовы ў названым лексічна-семантычным разрадзе.

*Тэхнічная тэрміналогія.* Інтэнсіўнаму развіццю тэхнічнай тэрміналогіі спрыяе тое, што на працягу XX ст. і пачатку XXI ст. актыўна развіваюцца тэхніка, транспарт. У сувязі з тым, што Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Еўропы і мае шчыльныя стасункі з замежнымі краінамі ў галіне тэхнікі, у беларускую мову праніка-

юць тэхнічныя тэрміны з многіх заходнееўрапейскіх моў, у тым ліку і з англійскай.

Агульная колькасць тэрмінаў-англіцызмаў, што ўваходзяць у тэхнічную тэрміналогію, складае прыкладна 131 адзінку.

Аналіз тэхнічных тэрмінаў-англіцызмаў дазваляе нам аб'яднаць англійскія адзінкі ў пэўныя прадметна-тэматычныя групы.

Значную колькасць тэрмінаў (каля 35) мае прадметна-тэматычная група найменняў розных відаў транспарту, машын легкавых, гоначных, пасажырскіх і г.д.: *бульдозер* (ад англ. bull-dozer); *дынгі* (ад англ. dinghy); *віліс* (ад англ. willys); *драга* (ад англ. drag); *драглайн* (ад англ. dragline); *думпер* (ад англ. dumper); *сельсін* (ад англ. selsyn); *скрэпер* (ад англ. scraper); *мотаролер* (ад англ. motoroller); *рутэр* (ад англ. rooter); *тралейбус* (ад англ. trolleybus); *трымер* (ад англ. trimmer); *фолдэр* (ад англ. folder); *чызель* (ад англ. chisel) і інш.

Асобную групу складаюць англіцызмы, што абазначаюць назвы розных прыладаў, прыстасаванняў, частак транспарту (35 адзінак). Сюды належаць: *бампер* (ад англ. bumper); *бленкер* (ад англ. blinker); *буфер* (ад англ. buffer); *дрэнчар* (ад англ. drencher); *дэфростэр* (ад англ. defroster); *клаксон* (ад англ. klaxon); *ніпель* (ад англ. nipple); *фарсунка* (ад англ. force-pump); *фідэр* (ад англ. feeder); *фіцінг* (ад англ. fitting) і інш.

Шэраг англіцызмаў абазначае назвы прыбораў, прыстасаванняў, дадатковых апор, апаратаў, што выкарыстоўваюцца ў розных відах прамысловасці (харчовая, лясная, хімічная, нафтаперапрацоўчая, будаўнічая, машынабудаўнічая і г.д.), у інфарматыцы, электроніцы і г.д. У гэту групу ўваходзяць наступныя тэрміны-англіцызмы (32 адзінкі): *асдык* (ад англ. asdic); *аўтрыгер* (ад англ. outrigger); *блінк-кампаратар* (ад англ. blink + кампаратар); *бойлер* (ад англ. boiler); *дэтэктафон* (ад англ. detectaphone); *канвеер* (ад англ. conveyer); *каўпер* (ад англ. E.Cowper); *скрубер* (ад англ. scrubber); *таймер* (ад англ. timer); *мемістар* (ад англ. memistor); *мікшэр* (ад англ. mixer); *рэпітэр* (ад англ. repeater); *трап* (ад англ. trap); *трыгер* (ад англ. trigger); *хон* (ад англ. hone); *эрліфт* (ад англ. airlift) і інш.

Невялікую групу складаюць англіцызмы – абазначэнні спецыяльных сасудаў, скрынак, рэзервуараў, якія выкарыстоўваюцца для захавання тэхнічных вадкасцяў, для перавозкі грузаў і іншых мэтаў (6 адзінак): *кантэйнер* (ад англ. container); *рэсівер* (ад англ. receiver); *фільмпак* (ад англ. film pack) і інш.

Адзінкавыя тэхнічныя тэрміны-англіцызмы абазначаюць назвы тэхнічных тканін: *бельтынг* (ад англ. belting); назвы канатаў, тросаў, што выкарыстоўваюцца ў тэхніцы: *строп* (ад англ. strop);

*гайдроп* (ад англ. guide-rope); назвы некаторых прафесій: *дыспетчар* (ад англ. dispatcher) і інш.; спецыяльныя назвы радыё- і відэаапаратуры: *транзістар* (ад англ. transistor); *тэлерэкордынг* (ад англ. telerecording); *радыёла* (ад англ. radiola); назвы некаторых відаў паліва, што выкарыстоўваюцца ў прамысловасці: *кокс* (ад англ. coke); *богхед* (ад англ. boghead); *дынас* (ад англ. Grain-y-Dines).

Некаторыя тэхнічныя тэрміны-англіцызмы пранікаюць у прадметна-тэматычную групу найменняў, што абазначаюць дзеянне, працэс: *экструдзінг-працэс* (ад англ. extrude + працэс); *бафтынг* (ад англ. buffeting); *тандэм* (ад англ. tandem); *шымі* (ад англ. shimmy); *дэфрастацыя* (дэ + англ. frost); *дрэнаж* (ад англ. drainage).

Такім чынам, тэхнічная тэрміналогія актыўна папаўняецца на працягу XX – пачатку XXI ст. за кошт англійскіх запазычанняў.

*Фізічна-матэматычная тэрміналогія.* Гэтая галіна тэрміналогіі дасягнула найбольшага развіцця ў XX ст., што значна пашырыла слоўнікавы склад беларускай мовы.

Аналіз фактычнага матэрыялу дазваляе вылучыць дзве найбольш буйныя прадметна-тэматычныя групы: 1) фізічная тэрміналогія, 2) матэматычная тэрміналогія.

Матэматычная група складаецца з 22 тэрмінаў. У ёй можна вылучыць некалькі прадметна-тэматычных падгруп.

Значнай увагі заслугоўвае падгрупа, у якую ўваходзяць адзінкі, што называюць велічыні, адзінкі даўжыні, меры і г.д. (17 лексем): *аперанд* (ад англ. operand); *байт* (ад англ. byte); *міл* (ад англ. mill); *нейл* (ад англ. nail); *непер* (ад англ. D.Napier); *палм* (ад англ. palm); *перч* (ад англ. perch); *роп* (ад англ. rope); *слаг* (ад англ. slug); *стон* (ад англ. stone); *фурлонг* (ад англ. furlong) і г.д.

Асобныя матэматычныя тэрміны англійскага паходжання – гэта назвы, якія маюць дачыненне да кампутара і моў праграмавання: *алгол* (ад англ. algol); *бэйсік* (ад англ. basic); *інтэрфэйс* (ад англ. interface); *фартран* (ад англ. fortran); *файл* (ад англ. file) і інш.

Самая вялікая група гэтага лексічна-семантычнага разраду – фізічная. Агульная колькасць фізічных тэрмінаў англійскага паходжання складае 75 адзінак. Даследаванне гэтай групы фізічных тэрмінаў дазваляе вылучыць некалькі падгруп.

Найперш гэта назвы фізічных адзінак, мер, сістэм адзінак вымярэння (27 л.а.): *барн* (ад англ. barn); *барэль* (ад англ. barrel); *галон* (ад англ. gallon); *генры* (ад англ. henry ← англ. J.Henry); *гільберт* (ад англ. gilbert ← англ. W.Gilbert); *кельвін* (ад англ. kelvin ← англ. W.Kelvin); *ліга* (ад англ. league); *максвел* (ад англ. maxwell ← англ. J.Maxwell); *меш* (ад англ. mesh); *рэлей* (ад англ. rayleigh ← J.Rayleigh); *СІ* (ад англ. SI); *фарадэй* (ад англ. faraday ← англ. M.Faraday) і г.д.

Наступную падгрупу складаюць адзінкі – назвы фізічных прыбораў, кандэнсатараў, прылад, інструментаў і г.д. (25 л.а.): *барэтэр* (ад англ. barretter); *бустэр* (ад англ. booster); *варыкап* (ад англ. varicap); *варыстар* (ад англ. varistor); *лазер* (ад англ. laser); *мазер* (ад англ. maser); *трамблёр* (ад англ. trembler); *трымер* (ад англ. trimmer); *тэсцер* (ад англ. tester); *пентагрыд* (ад англ. pentagrid); *шунт* (ад англ. shunt) і інш.

Шэраг фізічных тэрмінаадзінак – падгрупа, куды ўваходзяць назвы рэчываў, часціц, выпрамяненняў, астранамічных адзінак і г.д. (12 л.а.): *гетэр* (ад англ. getter); *глюоны* (ад англ. glue); *дыэлектрык* (ад англ. dielectric); *квазар* (ад англ quasar); *пульсар* (ад англ. pulsar); *электрэт* (ад англ. electret) і г.д.

Меншая падгрупа – тэрміны, што называюць фізічныя дзеянні, працэсы (7 адзінак): *скін-эфект* (ад англ. skin-effect); *спін* (ад англ. spin); *пінч-эфект* (ад англ. pinch-effect) і г.д.

*Марская тэрміналогія.* Хаця Беларусь не з’яўляецца марской дзяржавай, але марскія тэрміны англійскага паходжання ў пэўнай ступені папаўняюць беларускую мову. Пранікненне марскіх тэрмінаадзінак-англіцызмаў адбываецца праз рускую мову, паколькі новыя назвы марскіх рэаліяў неабходныя для развіцця і выкарыстоўвання іх у марской тэматыцы.

Агульная колькасць гэтых тэрмінаадзінак складае 91 лексему. Гэта адзін з буйных лексічна-семантычных разрадаў. Тут можна вылучыць некалькі прадметна-тэматычных груп марскіх тэрмінаў.

Найперш гэта група тэрмінаў, што абазначаюць назвы частак, дэталяў, прыладаў, прыстасаванняў марскіх суднаў, лодак, караблёў, шлюпак; а таксама і спецыяльныя назвы палубаў (47 адзінак): *аўтборт* (ад англ. outboard); *батдэк* (ад англ. boot-deck); *брыдж* (ад англ. bridge-deck); *ваер* (ад англ. wire); *гельмпорт* (ад англ. helm port); *дэйдвуд* (ад англ. deadwood); *кафердам* (ад англ. coffer-dam); *кільсан* (ад англ. keelson); *кінгстон* (ад англ. kingston); *комінгс* (ад англ. coamings); *параван* (ад англ. paravane); *планшыр* (ад англ. plankaheer); *пяртнерс* (ад англ. partners); *строп* (ад англ. strop); *стэпс* (ад англ. steps); *топтымберс* (ад англ. top-timbers); *флартымберс* (ад англ. floor-timbers); *футакс* (ад англ. futtock); *чыксы* (ад англ. cheeks) і інш.

Другую прадметна-тэматычную групу складаюць англіцызмы – назвы розных відаў марскога транспарту (судна, лодкі, шлюпкі і г.д.) (22 лексемы): *баркенціна* (ад англ. barquentine); *вельбот* (ад англ. whale-boat); *гіг* (ад англ. gig); *дрыфтэр* (ад англ. drifter); *кеч* (ад англ. ketch); *кліпер* (ад англ. clipper); *кэт* (ад англ. cat); *сейнер* (ад

англ. seiner); *танкер* (ад англ. tanker); *трамп* (ад англ. tramp); *хачбот* (ад англ. hatch-boat) і інш.

Невялікую групу складаюць англіцызмы, што называюць рыбалоўныя і марскія снасці (4 лексемы): *драга* (ад англ. drag); *атэртрал* (ад англ. otter trawl); *трал* (ад англ. trawl); *фіш* (ад англ. fish).

Шэраг адзінак англійскага паходжання называе эканамічныя дамовы, грашовыя ўзнагароды, штрафы, датычныя марскіх спраў (8 адзінак): *дыспач* (ад англ. dispatch); *дэмерэдж* (ад англ. demurrage); *тайм-чартэр* (ад англ. time-charter); *тайм-шыт* (ад англ. time-sheet); *нотыс* (ад англ. notice) і інш.

У марской тэрміналогіі можна вылучыць групу назваў асоб, звязаных з марской справай (4 адзінкі): *мічман* (ад англ. midshipman); *камендор* (ад англ. commander); *докер* (ад англ. docker) і інш.

Адзінкавыя англіцызмы – назвы спецыяльных марскіх збудаванняў; сасудаў, што выкарыстоўваюцца на марскіх відах транспарту, і іншыя найменні з марской тэрміналогіі: *брэкватэр* (ад англ. breakwater); *дыптанк* (ад англ. deep-tank); *дэдвейт* (ад англ. deadweight) і г.д.

*Эканамічна-фінансавая тэрміналогія.* Змяненне палітычнага становішча Беларусі ў канцы XX ст., шчыльныя эканамічныя стасункі з іншымі краінамі, развіццё прыватнага бізнесу ў краіне, выкладанне новых прадметаў, факультатываў на спецыяльнасці «эканоміка»; выхад з друку новых эканамічных часопісаў, газет, навуковых выданняў – усё гэта ў значнай ступені ўплывае на пашырэнне эканамічна-фінансавай тэрмінасістэмы англійскімі тэрмінаадзінкамі.

Англійскія запазычанні эканамічнай сферы выкарыстання характарызуюцца вялікай разнастайнасцю, што дае магчымасць вылучыць у яе складзе значную колькасць прадметна-тэматычных груп.

Адну з груп эканамічна-фінансавай тэрміналогіі складаюць назвы эканамічных умоў, назвы фінансавых і камерцыйных аперацый (15 адзінак): *аўтрайт* (ад англ. outright); *бартэр* (ад англ. barter); *дысконт* (ад англ. discount); *камбізм* (ад англ. cambizm); *каф* (ад англ. caf); *корнер* (ад англ. corner) і г.д.

Другую групу складаюць назвы фінансавага разліку, розныя формы грашовых выплат, формы крэдытавання (14 адзінак): *авердрафт* (ад англ. over draft); *андэррайтынг* (ад англ. underwriting); *ваўчар* (ад англ. voucher); *грант* (ад англ. grant); *клірынг* (ад англ. clearing); *рэнтынг* (ад англ. renting); *хайрынг* (ад англ. highring) і г.д.

Трэцяя група – назвы асоб паводле іх удзелу ў эканамічнай і фінансавай дзейнасці (13 лексем): *бенефіцыяр* (ад англ. beneficiary);

*брокер* (ад англ. broker); *дылер* (ад англ. dealer); *інсайдэр* (ад англ. insider); *трэйдэр* (ад англ. trader); *спонсар* (ад англ. sponsor) і г.д.

Асобную групу складаюць назвы грашовых адзінак, крэдытных картак, аплатных чэкаў, назвы аблігацый, акцый і інш. – 9 тэрмінаадзінак англійскага паходжання: *травелерсчэк* (ад англ. travelers cheque); *пенс* (ад англ. pence); *дайм* (ад англ. dime); *еўракард* (ад англ. Eurocard); *кансолі* (ад англ. consoles) і г.д.

Значнай увагі заслугоўваюць тэрмінаадзінкі, што абазначаюць: а) назвы рэгулявання цэн на рынку, назвы разнастайных сітуацый на рынку: *аверсолд* (ад англ. oversold); *алігапсонія* (ад англ. oligopsonia); *бум* (ад англ. boom); *бэквардэйшн* (ад англ. backwardation); б) назвы патрабаванняў да тавару, розныя віды продажу тавараў; назвы спецыяльных пасведчанняў, сертыфікатаў, што выдаюцца на тавар: *бракераж* (ад англ. brokerage); *варант* (ад англ. warrant); *сіф* (ад англ. cif); *стандарт* (ад англ. standard); *маркетынг* (ад англ. marketing); *мерчэндайзінг* (ад англ. merchandising); *трыплікат* (ад англ. triplicate); *імідж* (ад англ. image); *клеймс* (ад англ. claims); *лэйбл* (ад англ. label); *тэндэр* (ад англ. tender); в) назвы кірункаў у эканамічнай тэорыі (ствараюцца з дапамогай беларускага суфікса -ства): *фрытрэдэрства* (ад англ. free trade); *кейнсіянства* (ад англ. Keynes); *менеджэрызм* (ад англ. managerism); г) назвы прадпрыемстваў, кампаній, фірм, гандлёвых пунктаў: *аўтсайдэр* (ад англ. outsider); *афшор* (ад англ. offshore); *дылінг* (ад англ. dealing); *канцэрн* (ад англ. concern); *пул* (ад англ. pool); *супермаркет* (ад англ. supermarket); *трэст* (ад англ. trust).

Асобныя лексемы эканамічна-фінансавай сферы – абазначэнні эканамічнай дзейнасці фірмаў, прадпрыемстваў; эканамічных змен; найменні, што абазначаюць парады спецыялістаў у эканоміцы, працу калектываў: *бізнес* (ад англ. business); *кансалцінг* (ад англ. consulting); *лімітэд* (ад англ. limited); *гудвіл* (ад англ. goodwill); *трэнд* (ад англ. trend) і інш.

*Грамадска-палітычная тэрміналогія*. Грамадска-палітычная лексіка – адзін з буйных лексічна-семантычных разрадаў тэрмінаў англійскага паходжання. Актыўнаму пранікненню іх у сучасную беларускую мову спрыяе новы статус Беларусі як незалежнай краіны; кантактаванне беларускага народа з іншымі заходнееўрапейскімі краінамі і Расіяй, дзе засваенне грамадска-палітычнай лексікі англійскага паходжання, яе інтэнсіўнае пранікненне ў мовы-рэцыпіенты адбываецца значна раней, а праз пасрэдніцтва польскай і рускай моў англійскія адзінкі пранікаюць у сучасную беларускую мову. Акрамя таго, на пранікненне тэрмінаадзінак-англіцызмаў у мову-

рэцыпіент аказваюць свой уплыў справавыя і дыпламатычныя сувязі з урадамі іншых краін, у тым ліку Англіі і ЗША.

Тэрміналагічная лексіка гэтага разраду размяркоўваецца па некалькіх прадметна-тэматычных шэрагах. Досыць вялікую групу складаюць англіцызмы, што абазначаюць асоб па адносінах да грамадскага працэсу, па прыналежнасці да пэўнай грамадска-палітычнай арганізацыі (34 адзінкі): *бойскаўт* (ад англ. boy-scout); *вігі* (ад англ. whigs); *грынбекеры* (ад англ. green backers); *крофтэр* (ад англ. crofters); *лабіст* (ад англ. lobbist); *лейбарыст* (ад англ. labourist); *лендлорд* (ад англ. landlord); *лорд* (ад англ. lord); *нонканфарміст* (ад англ. nonconformist); *ольдэрмен* (ад англ. older man); *палісмен* (ад англ. policeman); *чартыст* (ад англ. chartist); *шоп-сцюард* (ад англ. shop-steward) і г.д.

Другую ў колькасных адносінах групу складаюць найменні палітычных і грамадскіх рухаў, плыняў, арганізацый, кірункаў, тэорый (14 адзінак): *гарвізм* (ад англ. garwism ← англ. M.Garwey); *ку-клукс-клан* (ад англ. ku-klux-klan ← англ. Ku-Klux-Klan); *праймерыз* (ад англ. primaries); *трэд-юніянізм* (ад англ. trade-unionism); *макартызм* (ад англ. macarthism ← англ. J.McCarthy); *фабіянізм* (ад англ. fabianism ← англ. Fabian society) і г.д.

Шэраг тэрмінаадзінак – гэта назвы, што характарызуюць з'явы і падзеі грамадскага і палітычнага жыцця; палітычную дзейнасць кіроўнага апарату, а таксама паняцці знешнепалітычнай дзейнасці і дыпламатыі (20 адзінак): *байкот* (ад англ. boycott); *блакада* (ад англ. blockade); *джымкраўізм* (ад англ. Jim – Crowizm ← англ. Jim Crow); *лакаўт* (ад англ. look out); *лендліз* (ад англ. lend-lease); *саміт* (ад англ. summit); *трайбалізм* (ад англ. tribalism); *тэйларызм* (ад англ. taylorism ← англ. F.Taylor) і г.д.

Значна меншая ў колькасных адносінах група, якую складаюць назвы палітычных праектаў законаў, палітычныя і грамадскія працэсы і метады, праграмы і падобнае (8 адзінак): *біль* (ад англ. bill); *рурбанізацыя* (ад англ. rurbanization); *брэйншторм* (ад англ. brainstorm); *гомруль* (ад англ. Home Rule); *джэрымендэрынг* (ад англ. gerrymandering) і інш.

*Біялагічная тэрміналогія.* Біялагічная тэрміналогія складаецца з тэрмінаадзінак, што абазначаюць назвы жывёл, раслінных культур, некаторыя назвы біялагічных рэаліяў і з'яў.

Тут можна вылучыць некалькі прадметна-тэматычных груп. Досыць вялікія з іх – заалагічная, батанічная і біялагічная тэрміналогіі.

Прадметна-тэматычная група біялагічных тэрмінаў мае 19 слоў, што абазначаюць назвы хвароб раслін: *блек-рот* (ад англ. black rot);

*вілт* (ад англ. wilt); назвы бактэрый: *бруцэлы* (ад англ. brucel ← англ. D.Bruce); *рыкетс* (ад англ. ricketts ← англ. C.Ricketts); віды скрыжоўвання: *бекрос* (ад англ. backcross); *топкрос* (ад англ. topcros ← англ. top crossing); некаторыя кірункі, вучэнні ў біялогіі: *дарвінізм* (ад англ. darwinism ← англ. Ch.Darwin); *марганізм* (ад англ. morganism ← англ. T.Morgan); іншыя англіцызмы, што абазначаюць біялагічныя з'явы, працэсы, дзеянні і г.д.: *імпрынтынг* (ад англ. imprinting); *інтрагрэсія* (ад англ. introgression); *кросінгавер* (ад англ. crossing-over); *мімікрыя* (ад англ. mimicry); *хомінг* (ад англ. homing ← англ. home) і г.д.

Прадметна-тэматычная група заалагічных тэрмінаў-англіцызмаў складаецца з 17 адзінак, што характарызуюцца семантычнай разнастайнасцю. Прааналізаваныя тэрмінаадзінкі падзяляюцца на невялікія падгрупы. Да адной з іх належаць тыя, што называюць пароды сабак (10 л.а.): *баксёр* (ад англ. boxer); *бульдог* (ад англ. bulldog); *дог* (ад англ. dog); *колі* (ад англ. collie); *пінчэр* (ад англ. pinscher); *пойнтэр* (ад англ. pointer); *сэтэр* (ад англ. setter) і інш.

Наступную падгрупу складаюць назвы экзатычных жывёлін і рыб: *блювал* (ад англ. blue whale); *гібон* (ад англ. gibbon); *грызлі* (ад англ. grizzly); *гупі* (ад англ. guppy); *дынга* (ад англ. dingo); *поні* (ад англ. pony); *сейвал* (ад англ. seiwhale) і інш.

У групу батанічных тэрмінаў уваходзяць 15 запазычанняў, што абазначаюць у большасці выпадкаў (10 л.а.) назвы раслінных культур (дрэў, кветак, травяністых раслін): *гемлак* (ад англ. hemlock); *грэйпфрут* (ад англ. grapefruit); *кларкія* (ад англ. W.Clark); *сасафрас* (ад англ. sassafras); *сенега* (ад англ. senega); *цік* (ад англ. teak) і інш., а таксама назвы і метады скрыжоўвання раслін і іншыя батанічныя з'явы і рэаліі: *мільдзью* (ад англ. mildew); *палікрос* (ад палі + англ. cross); *мангравы* (ад англ. mangrove) і г.д.

*Тэрміналогія культуры і мастацтва*. У слоўнікавым складзе сучаснай беларускай літаратурнай мовы вылучаецца лексічна-семантычны разрад тэрмінаў культуры і мастацтва, дзе выяўляюцца адзінкі англійскага паходжання. Актыўнаму пранікненню англіцызмаў у мову-рэцыпіент спрыяюць шчыльныя культурныя стасункі беларускага народа з іншымі краінамі свету, у тым ліку і англійскамоўнымі, развіццё сусветнага мастацтва ў розных яго формах і ўзнікненне розных кірункаў у мастацтве.

Тэрміны англійскага паходжання характарызуюцца семантычнай разнастайнасцю, што дазваляе нам вылучыць дзве самыя буйныя прадметна-тэматычныя групы гэтага разраду: 1) тэрміны мастацтва (14 адзінак) і 2) музычныя тэрміны (34 адзінкі). Семантычна ў кожнай з гэтых груп вылучаюцца тэматычныя падгрупы.

Прадметна-тэматычная група музычных тэрмінаў з’яўляецца самай вялікай у колькасных адносінах, яна мае 2 найбольш значныя падгрупы.

Да першай належаць англійскія адзінкі, што абазначаюць назвы танцаў (народных, бальных, сучасных) і віды танцавальнай музыкі (23): *бастон* (ад англ. boston ← англ. Boston), *блюз* (ад англ. blues), *джаз* (ад англ. jazz), *бібоп* (ад англ. bebop), *джаз-рок* (ад англ jazz-rock), *джыга* (ад англ. jig), *кантраданс* (ад англ. country-dance), *кек уок* (ад англ. cakewalk), *мэдісан* (ад англ. madison), *рэгтайм* (ад англ. ragtime), *суінг* (ад англ. swing), *тустэп* (ад англ. two-step), *халі-галі* (ад англ. hully-gully), *чарльстон* (ад англ. charleston), *шымі* (ад англ. shimmy) і інш.

Другая прадметна-тэматычная падгрупа – тэрміны англійскага паходжання, што абазначаюць назвы музычных інструментаў і тэхнікі (4): *банджа* (ад англ. banjo), *верджынел* (ад англ. virginal), *піянола* (ад англ. pianola), *плеер* (ад англ. play).

Асобныя тэрміны-англіцызмы абазначаюць: а) назвы музычных твораў, нумароў: *кліп* (ад англ. clip), *мюзікл* (ад англ. musical), *сонг* (ад англ. song); б) назвы ансамбляў, вакальна-інструментальных груп: *бітлз* (ад англ. the Beatles), *дыксіленд* (ад англ. dixieland); в) назвы тэатральных збудаванняў і намінацыі асоб: *мюзік-хол* (ад англ. musical-hall), *бітл* (ад англ. beatl).

*Прадметна-тэматычная група тэрмінаў мастацтва мае некалькі невялікіх падгруп.*

Адна з іх – назвы розных плыняў, кірункаў, відаў мастацтва: *ап-арт* (ад англ. op-art), *гіперрэалізм* (ад англ. hyperrealism), *інвайранмент* (ад англ. environment), *поп-арт* (ад англ. pop-art), *хэпенінг* (ад англ. happening).

Шэраг адзінак англійскага паходжання – назвы кінамастацтва: *вестэрн* (ад англ. western), *рырпраекцыя* (ад англ. rear + праекцыя), *трылер* (ад англ. thriller); назвы тэатральнага мастацтва: *мапетс* (ад англ. muppets); *дынер-тэатр* (ад англ. dinnertheatre); а таксама іншыя паняцці і рэаліі мастацтва: *веджвуд* (ад англ. wedgwood ← англ. D.Wedgwood), *дызайн* (ад англ. design), *імідж* (ад англ. image).

<u>*Сельскагаспадарчая тэрміналогія.*</u> Тэрмінаадзінкі англійскага паходжання ўнеслі свой пэўны ўклад і ў фармаванне, развіццё сельскагаспадарчай тэрміналогіі, узбагаціўшы слоўнікавы склад сельскагаспадарчай беларускай тэрміналогіі.

У гэтым лексічна-семантычным разрадзе вылучаюцца тры прадметна-тэматычныя групы.

Адну з вялікіх груп складаюць найменні жывёл, курэй або іншых свойскіх птушак, раслін. Да яе належаць наступныя англіцызмы (22 адзінкі): *айршыры* (ад англ. ayrshire ← англ. Ayrshire); *арпінгтон* (ад англ. orpington ← англ. Orpington); *аўстралорп* (ад англ. australorp ← англ. Australia + orpington); *гемпшыры* (ад англ. hampshire ← англ. Hampshire); *клейдэсдалы* (ад англ. clydesdale ← англ. Clydesdale); *легорн* (ад англ. leghorn ← англ. Leghorn); *плімутрок* (ад англ. plymouthrock ← англ. Plymouth Rock); *райграс* (ад англ. rye grass); *ромні-марш* (ад англ. romney-marsh ← англ. Romney Marsh); *сусекс* (ад англ. sussex ← англ. Sussex); *хакі-кемпбел* (ад хакі + англ. campbell); *шайры* (ад англ. shire) і г.д.

Наступная група – назвы сельскагаспадарчых машын, інструментаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі (7 слоў): *брудэр* (ад англ. brooder); *брыдэр* (ад англ. breeder); *букер* (ад англ. bucker); *віндроўэр* (ад англ. windrower); *хедар* (ад англ. header); *хескер-пікер* (ад англ. husker-picker); *хескер-шрэдэр* (ад англ. husker-shredder).

Асобны шэраг тэрмінаў – назвы, звязаныя з развядзеннем або скрыжоўваннем жывёлінаў (5 адзінак): *аўтбрыдзінг* (ад англ. outbreeding); *інбрыдзінг* (ад англ. inbreeding); *інкрасбрыдынг* (ад англ. incrossbreeding); *інкросінг* (ад англ. incrossing); *кросбрыдзінг* (ад англ. crossbreeding).

Адзінкавыя тэрміны англійскага паходжання называюць асоб, звязаных з сельскагаспадарчай працай: *камбайнёр* (ад англ. combiner); *каўбой* (ад англ. cowboy); назвы спецыяльнага памяшкання: *брудэргаўз* (ад англ. brooder-house); назвы сельскагаспадарчых або фермерскіх арганізацый: *пул* (ад англ. pool); зямельныя меры: *акр* (ад англ. acre); спецыяльныя матэрыялы: *мульча* (ад англ. mulch).

*Хімічная тэрміналогія.* Паспяховае развіццё хіміі як навукі, вывучэнне новых хімічных рэакцый, узнікненне хімічных элементаў, рэчываў, сумесяў, штучна атрыманых, з'яўляецца адной з прычын развіцця хімічнай тэрміналогіі. У сучаснай беларускай мове хімічныя тэрміны ў асноўным запазычваюцца з замежных моў і актыўна ўплываюць на словаўтваральны працэс беларускай мовы, як і тэрмінаадзінкі іншых галін ведаў. Семантычны разрад хімічных тэрмінаў узбагаціўся і 40 англійскімі запазычаннямі.

У складзе гэтага разраду сустракаецца некалькі прадметна-тэматычных груп. Адну з іх складаюць найменні штучных рэчываў, хімічных сумесяў (13): *адамсіт* (ад англ. adamsite ¬ англ. R.Adams); *антыфрызы* (ад англ. antifreeze); *гапкаліт* (ад англ. hopcalite); *дуст* (ад англ. dust); *кампаўнд* (ад англ. compound); *люізіт* (ад англ. lewisite); *мальтоза* (ад англ. maltose) і інш.

Даволі значна папоўніўся гэты разрад назвамі хімічных элементаў, арганічных злучэнняў, што ўтвараюць наступную прадметна-тэматычную групу (9 адзінак): *берклей* (ад англ. berkley ← англ. Berkley); *бутэн* (ад англ. butane); *кларк* (ад англ. klarke ← англ. F.Klarke); *рэзарцын* (ад англ. resorcin); *лаўрэнсій* (ад англ. lawrence ← англ. E.Lawrence) і г.д.

Асобныя англійскія тэрміны называюць сінтэтычнае валакно, матэрыялы, тканіны (7 адзінак): *нейлон* (ад англ. nylon); *тэрылен* (ад англ. terylene); *тэфлон* (ад англ. teflon); *фіберглас* (ад англ. fiberglass); *флінтглас* (ад англ. flintglass) і г.д.

Невялікая колькасць тэрмінаў англійскага паходжання – гэта назвы, звязаныя з нафтаперапрацоўчай прамысловасцю (5 адзінак): *газойль* (ад англ. gas oil); *гідраформінг* (ад англ. hydroforming); *крэкінг* (ад англ. cracking); *ліграін* (ад англ. ligroine); *уайт-спірыт* (ад англ. white-spirit).

Сярод англійскіх тэрмінаў хімічнай галіны можна назваць некалькі адзінак, што абазначаюць хімічныя з’явы, працэсы і г.д.: *кек* (ад англ. cake); *кенэль* (ад англ. cennel); *кластэр* (ад англ. cluster); *скорчынг* (ад англ. scorching).

## 2.2 Сферы найменш актыўнага ўзбагачэння англіцызмамі

*Мінералагічная тэрміналогія*. У сучаснай беларускай мове разрад мінералагічных тэрмінаў складаецца ў асноўным з адзінак іншамоўнага паходжання, у тым ліку і англійскіх запазычанняў.

Прааналізаваны матэрыял дазволіў выявіць 29 мінералагічных тэрмінаў-англіцызмаў. Амаль усе англійскія запазычанні мінералагічнай тэрміналогіі (23 адзінкі) абазначаюць назвы мінералаў: *англезіт* (ад англ. anglesite ← англ. Anglesey); *бенітаіт* (ад англ. benitaite ← англ. San-Benita); *брукіт* (ад англ. brookite ← англ. K.Brooke); *вад* (ад англ. wad); *вівіяніт* (ад англ. vivianite); *гібсіт* (ад англ. gibbsite ← англ. G.Gibbs); *калеманіт* (ад англ. colemanite ← англ. Coleman); *лабрадор* (ад англ. labrador ← англ. Labrador); *сіліманіт* (ад англ. syllimanite ← англ. B.Sylliman) і г.д.

Некалькі англіцызмаў абазначаюць назвы магматычных горных парод, вулканічных парод, мінеральных і арганічных рэчываў: *кімберліт* (ад англ. kimberlite ¬ англ. Kimberley); *нек* (ад англ. neck); *бентаніт* (ад англ. bentonite ¬ англ. Benton); *глей* (ад англ. gley) і г.д.

*Металургічная тэрміналогія*. Інтэнсіўнае развіццё металургіі ў ХХ ст. судзейнічала актыўнаму аб'яднанню металургічных тэрмінаў у асобны клас.

Як і ў іншых тэрмінасістэмах, тут замацаваліся словы іншамоўнага паходжання, у іх ліку і англіцызмы. Агульная колькасць англіцызмаў, што трапілі ў металургічную тэрміналогію, – 25 лексічных адзінак.

Семантыка прааналізаваных тэрмінаў дазваляе вылучыць 2 невялікія ў колькасных адносінах прадметна-тэматычныя групы. Да першай належаць адзінкі англійскага паходжання, што абазначаюць назвы розных відаў сталі, сплаваў, стальных загатовак. У гэтую групу ўваходзіць 13 тэрмінаў-англіцызмаў: *аўстэніт* (ад англ. austenite ← англ. W.Roberts-Austen); *бейніт* (ад англ. bainite ← англ. E.Bain); *бесемер* (ад англ. bessemer ← англ. H.Bessemer); *блюм* (ад англ. bloom); *пермалой* (ад англ. permalloy); *пермендзюр* (ад англ. permendur); *сендаст* (ад англ. sendust); *сляб* (ад англ. slab); *штрыпс* (ад англ. strips) і г.д.

Другую групу складаюць назвы спецыяльнага абсталявання, тэхнікі, што выкарыстоўваюцца ў металургіі (8 адзінак): *блюмінг* (ад англ. blooming); *ватэржакет* (ад англ. water-jacket); *міксер* (ад англ. mixer); *слябінг* (ад англ. slabbing); *стрыпер* (ад англ. stripper); *стылометр* (ад англ. steelometer); *трансферкар* (ад англ. transfercar); *шэвер* (ад англ. shaver).

Адзінкавыя тэрміны-англіцызмы абазначаюць спецыяльныя назвы працэсаў, што характэрныя для металургічнай прамысловасці, іншыя рэаліі, з'явы: *крып* (ад англ. creep); *скрап* (ад англ. scrap); *суперфініш* (ад англ. superfinish).

*Паліграфічная тэрміналогія*. Пэўная колькасць англійскіх тэрмінаадзінак (24 л.а.) пранікла і ў паліграфічную тэрміналогію. Тут можна вылучыць дзве найбольш буйныя прадметна-тэматычныя групы.

Значная колькасць англіцызмаў утварае групу назваў розных відаў паліграфічных машын, прыбораў, прыстасаванняў, што выкарыстоўваюцца ў паліграфіі (12 адзінак): *аптайп* (ад англ. optype); *верытайпер* (ад англ. varytyper); *гауч-прэс* (ад англ. gauge-press); *лудлоў* (ад англ. ludlow ← англ. Ludlow); *ратапрынт* (ад англ. rotaprint); *стэнсель* (ад англ. stencil); *хедлайнер* (ад англ. head-liner) і г.д.

Наступную групу складаюць тэрміны-англіцызмы, што абазначаюць назвы розных гатункаў паперы, кардону; назвы афармлення кніг, брашур і інш. (10 лексем): *блок* (ад англ. block); *брыстоль* (ад англ. bristol ← англ. Bristol); *ватман* (ад англ. whatman ←

англ. I.Whatman); *кангрэў* (ад англ. kongreve ← англ. Kongreve); *суперселеры* (ад англ. superseller); *флат* (ад англ. flat); *фолдэр* (ад англ. fold) і г.д.

Адзінкавыя англіцызмы абазначаюць назвы спосабу друку, друкарскага шрыфту: *афсет* (ад англ. offset); *баскервіль* (ад англ. baskerville).

Такім чынам, тэрміны англійскага паходжання ўзбагачаюць лексічна-семантычны разрад паліграфічных тэрмінаў. Гэтаму судзейнічае і прагрэс у згаданай галіне, які адбываецца на працягу XX і пачатку XXI ст.

*Тэрміналогія СМІ*. У колькасных адносінах гэта адзін з невялікіх разрадаў тэрмінаадзінак англійскага паходжання (24 л.а.).

Тут вылучаецца некалькі прадметна-тэматычных груп.

Даволі шырокая група назваў тэлепраграм, артыкулаў; відаў навучальнага працэсу; відаў коду для перадачы інфармацыі; розных відаў інфармацыі (10 адзінак): *брэйн-рынг* (ад англ. brain-ring); *дальтан-план* (ад англ. dalton-plan ← англ. Dalton); *інтэрв'ю* (ад англ. interview); *квіз* (ад англ. quiz); *красворд* (ад англ. cross-word); *морзе* (ад англ. morse ← англ. S.Morse); *паблісіці* (ад англ. publicity); *прэс-канферэнцыя* (ад англ. press-conference) і інш.

Наступная група – назвы навучальных устаноў, інфармацыйных арганізацый, аддзелаў; назвы асоб, звязаных з сродкамі масавай інфармацыі (6 адзінак): *інтэльсат* (ад англ. Intelsat); *інтэрв'юер* (ад англ. interviewer); *інтэрфакс* (ад англ. Interfax); *каледж* (ад англ. college); *прэс-бюро* (ад англ. press-bureau); *рэпарцёр* (ад англ. reporter).

Невялікую групу складаюць назвы тэлепрыстасаванняў, прыладаў, спецыяльнай апаратуры: *вакодэр* (ад англ. vocoder); *плотэр* (ад англ. plotter); *тайпатрон* (ад англ. type + трон).

Некаторыя англіцызмы абазначаюць агульныя працэсы, дзеянні, што выкарыстоўваюцца для атрымання патрэбнай інфармацыі: *уфалогія* (ад англ. UFO); *тэлерэкордынг* (ад англ. telerecording); *кантэнт-аналіз* (ад англ. content + аналіз) і г.д.

*Тэкстыльная тэрміналогія.* Інтэнсіўнае развіццё тэкстыльнай прамысловасці, узнікненне новых відаў тканін, ніцей, а таксама і спецыяльных машын, прыбораў для апрацоўкі пражы і іншай працы патрабуюць спецыяльных назваў для новых рэаліяў і паняццяў. Таму ў беларускую мову разам з новымі прадметамі, паняццямі пранікаюць і лексічныя адзінкі з моў пэўнай краіны.

У слоўнікавы склад сучаснай беларускай мовы трапіла 23 тэрміны-англіцызмы тэкстыльнай прамысловасці.

Аналіз гэтага разраду тэрмінаў тэкстыльнай прамысловасці дае магчымасць вызначыць 2 прадметна-тэматычныя групы.

Да першай належаць назвы тканін, валакна, палатна, пражы (17 адзінак): *бастон* (ад англ. Boston); *ватэрпруф* (ад англ. waterproof); *вельвет* (ад англ. velvet); *дакрон* (ад англ. dacron); *джэрсі* (ад англ. jersey); *каверкот* (ад англ. cover coat); *кірза* (ад англ. kersey); *ліберці* (ад англ. liberty); *цвін* (ад англ. twine); *шавіёт* (ад англ. cheviot) і г.д.

Другая група не такая шырокая. Яе складаюць назвы машын, прыбораў, што выкарыстоўваюцца ў тэкстыльнай прамысловасці (5 адзінак): *аверлок* (ад англ. over lock); *ватэр* (ад англ. water); *джыгер* (ад англ. jigger); *мюль-машына* (ад англ. mule + машына); *нартроп* (ад англ. Northrop).

Усяго адна тэрмінаадзінка англійскага паходжання абазначае назву працэсу текстыльнай прамысловасці: *мерсерызацыя* (ад англ. mercerization ← англ. J.Mercer).

<u>*Медыцынская тэрміналогія.*</u> Значныя дасягненні ў медыцыне і псіхалогіі, выкарыстанне новых медыцынскіх прэпаратаў, з'яўленне новых медыцынскіх прыбораў, а таксама ўзнікненне новых відаў хвароб з'яўляюцца прычынай запазычвання новых тэрмінаў у сучасную беларускую мову, у тым ліку і медыцынскіх тэрмінаў з англійскай мовы.

Сярод запазычаных медыцынскіх тэрмінаў англійскага паходжання вылучаецца група назваў хвароб, псіхічнага стану чалавека: *гаймарыт* (ад англ. highmorite ← англ. N.Highmore), *дальтанізм* (ад англ. daltonism ← англ. J.Dalton), *круп* (ад англ. croup), *паркінсанізм* (ад англ. parkinsonism ← англ. Parkinson), *спру* (ад англ. sprue), *стрэс* (ад англ. stress), *транс* (ад англ. trance), *афіліяцыя* (ад англ. affiliate).

Асобную групу складаюць назвы медыцынскіх памяшканняў, прыбораў, рэчываў, сродкаў і інш. прадметаў: *бокс* (ад англ. box), *допінг* (ад англ. doping), *кафеін* (ад англ. coffee), *кетгут* (ад англ. catgut), *медыцынбол* (ад англ. medicineball), *скенер* (ад англ. scanner).

Шэраг медыцынскіх тэрмінаў-англіцызмаў абазначаюць назвы кірункаў у псіхалогіі, некаторых медыцынскіх працэсаў або дзеянне: *біхевіярызм* (ад англ. behaviorism), *блакада* (ад англ. blockade), *дрэнаж* (ад англ. drainage), *лабэктамія* (ад англ. lobe + ektos), *скенаграма* (ад англ. scanogram) і г.д.

Агульная колькасць англіцызмаў згаданай галіны – 21 адзінка. Аднак інтэнсіўнае развіццё медыцыны ў ЗША і Англіі дазваляе выказаць думку, што медыцынская тэрміналогія сучаснай беларускай мовы будзе пашырацца за кошт англіцызмаў і надалей.

*Вайсковая тэрміналогія*. У слоўнікавым складзе сучаснай беларускай мовы вылучаецца разрад вайсковых тэрмінаў англійскага паходжання. Пранікненне іх у вайсковую тэрміналогію абумоўлена геаграфічным становішчам Беларусі: краіна прымала ўдзел у ваенных падзеях ХХ ст., а гэта спрыяла актыўнаму пранікненню англіцызмаў, што абазначаюць назвы вайсковай зброі. Іншая прычына пранікнення англіцызмаў вайсковай тэрміналогіі ў тым, што беларуская мова знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з рускай, праз пасрэдніцтва якой у вайсковую беларускую тэрміналогію і трапляюць англійскія тэрміны.

Аналізуючы англіцызмы – вайсковыя тэрміны, можна размеркаваць іх па наступных прадметна-тэматычных групах.

Значную групу складаюць намінацыі зброі, прыбораў. Сюды ўваходзяць 13 англійскіх адзінак: *базука* (ад англ. bazooka); *браўнінг* (ад англ. browning); *бярданка* (ад англ. K.Berdan); *дрэдноўт* (ад англ. dreadnought); *кардыт* (ад англ. cordite); *максім* (ад англ. maxim); *танк* (ад англ. tank); *шрапнель* (ад англ. shrapnel) і г.д.

Значна меншая група – назвы асоб або вайсковых атрадаў (3 л.а.): *камандас* (ад англ. commandos); *рэйнджэрсы* (ад англ. rangers); *снайпер* (ад англ. sniper).

Асобныя тэрміны абазначаюць працэсы, дзеянні, звязаныя з вайсковай справай (2 л.а.): *блакада* (ад англ. blockade); *рэйд* (ад англ. raid); назвы вайсковай амуніцыі: *фрэнч* (ад англ. french); з’явы і рэаліі сучаснай вайсковай тэрміналогіі: *блістэр* (ад англ. blister), *снайпінг* (ад англ. sniping).

*Прыродна-метэаралагічная тэрміналогія*. Сярод англіцызмаў, што трапілі у сучасную беларускую мову на працягу ХХ ст. і пачатку ХХІ ст., асобны разрад складаюць прыродна-метэаралагічныя тэрміны. Замацоўванню тэрмінаў-англіцызмаў гэтага разраду садзейнічае патрэбнасць у навуковай намінацыі некаторых геаграфічных і метэаралагічных рэаліяў і з’яў.

Нягледзячы на тое, што агульная колькасць прыродна-метэаралагічных тэрмінаў англійскага паходжання ўсяго 20 адзінак, можна вылучыць 2 прадметна-тэматычныя групы, улічваючы семантыку запазычанняў.

Адну з іх утвараюць назвы элементаў зямнога рэльефу, геаграфічных рэаліяў і з’яў (13 адзінак): *бадленд* (ад англ. bad lands); *бенч* (ад англ. bench); *гайоты* (ад англ. guyot ← англ. A.Guyot); *геарыфтагеналь* (ад англ. gearift + гр. gennao); *глей* (ад англ. gley); *друмліны* (ад англ. drumlins); *крык* (ад англ. creek); *пак* (ад англ. pack); *пілаў-лава* (ад англ. pillow-lava); *рыфт* (ад англ. rift) і г.д.

Наступную групу складаюць назвы метэаралагічных з’яў. Тут зафіксавана ўсяго 5 тэрмінаадзінак-англіцызмаў: *афтэршокі* (ад англ. aftershock); *апвелінг* (ад англ. upwelling); *масконы* (ад англ. masscon); *масміны* (ад англ. massmini); *бліцард* (ад англ. blizzard); *шквал* (ад англ. squall).

У гэты лексічна-семантычны разрад уваходзіць усяго адзін тэрмін англійскага паходжання, што абазначае назву прыбора, што выкарыстоўваецца ў метэаралогіі: *анемарумбограф* (ад англ. anemarhumbograph).

Назіранні над тэрмінаадзінкамі-англіцызмамі паказваюць іх пэўны ўклад у развіццё прыродна-метэаралагічнай тэрміналогіі.

*Будаўнічая тэрміналогія*. Будаўнічая тэрміналогія сучаснай беларускай мовы мае 20 адзінак англійскага паходжання. Семантыка прааналізаваных тэрмінаў дазваляе вылучыць 2 прадметна-тэматычныя групы.

Асобную групу складаюць назвы будынкаў розных тыпаў і для розных мэтаў (10 адзінак): *бар* (ад англ. bar); *вакзал* (ад англ. vauxhall ← англ. Vauxhall); *дансінг-хол* (ад англ. dancing-hall); *дыскаўнтэр* (ад англ. discounter); *катэдж* (ад англ. cottage); *матэль* (ад англ. motel); *паркінг* (ад англ. parking) і г.д.

Другая група – назвы будаўнічых матэрыялаў, спецыяльныя намінацыі розных відаў дошак (8 адзінак): *батэнсы* (ад англ. battens); *блок* (ад англ. block); *дылены* (ад англ. deal-ends); *дыльсы* (ад англ. deals); *лінолеум* (ад англ. linoleum); *портландцэмент* (ад англ. Portland + cement); *пропс* (ад англ. props); *эндсы* (ад англ. ends).

Даследаваны матэрыял дазваляе бачыць толькі адну адзінку англійскага паходжання, што абазначае кірунак у архітэктуры: *бруталізм* (ад англ. brutalism).

*Гістарычная тэрміналогія*. Слоўнікавы склад сучаснай беларускай мовы ўзбагаціўся 18 адзінкамі англійскага паходжання, што належаць да гістарычных тэрмінаў. Сюды ўваходзяць англіцызмы, што абазначаюць назвы перыядаў гісторыі; асоб, якія мелі дачыненне да грамадскіх і палітычных арганізацый XIV – XIX стст.; асоб, якія ўваходзілі ў свой час у лейб-гвардыю англійскага караля; а таксама назвы формаў феадальнага сялянскага ўладання і зямельнай арэнды ў сярэднявечная Англіі.

Самую буйную прадметна-тэматычную групу складаюць спецыяльныя назвы асоб, якія мелі дачыненне да палітычнага, грамадскага і ваеннага жыцця ў Англіі ў сярэднявечны перыяд (11 л.а.): *ёменры* (ад англ. yeomanry); *ёмены* (ад англ. yeomen); *котэры* (ад англ. cotters); *лізгольдэры* (ад англ. leaseholders); *мінітмэн* (ад англ.

minutemen); *рыбаніты* (ад англ. ribbon); *торы* (ад англ. tory); *тэны* (ад англ. thegn) і г.д.

Усяго тры тэрміны-англіцызмы – назвы перыядаў гісторыі: *вудленд* (ад англ. wood land); *дэвон* (ад англ. devon ← англ. Devon); *кембрый* (ад англ. cambria ← англ. Cambria).

Адзінкавыя англійскія запазычанні абазначаюць назвы формаў зямельнай арэнды: *капігольд* (ад англ. copyhold); *лізгольд* (ад англ. leasehold).

*Юрыдычная тэрміналогія*. Лексіка юрыдычнай галіны ведаў не характарызуецца значным узбагачэннем за кошт запазычанняў з англійскай мовы. Гэты лексічна-семантычны разрад уключае тэрміны-англіцызмы, што належаць да крымінальнай сферы выкарыстання; спецыяльныя адзінкі, што абазначаюць юрыдычныя паняцці і рэаліі; намінуюць асоб, звязаных з юрыдычнай справай англійскамоўных краін.

Аналіз матэрыялу дазваляе вылучыць невялікія прадметна-тэматычныя групы ў разрадзе юрыдычных тэрмінаў-англіцызмаў (усяго 16 адзінак).

Большую па колькасці лексем групу складаюць назвы афіцыйных судовых асоб, прадстаўнікоў следчых органаў, судоў, паліцэйскіх участкаў, а таксама і злачынцаў (8 л.а.): *атарней* (ад англ. attorney); *барыстэр* (ад англ. barrister), *бейліф* (ад англ. bailiff), *бутлегер* (ад англ. bootlegger), *гангстэр* (ад англ. gangster), *каранер* (ад англ. coroner), *рэкецір* (ад англ. racketeer), *салісітар* (ад англ. solicitor).

Другую групу складаюць адзінкі англійскага паходжання з лексікі крымінальнай сферы (6 лексем): *баратрыя* (ад англ. barratry), *гангстэрызм* (ад англ. gangster), *кіднэпінг* (ад англ. kidnapping), *масакра* (ад англ. massacre), *місдымінар* (ад англ. misdemeanor), *рэкет* (ад англ. racket).

Усяго два юрыдычныя тэрміны англійскага паходжання абазначаюць юрыдычныя паняцці: *афідэвіт* (ад англ. affidavit), *капірайт* (ад англ. copy-right).

Такім чынам, у некаторай ступені папоўнілася англіцызмамі і юрыдычная сфера.

*Філалагічная тэрміналогія.* У філалагічнай тэрміналогіі сучаснай беларускай мовы знойдзена невялікая колькасць англійскіх запазычанняў (усяго 17 адзінак).

Даследаванне дазваляе вылучыць дзве найбольш значныя прадметна-тэматычныя групы: літаратуразнаўчую і мовазнаўчую.

Прадметна-тэматычная група літаратуразнаўчых тэрмінаў мае 10 англійскіх адзінак. Запазычаныя лексемы ў гэтай групе – назвы

розных літаратурных плыняў, кірункаў, асоб, што належаць да пэўнай літаратурнай арганізацыі: *байранізм* (ад англ. byronism ¬ англ. G.Byron); *імажызм* (ад англ. imagism); *імажынізм* (ад англ. imagism); *лекісты* (ад англ. lakists), а таксама спецыяльныя найменні літаратурных выданняў, твораў: *бестсэлер* (ад англ. bestseller); *дайджэст* (ад англ. digest); *комікс* (ад англ. comics); *памфлет* (ад англ. pamphlet); *скетч* (ад англ. sketch).

Да групы мовазнаўчых тэрмінаў-англіцызмаў належыць 7 адзінак. Гэта спецыяльныя назвы штучных моў, дыялектаў англійскай мовы і мовазнаўчыя з'явы: *бэйсік-інгліш* (ад англ. basic English); *валапюк* (ад англ. world-speak); *кокні* (ад англ. cockney); *сленг* (ад англ. slang); *кластэр* (ад англ. cluster); *глайд* (ад англ. glide); *піджынінгліш* (ад англ. pidgin-English).

Горназдабыўная тэрміналогія. У лексічна-семантычным разрадзе горназдабыўных тэрмінаў выяўлена 13 адзінак англійскага паходжання. Як і разрад мінералагічнай тэрміналогіі, разрад горназдабыўных тэрмінаў не характарызуецца семантычнай разнастайнасцю.

У гэтым раздзеле ў асноўным тэрміны-англіцызмы абазначаюць назвы інструментаў, прыстасаванняў, машын, што выкарыстоўваюцца ў горназдабыўнай прамысловасці (10 адзінак): *авершот* (ад англ. overshot); *бар* (ад англ. bar); *віпер* (ад англ. whipper); *пакер* (ад англ. packer); *скіп* (ад англ. skip); *стопер* (ад англ. stopper); *турнадозер* (ад англ. turndozer); *хопер* (ад англ. hopper) і г.д.

Асобныя англійскія запазычанні абазначаюць назвы збудаванняў у шахтах, пластападобных інтрузіваў, назвы метадаў абагачэння карысных выкапняў: *кросінг* (ад англ. crossing); *сіл* (ад англ. sill); *флатацыя* (ад англ. flotation).

*Філасофская тэрміналогія.* Невялікая колькасць англіцызмаў трапляе ў філасофскую тэрміналогію (9 адзінак).

Тэрміны гэтай галіны ведаў абазначаюць філасофскія кірункі, плыні, погляды, вучэнні: *віктарыянізм* (ад англ. victorianism ¬ англ. Victoria); *гамлетызм* (ад англ. hamletism ¬ англ. Hamlet); *інвайранменталізм* (ад англ. environmentalism); *інсайт* (ад англ. insight); *труізм* (ад англ. truism); *эматывізм* (ад англ. emotive); *энвіроніка* (ад англ. environs); *юмізм* (ад англ. humism ¬ англ. D.Hume).

Філасофскія тэрміны англійскага паходжання, як відаць, нешматлікія, яны ў нязначнай ступені папоўнілі гэтую сферу навуковай лексікі.

*Чыгуначная тэрміналогія*. Самае непапулярнае выкарыстанне англіцызмаў – у чыгуначнай сферы. Сюды трапілі ўсяго 9 адзінак англійскага паходжання.

Большасць з іх (7 адзінак) абазначае назвы машын, прыбораў, прыстасаванняў, што выкарыстоўваюцца для працы на чыгунцы: *бленкер* (ад англ. blinker); *пульман* (ад англ. pulman ← англ. G.Pulman); *баластэр* (ад англ. ballaster); *стокер* (ад англ. stoker); *трансбордэр* (ад англ. transborder); *тэндэр* (ад англ. tender).

Асобныя тэрміны абазначаюць назвы чыгуначнага палатна – *баласт* (ад англ. ballast) і чыгункі – *дэкавілька* (ад англ. Decauville).

***

Аналіз англіцызмаў паказвае, што яны, пранікаючы ў беларускую мову, размяркоўваюцца тут па разнастайных лексічна-семантычных разрадах. Так, найбольш значная колькасць англіцызмаў трапляе ў наступныя галіны тэрміналогіі: спартыўная (145), тэхнічная (133), фізічна-матэматычная (97), марская (90), эканамічна-фінансавая (88), грамадска-палітычная (78), біялагічнай (51), тэрміналогія культуры і мастацтва (48), сельскагаспадарчая (42), хімічная (40).

Невялікая колькасць англійскіх адзінак замацавалася ў мінералагічнай (29); металургічнай (26); паліграфічнай (24); тэрміналогіі СМІ (24); тэкстыльнай (23); медыцынскай (21); вайсковай (21); прыродна-метэаралагічнай (20); будаўнічай (20); гістарычнай (19); юрыдычнай (16); філалагічнай (15); горназдабыўнай (14) сферах.

Усяго некалькі запазычанняў англійскага паходжання ўваходзяць у філасофскую (9) і чыгуначную (8) тэрміналогіі.

Пранікненне англіцызмаў у сучасную беларускую мову адбываецца ўвесь час, улічваючы папулярнасць англійскай мовы. «Такая актыўнасць англійскамоўных слоў ужо атрымала сваю назву-характарыстыку ў выразе ‘экспансія англійскамоўных тэрмінаў’» [4, с.17].

РАЗДЗЕЛ III

# АДАПТАЦЫЯ ТЭРМІНААДЗІНАК-АНГЛІЦЫЗМАЎ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Беларуская мова пастаянна ўзбагачае свой слоўнікавы склад запазычаннямі з іншых моў – лацінскай, нямецкай, польскай, рускай, цюркскіх і г.д.

На працягу XX – пачатку XXI ст. адзінкі англійскага паходжання інтэнсіўна пранікаюць у сучасную беларускую тэрміналогію.

Вядома, што «запазычанне лексікі – складаная з'ява, гэта не механічны працэс, не проста перамена асяроддзя для пэўнага слова. Запазычанне звязана з актыўнай перапрацоўкай як фанетычнага, так і марфалагічнага складу слова ў адпаведнасці з фанетычнымі і марфалагічнымі заканамернасцямі той мовы, якая запазычвае. Разам з тым у многіх словах адбываліся розныя семантычныя зрухі» [7, с.47].

Англійская і беларуская мовы – няблізкароднасныя. Фанетычная і марфалагічная сістэмы абедзвюх моў значна адрозніваюцца. Таму, пранікаючы ў беларускую мову, англіцызмы мусяць прыстасавацца да яе нормаў, гэта значыць, прайсці фанетычную, марфалагічную і семантычную адаптацыю ў мове-рэцыпіенце.

## 3.1 Фанетычная адаптацыя

*Вакалізм. Дастасаванне англіцызмаў да беларускай фанетычнай сістэмы.* «Фанетычная адаптацыя пазычанняў – гэта замена іншамоўных гукаў і спалучэнняў, нехарактэрных для беларускай мовы, спалучэннямі і гукамі, уласцівымі ёй» [16, с.27].

Англіцызмы найчасцей пранікаюць у беларускую мову праз польскае і рускае пасярэдніцтва. А гэта робіць пэўны ўплыў на працэс прыстасавання англійскіх запазычанняў да фанетычных нормаў беларускай мовы.

Фанетыка англійскай мовы значна адрозніваецца ад беларускай. Таму, зразумела, англіцызмы павінны набыць фанетычныя ад-

метнасці мовы-рэцыпіента. Тэрмінаадзінкі англійскай мовы маюць пэўныя фанетычныя рысы ў сістэме вакалізму, адрозныя ад беларускай мовы.

Пры фанетычнай адаптацыі з мовы-крыніцы бярэцца гукавы вобраз адзінкі і адбываецца субстытуцыя складальных гукаў. Тут вылучаюцца наступныя разнавіднасці субстытуцыі: канвергенцыя – замена двух блізкіх гукаў адным; дывергенцыя – перадача аднаго гука двума; карэспандэнцыя – перадача аднаго гука мовы-крыніцы адным гукам прымальнай мовы [49, с.79].

Англійскай мове ўласцівыя доўгія і кароткія галосныя, іх супрацьпастаўленне служыць для дыферэнцыяцыі значэння моўных адзінак. Трапляючы ў беларускую мову, англіцызмы страчваюць доўгія гукі, адбываецца замена іх звычайнымі гукамі, уласцівымі беларускай мове: *iceber[Y]g → айсберг; cur[Y]ling → керлінг; fur[Y]long → фурлонг; sur[Y]veyor → сюрвеер; otter trawl [o:] → атэртрал; over-arm [a:] → аверарм; antifree[i:]ze → антыфрызы; bee[i:]f-steaks → біфштэкс; brie[i:]fing → брыфінг; brainstor[o:]m → брэйншторм; bloo[u:]m → блюм; gree[i:]nbackers → грынбэкеры; carragee[i:]n → караген; crou[u:]p → круп; lend-lea[i:]se → лендліз; medicineba[o:]ll → медыцынбол; poo[u:]l → пул; da[a:]ncing → дансінг; par[a:]tners → пяртнерс* і інш. Прыведзеныя прыклады паказваюць, што доўгі галосны *[i:]* перадаецца ў беларускай мове гукамі *[э], [і]* або *[ы]*; доўгі *[u:]* – як *у – [у]*, *ю – [у];* галосны *[o:]* – спалучэннем гукаў ‘галосны + зычны’ *[ор]; [аў]; [оў];* або беларускімі галоснымі *[о]; [а];* доўгі *[a:]* – спалучэннем галоснага з зычным *яр – [ар],* [ар] або гукам *[*а*];* доўгі напружаны манафтонг змешанага раду *[Y]* перадаецца спалучэннем ‘галосны + зычны’ – *ер – [эр]; юр – [ур].*

Асноўнай рысай англійскіх галосных гукаў з’яўляецца іх «падзел паводле цэласнасці, падзельнасці і непадзельнасці на манафтонгі (цэласныя паводле складу, аднагучныя гукі); дыфтонгі (складаны галосны, які мае два элементы, злітыя ў адзін склад) і трыфтонгі (спалучэнне дыфтонга з нейтральным галосным *[Y]*)» [145, с.36]. Дыфтонгі і трыфтонгі неўласцівыя фанетыцы беларускай мовы. Адаптацыю англійскіх дыфтонгаў у беларускай мове можна паказаць у табліцы №1:

Табліца 1

| **Англійскі тэрмін** | **Дыфтонг** | **Адаптаваны варыянт дыфтонга** | **Запазычаная лексема англійскага паходжання** |
|---|---|---|---|
| iceberg<br>[aisbY g]<br>hyperrealism<br>[haipУ riУ lizm]<br>mimicry<br>[mimikrai]<br>trysail [traiseil] | [ai] | ай-[aj]<br>і – [ы]<br>ыя – [ыja]<br>ы – [ы] | айсберг<br>гіперрэалізм<br><br>мімікрыя<br>трысель |
| underground<br>[Λ ndУ graund]<br>discount<br>[diskaunt] | [au] | ау – [ау]<br>о – [о] | андэрграунд<br><br>дысконт |
| arrowroot<br>[ærУ uru:t]<br>banknotes<br>[bæ Nknouts]<br>bowling-green<br>[bУ uli Ngri:n]<br>goalkeeper<br>[gУ ulki:p] | [У u] | аў – [аў]<br>о – [о]<br>у – [у]<br>а – [а] | араўрут<br><br>банкноты<br><br>буленгрын<br><br>галкіпер |
| affiliate<br>[У filieit]<br>bailiff [beilif]<br>behaviourism<br>[biheivjУ rizm]<br>bluewhale<br>[blu:weil]<br>brain-ring<br>[breinri N]<br>break-water<br>[breikwotУ ] | [ei] | я – [ja]<br>ей – [эj]<br>е – [э]<br>а – [а]<br>эй – [эj]<br>э – [э] | афіляцыя<br>бейліф<br>біхевіярызм<br><br>блювал<br>брэйн-рынг<br>брэк-ватэр |
| boy-scout<br>[boiskaut] | [oi] | ой – [оj] | бой-скаўт |
| hyperrealism<br>[haipУ riУ lizm]<br>clearance<br>[kliУ rУ ns]<br>herefordshire<br>[hiУfo : cdaiУ] | [iУ ] | эа – [эа]<br>і – [ы]<br>е – [э] | гіперрэалізм<br><br>клірэнс<br>герэфорды |

Невялікая група тэрмінаадзінак мае ў сваім складзе трыфтонгі – спалучэнне дыфтонгаў [*ai*], [*au*], [*ou*] з нейтральным галосным [ у ]: *гемпшыры ← hempshire[ai ]; герэфорды ← herefordshire [ai ]; йаркшыры ← yorkshire [ai ]; ньюгемпшыр ← new-hampshire [ai ]; шайры ← shire [ai ]; ваер ← wire [ai ]* і інш. Аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што сярод тэрмінаадзінак-англіцызмаў вылучаюцца лексемы, якія маюць адзін трыфтонг [*ai* ], ён перадаецца ў беларускай мове спалучэннем гукаў [*ыры*], [*ыр*], [*ajр*] або галосным [*ы*].

Значная частка англійскіх субстантываў мае суфіксавыя фарманты -*er, -or* у фінальнай пазіцыі і ў сярэдзіне слова. У англійскай мове фанетычна спалучэнне гэтых гукаў афармляецца як нейтральны галосны [ ]. У мове-крыніцы спалучэнне асновы, якая канчаецца на -er, у беларускай мове на пісьме перадаецца праз: 1) эр – [*эр*]: *pointer → пойнтэр; recorder → рэкордэр; plotter → плотэр; setter → сэтэр; rudder-piece → рудэрпіс; scooter → скутэр; charter → чартэр* і г.д.; 2) ер – [*эр*]: *stopper → стопер; stacker → стакер; receiver → рэсівер; server → сервер; scanner → сканер; scrubber → скрубер; sniper → снайпер; fiberglass → фібергласс; shaver → шэвер* і інш.; 3) ар – [*ар*]: *teetester → тытэстар; stopper → стопар* і г.д. Спалучэнне англійскіх літар -or абазначаецца ў беларускай мове праз -ар: *solicitor → салісітар; sponsor → спонсар; stator → статар; misdemeanor → місдымінар; transistor → транзістар; thyristor → тырыстар; time-factor → таймфактар; twistor → твістар* і інш. Трэба зазначыць, што перадача фармантаў -er, -or праз ар – [*ар*] больш уласцівая фанетычным нормам беларускай мовы, чым [*эр*]. Так, у «Вынікавым дакуменце Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы» прапануецца «канцавыя спалучэнні асновы -эр, -эл(ь) іншамоўных слоў перадаваць у ненаціскным становішчы праз -ар, -ал(ь): *ордар, містар, кампутар* і г.д.» [26, №5]. У «Руска-беларускім фізічным слоўніку» А.М.Каладзінскага, Д.М.Карацінскай, П.У.Сцяцко (Гродна, 1999) у англійскіх тэрмінах канцавыя спалучэнні -er, -el натуральна перадаюцца праз -ар, -ал(ь): *брустар, кластар, прынтар, фідар*.

У беларускую тэрміналогію з англійскай мовы трапіла частка тэрмінаадзінак, якія на канцы або ў сярэдзіне слова маюць суфіксавы фармант -on, што фанетычна афармляецца спалучэннем нейтральнага галоснага [ ] з пярэднеязычным альвеалярным змычна-насавым санантам [n] – [ n]. Фанетычна ў беларускай мове спалучэнне згаданых гукаў перадаецца праз: *[он] – gallon [ n] → галон* і *[ан] – dalton[ n]-plan → дальтан-план; environ[ n]ment → інвайранмент; klaxon[ n] → клаксан; skeleton[ n] → скелетан* і г.д.

Адбываюцца некаторыя фанетычныя змены ў тэрмінах-англіцызмах і пры перадачы кароткіх галосных англійскай мовы галоснымі беларускай мовы. Так, англійскі кароткі ненапружаны галосны задняга рада верхняга пад’ёму [*u*] у беларускай мове перадаецца галосным верхняга пад’ёму [*у*]: *bu[u]llet → булiт*; кароткі ненапружаны галосны пярэдняга рада верхняга пад’ёму [*i*] у беларускай мове замяняецца галоснымі: а) [*ы*], i̲-[*ы*], [э]: *asdic → асдык; tory[i] → торы; buggy[i] → багі; basket[it]-ball→ баске[э]тбол; belti[i]ng → бельтынг; gi[i]g → гі[ы]г; cri[i]ngles → крэнгельс; sti[i]ck → стэк* і г.д.; б) спалучэннем ‘галосны+зычны+галосны’ [*ыja*] – *barratry[i] → баратрыя[ыja]* і інш.; кароткі манафтонг задняга рада ніжняга пад’ёму [*o*] у мове-пазычальніцы замяняецца гукамі [*о*], [*а*]: *overlo[o]ck → аверло[о]к; overso[o]ld → аверсолд; oversho[o]t → авершот; aftersho[o]ck → афтэршокі; blo[o]ck → блок; hemlo[o]ck → гемлак; jo[o]lt → джолт* і інш.; кароткі манафтонг задняга рада сярэдняга пад’ёму [ ] перадаецца галоснымі гукамі [*о*]; е̲-[э]; [*у*]; [э]: *upper-cu[ ]t → аперкот; du[ ]st → дуст; blu[ ]ff → бле[э]ф; pu[ ]nching-ball → пенчынг-бол; bu[ ]cker → букер; ru[ ]gby → рэгбі; bu[ ]ffer → буфер; hu[ ]nter → гунтэр; ju[ ]mper → джэмпер; clu[ ]b → клуб; cru[ ]sher → крэшэр; plu[ ]nger → плунжэр* і інш.; кароткі манафтонг пярэдняга рада, вузкай разнастайнасці сярэдняга пад’ёму [*e*] замяняецца ў беларускай мове галосным [э]: *богхе[э]д ←*
Λ *boghea[e]d; брыджэдэк ← bridge-de[e]ck; ве[э]нчур ← ve[e]nture* і інш.; кароткі манафтонг пярэдняга рада, шырокай разнастайнасці ніжняга пад’ёму *[E]* – галоснымі е̲-[э], [*а*]: *barman[E] → барме[э]н; ba[E]dla[E]nds → бадле[э]нд; ba[E]ckcross → бе[э]крос; ba[E]ck-ha[E]nd → бе[э]кхе[э]нд; woodla[E]nd → вудленд; a[E] ssembler → асемблер; ba[E]dminton → бадмінтон* і інш.

Вывучэнне працэсу прыстасавання тэрмінаў англійскага паходжання да сістэмы вакалізму беларускай мовы паказвае, што сістэма галосных англійскай мовы адрозніваецца ад сістэмы галосных беларускай мовы: а) наяўнасцю кароткіх і доўгіх галосных (у беларускай мове доўгіх галосных няма); б) наяўнасцю манафтонгаў, дыфтонгаў і трыфтонгаў (беларускай фанетыцы ўласцівыя толькі манафтонгі); в) месцам, ступенню пад’ёму языка, ступенню раскрыцця (вузкая і шырокая разнавіднасць пад’ёму); г) наяўнасцю-адсутнасцю лабіялізацыі (у фанетыцы беларускай мовы галосныя адрозніваюцца ступенню пад’ёму языка, месцам пад’ёму і наяўнасцю-адсутнасцю лабіялізацыі).

*Фанетычнае прыстасаванне англіцызмаў да сістэмы кансанантызму сучаснай беларускай мовы.* Сістэма кансанантызму анг-

лійскай мовы ў значнай ступені адрозніваецца ад сістэмы беларускай мовы. Аналізуючы працэс прыстасавання англійскіх зычных да фанетычных нормаў беларускай мовы, бачым тут гукі, падобныя адзін да аднаго, і зычныя, якія не маюць нічога супольнага.

У акустычна-артыкуляцыйным плане вылучаюцца наступныя адрозненні:

- наяўнасць пярэднеязычных інтэрдэнтальных фрыкатыўных зычных [ ] – глухі і [Q] – звонкі ў фанетычнай сістэме англійскіх зычных. На пісьме гэтыя гукі перадаюцца спалучэннем літар -th-. Трапляючы ў беларускую мову, гукі [ ] і [Q] замяняюцца на глухі выбухны зубны [*т*] або пярэднепаднябенны [*з'*]: *north[ ]rop → нартроп; with[ ]ering → вітэрыт; ruth[Q]erford → рэзерфорд; th[ ]riller → трылер* і г.д.;

- наяўнасць альвеалярных зычных [*s*]; [*z*]; [*t*]; [*d*]; [*n*]; [*l*] у фанетыцы англійскай мовы. Пісьмова згаданыя зычныя абазначаюцца літарамі -*s, -z, -t, -d, -n, -l*. У мове-рэцыпіенце адбываецца адаптацыя альвеалярных зычных гукаў. Так, англійскі [*z*] перадаецца праз [*з*], [*з'*]: *blues[z] → блюз; des[z]ign → дызайн; gas[z]holder → газгольдэр; leas[z]ing → лізінг; mas[z]er → мазер; mus[z]ical → мюзікл; steeplechas[z]e → стыпль-чэз* і інш.; англійскі альвеалярны фрыкатыўны [*s*] замяняецца зубным [*с*] або пярэднепаднябенным [*с'*]: *s[s]urfing → сёрфінг; s[s]niper → снайпер; s[s]print → спрынт; s[s]tarter → стартэр; s[s]endust → сендаст* і г.д. Аналізуючы прыстасаванне англійскага зычнага [*s*] да фанетычных нормаў мовы-рэцыпіента, мы выявілі выпадкі замены [*s*] на глухі зычны [*ш*]: *squall → шквал; schooner → шхуна; strips → штрыпс*; англійскія альвеалярныя змычна-выбухныя глухі [*t*] і зычны [*d*] замяняецца ў беларускай мове цвёрдымі выбухнымі зубнымі [*т*], [*д*] або мяккімі пярэднепаднябеннымі афрыкатамі [*дз'*], [*ц'*]: *marketing → маркетынг; printer → прынтэр; rating → рэйтынг; tandem → тандэм; penalty → пенальці; consulting → кансалцінг; trance → транс; toptimbers → топтымберс; toaster → тосцер; templet → тэмплет; tester → тэсцер; tubing → цюбінг; dancing → дансінг; dike → дайка; dribbling → дрыблінг; deals → дыльсы; limited → лімітэд; holding → холдзінг* і інш.; англійскі альвеалярны змычна-насавы санант [*n*] перадаецца праз зубны [*н*] і пярэднепаднябенны [*н'*]: *kidnapping → кінднэпінг; knock-out → накаўт; napalm → напалм; nail → нейл; nonconformists → нонканфармісты; notice → нотыс; nipple → ніпель; neck → нек; napier → непер; niacin → ніяцын* і інш.; англійскі альвеалярны, бакавы [*l*] замяняецца зубнымі зычнымі [л], [л']: *blocade → блакада; golf → гольф; lewisite →*

*люізіт; ludlow → лудлоў; moleskine → малескін; lynch → лінч; ligroine → ліграін; league → ліга; label → лэйбл; loyalists → лаялісты; lag → лаг* і інш.;

- наяўнасць фарынгальнага глухога зычнага [*h*]. У беларускай мове фанетычна згаданы гук передаецца праз заднеязычныя, заднепаднябенныя [*х*], [*х'*]: *him → хім; hully-gully → халі-галі; hippie → хіпі; hockey → хакей; hat trick → хет-трык; hand → хэнд; hula-hoop → хулахуп; hone → хон; hopper → хопер; head-liner → хедлайнер; hatch-boat → хачбот; home → хомінг* і інш. Сустракаюцца і выпадкі замены англійскага зычнага [*h*] беларускім заднеязычным заднепаднябенным зычным [*г*]: *homestead → гомстэд; heat → гіт; handball → гандбол; hopcalite → гапкаліт; hardenite → гардэніт; helmport → гельмпарт; hunter → гунтэр* і інш. Таксама вылучаецца невялікая колькасць тэрмінаў (2 адзінкі), у якіх пачатковы зычны [*h*] у беларускай мове передаецца фанетычна праз спалучэнне 'зычны+галосны' [*jy*] і пісьмова праз ю: *юз* (hughes ← D.Hughes = прозвішча амерыканскага вынаходцы); *юмізм* (humism ← D.Hume = прозвішча англійскага філосафа);

- наяўнасць у фанетычнай сістэме зычных англійскай мовы дзвюх афрыкатаў: [*tc*]; [*d3*] (параўн.: у беларускай фанетыцы – 6 афрыкатаў). У англійскай мове пісьмова альвеалярна-палатальныя пярэднеязычныя афрыкаты [*t–*] – глухі передаецца праз спалучэнне літар -ch; -tch і [*d3*] – звонкі – праз -g; -j або літарнае спалучэнне -dg. Пранікаючы ў беларускую мову, англійскі зычны [*d3*] адаптуецца і замяняецца беларускім звонкім афрыкатам [*дж*]: *digest → дайджэст; image → імідж; management → менеджмент; jazz → джаз; pager → пэйджэр; jobber → джобер; jolt → джолт; jigger → джыгер; jin → джын; jingo → джынга; jeep → джып; gentry → джэнтры* і г.д. Адзінкавыя прыклады тэрмінаадзінак-англіцызмаў сведчаць, што зычны афрыкат [*d3*] у беларускай мове можа передавацца і праз фрыкатыўны [*ж*]: *brokerage → бракераж; drainage → дрэнаж; water-jacket → ватэржакет; jockey → жакей; imagism → імажызм; engineering → інжынірынг; plunger → плунжэр* і інш. Англійскі тэрмін *gaug[d3]e-press* з звонкім афрыкатам [*d3*] адаптуецца да фанетычных нормаў беларускай мовы – ў фінальнай пазіцыі слова звонкія аглушаюцца – і звонкі афрыкат [*d3*] замяняецца глухім адпаведнікам [*ч*]: *гауч-прэс*. Англійскі глухі афрыкат [*tc*] у беларускай фанетыцы мае два варыянты [*ч*] і спалучэнне зычных [*тч*]: *charter → чартэр; punching-ball → пенчынбол; ketch → кеч; cheeks → чыксы; chain → чэйн; check → чэк; chisel → чызель; chartists → чартысты; catch → кетч; match → матч; stretching → стрэтчынг* і г.д.

- наяўнасць заднеязычнага змычна-выбухнога звонкага зычнага [*g*] (параўн.: у беларускай мове – 2 заднеязычныя гукі [*г*]). Англійскі зычны [*g*] у беларускай фанетыцы замяняецца фрыкатыўнымі заднеязычнымі [*г*] (заднепаднябенны) і [*г'*] (сярэднепаднябенны): *галкiпер (goalkeeper); гейм (game); гайдроп (guide-rope); гайоты (guyot ← A.Guyot = прозвішча амерыканскага географа і геолага); галон (gallon); гентэкс (Gentex); гетэр (getter); гіг (gig); гільберт (gilbert ← W.Gilbert – прозвішча англійскага фізіка)* і інш.;

- наяўнасць заднеязычнага змычна-выбухнога глухога зычнага [*k*] (параўн.: у беларускай фанетыцы – 2 заднеязычныя [*к*]). Англійскі выбухны гук [*k*] у мове-рэцыпіенце замяняецца выбухным заднеязычным сярэднепаднябенным [*к'*] і заднепаднябенным [*к*]: *кварк (quark); кафердам (coffer-dam); каўпер (cowper ← E.Cowper = прозвішча англійскага інжынера і вынаходцы); картэр (carter); карт (cart); капігольд (copyhold); кантэйнер (container); кек (cake); кельвін (kelvin ← W.Kelvin = прозвішча англійскага фізіка); кенэль (cennel); кіднэпінг (kidnapping); кікс (kicks); кільблок (keelblock*) і інш. У рэдкіх выпадках англійскі [*k*] перадаецца фрыкатыўным заднеязычнымі [*г*]: *ранг (rank)*;

- наяўнасць пярэднеязычнага, постальвеалярнага фрыкатыўнага зычнага [*r*] (параўн.: у беларускай мове – вібрант зубны [*р*]). У англійскай мове зычны [*r*] сустракаецца ў пазіцыі перад галоснымі або ў інтэрвакальнай пазіцыі. Гук [*r*], знаходзячыся ў фінальнай пазіцыі, вымаўляецца толькі ў тым выпадку, калі наступнае слова пачынаецца з галоснага. У мове-пазычальніцы «прыхаваная» фанема [*r*] вымаўляецца на канцы запазычанага слова ў любым выпадку: *тэндэр (tender); віндроўэр (windrower); коранер (coroner); лістэр (lister ← M.Lister – прозвішча англійскага урача); ловердэк (lower deck); менеджэр (manager)* і інш. Трапляючы ў беларускую мову, англійскія тэрміны з «прыхаваным» гукам [*r*] у сярэдзіне слова прыстасоўваюцца да фанетычных нормаў беларускай мовы і ў запазычаных лексемах зычны [*r*] вымаўляецца: *сэрвіс (service); мерчэндайзінг (merchandising); міксбордэр (mixborder); спорт (sport); эрліфт (airlift)* і інш. Вылучаецца і пэўная група англійскіх тэрмінаў з зычным [*r*], што вымаўляецца і ў мове-крыніцы і ў мове-рэцыпіенце: *шрапнель (shrapnel); фрэнч (French); фрыстайл (freestyle); уайт-спірыт (white spirit); трэнд (trend); трэд-юніёны (trade-unions); трыгер (trigger)* і г.д.

- наяўнасць заднеязычнага насавога cананта [ ], які на пісьме абазначаецца спалучэннем зычных ng (у рэдкіх выпадках – n). У беларускай мове зычнаму [ ] адпаведніка няма. У слове-рэцыпі-

енце [ ] перадаецца праз спалучэнне зычных [*нг*]: *скорчынг (scorching); трэнінг (training); федынг (fading); форсінг (forcing); хайрынг (highring); холдзінг (holding); ліфтынг (lifting); паркінг (parking)* і г.д. У выпадках спалучэння зычнага [ ] з зычным [*k*] у беларускай фанетыцы пры адаптацыі атрымліваецца спалучэнне зычных [*нк*]: *панк (pun[ ]k); дыптанк (deep-tan[ ]k); пінк (pin[ ]k); рынк (rin[ ]k); спрынклер (sprin[ ]kler)* і г.д.;

- наяўнасць губна-губнога заднеязычнага сананта [*w*], які перадаецца на пісьме літарамі -w, -u, радзей -o або спалучэннем літараў -wh. У беларускай мове гэты гук замяняецца: 1) губна-зубным санорным [*в*]: *віст (whist); вельсы (wales); вілт (wilt); віліс (willys); віпер (whipper); эквалайзер (equalizer); квазар (quasar); кварк (quark); світч (switch)* і інш.; 2) галосным [*у*]: *уайт-спірыт (white spirit); оуэнізм (owen);; уан стэп (one step); кекуок (cakewalk)* і г.д.; 3) санорным [*ў*] (невялікая колькасць тэрмінаў англіцызмаў): *віндроўэр (windrower)*; *джымкраўізм (Jim-Crowism)*;

- наяўнасць пярэднеязычных фрыкатыўных постальвеалярных зычных [ ] – глухі (моцны); [з] – звонкі (слабы). У фанетыцы беларускай мовы гэтыя гукі можна суаднесці з беларускімі фрыкатыўнымі пярэднепаднябеннымі [*ш*]; [*ж*]. Прыкладамі адаптацыі глухога зычнага [ ʃ ] з'яўляюцца наступныя тэрмінаадзінкі: *шэльф (shelf); шэпінг (shaping); шоп-сцюарды (shop-stewards); шунт (shunt); шэвер (shaver); меш (mesh)* і інш. Звонкі зычны [з] у тых тэрмінах-англіцызмах, што пранiклі ў беларускую мову, не знойдзены;

- наяўнасць губна-губнога змычнага насавога сананта [*m*]. У беларускай мове гэтаму англійскаму гуку адпавядаюць насавыя губна-губныя [*м*]; [*м'*]. Супастаўляючы англійскі [*m*] і беларускія [*м*] і [*м'*], зазначым, што англійскі зычны [*m*] характарызуецца большай санорнасцю, чым беларускі, і мае розную працягласць гучання ў залежнасці ад пазіцыі ў слове: найбольшую – на канцы слова пасля кароткага галоснага, а найменшую – перад глухімі зычнымі на канцы слоў. У запазычаных тэрмінах гэтая асаблівасць не адлюстроўваецца. Прыкладамі адаптацыі англійскага [*m*] з'яўляюцца такія тэрміны, як: *букмекер (bookmaker); бармен (barman); дэмпінг (dumping); імідж (image); бумеранг (boomerang); блюмінг (blooming); макартызм (macarthism ← J.McCarthy = прозвішча амерыканскага сенатара); менеджмент (management); медыцынбол (medicine-ball); мілерыт (millerite ← W.Miller = прозвішча англійскага мінералога); мюль-машына (mule-machine); морзе (morse ← S.Morse = прозвішча амерыканскага вынаходцы)* і г.д.;

- наяўнасць губна-губных змычна-выбухных зычных: [*p*] – глухі (моцны) і [*b*] – звонкі (слабы). У беларускай мове англійскія зычныя перадаюцца мяккімі і цвёрдымі губна-губнымі выбухнымі [*п*], [*п'*] і [*б*], [*б*']: *пэйджэр (pager); параван (paravane); памфлет (pamphlet); палм (palm); пас (pass); пейсмекер (pacemaker); пенальці (penalty); батдэк (boot-deck); батэрфляй (butterfly); бафтынг (buffeting); бекрос (backcross); бел (bell ← A.Bell = прозвішча амерыканскага вынаходцы); бендзі (bandy); бенч (bench); бізнес (business); біхевіярызм (behaviourism)* і інш.;

- наяўнасць губна-зубных фрыкатыўных зычных: [*f*] – глухі (моцны); [*v*] – звонкі (слабы). Гэтыя гукі замяняюцца беларускімі фрыкатыўнымі губна-зубнымі глухімі [*ф*], [*ф'*] і фрыкатыўнымі губна-зубнымі санорнымі [*в*]; [*в'*]: *файл (file); фартран (fortran); фарфейтынг (forfeiting); федынг (fading); фільматайп (filmtype); фіцінг (fitting); фолдэр (folder); форхенд (forehand); верытайпер (varytyper); верджынел (virginal); венчур (venture); ват (watt); варыстар (varistor); ватэрпруф (waterproof)* і інш.;

- наяўнасць сярэднеязычнага палатальнага сананта [*j*]. У беларускай мове англійскі санант [*j*] передаецца праз фрыкатыўны сярэднепаднябенны санорны [*j*]: *дыстрыб'ютар (distributor); еўрадолары (eurodollar); інтэрвью (interview); інтэрв'юер (interviewer); камп'ютэр (computer); ф'ючэрс (futures); ньютан (newton ¬ I.Newton = прозвішча англійскага фізіка)* і інш. Вылучаецца шэраг прыкладаў, ў якіх англійскі [*j*] пры пераходзе з мовы-крыніцы ў мову-рэцыпіент страчваецца: *мюзікл (musical); цюбінг (tubing); мюзік-хол (music-hall); люізіт (lewisite)* і г.д.

Аналізуючы працэс адаптацыі тэрмінаў-англіцызмаў да сістэмы кансанантызму беларускай мовы, бачым, што існуюць значныя адрозненні: 1) у акустычна-артыкуляцыйным плане паміж зычнымі англійскай і беларускай моў; 2) паміж сістэмамі зычных дзвюх моў адносна ўдзелу ў іх утварэнні голасу і шуму: у беларускай мове зычныя падзяляюцца на шумныя (звонкія і глухія) і санорныя; а ў англійскай мове глухія зычныя ўтвараюцца з дапамогай шуму, а звонкія зычныя – з дапамогай голасу і шуму і з'яўляюцца санорнымі. У англійскай мове зычныя класіфікуюцца па прымеце моцныя (глухія) і слабыя (звонкія). Класіфікацыя гукаў паводле мяккасці і цвёрдасці ў фанетыцы англійскай мовы не існуе (беларускай фанетыцы такая рыса ўласцівая).

*Адлюстраванне фанетычных працэсаў у тэрмінаадзінках-англіцызмах*. Фанетычная адаптацыя – гэта не толькі замена тыповых англійскіх гукаў уласнабеларускімі, але і адлюстраванне некаторых

іншых фанетычных працэсаў беларускай мовы ў запазычаных тэрмінах. «Запазычанні з англійскай мовы засвойваюцца ў беларускай мове ў адпаведнасці з асаблівасцямі яе фанетычнай сістэмы (наяўнасць акання, аглушэнне канцавых зычных, незахаванне даўжыні галосных і г.д.» [50, с.16].

Адметная рыса беларускай фанетыкі – аканне. Пры запазычанні ў беларускую мову англіцызмаў некаторыя з іх падлягаюць аканню. Англійскія галосныя гукі [*о*], [*E*] перадаюцца галосным [*а*] у наступных запазычаных тэрмінах: *аперанд (operand); аптайп (optype); асемблер (assembler); афсайд (off-side); бадмінтон (badminton); барэль (barrel); відэарэкордэр (videorecorder); газойль (gas-oil); гандбол (handball); драглайн (dragline); кансалцінг (consalting)* і г.д. Аднак не ва ўсіх словах іншамоўнага паходжання адлюстроўваецца гэтая фанетычная з'ява. Выяўлены шэраг англіцызмаў з галосным [*E*], якія не падпарадкоўваюцца аканню: *бекрос (backcross); бекхенд (backhand); мінітмен (minute-man)* і г.д.

Аналізуючы праяўленне беларускіх фанетычных з'яў у тэрмінаадзінках-англіцызмах, нельга абысці ўласцівыя беларускай фанетыцы працэсы дзекання і цекання. Альвеалярны глухі зычны [*t*] прыстасоўваецца да фанетычных нормаў беларускай мовы і перадаецца праз [*ц*] у наступных адзінках: *рэкеціp (racketeer); цвіндэк (tween-deck); цік (tick); рэпарцёр (reporter); цюбінг (tubing); тосцер (toaster); фіцінг (fitting); буцы (boots); вельвецін (velvet)* і г.д. З'ява дзеканне адлюстроўваецца ў такіх запазычаных тэрмінах, як: *мільдзью (mildew); фларыдзін (Florida); пермендзюр (permendur); аўтбрыдзінг (outbreeding); бендзі (bandy); лудзіты (luddites)* і інш.

Беларускай мове неўласцівая такая з'ява, як зеўранне (збег) галосных у межах адной марфемы. Зеўранне галосных ау, оу ў тэрмінах англійскага паходжання нейтралізуецца за кошт пераходу галоснага [*у*] у зычны [*ў*]: *ваўчар (voucher); джоўль (joule ←J.Joule); дыскоўнтэр (discounter); аўрал (over all); аўстэніт (austenite ← W.Roberts-Austen = прозвішча англійскага металурга); аўтакары (autocars)* і г.д.

Аднак гэтай фанетычнай заканамернасці беларускай мовы падлягаюць не ўсе тэрмінаадзінкі англійскага паходжання, ёсць словы, у якіх збег галосных не нейтралізуецца. Напрыклад: *гаучпрэс; дрэдноут; андэрграунд; глюоны; круіз; лакаут* і г.д.

Заслугоўвае ўвагі і такі фанетычны працэс, як збег зычных у тэрмінах-англіцызмах. Пранікаючы ў беларускую мову, значная частка англіцызмаў нейтралізуе збег зычных на канцы слова за кошт устаўных галосных [э] і [*а*]: *ніпель (nipple); брыдэль (bridle); крэн-*

*гельс (cringles)* і г.д. Не ва ўсіх англіцызмах нейтралізацыя збегу зычных адлюстроўваецца на пісьме: *бліст[а]р [blister]; пермеамет[а]р (permeameter); фарадмет[а]р [faraday+meter]* і г.д. Такім чынам, у тэрмінах англійскага паходжання адбываецца эпентэза – устаўка галосных [э] і [*а*], каб ліквідаваць збег зычных у фінальным складзе.

Фанетычны працэс дыярэзы (выпадання сярэдняга выбухнога гука ў некаторых спалучэннях зычных) назіраецца ў наступных лексемах англійскага паходжання: *армрэстлінг [армрэсл’інг] (armrestling); эндсы [энсы] (ends); тэмплет [тэмл’эт] (templet); джэнтры [джэнры] (gentry); хардтап [хартап] (hardtop)* і г.д. У згаданых англіцызмах дыярэза на пісьме не абазначаецца. Магчыма, гэта ўплыў мовы-пасрэдніцы (рускай) [143, с.50].

Нельга пакінуць без увагі і такую фанетычную з’яву, як сцяжэнне гукаў (два аднолькавыя або артыкуляцыйна блізкія гукі сцягваюцца ў адзін): *баласт (ballast); бекрос (backcross); фальстарт (false start); буцы (boots)* і г.д. У некаторых адзінках сцяжэнне зычных на пісьме не адлюстроўваецца: *гіперрэалізм (hyperrealism) (рр → [р]); мапетс (muppets) (тс → [ц]); хет трык (hat trick) (тт → [т])* і інш. Такім чынам, адбываецца сцяжэнне наступных зычных: *ll → [л]; ckc[kk] → [к]; ss[ss] → [с]; рр → [п]* – абазначаецца і на пісьме, і фанетычна; *rr → рр → [р]; ts → тс → [ц]; tt → тт → [т]* – на пісьме не абазначаецца, толькі ў вымаўленні.

Характарызуючы фанетычныя працэсы і іх выяўленне ў тэрмінах-англіцызмах, нельга абысці і такую гукавую з’яву, як палаталізацыя зычных у беларускай мове. Зычныя англійскага паходжання, пранікаючы ў беларускую мову, вымаўляюцца мякка пад уплывам пярэдніх галосных [*і*], [э], на пісьме гэта абазначаецца літарамі і, я, ю, е. Напрыклад, *алігансонія (oligopsonia); трысель (trysail); чарльстон (charleston); чызель (chisel); шрапнель (shrapnel); шэльтэрдэк (shelter-deck); шэльф (shelf); эль (ale); баскервіль (baskerville); батэрфляй (butterfly); блек-рот (black rot); блюм (bloom); віліс (willys)* і інш.

Фанетыцы англійскай мовы ўласцівая такая гукавая з’ява, як аспірацыя. Англійскія выбухныя глухія зычныя [*p, t, k*] у пазіцыі перад галоснымі вымаўляюцца з аспірацыяй. Трапляючы ў беларускую мову, згаданыя зычныя прыстасоўваюцца да фанетычных нормаў мовы-рэцыпіента і страчваюць гэту якасць.

Для фанетыкі беларускай мовы характэрны і такі фанетычны закон, як аглушэнне канцавых зычных. Гэты закон выяўляецца ў наступных тэрмінах-англіцызмах (пры вымаўленні, што перадаец-

ца і на пісьме): *аўтборт (outboard); стандарт (standard); канкорс (concours[z]e); кімберліт (Kimberley – назва горада ў ПАР); ласцік (lasting)* і г.д. У іншых выпадках аглушэнне канцавых звонкіх зычных пісьмова не перадаецца: *джаз (jazz); скейтборд (skateboard); лорд (lord); квіз (quiz)* і г.д.

***

Так, тэрмінаадзінкі-англіцызмы інтэнсіўна прыстасоўваюцца да фанетычнай сістэмы беларускай мовы: а) тыповыя іншамоўныя англійскія гукі замяняюцца ўласнабеларускімі гукамі або спалучэннем гукаў, што ў шэрагу выпадкаў спрашчае вымаўленне англіцызмаў у беларускай мове; б) нейтралізуецца нехарактэрнае для беларускай мовы зеўранне галосных і зычных; в) актыўна рэалізуюцца фанетычныя з’явы, уласцівыя фанетыцы беларускай мовы: аканне, дзеканне, цеканне, аглушэнне звонкіх зычных на канцы слова.

Аднак шэраг англіцызмаў, што замацаваліся ў слоўнікавым складзе беларускай мовы, патрабуе больш дасканалай адаптацыі, асабліва ў іх пісьмовым абліччы. Так, некаторыя з англіцызмаў захоўваюць спалучэнне ***тс***, што характэрна для рускай мовы (*яхтс[тс]мен, мапетс[тс], рэкардс[тс]мен*). Некаторыя навукоўцы прапануюць перадаваць англійскае спалучэнне *ts* у беларускай мове літарай *ц*, што значна спрасціла б вымаўленне гэтых адзінак. Дарэчы, у лексікаграфічных беларускіх даведніках падаецца натуральнае *буцы* (у рускай мове *бутсы*), але *спартсмен*, якое ў сучаснай маўленчай практыцы замяняецца на больш натуральнае *спартовец* [139, с.166].

## 3.2 Марфалагічная адаптацыя англіцызмаў

«Марфалагічная адаптацыя выражаецца ў падпарадкаванні запазычанняў граматычнай сістэме беларускай літаратурнай мовы» [134, с.178]. Пранікаючы ў мову-рэцыпіент, англіцызмы падпарадкоўваюцца марфалагічным нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Тут выяўляецца граматычная характарыстыка іншамоўнага слова; часцінамоўная прыналежнасць моўнай адзінкі; слова ўлучаецца ў сістэму асноўных марфалагічных формаў і катэгорый гэтага граматычнага класа; акрэсліваецца марфемная будова запазычанай адзінкі [134, с.178].

Найбольшую колькасць запазычаных тэрмінаў складаюць назоўнікі (1076). Назоўнікі англійскага паходжання набываюць граматычныя значэнні і катэгорыі ліку, роду, склону.

Значная частка англіцызмаў ужываецца ў форме адзіночнага ліку, абазначаючы адзін прадмет, з'яву, і ў форме множнага ліку, выяўляючы множнасць прадметаў. Да такіх назоўнікаў належаць:

а) канкрэтныя назоўнікі – назвы прадметы рэчаіснасці: *акваланг, аптайп, арпінгтон, базука, баркенціна, байскаўт, грынбекер, гунтэр, дыптанк, дэтэктафон, кікстартэр, красмен, лайнер, камбайн, матэль, менеджэр, нью-гемпшыр, панк, памфлет, радар, снайперскоп* і інш.;

б) назоўнікі – назвы з'яў прыроды: *апвелінг, шквал, бліцард* і інш.;

в) пэўная частка назоўнікаў з значэннем дзеяння, грамадскіх падзеяў, некаторыя з'явы навакольнай рэчаіснасці: *біль, мітынг, блакада, блок, брэйн-рынг, імпічмент, лендлардызм, рэпартаж* і інш.

Гэтай групе назоўнікаў уласцівыя формы множнага і адзіночнага ліку пры абазначэнні падліковых рэалій.

Вылучаецца і група англіцызмаў, якім уласцівая толькі форма адзіночнага ліку. Да гэтай групы належаць: а) рэчыўныя назоўнікі: *абеліт, адамсіт, бастон, глей, кампост, мальтоза, мульча, нейлон, пінк, уайт-спірыт, фларыдзін* і г.д. Адзначым, што некаторыя рэчыўныя назоўнікі могуць ужывацца як у множным ліку, так і ў адзіночным: *антыфрызы ← антыфрыз, дыэлектрыкі ← дыэлектрык*; б) назоўнікі, што абазначаюць дзеянні, грамадска-палітычныя плыні, літаратурныя кірункі, формы дзяржаўнага ладу і пад.: *аўрал, байкот, байранізм, берклiянства, біхевіярызм, бруталізм, віктарыянізм, гіперрэалізм, лабэктамія, джынгаізм, місдымінар, саміт, своп, уфалогія, фабіянізм, юмізм* і г.д.; в) некаторыя назоўнікі, што абазначаюць розныя захворванні: *гаймарыт, дальтанізм, спру, вілт, круп.*

У беларускай літаратурнай мове замацаваліся назоўнікі-англіцызмы, якія маюць форму толькі множнага ліку (36 адзінак): *аўтакары, беркшыры, вельсы, гайоты, глюоны, графтсупалімеры, гемпшыры, грэйнджэры, дайхардаўцы, дальтаніды, джэспіліты, дыльсы, дылены, ёменры, ёмены, імпактыты, кансолі, капігольдэры, клейдэсдалы, котэры, кроперы, лекісты, лудзіты, масліны, рыфлі, рыбаніты, рыпілеры, сегарсы, сінглеты, тыліты, хіпі, шынгарда, чыксы, шайры, эндсы* і інш. Згаданыя лексічныя адзінкі зафіксаваныя толькі ў форме множнага ліку ў двухтомавым «Слоўніку іншамоўных слоў» А.М.Булыкі.

Намі вылучаецца група англійскамоўных назоўнікаў, якія захавалі паказчык множнага ліку -s, уласцівы нормам сучаснай англійскай мовы. Да такіх слоў можна аднесці наступныя адзінкі: *крэнгельс (cringles), мапетс (muppets), пілерс (pillars), праймерыз*

*(primaries), пяртнерс (partners), топтымберс (toptimbers), штрыпс (strips), комінгс (coamings)* і г.д. Гэтыя запазычанні выкарыстоўваюцца толькі ў форме адзіночнага ліку або ў форме і адзіночнага і множнага ліку (набываючы беларускі канчатак – *ы (і)*).

У сучаснай беларускай мове марфалагічная катэгорыя роду выяўляецца толькі ў формах адзіночнага ліку. У залежнасці ад семантычных або марфалагічных прыметаў назоўнікі належаць да аднаго з трох родаў: мужчынскага, жаночага і ніякага.

У англійскай мове «ў плане марфалогіі назоўнікі характэрызуюцца дзвюма катэгорыямі – катэгорыямі ліку і склону» [131, с.110]. Што датычыць катэгорыі роду, то, паводле вядомага лінгвіста А.І.Смірніцкага, «...граматычная катэгорыя роду, характэрная для назоўнікаў у стараанглійскай мове, у сучаснай англійскай мове адсутнічае. У дачыненні да сучаснай мовы можна казаць толькі пра вядомую семантычную класіфікацыю слоў, якая заснаваная на падзеле абазначаных гэтымі словамі прадметаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя, з наступным падзелам адушаўлёных паводле полу.... у сучаснай англійскай мове класіфікацыя назоўнікаў паводле роду заснаваная не на граматычных, а на семантычных і культурна-гістарычных прынцыпах» [131, с.148].

Тэрміны-англіцызмы, пранікаючы ў сучасную беларускую мову, змяняюцца паводле роду ў залежнасці ад семантычных або марфалагічных адзнакаў. Прааналізуем змену роду некаторых англіцызмаў.

Англіцызмы *аверлок*, *камбайнёр, красмен* і інш., трапіўшы ў сучасную беларускую мову, набываюць форму мужчынскага роду. Англійскай адзінцы *drag* у сучаснай беларускай мове ўласцівая форма жаночага роду: *драга*. Англійскім запазычанням *бугі-вугі (boogie-woogie); бендзі (bandy); ватэрпола (water-polo); джэрсі (jersey)* і інш. уласцівая форма ніякага роду ў мове-рэцыпіенце.

Значная група англійскіх назоўнікаў адзіночнага ліку маюць форму мужчынскага роду (908 л.а.); другую па колькасці складаюць назоўнікі жаночага роду (63 л.а.); невялікая колькасць назоўнікаў (31 л.а.) належыць да ніякага роду.

«Падчас афармлення катэгорыі роду ў запазычаных лексемах прасочваюцца пэўныя заканамернасці ў выбары марфалагічных сродкаў беларускай мовы для перадачы дэрывацыйных марфем тэрмінаў, што запазычваюцца» [104, с.7]. Падаем табліцу вызначэння формаў роду назоўнікаў-англіцызмаў, якія падпалі пры іх засваенні значным асіміляцыйным працэсам, што закранаюць словаўтваральныя элементы (гл. табл. №2):

Табліца 2

| **Англіцызмы мужчынскага роду** | **Англіцызмы жаночага роду** | **Англіцызмы ніякага роду** |
|---|---|---|
| 1. Паводле марфалагічных прыметаў да гэтай групы належаць:<br>а) назоўнікі з асновай на цвёрды зычныі г, к, х з нулявым канчаткам: *армрэстлінг, асдык, бадмінтон, бібоп, блок, кросінг, крос, круп, лейбарыст, пушбол* і г.д.<br>б) пэўная колькасць назоўнікаў на фінальныя ж, дж, ш, ч, р, ц і з нулявым канчаткам: *акр, андэррайтэр, асемблер, аўтсайдэр, барыстэр, бенч, бракераж, бэйсік-інгліш, дрэнаж, дыспач, дэмерэдж, імідж, каледж, кетч, краўч, меш, ромні-марш, рэпартаж, смеш, транец, хедж* і інш.<br>в) назоўнікі з асновай на мяккі зычны і «й»: *атарней, бобслей, грэй, дысплей, жакей, рынк-хакей, рэфракталой, барэль, біль, брысталь, газойль, джоўль, матэль, стэнсель* і інш. | 1. Паводле марфалагічных прыметаў да гэтай групы належаць:<br>а) назоўнікі, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак а: *баркенціна, блакада, буца, дрэна, дыскета, кірза, мульча, пілаў-лава, піянола, скенаграма, стрэнда, энвіроніка* і г.д. (агульная колькасць такіх англіцызмаў – 34 л.а.).<br>б) назоўнікі на –ыя, –ія: *афіляцыя, ваўчарызацыя, дэфрастацыя, мерсерызацыя, пупінізацыя, рырпраекцыя, флатацыя, інтрагрэсія, кларкія, велінгтонія* і інш. (19 тэрмінаадзінак з згаданым фармантам).<br>в) назоўнікі з асновай на мяккі зычны: *шрапнель, гомруль*. | 1. Паводле марфалагічных прыметаў да такой групы належаць:<br>а) назоўнікі, што канчаюцца на –ств(а), –анн(е): *беркліянства, кейнсіянства, мальтузіянства, фрытрэдэрства, мікрапрынтаванне.* |
| 2. Паводле семантычных адзнакаў да назоўнікаў-англіцызмаў мужчынскага роду адносяцца:<br>а) шэраг нескланяльных назоўнікаў, што абазначаюць асоб мужчынскага полу, а таксама жывых істот незалежна ад полавай прыналежнасці: *грызлі, поні, торы, дынга.*<br>б) некаторыя неадушаўлёныя назоўнікі: *пенальці, шымі, багі, кокні, лудлоў.* | 2. Паводле значэння да гэтай групы адносяцца нязменныя назоўнікі: *генры (адзінка індуктыўнасці); гупі (рыба); спру (хвароба); суфолкі (парода); янскі (адзінка шчыльнасці патока радыёвыпрамянення)* | 2. Паводле значэння сюды адносяцца:<br>а) некаторыя неадушаўлёныя нязменныя назоўнікі: *банджа, бугі-вугі, бендзі, джэнтры, джэрсі, дынгі, дэрбі, інтэрвью, лобі, ліберці, мільдзью, морзе, ноў-хаў, паблісіці, прэсбюро, ралі, раяльці, рэгбі, халі-галі.* |

У сучасную беларускую мову перайшлі таксама тэрмінаадзінкі-англіцызмы, утвораныя спосабам абрэвіяцыі ў мове-крыніцы. У мове-рэцыпіенце форма роду абрэвіятуры вызначаецца паводле структуры скарачэння або сэнсу (паводле апорнага слова расшыф-

роўкі) (параўн.: у англійскай мове форма роду абрэвіятуры не вызначаецца). Так, паводле структуры да мужчынскага роду адносяцца: а) «ініцыяльныя» гукавыя скарачэнні, якія канчаюцца на зычны і пішуцца малымі літарамі: *лазер* (laser ⇐ Light Amplification by Stimulated Emission of Radiation = узмацненне святла ў выніку вымушанага выпрамянення); *радар* (radar ⇐ ratio detection and ranging – выяўленне і вызначэнне адлегласці пры дапамозе радыё); *бэйсік* (basic ⇐ beginners all-purpose symbolic instruction code – для тых, хто пачынае ўніверсальны сімвалічны вучэбны код); *мазер* (maser ⇐ Microwave Amplification by Stimulated Emission of Radiation = узмацненне мікрахваляў пры дапамозе індуцыраванага выпрамянення); *сіф* (cif ⇐ cost insurance freight); *фоб* (fob ⇐ free on board = свабодна на борце); б) скарачэнні англійскіх асноў, створаныя тэлескапічна: *біт* (bit ⇐ bi(nary) (digi)t); *варыкап* (varicap ⇐ vari(able) cap(acity) – зменлівая ёмістасць); *варыконд* (varicond ⇐ vari(able) cond(enser) – зменлівы кандэнсатар); *варыстар* (varistor ⇐ vari(able) (resi)stor – зменлівае супраціўленне); *гентэкс* (Gentex ⇐ Generalized Teletype Exchange Service); *інтэлсат* (Intelsat ⇐ International Telecommunication Satellites – міжнародныя сувязные спадарожнікі); *камкордэр* (camcorder ⇐ camera recorder); *каф* (caf ⇐ cost freight); *квазар* (quasar ⇐ quasistellar radiosource); *матэль* (motel ⇐ motorists + hotel); *мемістар* (memistor ⇐ mem(ory) (res)istor); *пермендзюр* (permendur ⇐ perme(ability) dur(able)); *пермінвар* (perminvar ⇐ perme(ability) invar(iable)); *пульсар* (pulsar ⇐ Pulsating Sources of Radioemission – пульсіруючая крыніца радыёвыпрамянення); транзістар (transistor ⇐ tran(sfer) (re)sistor – пераносіць супраціўленне); *тэлекс* (telex ⇐ tel(egraph) ex(change) – тэлеграфны абмен); *фартран* (fortran ⇐ for(mula) tran(slator)).

Некаторыя абрэвіятуры англійскага паходжання ўтвараюцца шляхам спалучэння пачатковай часткі слова і цэлага слова або спалучэння цэлай адзінкі з пачаткам або канцом другога слова. У такіх выпадках форма роду вызначаецца па апошнім слове: *апарт* (op-art ⇐ optical art) – м.; *дыксікрат* (dixiecrat ⇐ Dixie democrat) – м.; *кандуктаметрыя* (conductimetry ⇐ conductivity + -метрыя) – ж.; *кандуктометр* (conductimeter ⇐ conductivity + -метр) – м.; *масконы* (mass con(centration) – канцэнтрацыя масы); *масміны* (mass mini(fication) – памяншэнне масы); *пермалой* (permalloy ⇐ perm(eability) + alloy) – м.; *тралейбус* (trolleybus ⇐ trolley + (omni)bus) – м.; *тырыстар* (thyristor ⇐ thyra + (res)istor) – м.; *уфалогія* (UFO ⇐ Unknown Flying Object + -логія) – ж. р.

Гукавая абрэвіятура англійскага паходжання *CI* (SI ← System International) набыла ў сучаснай беларускай мове форму ніякага роду.

Як бачым, тэрмінаадзінкі англійскага паходжання з улікам пэўных марфалагічных і семантычных прыметаў ужываюцца ў формах мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Разглядаючы прыстасаванне назоўнікаў англійскага паходжання да марфалагічных нормаў мовы-рэцыпіента, нельга абмінуць і катэгорыю склону. У беларускай мове катэгорыя склону паказвае на адносіны назоўніка да іншага слова ў словазлучэнні або сказе. Гэтая катэгорыя мае парадыгму з 12 словаформаў – шасці ў адзіночным ліку і шасці ў множным ліку. У сучаснай англійскай мове назоўнікам уласцівыя 2 склоны: агульны (Common Case) і прыналежны (Possessive Case).

Значная колькасць назоўнікаў англійскага паходжання, трапляючы ў беларускую мову, змяняецца па склонах, як і беларускія словы. Прайшоўшы пэўную фанетычную і графічную адаптацыю, у залежнасці ад сістэмы флексій у адзіночным ліку кожнага назоўніка і формы роду англійскія запазычанні размяркоўваюцца па трох скланеннях наступным чынам:

- да першага скланення належаць: а) назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне: *бадэлеіт, бар, бейліф, бейсбол, бельтынг, віліс, вілт, гейм, гольф, грыдлік, джаз, драйв, плеер, стопінг, транс, цвіндэк, чартэр* і інш.; назоўнікі мужчынскага роду, што канчаюцца на -ль і -й і маюць нулявы канчатак у назоўным склоне адзіночнага ліку: *біль, джон-буль, ніпель, трамвай, хакей, жакей, спідвей* і г.д.; б) назоўнікі ніякага роду, што ў назоўным склоне адзіночнага ліку канчаюцца на -а, -е: *берклііянства, кейнсіянства, мальтузіянства, фрытрэдэрства, мікрапрынтаванне*. Адзначым, што згаданыя назоўнікі ніякага роду ўтвораныя ад англійскіх уласных імёнаў пры дапамозе словаўтваральных сродкаў мовы-рэцыпіента;

- да другога скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткамі -а (-я) у назоўным склоне адзіночнага ліку: *бярданка, дайка, джыга, донка, ліга, мальтоза, пінта, рыбоза, санта-гертруда, фарада; баратрыя, дэфрастацыя, мерсерызацыя, велінгтонія, інтрагрэсія, лабэктамія* і інш.;

- да трэцяга скланення належаць назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам, якія канчаюцца на мяккі зычны або на цвёрды. У гэтым класе 2 адзінкі англійскага паходжання: *шрапнель, гомруль.*

У граматыцы беларускай мовы ёсць нулявое скланенне, што рэалізуецца нязменнымі назоўнікамі. Шэраг тэрмінаадзінак англійскага паходжання належаць да гэтага тыпу скланення:

а) назоўнікі, якія канчаюцца на галосны: *грызлі, кокні, поні, торы, шымі, пенальці, генры, гупі, колі, спру, янскі, суфолкі, бугі-вугі, бендзі, джэрсі, лобі, ліберці, праспэрыты, рэгбі, халі-галі* і інш.;

б) некаторыя назоўнікі англійскага паходжання мужчынскага і ніякага роду, што канчаюцца на цвёрды зычны: *лудлоў, ноў-хаў*;

в) гукавая абрэвіятура, якая канчаецца на галосны: *СІ*.

Адзначым, што «ініцыяльныя» гукавыя абрэвіятуры, якія пішуцца малымі літарамі, скланяюцца заўсёды: *лазер, мазер* і інш.

Падпарадкоўваючыся марфалагічным нормам беларускай мовы, 294 англійскамоўныя тэрмінаадзінкі мужчынскага роду набываюць канчатак у ў родным склоне, 546 адзінак – канчатак а. Назоўнікі жаночага роду, што канчаюцца на -ыя (-ія) у назоўным склоне, маюць канчатак -ыі (-іі) у родным склоне (агульная колькасць такіх назоўнікаў 19 л.а.); назоўнікі жаночага роду, што канчаюцца ў назоўным склоне на -а (-аль), набываюць канчатак -ы (-і) у родным склоне (36 адзінак). Некалькі назоўнікаў ніякага роду ў родным склоне маюць канчатак -а (-я) (усяго 5 л.а.). Выдзяляецца і шэраг англійскіх тэрмінаадзінак (39 л.а.) мужчынскага, жаночага і ніякага роду, што не змяняюцца па склонах.

Даследуючы катэгорыю склону англійскіх запазычанняў, мы вылучылі субстантывы, што ў залежнасці ад семантыкі маюць паралельныя канчаткі -а (-я) і -у (-ю) у родным склоне: *бастон* з значэннем ‘высокаякасная тонкая баваўняная тканіна для касцюмаў’ мае канчатак -у, а з значэннем ‘танец павольнага тэмпу’ – канчатак -а.

Акрамя назоўнікаў англійскага паходжання, у сучаснай беларускай мове ёсць прыметнікі і дзеясловы (агульная колькасць – 11 л.а.), утвораныя ад англійскіх прыметнікаў і дзеясловаў з дапамогай марфем, уласцівых беларускай мове. Прыметнікі-англіцызмы, што падвергліся значным асіміляцыйным працэсам, складаюць 4 лексічныя адзінкі ад агульнай колькасці англійскіх запазычанняў: *варыабельны* (ад англ. variable), *камфартабельны* (ад англ. comfortable), *планарны* (ад англ. planar), *рэзістыўны* (ад англ. resistive). У сучаснай беларускай мове для прыметнікаў характэрныя марфалагічныя катэгорыі роду, ліку і склону, якія выяўляюцца сінтаксічна. У англійскай мове прыметнікі не маюць фармантаў, што паказваюць на сувязь прыметніка з назоўнікам і дапамагаюць вызначыць род, лік, склон, г.зн. у англійскай мове прыметнікі не змяняюцца па родах, ліках і склонах. Так, у англійскай мове – *planar technology*; у беларускай – *планарная тэхналогія*, *планарнай тэхналогіі* і да т.п.

У сучаснай беларускай тэрміналогіі вызначаны і дзеясловы-англіцызмы, утвораныя ад англійскіх дзеясловаў з дапамогаю сло-

ваўтваральных сродкаў беларускай мовы. Так, англійскія дзеясловы *acyl, train, scan, pass* шляхам далучэння фармантаў -*ірава, -ава, -ць* выкарыстоўваюцца ў наступных варыянтах: *ацылаваць, трэніраваць, сканіраваць, пасаваць* і г.д.

У сучаснай беларускай мове для дзеясловаў характэрныя такія марфалагічныя катэгорыі, як катэгорыя трывання, стану, пераходнасці-непераходнасці, зваротнасці-незваротнасці, ладу, часу, асобы і ліку. У прошлым часе і ва ўмоўным ладзе дзеясловам уласцівая катэгорыя роду (параўн.: для англійскіх дзеясловаў характэрныя марфалагічныя катэгорыі суадносін, катэгорыя часу, катэгорыя стану, катэгорыя ладу, катэгорыя асобы, ліку, катэгорыя трывання). Пранікаючы ў склад беларускай мовы, англійскія дзеясловы страчваюць марфалагічныя катэгорыі мовы-крыніцы. Так, для беларускіх дзеясловаў характэрная катэгорыя закончанага-незакончанага трывання. Таму дзеяслоў англійскага паходжання *сканіраваць* – незакончанага трывання, а пры дапамозе прэфікса ад- утвараецца дзеяслоў закончанага трывання: *адсканіраваць*.

Адзначым, што ў некаторых дзеясловах трывальнае значэнне выражаецца не спецыяльнымі паказчыкамі (прэфіксамі), а пры дапамозе суфіксавых фармантаў -*ава- (-ява-), -ірава-*. Такія дзеясловы ўжываюцца ў значэнні як закончанага, так і незакончанага трывання. У беларускай граматыцы яны атрымалі назву «двухтрывальныя дзеясловы». Да такой групы дзеясловаў можна аднесці наступныя англійскія запазычанні: *ацылаваць* (ад англ. acyl), *мульчыраваць* (ад англ. mulch), *пасаваць* (ад англ. pass), *пласіраваць* (ад англ. place), *трэніраваць* (ад англ. train) і г.д.. Значэнне закончанасці або незакончанасці дзеяння ўстанаўляецца кантэкстам.

Дзеясловы англійскага паходжання набываюць катэгорыю пераходнасці-непераходнасці. Пераходныя дзеясловы выражаюць дзеянне, якое пераходзіць на другі прадмет: *трэніраваць памяць, сканіраваць дакумент* і інш. Непераходныя дзеясловы абазначаюць дзеянні, якія не накіраваныя на аб’ект (*мульчыраваць, пасаваць*).

Для дзеясловаў-англіцызмаў характэрна і катэгорыя зваротнасці, якая выражаецца постфіксам -*ся* або -*ца* (далучаецца да інфінітываў на -*ць* і формы 3-й асобы адзіночнага ліку). Прыклады такіх англіцызмаў: *трэніраваць – трэніравацца, сканіраваць – скануецца, пасаваць – пасуецца* і г.д.

Заслугоўвае ўвагі і катэгорыя часу. У сучаснай беларускай мове тры формы часу – цяперашняга, прошлага і будучага. Што датычыць практычнай граматыкі англійскай мовы, то тут вылучаюцца наступныя формы часу: Present Tenses (The Present Indefinite Tense

Form, The Present Continuous Tense Form, The Present Perfect Tense Form), Past Tenses (The Past Indefinite Tense Form, The Past Continuous Tense Form, The Past Perfect Tense Form), Future Tenses (The Future Indefinite Tense Form, The Future Continuous Tense Form, The Future Perfect Tense Form), Future in the Past Tenses. Пад уплывам беларускіх марфалагічных паказчыкаў англійскамоўныя дзеясловы ўжываюцца ў трох формах часу.

Катэгорыя роду зусім неўласцівая дзеясловам англійскай мовы. У мове-рэцыпіенце згаданая катэгорыя выяўляецца толькі ў прошлым часе і формах умоўнага ладу. Напрыклад, *хлопчык трэніраваў памяць; дзяўчынка трэніравала памяць; дзіця трэніравала памяць*. У адзіночным ліку марфалагічнае значэнне роду выражаецца флексіямі: мужчынскі род – нулявая флексія, жаночы і ніякі род – флексіі -*а* або -*о*. У множным ліку дзеясловы не маюць родавых адрозненняў.

***

Такім чынам, у сучаснай беларускай мове адбываецца актыўнае марфалагічнае засваенне тэрмінаадзінак-англіцызмаў розных часцін мовы (назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў). Як сведчыць фанетычны і марфалагічны аналіз англіцызмаў, «слова парывае з сістэмай той мовы, у якой яно існавала раней, і ўваходзіць у сістэму мовы-пазычальніцы», асэнсоўваецца ў ім як аснова і «фармуецца згодна з правіламі і сродкамі гэтай мовы» [131, с.234-235].

## 3.3 Семантычная адаптацыя англіцызмаў у беларускай мове

Семантычнае засваенне – найвышэйшая ступень адаптацыі запазычанняў у мове-рэцыпіенце. Побач з фанетычнай і марфалагічнай адаптацыяй яно сведчыць пра ўключэнне пэўных іншамоўных адзінак у слоўнікавы склад сучаснай беларускай мовы, пра іх магчымасць выконваць камунікацыйную функцыю разам з уласнабеларускімі словамі.

Семантычная адаптацыя запазычанай лексемы, як вядома, пачынаецца з моманту пранікнення яе ў мову-рэцыпіент і працягваецца да таго часу, пакуль існуюць моўныя кантакты паміж мовай-рэцыпіентам і мовай-крыніцай. У новым моўным асяроддзі адзінка іншамоўнага паходжання прыстасоўваецца да лексічнай сістэмы мовы. Запазычанае слова можа страчваць сваю мнагазначнасць і

замацоўваецца ў адным спецыфічным значэнні або з часам набыць некалькі новых значэнняў. Таму семантычная адаптацыя – паступовы працэс, які можа адбывацца цягам доўгага часу і мае некалькі этапаў [134, с.215].

Першы этап характэрны для іншамоўных адзінак у момант іх запазычвання, уваходжання ў лексічную сістэму мовы-рэцыпіента і выражаецца ў вызначэнні прадметна-паняццевай суаднесенасці, выразнай дыферэнцыяцыі семантычнага аб’ёму, акрэсліванні семасіялагічных межаў. Пры гэтым назіраецца як захаванне этымалагічнага значэння, так і змены семантыкі запазычанага слова ў выніку яго пашырэння, звужэння або абстрагавання [16, с.31].

Другі этап характарызуецца тым, што ў працэсе функцыянавання і ўзаемадзеяння запазычанняў з лексікай беларускай мовы адбываецца далейшая семантычна-стылёвая дыферэнцыяцыя і эвалюцыя, якая прыводзіць да полісеміі. Полісемантызацыя ўзнікае ў выніку паўторнага запазычання лексічнай адзінкі з той самай мовы непасрэдна або праз мову-пасрэдніцу [16, с.31].

У сучаснай англійскай мове значная колькасць лексічных адзінак – полісеманты. Пранікаючы ў мову-рэцыпіент, гэтыя лексемы страчваюць сваю мнагазначнасць і звычайна замацоўваюцца ў адным з значэнняў.

Аналіз семантычнага засваення лексікі англійскага паходжання дае магчымасць вылучыць наступныя групы адаптаваных тэрмінаў: 1) тэрміны, лексічнае значэнне якіх цалкам супадае з значэннем іх прататыпаў; 2) тэрміны, значэнне якіх часткова супадае з этымонам; 3) тэрміны, лексічнае значэнне якіх у мове-рэцэптары і ў мове-рэцыпіенце не супадае [58, с.97]. Да першай групы семантычнага засваення англіцызмаў належаць англійскамоўныя тэрміны, лексічнае значэнне якіх супадае цалкам або часткова.

У групу тэрмінаў, дзе значэнне запазычання і этымона супадае поўнасцю, уваходзяць адзінкі спартыўнай тэрміналогіі; назвы раслін, жывёл; пэўная частка тэрмінаў з геаграфічнай, эканамічнай, юрыдычнай і іншых тэматычных груп: *бокс, банкнот, баскетбол, бейсбол, боўлінг, грызлі, гупі, грэйпфрут, бульдог, вагон, віндсёрфінг, гангстэр, акваланг* і інш.

Значная частка англіцызмаў засвойваецца часткова, дзе адбываецца: а) звужэнне семантычнага аб’ёму, канкрэтызацыя значэння пэўнага слова; б) пашырэнне або абстрагаванне этымалагічнага значэння; в) вобразнае пераасэнсаванне семантыкі этымона на аснове метафарычнага пераносу; г) пераасэнсаванне семантыкі этымона ў выніку метанімічнага пераносу, звычайна сінекдахі.

Як паказвае даследаванне, тэрміны-англіцызмы маюць больш вузкую канкрэтызаваную семантыку. Прыкладамі іх з'яўляюцца наступныя лексемы: *дуст* 'хімічнае рэчыва ў выглядзе парашку, што выкарыстоўваецца для знішчэння шкодных насекомых' ¬ англ. *dust* 'пыл'; *інвайранмент* 'від сучаснага мастацтва, які спалучае твор і адначасова мастацкае дзеянне' ← англ. *environment* – акружэнне, наваколле; *корнер* 'штрафны, вуглавы ўдар у футболе' ← англ. *corner* – вугал; *краўч* 'стойка ў сагнутым становішчы' ← англ. *crouch* – схіляцца, прысядаць; *ласцік* 'лёгкая баваўняная тканіна атласнага перапляцення' ← англ. *lasting* – трывалы; *ролер* 'машына для скручвання чайных лістоў' ← англ. *roller* > *roll* – скручваць; *сляб* 'стальная пліта' ← англ. *slab* – пліта, пласціна; *цвін* 'паўсуконная тканіна з кручанымі ніткамі' ← англ. *twine* – кручаная нітка; *флатацыя* 'метад абагачэння карысных выкапняў, заснаваны на ўсплыванні здробненых частак выкапня.' ← англ. *flotation* – плаванне; *суінг* 'стыль джазавай музыкі, характэрнай асаблівасцю якога з'яўляецца сольная імправізацыя, складаны акампанемент, вялікая колькасць выканаўцаў' ← англ. *swing* – рытм.

Працэсу звужэння семантыкі падпарадкоўваюцца і іншыя лексічныя адзінкі: *спрынклер, смеш, клірынг* і інш.

Англіцызмам, што пранікаюць у сучасную беларускую мову, уласцівы і такі працэс семантычнага засваення запазычанняў, як пашырэнне семантыкі. Гэтая з'ява не з'яўляецца прадукцыйнай у працэсе семантычнай адаптацыі англіцызмаў. Яна ўласцівая толькі тым англіцызмам, якія, акрамя першаснага значэння, маюць пераноснае: баласт 1) *'спецыяльны груз для забеспячэння правільнай асадкі і ўстойлівасці судна, для рэгулявання вышыні палёту',*

2) 'верхні слой чыгуначнага палатна з шчэбеню, гравію',

3) перан. 'лішняе, непатрэбнае';

блакада 1) *'акружэнне войска праціўніка',*

2) 'выключэнне функцыі якога-небудзь органа',

3) перан. 'сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на ізаляцыю якой-небудзь дзяржавы';

рэкардсмен 1) *'спартсмен, які ўстанавіў рэкорд',*

2) перан. 'чалавек, які дасягнуў найбольшых поспехаў у чым-небудзь';

стандарт 1) *'узор, мадэль, эталон, якім павінна адпавядаць штонебудзь сваім памерам, формай і г.д.',*

2) 'прыняты за аснову від вырабаў, які адпавядае ўсім патрабаванням да яго',

3) перан. 'нешта шаблоннае, што не мае нічога арыгінальнага';

старт 1) *‘момант пачатку спартыўных спаборніцтваў або ўзлёту лятальнага апарата’,*
2) ‘месца, з якога пачынаюцца спаборніцтвы па хадзьбе, бегу’,
3) перан. ‘пачатак чаго-небудзь’;
хіпі 1) *‘група моладзі ў некаторых краінах, якія адмаўляюць існуючыя маральныя асновы, грамадскія нормы паводзін і вядуць валацужніцкае жыццё’,*
2) перан. ‘чалавек, які вядзе сябе экстравагантна, знарок неахайна і прэтэнцыёзна апранаецца’;
шквал 1) *‘нечаканы моцны парыў ветру, часцей за ўсё пры навальніцах’,*
2) перан. ‘што-небудзь раптоўнае, інтэнсіўнае’.

Такім чынам, пашырэнне семантыкі англіцызмаў суправаджаецца абагульненнем іх значэння; пераноснае значэнне запазычанняў не супадае з значэннем слова, якое запазычваецца.

Наступная з’ява семантычнай адаптацыі англіцызмаў – апелятывацыя. Працэс апелятывацыі запазычанняў звязаны з метафарычным і метанімічным пераносам і ўяўляе сабой пераход уласных імёнаў у агульныя [134, с.233].

У сучаснай беларускай тэрміналогіі можна вылучыць групу англіцызмаў (прыкладна 142 л.а.), што ўтварыліся ў выніку апелятывацыі. Гэта могуць быць тапанімічныя і антрапанімічныя назвы, якія абазначаюць від адзення; назву расліны, жывёлы; назву карысных выкапняў; назву розных палітычных і грамадскіх плыняў, кірункаў; назвы хімічных рэчываў; назвы прадметаў або рэалій, якія выраблялiся ў пэўнай мясцовасці або кім-небудзь; назвы розных адзінак вымярэння, названых у гонар каго-небудзь: *адамсіт* ‘атрутнае рэчыва, якое раздражняльна дзейнічае на верхнія дыхальныя шляхі’ ← англ. R.Adams – прозвішча амерыканскага хіміка; *айршыры* ‘малочная парода кароў’ ← англ. Ayrshire – графства ў Шатландыі; *бабіт* ‘металічныя сплавы на свінцовай або алавянай аснове з нізкім каэфіцыентам трэння’ ← англ. I.Babbit – прозвішча амерыканскага вынаходцы; *байранізм* ‘літаратурная плынь пачатку XIX ст.’ ← англ. G.Byron – прозвішча англійскага паэта; *бейніт* ‘структурная састаўляючая сталі, якая ўтвараецца ў выніку прамежкавага ператварэння аўстэніту’ ← англ. E. Bain – прозвішча англійскага металурга; *бел* ‘лагарыфмічная адзінка адносін дзвюх фізічных велічынь’ ← англ. A.Bell – прозвішча амерыканскага вынаходца; *бентаніт* ‘разнавіднасць адбельвальных глін’ ← англ. Benton – назва мясцовасці ў ЗША; *берклiянства* ‘разнавіднасць суб’ектыўнага ідэалізму’ ← англ. G.Berkeley – прозвішча англійскага філосафа; *беркшыры* ‘парода скараспелых свіней’ ← англ. Berkshire – назва

графства ў Англіі; *велінгтонія* ‘секвоядэндрон’ ← англ. A.Wellington – прозвішча англійскага святара; віктарыянізм ‘кірунак маралі, які заключаецца ў пурытанска-аскетычным стаўленні да палавога жыцця’ ← англ. Victoria – імя англійскай каралевы; *вітэрыт* ‘мінерал класа карбанатаў’ ← W.Withering – прозвішча англійскага мінералога; *гамлетызм* ‘бясконцыя разважанні, меркаванні, няздольнасць намерыцца на які-небудзь учынак’ ← англ. Hamlet – імя персанажа трагедыі У.Шэкспіра «Гамлет»; *генры* ‘адзінка індукацыйнасці ў Міжнароднай сістэме адзінак’ ← англ. J.Henry – прозвішча амерыканскага фізіка; *дэвон* ‘чацвёрты па парадку перыяд палеазойскай эры ў гісторыі Зямлі’ ← англ. Devon – назва англійскага графства.

Працэс апелятывацыі характэрны і для такіх англіцызмаў, як *камбрык, кангрэў, каўпер, кларкія, лабрадор, лістэр, люізіт, марганізм, пентландыт, рэлей, фрэнч, эпсаміт, юз* і інш.

Варта зазначыць, што з англійскай у беларускую мову пранікаюць мнагазначныя лексемы з дзвума значэннямі. Да такіх тэрмінаў належаць наступныя англіцызмы (агульная колькасць каля 129): *аўтрыгер* (англ. outrigger); *багінг* (англ. bug); *баксёр* (англ. boxer); *бленкер* (англ. blinker > blink); *бокс* (англ. box) *варант* (англ. warrant); *ваўчар* (англ. voucher); *гіт* (англ. heat); *грэйдэр* (англ. grader); *кансалцінг* (англ. consalting); *кліпер* (англ. clipper) і інш.

Запазычвацца могуць лексемы з некалькімі значэннямі адначасова, а таксама і пры паўторным, другасным пранікненні ў мову-рэцыпіент. Вывучаючы праекты тэрміналагічных слоўнікаў пачатку XX ст. і сучасныя лексікаграфічныя выданні канца XX ст., назіраем наступныя змены ў семантычным засваенні асобных адзінак: тэрмін *чэк* у «Слоўніку бухгалтарскай тэрміналогіі» (Мн., 1927) – монасемічны, а ў «Слоўніку іншамоўных слоў» А.Булыкі (Мн., 1999) згаданая лексічная адзінка мае два значэнні. Гэта тычыцца і такіх англіцызмаў, як *байкот*, *дрэнаж*, *стандарт*, *варант*, *дысконт* і *блок*. Напрыклад, у сучасных лексікаграфічных выданнях слова *блок* падаецца з 5 значэннямі, а ў «Слоўніку права» (Мн., 1926) – з адным значэннем [60, с.146-147].

***

Семантычнае засваенне англіцызмаў – паступовы, працяглы працэс. Адзінкі англійскага паходжання пранікаюць у беларускую мову разам з рэаліямі, якія яны абазначаюць, і таму значная колькасць англіцызмаў – монасемантычныя адзінкі. Найбольш прадукцыйным працэсам пры семантычнай адаптацыі англіцызмаў з’яўляецца звужэнне іх семантыкі, найменш – пашырэнне семантыкі, апелятывацыя.

## РАЗДЗЕЛ IV

# АНГЛІЦЫЗМЫ І ТЭРМІНАЎТВАРЭННЕ

«Адным з найважнейшых паказчыкаў засвоенасці запазычанняў з'яўляецца ўключэнне іх у сістэму словаўтварэння мовы-рэцыпіента» [134, с.185]. Лічыцца, што іншамоўная адзінка адаптавалася, прыстасавалася да нормаў мовы-рэцыпіента, набыла «грамадзянства» у тым выпадку, «калі яна пачынае даваць вытворныя шляхам словаўтварэння або шляхам змены значэння» [53, с.138].

Вывучэннем дэрывацыйных магчымасцяў лексікі іншамоўнага паходжання ў тэрміналагічнай мове займаюцца многія даследчыкі. Выяўлена, што мова навукі не валодае адмысловымі спосабамі ўтварэння новых тэрмінаадзінак. У тэрміналагічным словаўтварэнні актыўна выкарыстоўваюцца ўсе спосабы словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы: семантычны – слова набывае два ці больш значэнняў і кожнае з гэтых значэнняў замацоўваецца за асобным паняццем, сінтаксічны – калі новыя адзінкі ўтвараюцца шляхам аб'яднання ў адно цэлае пэўных сінтаксічных злучэнняў з двух ці некалькіх словаў пры дапамозе злучальных марфемаў або без іх, і марфалагічны – асноўны спосаб утварэння лексемаў [3, с.166]. Марфалагічнае тэрмінаўтварэнне мае для нас найбольшую цікавасць, бо новыя тэрмінаадзінкі звычайна ўтвараюцца ад англійскамоўных лексемаў шляхам далучэння да іх асноваў пэўных словаўтваральных фармантаў.

Даследаванне паказвае, што ад асноў англіцызмаў з дапамогай уласнабеларускіх і ранейшых – класічных фармантаў утвараюцца новыя субстантывы, ад'ектывы і дзеясловы. Новыя вытворныя сустракаюцца ў розных галінах тэрміналогіі. Утварэнне новых тэрмінаадзінак у розных тэматычных групах адбываецца неаднолькава. Гэта залежыць ад многіх фактараў. Адзін з іх – паспяховае засваенне лексікі англійскага паходжання ў пэўнай галіне тэрміналогіі.

***

<u>*Утварэнне субстантыўных дэрыватаў ад англійскіх запазычанняў*</u>. Субстантывы з словаўтваральнай асновай англійскага паходжання ўтвараюцца рознымі спосабамі: суфіксальным, прэфіксальным і словаскладаннем. Найбольш прадукцыйным з'яўляецца суфіксальны спосаб. Назоўнікі мужчынскага роду ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў *-нік, -іст (-ыст), -чык (-шчык), -ік, -ёр, -ір, -ізм, -овец (-авец), -ор (-ар), -аж*; назоўнікі жаночага роду ўтвараюцца з

выкарыстаннем фармантаў *-ка, -чыца/-шчыца, -ызацыја, -асць, -оўка*; назоўнікі ніякага роду – з дапамогай *-ств(а)/-цтв(а), -іраванне/-аванне.*

*Суфіксацыя назоўнікаў.*

I. Субстантывы з суфіксам *-іст (-ыст)*

Ад асноў англійскага паходжання з гэтым суфіксам утвараюцца назоўнікі – назвы асобы паводле прафесіі, занятку, навуковага светапогляду, адносінаў да пэўных грамадскіх з’яў, палітычных, ідэйных плыняў, паводле спецыфічных прыметаў і схільнасцяў да чаго-небудзь.

Досыць пашыранае ўтварэнне назоўнікаў ад лексемаў-англіцызмаў у спартыўнай тэрміналогіі*: ватэрпола → ватэрпаліст; валейбол → валейбаліст; хакей → хакеіст; тэніс → тэнісіст; баскетбол → баскетбаліст; бейсбол → бейсбаліст; кетч → кетчыст; ралі → раліст; спінінг → спінінгіст; картынг → картынгіст; бадмінтон → бадмінтаніст; гандбол → гандбаліст; батэрфляй → батэрфляіст; рэкорд → рэкардыст; сёрфінг → сёрфінгіст; футбол → футбаліст.*

У тэхнічнай тэрміналогіі таксама нямала вытворных з фармантам -іст: *бульдозер → бульдазерыст; танк → танкіст; тэлэтайп → тэлэтайпіст; лінатып → лінатыпіст; скутэр → скутэрыст; скрэпер → скрэперыст; акваланг → аквалангіст; юз → юзіст.*

Невялікая колькасць субстантываў, утвораных ад англіцызмаў з фармантам -іст (-ыст), у грамадска-палітычнай тэматычнай групе: *ізаляцыянізм → ізаляцыяніст; лобі → лабіст; трэд-юніён → трэд-юніяніст; чартызм → чартыст; байкот → байкатыст* і г.д.

У літаратуразнаўчай і біялагічнай галінах тэрміналогіі вылучаюцца адзінкавыя выпадкі ўтварэння субстантываў з гэтым фармантам: *імажызм → імажыніст; памфлет → памфлетыст; Дарвін → дарвініст.*

Утварэнне субстантываў з фармантам -іст (-ыст) суправаджаецца рознымі марфалагічнымі працэсамі: а) скарачэннем асновы; б) адцінаннем у фінальнай частцы ўтваральных асноў на -ізм; в) чаргаваннем галосных о-а ў кампанентах *-пол, -бол*; г) далучэннем -іст да ўласнага назоўніка.

II. Субстантывы з суфіксам *-ств(а)/-цтв(а)*

Назоўнікі з суфіксам -ств(а), утвораныя ад англіцызмаў, могуць абазначаць пэўныя дзяржаўныя аб’яднанні, грамадска-палітычныя арганізацыі, від заняткаў, розныя працэсы, прыметы, стан, групы асоб паводле іх сацыяльнага паходжання або прафесіі і пад.: *хуліган → хуліганства; джэнтльмен → джэнтльменства; лорд →*

*лордства; лідэр → лідэрства; квакер → квакерства; рэпарцёр → рэпарцёрства; рэкардсмен → рэкардсменства; снайпер → снайперства; гангстэр → гангстэрства; бітнік → бітніцтва; спартсмен → спартсменства; фрытрэдэр → фрытрэдэрства; мальтузіянец → мальтузіянства; фабіянец → фабіянства.*

Назіранні паказваюць, што фармант -ства/-цтва ў большасці выпадкаў непасрэдна далучаецца да асновы англіцызмаў. Некаторыя дэрываты ўтвараюцца шляхам скарачэння асновы на -ік, -ец.

III. Субстантывы з суфіксам -*к(а)*

Пры дапамозе суфікса -*к(а)* утвараюцца субстантывы жаночага роду ад назоўнікаў-англіцызмаў мужчынскага роду, якія маюць дачыненне да прафесіі, грамадска-палітычнага кірунку: *рэкардсмен → рэкардсменка; спартсмен → спартсменка; камбайнер → камбайнёрка; імаджыніст → імаджыністка; бадмінтаніст → бадмінтаністка; баскетбаліст → баскетбалістка; бейсбаліст → бейсбалістка; ватэрпаліст → вытэрпалістка; гандбаліст → гандбалістка; рэкардыст → рэкардыстка; рэпарцёр → рэпарцёрка; скрэперыст → скрэперыстка; юзіст → юзістка; тэлетайпіст → тэлетайпістка; тэнісіст → тэнісістка; футбаліст → футбалістка; скутэрыст → скутэрыстка; лабіст → лабістка; акваланіст → акваланістка.*

Невялікую групу складаюць неадушаўлёныя назоўнікі з -*к(а)*, што абазначаюць назвы адзення: *каўбой → каўбойка; футбол → футболка; тэніс → тэніска; бастон → бастонка; бейсбол → бейсболка.*

Фармант -*к(а)* далучаецца да англійскіх асноваў на -*мен, -ер (-ёр), -боj, -он, -іс* непасрэдна. Аднак у большасці выпадкаў спачатку ўтвараецца новы субстантыў мужчынскага роду з -*іст* і ад яго – назоўнік жаночага роду з фармантам -*к(а).*

IV. Субстантывы з суфіксамі -*чык/-шчык, -шчыц(а)/-чыц(а)*

Тэрміны з фармантамі -*чык/-шчык* утвараюцца ад асноў англіцызмаў і абазначаюць асобу мужчынскага полу па прафесіі: *трал → тральшчык; трамвай → трамвайшчык; ваганетка → ваганетчык; цюбінг → цюбіншчык, лазер → лазершчык.* Суфікс -*чык/-шчык* далучаецца да асновы шляхам скарачэння яе або з чаргаваннем зычных *[л]-[л’]*.

Вытворныя з фармантам -*чыца/-шчыца* абазначаюць асобу жаночага полу па адносінах да аб’екта, іх заняткаў: *трамвай → трамвайшчыца; ваганетка → ваганетчыца; трал → тральшчыца.*

V. Субстантывы з фармантам -*ізм*

Субстантыўныя дэрываты з суфіксам -*ізм*, утвораныя ад асноў англіцызмаў, абазначаюць навуковыя і грамадска-палітычныя кірункі, сістэмы, літаратурныя плыні і г.д.

Даследаваныя дэрываты дазваляюць вылучыць наступныя тыпы: а) субстантывы, утвораныя ад уласных назоўнікаў*: Дарвін → дарвінізм*; б) лексемы, утвораныя ад агульных назоўнікаў – назваў асоб: *скаўт → скаўтызм; сноб → снабізм, лобі → лабізм; гангстэр → гангстэрызм*; в) адзінкі, утвораныя ад неадушаўлёных назоўнікаў – назваў прадметаў, з'яў: *трэд-юніён → трэд-юніянізм; рэкорд → рэкардызм*.

VI. Субстантывы з суфіксам -*ызацыj(а)*

Тэрмінаадзінкі з суфіксам -*ызацыj(а)* абазначаюць вынікі дзеянняў, працэсы дзеянняў, адцягненае значэнне працэсу або канкрэтнае значэнне прадметнасці: *стандарт → стандартызацыя; ваўчар → ваўчарызацыя; канвеер → канвеерызацыя; дыспетчар → дыспетчарызацыя; кантэйнер → кантэйнерызацыя.*

VII. Субстантывы з суфіксамі -*ор (-ар), -ёр, -ір*

Суфіксы -*ёр, -ір* служаць для ўтварання намінацыі асобы паводле роду дзейнасці, прафесіі, становішча ў калектыве: *ліфт → ліфцёр; дысконт → дысканцёр; рэкет → рэкецір; камбайн → камбайнёр; бокс → баксёр*.

Тэрмінаадзінкі з суфіксамі -*ор (-ар)*, радзей -*ер (-эр)* абазначаюць адпаведныя прылады: *трэнаж → трэнажор; стрэс → стрэсар; танк → танкер; трал → тралер; старт → стартэр; баласт → бакастар; стандарт → стандартызатар.*

У некаторых вытворных адбываецца чаргаванне мяккіх зычных з цвёрдымі ў пазіцыі перад суфіксам або нарашчэнне асновы.

VIII. Субстантывы з суфіксам -*асць*

Назоўнікі, утвораныя пры дапамозе суфікса -*асць*, абазначаюць стан або адцягненыя якасці.

Субстантывы з -*асць* утвараюцца як ад назоўнікаў, так і ад прыметнікаў. Напрыклад, *рэпартаж → рэпартажнасць; стандарт → стандартнасць; камфартабельны → камфартабельнасць; варыябельны → варыябельнасць*. Суфікс -*асць* пры далучэнні да ўтваральнай асновы не змяняе яе.

IX. Субстантывы з суфіксам -*оўк(а)*

Фармант -оўка выкарыстоўваецца ў аддзеяслоўных назоўніках, якія абазначаюць прадметы або з'явы паводле пэўнага дзеяння. Пры дапамозе яго ўтвараюцца наступныя тэрмінаадзінкі: *трэніраваць → трэніроўка; пласіраваць → пласіроўка*. Далучэнне фарманта -*оўка* адбываецца шляхам скарачэння асновы дзеяслова і чаргавання -*ав* – -*оў.*

X. Субстантывы з суфіксам -*нн(е)*

Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў з асновамі на -*ірава-, -ава*. Суфікс -*нн(е)* перадае значэнне працэсавасці:

*блакіраваць → блакіраванне; дрэнажаваць → дрэнажаванне; пласіраваць → пласіраванне; буксіраваць → буксіраванне; пудлінгаваць → пудлінгаванне; скеніраваць → скеніраванне; інтэрв'юіраваць → інтэрв'юіраванне; лінчаваць → лінчаванне; мітынгаваць → мітынгаванне, мульчыраваць → мульчыраванне; баластаваць → баластаванне; дыскантаваць → дыскантаванне; лідзіраваць → лідзіраванне.*

Пры ўтварэнні субстантываў да асновы дзеяслова далучаецца суфікс -*нн(е)*, не змяняючы апошняй галоснай утваральнай асновы.

Акрамя асноўных словаўтваральных тыпаў, вылучаюцца субстантыўныя дэрываты з суфіксамі -*ец, -авец, -ік, -нік*: *фабіянізм → фабіянец; дальтанізм → дальтонік; катэр → катэрнік; ку-клукс-клан → куклуксклanавец.* Вытворныя з названымі суфіксамі абазначаюць асобу па адносінах да галіны навукі, палітычнай плыні, па прыналежнасці да пэўнага кірунку. Суфіксы далучаюцца да ўтваральнай асновы пры яе скарачэнні або ў асобных выпадках – нарошчвання асновы.

Некаторыя субстантыўныя дэрываты ўтвараюцца ад асноў англійскага паходжання прэфіксальным спосабам. Тут выкарыстоўваюцца як інтэрнацыянальныя прэфіксы, так і ўласнабеларускія. Пры дапамозе прэфіксаў *дыс-* (ён абазначае адсутнасць або супрацьлегласць таму, што названа ўтваральным словам): *камфорт → дыскамфорт*; *супер-* (абазначае больш высокую якасць у параўнанні з тым, што названа ўтваральным словам): *танкер → супертанкер*; *экс-* (абазначае ‘раней быў тым, хто названы ўтваральным словам’): *рэкардсмен → экс-рэкардсмен, спартсмен → экс-спартсмен*; *экстра-* (выкарыстоўваецца ў значэнні «звыш»): *матч → экстраматч, трактар → экстратрактар.*

Вылучаецца і група дэрыватаў, утвораных пры дапамозе ўласных словаўтваральных прэфіксаў *паў-, пера-: ват → паўват; стэпс → перастэпс*; *скеніраванне → перaскеніраванне; блакіраванне → пераблакіраванне.*

Значная частка субстантыўных дэрыватаў утвараецца спосабам асноваскладання з выкарыстаннем інтэрфікса: *лазер → лазерахімія; вагон → вагонаперакульнік, вагонабудаванне, вагонаабарот, вагонаважаты*; *танк → танкашлем, танкабудаванне, танкадром.*

Вылучаецца група дэрыватаў, утвораных спосабам словаскладання і нулявога інтэрфікса: *крэкінг → крэкінг-насос, крэкінг-працэс, крэкінг-устаноўка*; *матч → матч-рэванш, матч-турнір; блок → блок-пост, блок-пункт, блок-сігнал, блок-сістэма; джаз → джаз-аркестр, джаз-банда; вагон → вагон-ляднік* і інш.

Такім чынам, ад асноў англійскага паходжання пры дапамозе словаўтваральных сродкаў утвараюцца нямала субстантываў. Найбольш прадукцыйным спосабам утварэння выступае суфіксацыя, найменш прадукцыйны – спосаб словаскладання і прэфіксальны.

*Ад'ектыўныя дэрываты ад англійскамоўных асноў.* Значную групу тэрмінаў ад асноў англійскага паходжання, утвораных пры дапамозе беларускіх словаўтваральных фармантаў, складаюць ад'ектыўныя дэрываты. У большасці выпадкаў яны ўтвараюцца ад назоўнікаў англійскага паходжання, радзей – ад дзеясловаў. Новыя ад'ектыўныя дэрываты ўтвараюцца суфіксальным, нульсуфіксальным і спосабам складання. Разгледзім словаўтваральныя разрады ад'ектываў.

I. Ад'ектывы с суфіксам -*н*-.

Сярод прыметнікаў, утвораных ад субстантываў англійскага паходжання, значнае месца займаюць дэрываты з суфіксам -*н*-. Словаўтваральнай базай выступаюць назоўнікі розных тэрміналагічных груп.

Самая вялікая колькасць ад'ектываў утварылася ад назоўнікаў-англіцызмаў – найменняў тэхнічных прыладаў, прыстасаванняў, спецыяльных прыбораў, механізмаў: *баласт → баластны; букер → букерны; бульдозер → бульдозерны; буфер → буферны; вагон → вагонны; ватэр → ватэрны; дрыфтэр → дрыфтэрны; канвеер → канвеерны; кантэйнер → кантэйнерны; катэр → катэрны; каўпер → каўперны; лінатып → лінатыпны; мотаролер → мотаролерны; ніпель → ніпельны; плунжэр → плунжэрны; спрынклер → спрынклерны; стрынгер → стрынгерны; статар → статарны; стопар → стопарны; сейнер → сейнерны; скрэпер → скрэперны; танкер → танкерны; тандэм → тандэмны; тралейбус → тралейбусны; трамвай → трамвайны; транзістар → транзістарны; траўлер → траўлерны; трэйлер → трэйлерны; тэлекс → тэлексны; тэлетайп → тэлетайпны; эканамайзер → эканамайзерны.* Колькасць такіх ад'ектываў значна павялічваецца.

Наступную групу складаюць ад'ектывы, утвораныя ад назоўнікаў, што належаць да спартыўнай тэрміналогіі: *ватэрпола → ватэрпольны; валейбол → валейбольны; бадмінтон → бадмінтонны; баскетбол → баскетбольны; бейсбол → бейсбольны; гандбол → гандбольны; клінкер → клінкерны; ралі → ралійны; рэкорд → рэкордны; тэніс → тэнісны; фініш → фінішны; футбол → футбольны; хакей → хакейны.* У гэтай групе ёсць выпадкі, калі пры далучэнні суфікса -*н*- да ўтваральнай асновы адбываецца адцінанне апошняга гука асновы: *ватэрпола → ватэрпольны*, ці апошні гук асновы

[*л*] чаргуецца з мяккім адпаведнікам [*л'*]: *баскетбол → баскетбольны; гандбол → гандбольны* і інш. Выяўляецца выпадак, дзе да асновы нескланяльнага назоўніка на -*і* далучаецца -*j*-, г.зн. утваральная аснова нарошчваецца за кошт -*j*-: *ралі → ралійны*.

Асобную групу складаюць ад'ектывы з суфіксам -*н*-, утвораныя ад англіцызмаў – найменняў жылля, помнікаў, тэхнічных збудаванняў і інш.: *бункер → бункерны; блок → блочны; вакзал → вакзальны; клуб → клубны; матэль → матэльны; тунэль → тунэльны; шэльтэрдэк → шэльтэрдэчны* і г.д. Пры ўтварэнні асобных ад'ектываў адбываецца чаргаванне зычных [*л*] – [*л'*], [*к*] – [*ч*]: *вакзал → вакзальны; блок → блочны*.

Невялікую групу складаюць ад'ектывы з суфіксам -*н*- ад англіцызмаў, якія належаць да фізічнай тэрміналогіі: *дыэлектрык → дыэлектрычны* (чаргаванне [*к*] – [*ч*]); *нейтрон → нейтронны; лазер → лазерны; радар → радарны; фідэр → фідэрны*. Адзначым, што ў гэтай тэматычнай групе вылучаецца адзінка, якая ўтвараецца з дапамогай суфікса -*ычн*-: *фарада → фарадычны* (адбываецца чаргаванне галосных [*а*] – [*ы*]).

Менш прыметнікаў з фармантам -н-, утвораных ад англіцызмаў – назваў адцягненых паняццяў, працэсаў і г.д.: *дыскамфорт → дыскамфортны; стандарт → стандартны; камфорт → камфортны; круіз → круізны; чартэр → чартэрны; блакада → блакадны; аўрал → аўральны*. У гэтай тэматычнай групе ёсць выпадкі, калі прыметнікі ўтвараюцца шляхам скарачэння асновы пры далучэнні суфікса -*н*- ці чаргавання зычных.

Усяго некалькі ад'ектыўных дэрыватаў з суфіксам -н- у медыцынскай тэрміналогіі: *дрэнаж → дрэнажны*; у літаратуразнаўчай тэрміналогіі: *дэтэктыў → дэтэктыўны; памфлет → памфлетны;* у металургічнай тэрміналогіі: *аўстэніт → аўстэнітны; скрап → скрапны;* у біялагічнай тэрміналогіі: *інбрыдзінг → інбрэдны* (скарачэнне асновы і чаргаванне галоснага з зычным [*ыдз*] – [*эд*]); у інфармацыйна-адукацыйнай: *рэпартаж → рэпартажны*; у вайсковай тэрміналогіі: *шрапнель → шрапнельны*; у сельскагаспадарчай: *бройлер → бройлерны*; у групе, што абазначае назвы тканін: *нейлон → нейлонны*; у паліграфічнай: *афсет → афсетны*; у эканамічнай: *бартэр → бартэрны; венчур → венчурны; банкнот → банкнотны; дысконт → дысконтны; тэндэр → тэндэрны;* у музычнай: *факстрот → факстротны*.

Найбольш актыўна з суфіксам -*н*- узаемадзейнічаюць асновы назоўнікаў-англіцызмаў, якія маюць два і больш склады і зычны гук на канцы ўтваральнай асновы. Выяўлены выпадкі, у якіх суфікс

-<u>н-</u> выступае ва ўскладненым відзе -*ічн-(-ычн-)*. У некаторых ад’ектывах адбываецца перанос націску: *фарада → фарадычны; дыэлектрык → дыэлетрычны.*

II. Ад’ектывы з суфіксам -*ск-*.

Інтэнсіўнаму далучэнню лексемаў англійскага паходжання да слоўнікавага складу сучаснай беларускай мовы садзейнічае і словаўтваральны фармант -*ск-*. Гэты суфікс у рознай ступені ўдзельнічае ва ўтварэнні прыметнікаў ад асноў англійскага паходжання.

На аснове вынікаў даследавання матэрыялу сучасных лексікаграфічных прац вылучаецца шэраг тэматычных груп з англіцызмамі, ад асноў якіх утвараюцца прыметнікі з суфіксам -*ск-(-цк-)*.

Значную колькасць складаюць ад’ектывы, утвораныя ад англіцызмаў з значэннем асобы паводле галіны дзейнасці або роду заняткаў: *баксёр → баксёрскі; жакей → жакейскі; дыспетчар → дыспетчарскі, дыспетчарская; дызайнер → дызайнерскі; трэнер → трэнерскі; рэпарцёр → рэпарцёрскі; снайпер → снайперскі; спартсмен → спартсменскі; рэкардсмен → рэкардсменскі; мічман → мічманскі; клоўн → клоўнскі; камендор → камендорскі; каўбой → каўбойскі; квакер → квакерскі; гангстэр → гангстэрскі; джэнтльмен → джэнтльменскі; хуліган → хуліганскі; мальтузіянец → мальтузіянскі; фрытрэдэр → фрытрэдэрскі; спрынтэр → спрынтэрскі; стаер → стаерскі.*

Суфікс -<u>*ск-*</u> можа відазмяняцца ў -*цк-* як вынік зліцця фінальнай зычнай асновы з суфіксавым <u>*с*</u> *(т+с=ц)*: *байскаўт → байскаўцкі; лейбарыст → лейбарысцкі; лобі → лабісцкі; скаўт → скаўцкі; танкіст → танкісцкі.*

Да наступнай групы належаць прыметнікі з -<u>*ск-*</u>, утвораныя ад англіцызмаў, якія абазначаюць назвы грамадскіх і ідэалагічных плыняў, кірункаў: *ку-клукс-клан → куклуксклanаўскі; імажызм → імажынісцкі; трэст → трэстаўскі; ізаляцыянізм → ізаляцыянісцкі; снабізм → снабісцкі; фабіянізм → фабіянскі; чартызм → чартысцкі.* Тут выступаюць ускладненыя варыянты суфікса -<u>*ск-: -аўск-; -янск-; -ісцк-.*</u>

Адзінкавыя выпадкі ўтварэння ад’ектываў з фармантам -<u>*ск*</u>- выяўленыя ў наступных галінах тэрміналогіі: біялагічная: *дарвін → дарвінаўскі;* гістарычная: *дэвон → дэвонскі;* спартыўная: *рэкорд → рэкардысцкі;* палітэхнічная: *пульман → пульманаўскі;* паліграфічная: *ватман → ватманскі.* Як відаць, згаданыя прыметнікі ўтвараюцца шляхам далучэння да англійскай асновы -<u>*ск*</u>- і яго варыянтаў -<u>*ысцк-(-ісцк-), -цк-, -анск- (-янск-), -аўск-.*</u>

III. Ад’ектывы з суфіксам -*ав.*

У сучаснай беларускай тэрміналогіі ёсць значная група ад’ектываў з суфіксамі -*ав- (-ев-)*, утвораных ад асноў англійскага паходжання. Прааналізаваны матэрыял дае мажлівасць вылучыць некалькі тэматычных груп ад’ектываў з фармантам -*ав-.*

Асабліва інтэнсіўна адбываецца працэс утварэння прыметнікаў з суфіксамі -*ав- (-ев-)* ад англійскамоўных субстантываў, якія ўваходзяць у палітэхнічную тэрміналогію: *баласт → баластавы; блюмінг → блюмінгавы; спінінг → спінінгавы; ліфт → ліфтавы; трал → тралавы; пульсар → пульсаравы; слябінг → слябінгавы; слайд → слайдавы; шунт → шунтавы; камбайн → камбайнавы; ват → ватавы; румб → румбавы; тэст → тэставы; флат → флатавы; цюбінг → цюбінгавы.*

Даволі распаўсюджана ўтварэнне прыметнікаў ад англіцызмаў – назваў тканіны або матэрыялу: *вельвет → вельветавы; тэнт → тэнтавы; кірза → кірзавы; каверкот → каверкотавы; нейлон → нейлонавы; махер → махеравы; цвін → цвінавы; фіберглас → фіберглсавы; бастон → бастонавы; дакрон → дакронавы; ласцік → ласцікавы;* назвы адзення: *джынсы → джынсавы; рэглан → рэгланавы* і г.д.

Невялікая колькасць ад’ектываў з фармантам -*ав-* утворана ад назоўнікаў, якія маюць адносіны да спартыўнай тэрміналогіі: *старт → стартавы; крос → кросавы; матч → матчавы; пінг-понг → пінгпонгавы*; да будаўнічай тэрміналогіі: *док → докавы; пірс → пірсавы; кемпінг → кемпінгавы; баласт → баластавы; лінолеум → лінолеумавы.*

Наступную групу складаюць ад’ектывы, што ўзніклі ад назваў рэчываў і працэсаў: *кокс → коксавы; крэкінг → крэкінгавы; ліграін → ліграінавы; аўстэніт → аўстэнітавы*. Невялікую колькасць складаюць адсубстантыўныя прыметнікі, што ўваходзяць у эканамічнафінансавую тэрміналогію: *дэмпінг → дэмпінгавы; чэк → чэкавы; клірынг → клірынгавы;* у медыцынскую тэрміналогію: *допінг → допінгавы; стрэс → стрэсавы*; у вайсковую тэрміналогію: *рэйд → рэйдавы; напалм → напалмавы; танк → танкавы*; у музычную тэрміналогію*: джаз → джазавы; блюз → блюзавы*; у геаграфічную тэрміналогію: *шэльф → шэльфавы*.

Прыметнікі з суфіксавай фармантай -*ав-* могуць мець словаўтваральнаю асновай дзеяслоўную: *пудлінгаваць → пудлінгавы*.

IV. Ад’ектывы з суфіксамі -*ан- (-ен-), -уч- (-юч-)*

Утварэнне ад’ектываў ад асноў англіцызмаў з дапамогай названых суфіксаў адбываецца рэдка, тып кваліфікуецца як малапрадукцыйны.

Дэрываты з гэтымі суфіксамі паходзяць ад назоўнікаў і ад дзеясловаў. Так, ад нескланяльнага назоўніка *рыфлі* ўтвораны прыметнік *рыфлены* (геаграфічны тэрмін). Вылучаецца і група дзеяслоўных прыметнікаў: *трэніраваць → трэніраваны; драгіраваць → драгіраваны; пласіраваць → пласіраваны; пудлінгаваць → пудлінгаваны; стандартызаваць → стандартызаваны; байкатаваць → байкатаваны; блакіраваць → блакіраваны; клінкераваць → клінкераваны; пульсаваць → пульсаваны.*

Ёсць і нульсуфіксальныя ўтварэнні прыметнікаў. Яны рэдкія ў сучаснай беларускай тэрміналогіі: *бульдог → бульдожы* (чаргаванне [*г*] – [*ж*]).

Ёсць ад'ектывы, утвораныя спосабам складання з выкарыстаннем асноў англійскага паходжання і пэўных суфіксавых фармантаў. Так, англіцызм *вагон* актыўна ўдзельнічае ва ўтварэнні новых ад'ектываў: *вагонабудаўнічы, вагонарамонтны*. Згаданыя адзінкі ўтварыліся з дапамогай суфіксаў -*ніч-, -н-* і інтэрфікса -*а-*. Пры ўтварэнні складаных ад'ектыўных дэрыватаў з апорным кампанентам -*рамонтны* выкарыстоўваюцца такія англіцызмы, як *танк (tank), трамвай (tramway), тралейбус (trolleybus).*

Складана-суфіксальным спосабам утвараюцца прыметнікі, у якіх адзін кампанент-англіцызм належыць да палітэхнічнай тэрміналогіі.

Даследаванне паказвае, больш ад'ектываў утворана ад асноў англійскіх назоўнікаў з дапамогай суфіксацыі; радзей сустракаюцца дэрываты ад асноў дзеясловаў з суфіксавымі фармантамі. Гэты спосаб словаўтварэння найбольш пашыраны. Выяўлены адзінкавыя выпадкі ўтварэння ад'ектыўных дэрыватаў нульсуфіксальным спосабам і спосабам складання. У залежнасці ад частаты выкарыстання англійскіх запазычанняў у беларускіх навукова-тэхнічных выданнях колькасць складаных прыметнікавых утварэнняў будзе павялічвацца.

*Дзеяслоўныя дэрываты ад слоў англійскага паходжання.* Узнікненне дзеяслоўных дэрыватаў адбываецца рознымі спосабамі: суфіксальным, прэфіксальным, постфіксальным.

Значная частка дзеясловаў утвараецца ад асноў англійскага паходжання пры дапамозе суфіксавых фармантаў -*ава-, -ірава-, -ызава-, -і-(-ы-).* Словаўтваральнай базай для дзеяслоўных дэрыватаў з'яўляюцца назоўнікі-англіцызмы розных лексічна-тэматычных груп.

I. Дзеясловы з суфіксам -*ірава- (-ырава-)*

Дэрываты з гэтым суфіксам у асноўным утвараюцца ад асноў іншамоўнага паходжання. Гэты словаўтваральны тып выкарыстоўваец-

ца ў тэрмінаўтваральным працэсе дзеясловаў ад англіцызмаў. Дзеясловы з гэтымі фармантамі маюць значэнне ‘падвяргаць дзеянню тым, што названа ўтваральным словам’: *лідэр → лідзіраваць; інтэрв’ю → інтэрв’юіраваць* (грамадска-палітычныя тэрміны); *трэнер → трэніраваць; баксёр → баксіраваць* (спартыўныя тэрміны); *клінкер → клінкіраваць; драга → драгіраваць; блок → блакіраваць* (тэхнічныя тэрміны).

Суфікс -*ірава-* далучаецца да назоўнікаў з асновай на -*ер (-ёр, -эр)* непасрэдна; ёсць выпадак далучэння -ірава- да скарочанай асновы.

II. Дзеясловы з суфіксам -*ава-*

Тэрміны-дзеясловы з суфіксам -*ава-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне ‘утвараць дзеянне, ажыццяўляць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам’. Дзеяслоўныя дэрываты з -*ава-* належаць да тэхнічнай тэрміналогіі: *баласцер → баластаваць; пульсар → пульсаваць; кампаўнд → кампаўндаваць*; да спартыўнай тэрміналогіі: *фініш → фінішаваць; пас → пасаваць; накаўт → накаўтаваць; старт → стартаваць; спурт → спуртаваць*; да медыцынскай тэрміналогіі: *дрэнаж → дрэнажаваць; скальп → скальпаваць*; да грамадска-палітычнай і інфармацыйнай: *мітынг → мітынгаваць; байкот → байкатаваць; лінч → лінчаваць*; да батанічнай тэрміналогіі: *лістэр → лістэраваць*; да эканамічнай тэрміналогіі: *дысконт → дыскантаваць; лакаўт → лакаўтаваць.*

III. Дзеясловы з суфіксам -*і/-ы (ць)*

Дэрываты з суфіксам -*і/-ы* маюць значэнне ‘ўтвараць дзеянне паводле занятку або прафесіі асобы’, або абазначаюць дзеянне, што выконваецца з дапамогай прадмета, названага ўтваральным словам. Напрыклад, *трал → траліць, стопар → стопарыць* (тэхнічныя тэрміны); *хуліган → хуліганіць* (юрыдычная тэрміналогія); *футбол → футболіць* (агульнаўжывальнае слова). Перад суфіксам -*і-* адбываецца чаргаванне зычных: мяккі-цвёрды.

IV. Дзеясловы з суфіксам -ызава- *(-ізава-), -ства-*

Дзеяслоўныя дэрываты з суфіксам -*ызава- (-ізава-)* маюць значэнне ‘падвергаць дзеянню што-небудзь’. Вылучаюцца наступныя вытвораныя ад англіцызмаў: *стандарт → стандартызаваць, дыспетчар → дыспетчарызаваць.*

Адзінкавыя выпадкі ўтварэння дзеясловаў ад англійскіх асноваў з выкарыстаннем суфікса -*ствава*-. Дэрываты з гэтым фармантам абазначаюць дзеянне, якое мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам: *рэпарцёр → рэпарцёрстваваць.*

У сучаснай беларускай мове актыўна ўжываюцца дзеясловы з прэфіксамі *пад-, за-, пра-, па-*, утвораныя ад саміх дзеясловаў, якія

маюць англійскія асновы: *байкатаваць → забайкатаваць; футболіць → падфутболіць; інтэрв'юіраваць → праінтэрв'юіраваць; мітынгаваць → замітынгаваць, памітынгаваць, прамітынгаваць.*

Утвараюцца дзеясловы і постфіксальным спосабам, калі да дзеясловаў, утвораных ад асновы англійскага паходжання, далучаюцца і постфіксы -ца, -цца: *трэніраваць → трэніравацца; лідзіраваць → лідзіравацца; байкатаваць → байкатавацца; пудлінгаваць → пудлінгавацца* і г.д.

Аналіз фактычнага матэрыялу сведчыць, што найбольш прадукцыйным пры ўтварэнні дзеясловаў ад асноў англійскага паходжання з'яўляецца суфіксальны спосаб, менш прадукцыйны – прэфіксальны і постфіксальны спосабы.

Утварэнне новых субстантываў і ад'ектываў ад асноў англійскага паходжання пры дапамозе пэўных словаўтваральных сродкаў актыўна пашыраецца ў сучаснай беларускай мове. Частата выкарыстання англійскамоўных тэрмінаадзінак спрыяе павелічэнню колькасці дзеяслоўных дэрыватаў.

*Англіцызм як кампанент комплексных тэрмінаў*. Лексемы-англіцызмы актыўна ўдзельнічаюць у працэсе ўтварэння комплексных тэрмінаў сучаснай беларускай мовы. Можна вылучыць групу двухкампанентных тэрмінаў-словазлучэнняў. Найбольшай прадукцыйнасцю характарызуюцца наступныя структурныя мадэлі:

а) «прыметнік + назоўнік»: *венчурны капітал, напалмавая бомба, агрэсіўны блок, марская блакада, венчурнае прадпрыемства, футбольнае поле, тэнісны стол, кембрыйскі перыяд, дэвонская сістэма, ватманская папера, палярны пак, пінгпонгавая дыпламатыя, бартэрная здзелка, буферная дзяржава, лёгкі танк* і інш.;

б) «назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *інстынкт хомінгу, азбука Морзе, апарат Морзе, лідэр партыі, вежа танка, знішчальнік танкаў, калона танкаў, прарыў блакады, экіпаж танка, траленне мін* і інш.;

в) «дзеяслоў + назоўнік»: *прарываць блакаду, здымаць блакаду*;

г) «назоўнік + прыметнік»: *лазер вадкасны, лазер імпульсны, дысплей аддалены, брыдэр электраядзерны, старт халодны, стэк апаратны, драйвер загружальны* і г.д.;

д) «абрэвіятура + назоўнік»: *РАС-лазер*;

е) «прыметнік + прыметнік»: *лазерна-актыўны, лазерна-галаграфічны, лазерна-плазменны, лазерна-эмісійны.*

Трохкампанентныя тэрміны, дзе адзін з іх англіцызм, складаюць наступныя мадэлі:

а) «назоўнік + прыметнік + назоўнік»: *артылерыя тракавай цягі; знішчальна-супрацьтанкавая артылерыя; танка-дэсантны ка-*

*рабель; танк непасрэднай падтрымкі; інтэрфейс «супольная шына»; бэта-спектраметрычны блок; оптыка-механічны блок; лазер з лямпавай напампоўкай* і г.д.;

б) «прыметнік + прыметнік + назоўнік»: *цяжкі танкавы батальён; супрацьтанкавае міннае поле; алфавітна-лічбавы дысплей*;

в) «прыметнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *дыспетчарскае кіраванне пула*;

г) «назоўнік + назоўнік у родным склоне + назоўнік у родным склоне»: *інтэрфейс увода-вывада;*

д) «назоўнік + назоўнік + прыметнік»: *лазер на фарбавальніках трохколерны; транзістар арсенід-галіевы*;

е) «назоўнік + абрэвіятура + прыметнік»: *камп'ютэр IBM-сумяшчальны*;

ж) «назоўнік + прыметнік + абрэвіятура»: *лазер з дынамічнай РАС*.

У лексікаграфічных працах можна бачыць і шматкампанентныя тэрміны з англійскім кампанентам.

Да іх належаць чатырохкампанентныя. Тут вызначаюцца наступныя мадэлі:

а) «назоўнік + прыметнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *лазер з актыўнай сінхранізацыяй мод; лазер з неадыябатычнай мадуляцыяй напрамкаў; стартэр з магнітнай сістэмай узбуджэння*;

б) «назоўнік + назоўнік + назоўнік + назоўнік у родным склоне»: *лазер на крышталях з цэнтрамі афарбоўкі*;

в) «назоўнік + прыметнік + прыметнік + назоўнік»: *лазер з манаімпульснай лазернай напампоўкай; лазер з папярочнай імпульснай напампоўкай; транзістар палявы з ізаляванай засаўкай*;

г) «назоўнік + назоўнік + прыметнік + назоўнік»: *сканіраванне мяжы злучаных матэрыялаў; лазер у рэжыме мадуляванай дыхтоўнасці*.

Аналіз матэрыялу паказвае, што ў сучасных тэрміналагічных слоўніках беларускай мовы зафіксаваны тэрміны і з большай колькасцю структурных элементаў, дзе адзін з кампанентаў – англіцызм: *лазер з фазава-палерызацыйным селектарам даўжынь хваль; лазер з унутрырэзанатарным падваеннем частаты выпраменьвання; лазер з глыбокай адмоўнай адваротнай сувяззю.*

***

Такім чынам, англійскія лексемы актыўна ўдзельнічаюць у тэрмінаўтваральным працэсе мовы-рэцыпіента: ад асноў англіцызмаў утвараюцца новыя субстантывы, ад'ектывы і дзеясловы, комплексныя тэрміны.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Выкарыстанне англійскіх запазычанняў у сучасным беларускім жыцці з'яўляецца заканамерным і звязана з міжнародным статусам англійскай мовы, з інтэрнацыяналізацыяй грамадскага жыцця, эканомікі, навукі, складаных праблем знешняй палітыкі. Адны англіцызмы з'яўляюцца ці не самымі актуальнымі, семантыка зразумелая амаль кожнаму: *кіднэпінг, бартэр, імідж.* Іншыя, наадварот, адносяцца да вузкапрафесійнай лексікі, іх значэнне не для масавага выкарыстання: *тэндэр, транш, дылер.* Гэтыя і іншыя словы англійскага паходжання замацаваліся ў слоўнікавым складзе беларускай мовы, прайшлі розныя ступені асіміляцыі.

За апошні час сродкі масавай інфармацыі выконваюць галоўную ролю ва ўжыванні новых англіцызмаў у мове беларускага соцыўму. Адной з прычын з'яўляецца падкрэсліванне эмацыйнаэкспрэсіўнага характару артыкула або рэкламы, што аказвае эмацыйны ўплыў на чытача.

Нельга пакінуць без увагі той факт, што многія англіцызмы сталі выкарыстоўвацца беларусамі «без прычыны», магчыма, як даніна модзе. Некаторыя англійскія запазычанні ўжываюцца разам з такімі добра засвоенымі іншамоўнымі словамі, як *бутэрброд, мультыплікатар, лозунг* і г.д., або прыходзяць на замену такіх лексем, як *бавоўна, абмен, вобраз* і інш.

Да выкарыстоўвання англійскіх слоў у беларускай мове, асабліва неалагізмаў-англіцызмаў, трэба ставіцца асэнсавана. Неаспрэчным з'яўляецца ўжыванне такіх англіцызмаў, што пранікаюць у нашую мову разам з рэаліямі, паняццямі, працэсамі, якія не існуюць у мове-рэцыпіенце.

Комплексны аналіз англіцызмаў ў складзе тэрміналогіі сучаснай беларускай мовы паказаў, што на працягу XX – пачатку XXI ст. тэрміналогія сучаснай беларускай мовы ў значнай ступені ўзбагачаецца за кошт англіцызмаў. На гэта ўплываюць як экстралінгвістычныя фактары (культурны ўплыў аднаго народа на другі; вусныя або пісьмовыя кантакты дзяржаў; цікавасць да вывучэння той ці іншай мовы; аўтарытэт мовы-крыніцы), так і інтралінгвістычныя (адсутнасць ў роднай мове лексемы для намінацыі новага прадмета або паняцця; замена апісальнага звароту адным словам: бег на кароткія дыстанцыі – *спрынт* (sprint); гасцініца для аўтатурыстаў – *матэль* (motel); друкавальная прылада – *прынтар* (printer) і г.д.; патрэбнасць у дэталізацыі поўнага значэння, размежаванні некаторых яго сэнсавых адценняў; адсутнасць ў роднай мове магчымасці

дэрывацыі ад свайго слова і інш. Англійскамоўныя запазычанні ў рознай ступені актыўна папаўняюць наступныя галіны тэрміналогіі: спартыўная (145), тэхнічная (133), фізічна-матэматычная (97), марская (90), эканамічна-фінансавая (88), грамадска-палітычная (78), тэрміналогія мастацтва і культуры (48), сельскагаспадарчая (42), біялагічная (41), хімічная (40), мінералагічная (29), металургічная (26), паліграфічная (24), інфармацыйна-адукацыйная (24), тэкстыльная (23), медыцынская (21); вайсковая (21), будаўнічая (20), прыродна-метэаралагічная (20), гістарычная (19), юрыдычная (16), філалагічная (15), горназдабыўная (14), філасофская (9), чыгуначная (8).

Многія іншамоўныя лексічныя адзінкі, у тым ліку і англіцызмы, пранікаюць у беларускую мову праз пасрэдніцтва польскай і рускай моў, што робіць значны ўплыў на працэс прыстасавання англійскіх запазычанняў да моўных нормаў мовы-рэцыпіента. У сучаснай беларускай мове англійскія тэрмінаадзінкі праходзяць працэс фанетычнай, марфалагічнай і семантычнай асіміляцыі; актыўна ўдзельнічаюць у яе словаўтваральным працэсе.

Найбольшую колькасць запазычаных англіцызмаў складаюць назоўнікі. Англійскія назоўнікі набываюць форму роду, ліку, уласцівую сучаснай беларускай мове; змяняюцца па склонах (у беларускай мове катэгорыя склону мае парадыгму з 12-ці словаформаў, а ў англійскай – 2 склоны: агульны (Common Case) і прыналежны (Possessive Case). Так, адзінка *бар* (bar) – у мове-рэцыпіенце – мужчынскага роду, мае форму множнага ліку, што ўтвараецца пры дапамозе *-ы* (параўн.: англ. м. – s); змяняецца па 6 склонах як у множным, так і ў адзіночным ліку (параўн: у англ. м. – 2 склоны).

У беларускую мову пранікаюць і англійскія дзеясловы і прыметнікі, да асновы якіх для больш натуральнага гучання, хуткага замацавання ў слоўнікавым складзе сучаснай беларускай мовы далучаюцца ўласнамоўныя фарманты *-аваць(цьь), -льны, -н(ы)*: *ацылаваць, пасаваць, варыабельны, планарны* і г.д.

Аналіз англійскіх дзеясловаў дае падставы вылучыць некаторыя адметнасці, характэрныя для граматычный сістэмы сучаснай беларускай мовы: наяўнасць катэгорыі роду (прошлы час, умоўны лад); катэгорыя пераходнасці – непераходнасці; катэгорыя зваротнасці – незваротнасці; наяўнасць трох форм часу – цяперашні, прошлы, будучы (параўн.: для практычнай граматыкі мовы-крыніцы характэрныя наступныя формы часу: Present Tenses, Past Tenses, Future Tenses, Future in the Past Tenses). У англійскай мове згаданыя тры катэгорыі адсутнічаюць.

Пранікаючы ў беларускую мову, англійскія прыметнікі набываюць катэгорыі роду, ліку і склону, якія выяўляюцца сінтаксічна

(у англ. м. – прыметнікі не змяняюцца па родах, ліках і склонах, г.зн. яны не маюць фармантаў, што паказваюць на сувязь прыметніка з назоўнікам і дапамагаюць вызначыць род і склон): *a comfortable room* (англ. м.); *камфартабельны пакой, камфартабельнага пакою* і інш. (бел. мова).

У мове-рэцыпіенце англійскія запазычанні засвойваюцца і семантычна. Аналіз лексемаў дазваляе вылучыць наступныя групы адаптаваных тэрмінаў: значэнне запазычання і этымона супадае поўнасцю: *бокс, грызлі* і г.д.; звужэнне семантычнага аб'ёму, канкрэтызацыя значэння поўнага слова: *дуст* 'хімічнае рэчыва ў выглядзе парашку, што выкарыстоўваецца для знішчэння шкодных насякомых' ← англ. *dust* 'пыл'; пашырэнне або абстрагаванне этымалагічнага значэння: *баласт* 1. 'спецыяльны груз для забеспячэння правільнай асадкі і ўстойлівасці судна, для рэгулявання вышыні палёту'; 2. 'верхні слой чыгуначнага палатна з шчэбеню, гравію'; 3. *перан.* 'лішняе, непатрэбнае'; працэс апелятывацыі пазычанняў: *бел* 'лагарыфмічная адзінка адносін дзвюх фізічных велічынь' ← англ. *bell* – англ. A.Bell – прозвішча амер. вынаходцы.

У беларускую мову пранікаюць і мнагазначныя лексемы з двума значэннямі: *аўтрыгер* (англ. outrigger); таксама адбываецца і другаснае пранікненне адзінак у мову-рэцыпіент: *чэк* у «Слоўніку бухгалтарскай тэрміналогіі» (Мн., 1927) – монасемічны, а ў «Слоўніку іншамоўных слоў» А.Булыкі (Мн., 1999) мае два значэнні.

Беларуская і англійская мовы з'яўляюцца няблізкароднаснымі, таму фаналагічная сістэма мовы-рэцыпіента і мовы-крыніцы адрозніваюцца.

У беларускай мове англійскія галосныя страчваюць некаторыя свае адметнасці і замяняюцца галоснымі, уласцівымі беларускай мове: а) англійскай мове характэрныя доўгія і кароткія галосныя (іх супрацьпастаўленне служыць для дыферэнцыяцыі значэння лексем). У беларускай мове размежавання галосных паводле прынцыпу «доўгі-кароткі» не існуе. Таму, пранікаючы ў беларускую мову, лексемы з англійскімі доўгімі галоснымі страчваюць гэту якасць: *briefing [bri:fiN] – брыфінг; croup [kru:p] – круп* і г.д.; б) англійскай мове ўласцівы падзел галосных на манафтонгі, дыфтонгі і трыфтонгі (беларускай фанетыцы – толькі манафтонгі). У беларускай мове англійскія дыфтонгі перадаюцца: а) беларускім галосным: *hy[ai]perrealism → г**і**перрэалізм; goa[ou]lkeeper → г**а**лкіпер* і інш.; б) спалучэннем «галосны + зычны»: *i[ai]ceberg → **ай**сберг; boy[oi]scout → б**ой**скаўт* і інш.; в) спалучэннем «галосны + галосны»: *undergrou[au]nd → андэргр**ау**нд* і г.д. Трыфтонгі перада-

юцца спалучэннем гукаў «галосны + зычны»; «галосны + зычны + зычны» або толькі галосным: *yorkshire[aiУ] → йаркш**ыр**; shire [aiУ] → **шай**р**ы**; herefordshire [aiУ] → герэфорд**ы*** і інш.

*Сістэма кансанантызму англійскай мовы мае наступныя асаблівасці: наяўнасць пярэднеязычных інтэрдантальных фрыкатыўных зычных [θ] – глухі і [Q] – звонкі, што ў беларускай мове перадаюцца праз [*т*] або [*з*]:* north[ ]rop → нар**т**роп; ruth[Q]erford → рэ**з**ерфард *і г.д.; наяўнасць заднеязычнага насавога сананта [N], што ў мове-пазычальніцы перадаецца праз спалучэнне зычных [*нг*]:* scorching [N] → скорчы**нг**, fading [N] → феды**нг** *і інш.; наяўнасць губна-губнога заднеязычнага сананта [w], што замяняецца зычнымі [*в, ў*] і галоснымі [*у*]:* wilt → **в**ілт, swing → с**у**інг, windrower → віндро**ў**эр *і інш.; адсутнасць карэляцыі па цвёрдасці-мяккасці ў англійскай мове (параўн.: бел. фанетыцы згаданая рыса ўласцівая):* shelf → шэльф, ale → эль, blocade → блакада, design → дызайн, leasing → лізінг *і г.д.; наяўнасць ў англійскай мове дзвюх афрыкатаў [*t *]; [*dз*] (параўн.: у бел. фанетыцы – 6 афрыкатаў). У беларускай мове [*d*] перадаецца праз [*дж*]:* jazz → джаз *або праз [*ж*]:* brokerage → бракераж *і г.д.; [t ∫] замяняецца [*ч*] або [*тч*]:* чэйн (chain); кетч (catch) *і інш.*

У мове-рэцыпіенце англіцызмы падпарадкоўваюцца фанетычным законам і працэсам беларускай мовы (аканне, аглушэнне канцавых зычных, дзеканне, цеканне, нейтралізацыя зеўрання галосных і зычных, сцяжэнне гукаў): *tubing → цюбінг, mildew → мільдзью, badminton → бадмінтон, niacin → нія[ыја]цын, nipple → ніпель, discounter → дыскаўнтэр, backcross → бекрос, muppets → мапетс (тс → [ц])* і інш.

Англійскія адзінкі актыўна ўдзельнічаюць у тэрмінаўтваральным працэсе беларускай мовы. Даследаванні паказваюць, што ад асноў англіцызмаў утвараюцца новыя субстантывы, ад’ектывы і дзеясловы, комплексныя тэрміны.

Вылучаюцца наступныя спосабы ўтварэння субстантываў ад асновы англійскага паходжання: суфіксальны, прэфіксальны і словаскладання. Найбольш прадукцыйны – суфіксальны спосаб. Назоўнікі мужчынскага роду ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў **-нік, -іст (-ыст), -чык(-шык), ік, -ёр, -ір, -ізм, -овец (-авец), -ор (-ар), -аж**: *ватэрпаліст* ← англ. waterpolo; *лазершчык* ← англ. lazer; *рэкардызм* ← англ. record; *ліфцёр* ← англ. lift; *стрэсар* ← англ. stress; *катэрнік* ← англ. catter; *куклукскланавец* ← англ. Ku-Klux-Klan і г.д. Назоўнікі жаночага роду ўтвараюцца з выкарыстаннем фармантаў **-ка, -чыца/-шчыца, -ызацыја, -асць, -оўка**: *камбайнёрка* –

*камбайнёр* ← англ. combine; *трамвайшчыца* ← англ. tramway; *стандартызацыя* ← англ. standard; *трэніроўка – трэніраваць* ← англ. train і г.д. Назоўнікі ніякага роду – з дапамогай **-ств(а)/цтв(а), -іраванне/-аванне**: *лордства* ← англ. lord; *баластаванне – баластаваць* ← англ. ballast і інш.

Найменш прадукцыйныя: а) прэфіксальны спосаб – з дапамогай інтэрнацыянальных прэфіксаў **дыс-, супер-, экс-, экстра-**: *экстраматч* ← англ. match; *дыскамфорт* ← англ. comfort; *супертанкер* ← англ. tank; *экс-спартсмен* ← англ. sportsman і інш.; з дапамогай уласных прэфіксаў **паў-, пера-:** *паўвад* ← англ. wad; *перастэпс* ← англ. steps і г.д.; б) спосаб словаскладання – з выкарыстаннем інтэрфікса: *танк**а**шлем* ← англ. tank, з нулявым інтэрфіксам – *джаз-аркестар* ← англ. jazz і інш.

Значная група тэрмінаў, утвораных ад асноў англійскага паходжання пры дапамозе беларускіх словаўтваральных фармантаў – ад’ектыўныя дэрываты, якія ўтвараюцца суфіксальным, нульсуфіксальным спосабам і спосабам складання з апорным уласнамоўным кампанентам.

Пэўная колькасць ад’ектываў утворана з дапамогай суфіксаў **-н-, -ск-, -ав-(-ов-), -ан-(-ен-), -уч-(-юч-)**: *клінкераваны* ← *клінкераваць* ← англ. clinker; *шэльфавы* ← англ. shelf; *стаерскі* ← англ. stayer; *афсетны* ← англ. offset; *пульсуючы* ← *пульсаваць* ← англ. pulse і г.д.

Сустракаюцца і нульсуфіксальныя ўтварэнні прыметнікаў: *бульдожы* ← англ. bulldog; ад’ектывы, утвораныя спосабам складання з выкарыстаннем асноў англійскага паходжання і пэўных суфіксавых фармантаў: *вагонабудаўнічы – вагон* + ***а*** + ***будаўнічы*** ← англ. waggon і інш.

Узнікненне дзеяслоўных дэрыватаў адбываецца рознымі спосабамі: а) суфіксальным – пры дапамозе суфіксавых фармантаў **-ава-, -ірава-, -ызава-, -і-(-ы-)**: *баксіраваць* ← *баксёр; фінішаваць* ← *фініш; футболіць* ← *футбол; дыспетчарызаваць* ← *дыспетчар* і г.д., б) прэфіксальным – з прэфіксамі **пад-**, **за-, пра-, па-**: *падфутболіць – футболіць* ← *футбол; замітынгаваць – мітынгаваць* ← *мітынг; праінтэрв’юіраваць – інтэрв’юіраваць* ← *інтэрв’ю* і г.д., в) постфіксальным – да дзеясловаў, утвораных ад асновы англійскага паходжання, далучаюцца і постфіксы **-цца, -ца**: *трэніравацца* ← *трэніраваць, пудлінгавацца* ← *пудлінгаваць* і г.д.

Найбольш прадукцыйным пры ўтварэнні дзеясловаў, субстантываў, ад’ектываў ад асноў англійскага паходжання з’яўляецца суфіксальны спосаб, менш прадукцыйныя – прэфіксальны, пост-

фіксальны, нульсуфіксальны, спосаб словаскладання. У сучаснай беларускай мове частата выкарыстання англійскамоўных тэрмінаадзінак спрыяе павелічэнню колькасці дзеяслоўных, ад’ектыўных, субстантыўных дэрыватаў.

Назіраецца актыўнае выкарыстанне англійскамоўных элементаў ва ўтварэнні комплексных тэрмінаў. Вылучаюцца наступныя групы: а) двухкампанентныя тэрміны – словазлучэнні з структурнымі мадэлямі «прым. + наз.» (напалмавая бомба), «наз. + наз. у род. скл.» (*інстынкт хомінгу*), «дзеяслоў + наз.» (*здымаць блакаду*), «наз. + прым.» (*стэк апаратны*), «абрэвіятура + наз.» (*PAC-лазер*), «прым. + прым.» (*лазерна-актыўны*); б) трохкампанентныя тэрміны з мадэлямі «наз. + прым. + наз.» (*артылерыя тракавай цягі*), «прым. + прым. + наз.» (*цяжкі танкавы батальён*), «прым. + наз. + наз. у род. скл.» (*дыспетчерская кіравання пула*), «наз. + наз. у род. скл. + наз. у род. скл.» (*інтэрфейс увода-вывада*), «наз. + наз. + прым.» (*лазер на фарбавальніках трохколерны*), «наз. + абрэвіятура + прым.» (*камп’ютэр IBM-сумяшчальны*), «наз. + прым. + абрэвіятура» (*лазер с дынамічнай PAC*); в) шматкампанентныя тэрміны з мадэлямі «наз. + прым. + наз. + наз. у род. скл.» (*стартэр з магнітнай сістэмай узбуджэння*), «наз. + наз. + наз. + наз. у род. скл.» (*лазер на крышталях з цэнтрамі афарбоўкі*), «наз. + прым. + прым. + наз.» (*транзістар палявы з ізаляванай засаўкай*), «наз. + наз. + прым. + наз.» (*сканіраванне мяжы злучаных матэрыялаў*).

Аналіз англіцызмаў даказвае, што тэрмінам уласцівая сістэмнасць у плане зместу і у большасці выпадкаў у плане выражэння. Так, *англезіт, бадэлеіт, бранерыт, бенітаіт, брукіт, брусіт, вад, лабрадор* і да т.п. узаемазвязаныя тым, што абазначаюць пэўны мінерал, які мае ў сваім складзе розныя натуральныя рэчывы і належаць да розных мінералагічных падкласаў. Агульная інтэгральная сэнсавая прымета – прыналежнасць да мінералаў. Дыферэнцыйнымі прыметамі згаданых тэрмінаў з’яўляюцца натуральныя рэчывы, якія ўваходзяць у склад таго ці іншага мінералу. Такім чынам, тэрміны сістэмныя ў плане зместу.

Англіцызмы, што ўваходзяць у класіфікацыйны рад «*мінералы»,* у сваёй структуры маюць суфіксавы фармант **-іт**. Гэта даказвае іх сістэмнасць у плане выражэння. Большасць з іх утворана праз пераўтварэнне ўласных імёнаў у агульныя. Аднак структура тэрмінаў *вад* і *лабрадор* адрозніваецца ад словаўтваральнай структуры іншых адзінак згаданага класіфікацыйнага рада. Так, тэрміны-англіцызмы ў большасці сваёй сістэмныя ў плане выражэння.

Гіпанімія – важны паказчык сістэмнай іерархічнай арганізацыі тэрмінаадзінак, заснаваны на родавідавых адносінах: *камбайн*

(гіперонім) і *горны камбайн, сельскагаспадарчы камбайн, электратрубазварачны камбайн* (гіпонімы).

Тэрміны англійскага паходжання ўтвараюць сістэму, паміж элементамі якой існуюць семантычныя сувязі, што праяўляюцца і ў парадыгматыцы, і ў сінтагматыцы.

У тэрміналогіі аддаецца перавага тэрмінам больш лаканічным, кароткім, зручным для ўтварэння дэрыватаў. Англійскамоўныя тэрміны, што пранікаюць у беларускую тэрміналогію, цалкам адпавядаюць патрабаванню лаканічнасці тэрміна. Патрабаванне лаканічнасці ў англійскіх тэрмінах рэалізуецца рознымі спосабамі (марфалагічны, фанетычны), перавага аддаецца тэрмінам, якія складаюцца з двух тэрмінаэлементаў.

Для тэрмінаў англійскага паходжання ў пэўнай ступені характэрна праяўленне такіх лексічна-семантычных з’яў, як сінанімія, варыянтнасць, дублетнасць, аманімія; у некаторай ступені антанімія і полісемія.

Некаторыя з англійскіх слоў запазычваюцца ў беларускую мову з мэтай даць назву новым рэаліям, з’явам, а іншыя – як даніна модзе. Таму ў тэрміналагічнай лексіцы мовы-рэцыпіента існуюць тэрміны англійскага паходжання, якім уласцівыя сінанімічныя рады, дублетныя пары, варыянтнасць: *ватэрпола – пола, кембрыйскі пэрыяд – кембрый, супермаркет – універсам, бізнес – камерцыйная дзейнасць, фідар – фідэр, сканер – скенер* і інш. Агульная колькасць такіх слоў складае прыблізна 9,5 %. Аналіз паказвае, што сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць сведчаць пра няпоўнае ўпарадкаванне англіцызмаў у складзе сучаснай беларускай тэрміналогіі.

З улікам таго, што тэрміналагічная сінанімія, дублетнасць і варыянтнасць – непажаданыя з’явы ў мове навукі, паступова трэба пазбаўляцца ад варыянтаў і абмяжоўваць выкарыстанне сінонімаў і дублетаў.

Агульная колькаць тэрмінаў-англіцызмаў, якім уласцівая з’ява аманіміі, складае каля 3,3 %. Унутрысістэмныя амонімы-англіцызмы намі не выяўлены. Але ёсць тэрміны, што ўваходзяць у розныя тэрміналагічныя палі, – міжгаліновыя амонімы: *бастон* 1 – тэкстыльная тэрміналогія, *бастон* 2 – музычная тэрміналогія; сустракаюцца і міжсістэмныя амонімы – тэрміны-словы, дзе адно значэнне ўваходзіць у сістэму агульналітаратурнай лексікі, а іншыя – у пэўную галіну тэрміналогіі: *рэкардсмен* – спартовая тэрміналогія і агульная лексіка і да т.п.

Аманімія не перашкаджае ўнармаванню сучаснай тэрміналогіі, паколькі спецыяльныя адзінкі адносяцца да розных тэрмінасістэм, г.зн. не сутыкаюцца ў адным семантычным полі.

Аналіз тэрмінаў-англіцызмаў паказвае, што ў тэрміналогіі вылучаюцца два тыпы антаніміі – лексічная і словаўтваральная. Групу лексічных антонімаў-англіцызмаў складаюць назоўнікі (*старт – фініш*), прыметнікі – кампаненты неаднаслоўных тэрмінаў (*стартавая* (прамая) – *фінішная* (прамая)), дзеясловы (*лідзіраваць – аўтсайдзіраваць*). Словаўтваральны тып антаніміі – назоўнікі, у якіх адбываецца чаргаванне наяўнасці прэфікса з яго адсутнасцю (*фрастацыя – **дэ**фрастацыя*); назоўнікі з прэфіксам **мікра-** (*фарада – **мікра**фарада*).

Даследаванне паказвае, што антанімія выступае ў якасці рэгулярнага прынцыпа ўтварэння тэрмінаў з супрацьлеглым значэннем; антанімія распаўсюджана ў асноўным сярод тэрмінаў-назоўнікаў англійскага паходжання; сярод дзеясловаў і прыметнікаў сустракаюцца адзінкавыя выпадкі існавання антанімічных пар.

Адно з патрабаванняў да тэрміна – імкненне да монасемантычнасці. Значная частка тэрмінаадзінак-англіцызмаў адпавядае гэтаму прынцыпу. Аднак ад агульнай колькасці англіцызмаў прыкладна 8,2 % – маюць 2 або некалькі значэнняў. Мнагазначныя тэрміны выяўлены ў наступных галінах тэрміналогіі: фінансава-эканамічная, тэхнічная, спартыўная, грамадска-палітычная, філалагічная, марская, юрыдычная, біялагічная і тэрміналогія мастацтва і культуры.

Разглядаючы праблему сувязі тэрміна і кантэксту, нельга не пагадзіцца з В.С.Ахманавай, В.П.Даніленка і інш., што ў пэўных кантэкстных умовах здымаецца полісемантычнасць тэрміна і рэалізуецца толькі адно з яго значэнняў. Такім чынам, з’ява полісеміі праяўляецца ў нязначнай ступені, г.зн., што англіцызмы найбольш інтэнсіўна пачалі пранікаць у беларускую тэрміналогію толькі на працягу апошніх 20 – 30 гадоў і працэс іх засваення ў беларускай тэрміналогіі яшчэ не завяршыўся; для мнагазначных тэрмінаў патрэбны кантэкст, каб семантыку пэўнага тэрміна зразумець правільна. Прааналізаваны фактычны матэрыял сведчыць, што англійскамоўныя тэрмінаадзінкі інтэнсіўна праходзяць працэс адаптацыі ў сучаснай беларускай мове; замацоўваюцца ў беларускай тэрміналогіі, адпавядаючы ў большасці выпадкаў адметнасцям тэрміна; уваходзяць у розныя лексічна-семантычныя разрады. Аднак некаторыя з іх патрабуюць далейшага ўпарадкавання і больш дасканалай адаптацыі.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

1. Амирова, Т.Г. Заимствование и его роль в развитии и обогащении синонимии: автореф. дис.... канд. филол. наук: 10.02.19. / Т.Г.Амирова; Азерб. гос. ун-т им.С.М.Кирова. – Баку, 1975. – 32 с.

2. Анічэнка, У.В. Уплыў нямецкай мовы на беларускую ў розныя гістарычныя перыяды / У.В.Анічэнка // Пятыя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу: матэрыялы навук. канф. – Гомель, 2001. – С. 3-6.

3. Антанюк, Л.А. Беларуская навуковая тэрміналогія: Фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне / Л.А.Антанюк. – Мн.: Навука і тэхніка, 1987. – 240 с.

4. Антанюк, Л.А. Развіццё і задачы ўпарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі / Л.А.Антанюк // Тэрміналагічны зборнік 83». – Мн.: Навука і тэхніка, 1985 – С. 5-17.

5. Антанюк, Л.А. Семантыка-сінтаксічныя функцыі спалучэння *адзін аднаго* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове / Л.А.Антанюк // Беларуская лінгвістыка. – 1972. – Вып.2. – С. 63-68.

6. Антанюк, Л.А. Праблемы беларускага тэрміназнаўства ў новых умовах / Л.А.Антанюк // Тэрміналагічны зборнік «87/88». – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – С. 13-24.

7. Антанюк, Л.А.Семантычныя працэсы ў беларускіх запазычаннях з польскай мовы / Л.А.Антанюк // Беларуская лінгвістыка. – 1972. – Вып.2. – С. 47-52.

8. Арашонкава, Г.У. Тэорыя і практыка беларускай тэрміналогіі / Г.У.Арашонкава [і інш.] – Мн., 1999. – 175 с.

9. Арзикулов, К.А. К изучению семантической связи терминологических единиц / К.А.Арзикулов // Лингвистические исследования: сб. ст. /Акад. наук СССР. Ин-т языкознания; редкол.: С.Д.Кацнельсон (отв.ред) [и др.]. – М.: Б.и., 1981. – С. 22-25.

10. Арнольд, И.В. Лексикология современного английского языка / И.В.Арнольд. – М.: Высш. шк., 1973. – 346 с.

11. Ахманова, О.С. Словарь лингвистических терминов / О.С.Ахманова. – М.: Советская энциклопедия, 1962. – 607 с.

12. Баханькоў, А.Я.. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы для сярэдняй школы / А.Я.Баханькоў, І.М.Гайдукевіч, П.П.Шуба. – 5-е выд., перапрац. і дап. – Мн.: Народная асвета, 1996. – 414 с.

13. Беларуская граматыка. – Мн., 1985. – Ч. І. – 438 с.

14. Блох, М.Я. Теоретические основы грамматики / М.Я.Блох. – М.: Высш. шк., 2002. – 160 с.

15. Бублейник, Л.В. Метафоризация терминов в языке поэзии / Л.В.Бублейник // Тези доповідей Республіканськоі конференціі: Науково-технічний прогрес і проблемы термінологіі // – Киів: Наукова думка, 1980. – С. 37-38.

16. Бубновіч, І.І. Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю / І.І.Бубновіч. – Гродна: ГрДУ, 2000. – 108 с.

17. Будагов, Р.А. Введение в науку о языке: учеб. пособие для студ. вузов / Р.А.Будагов – М.: Гос. учебно-педагог. изд-во Мин-ва просвещения, 1958. – 435 с.

18. Будагов, Р.А. Введение в науку о языке: учеб. пособие для филол. фак. ун-тов и пед. ин-тов / Р.А.Будагов. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Просвещение, 1965. – 228 с.

19. Будагов, Р.А. Очерки по языкознанию / Р.А.Будагов. – М.: Изд-во АНСССР, 1953. – 280 с.

20. Булыка, А.М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А.М.Булыка. – Мн.: Навука і тэхніка, 1972. – 383 с.

21. Булыка А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII стст. – Мн.: Навука і тэхніка, 1980. – 256 с.

22. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў / А.М.Булыка. – Мн.: Нар. асвета, 1993. – 398 с.

23. Булыка, А.М. Слоўнік іншамоўных слоў: у 2-х т. – Мн.: БелЭн., 1999. – Т.1. – 736 с.; Т.2. – 735 с.

24. Буракова, М.У. Юрыдычная тэрміналогія ў беларускай мове: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.02.01 / М.У.Буракова. – Гомель, 2004. – 20 с.

25. Виноградов, В.В. Основные типы лексических значений слов / В.В.Виноградов. // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5 – С. 3-29.

26. Винокур, Г.О. О некоторых явлениях словообразования в русской технической терминологии / Г.О.Винокур // Труды МИФЛИ. – 1939. – Т.5. – С. 3-54.

27. Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы // Наша слова. – 1994. – №5.

28. Гак, В.Г. Сопоставительная лексикология: На материале франц. и рус. яз / В.К.Гак. – М.: Междунар. отношения, 1977. – 264 с.

29. Гапоненка, І.А. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове пачатку XX ст. і асаблівасці іх фармальнай адаптацыі / І.А.Гапоненка // Беларуская лінгвістыка. – 2000. – Вып. 49. – С. 46-52.

30. Гарэцкі, Р. Беларуская навуковая тэрміналогія – важны кірунак у нацыянальным адраджэнні / Р.Гарэцкі // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: матэрыялы Першай нац. канф. – Мн., 1995. – С. 10-14.

31. Голанов, Е.Й. Образование терминов путем семантической деривации / Е.Й.Голанов // Тези доповидей Республіканськоі конференції: Науково-технічний прогрес і проблемі терминологіі. – Киів: Наукова думка, 1980. – С. 64-66.
32. Головин, Б.Н. Роль терминологии в научном и учебном общении / Б.Н.Головин // Термин и слово: межвуз. сб. / Горьков. гос. ун-т им. Н.И.Лобачевского; редкол.: Б.Н.Головин (отв. ред.) [и др.] – Горький: ГГУ,1979. – С. 14-18.
33. Головин, Б.Н. Введение в языкознание / Б.Н.Головин. – М.: Высш. шк., 1973. – 320 с.
34. Головин, Б.Н. Лингвистические основы учения о терминах: учеб. пособие для филол. спец. вузов / Б.Н.Головин, Р.Ю.Кобрин. – М.: Высш.шк., 1987. – 103 с.
35. Головня, А.И. Словообразование в терминологической лексике / А.И.Головня // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: материалы VII Междунар. конф. – Гродно, 2001. – С. 400-403.
36. Граковіч, Н.М. Спосабы намінацыі сартоў пшаніцы / Н.М.Граковіч // Тэрміналагічны зборнік «87/88». – Мн.,1993. – С. 9-13.
37. Гринёв, С.В. Введение в терминоведение / С.В.Гринёв. – М.: Московский лицей, 1993. – 309 с.
38. Гринёв, С.В. Введение в терминографию / С.В.Гринёв. – М., 1995. – 162 с.
39. Гринёв, С.В. Терминологические заимствования: (Краткий обзор современного состояния вопроса) / С.В.Гринёв // Лотте, Д.С. Вопросы заимствования и упорядочения иноязычных терминов и терминоэлементов. – М., 1982. – С. 108 – 136.
40. Гуліцкі, М.Ф. З назіранняў над тэрміналогіяй лексікаграфіі / М.Ф.Гуліцкі // Слова беларускае. З гісторыі лексікалогіі і лексікаграфіі. – Мн., 1994. – С. 167-169.
41. Гущина, Л.Н. Современные проблемы лексикографии применительно к медицинской терминологии / Л.Н.Гущина // Слово и словарь Vocabulum et Vocabularium: сб. науч. тр. по лексикографии. – Гродно, 2002. – С. 135-139.
42. Даниленко, В.П. Русская терминология: Опыт лингвистического описания / В.П.Даниленко. – М.: Наука, 1977. – 247 с.
43. Даўгулевіч, Н.М. Бартэр, брокер, ваўчар: Запазычанні з англійскай мовы ў эканамічнай сферы / Н.М.Даўгулевіч // Роднае слова. – 2002. – №5 – С. 35-36.
44. Даўгулевіч, Н.М. Блокбастэр, трылер, джангл: Новая запазычаная лексіка сферы культуры / Н.М.Даўгулевіч // Роднае слова. – 2003. – №7 – С. 38-40.

45. Даўгулевіч, Н.М. Болінг, сёрфінг, фітнэс: Новыя запазычанні з англійскай мовы ў спорце / Н.М.Даўгулевіч // Роднае слова. – 2002. – №3 – С. 33.
46. Даўгулевіч, Н.М. Брыфінг, спікер, саміт: Новыя запазычанні з англійскай мовы ў палітычнай сферы / Н.М.Даўгулевіч // Роднае слова. – 2002. – №10 – С. 31.
47. Даўгулевіч, Н.М. Праблемы фанетычнай адаптацыі і графічнай перадачы англіцызмаў / Н.М.Даўгулевіч // Культура мовы і грамадства: матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. – Мн., 2002. – С. 51-54.
48. Даўгулевіч, Н.М. Уплыў моў-пасрэднікаў на адаптацыю англійскіх запазычанняў у беларускай мове / Н.М.Даўгулевіч // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: матэрыялы навук. канф. – Гродна, 2002. – С. 340-345.
49. Даўгулевіч, Н.М. Фанетычная адаптацыя англіцызмаў з зычнымі, проціпастаўленымі па напружанасці-ненапружанасці / Н.М.Даўгулевіч // Беларуская лінгвістыка. – 2002. – Вып.52. – С. 78-87.
50. Даўгулевіч, Н.М. Фанетычная адаптацыя запазычанняў з англійскай мовы ў сучаснай беларускай мове: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.02.01 / Н.М.Даўгулевіч. – Мн., 2003. – 20 с.
51. Даўгулевіч, Н.М. Фанетычная адаптацыя зычных адносна палаталізацыі ў запазычаннях з англійскай мовы / Н.М.Даўгулевіч // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітарных навук. – 2001. – №4 – С. 100-107.
52. Динес, Л.А. Об отражении системы понятий в системе терминов / Л.А.Динес // Проблемы истории, взаимосвязей русской и мировой культуры: межвуз. сб. / Саратов. ун-т; редкол.: А.Л.Гришунин (отв.ред.) [и др.] – Саратов: Изд-во Сарат. ун-та, 1983. – Ч. 2. – С. 76-89.
53. Доза, А. История французского языка / А.Доза. – М., 1956. – 443 с.
54. Жураўскі, А.І. Праблема варыянтаў у слоўніку старабеларускай мовы / А.І.Жураўскі // Тэзісы дакладаў Рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю БССР і КПБ: Праблемы беларускай філалогіі. – Мн.: Выдавецтва БДУ імя У.І.Леніна, 1968. – С. 41-44.
55. Земская, Е.А. Современный русский язык. Словообразование: учеб. пособие по спец. № 2101: «Рус. яз. и лит-ра» / Е.А.Земская. – М.: Просвещение, 1973. – 304 с.
56. Зернов, Б.Е. Спорные вопросы английской грамматики / Б.Е.Зернов. – Ленинград, 1988. – 207 с.

57. Ирлицина, И.Б. Системность тарминологической лексики / И.Б.Ирлицина // Слово в системных отношениях на разных уровнях языка: сб. науч. тр. / Свердлов. гос. пед. ин-т; редкол.: К.И.Демидова (отв. ред.) [и др.] – Свердловск: Свердлов. ГПИ, 1986. – С. 104-109.

58. Ищенко, Н.Г. Структура и семантика немецких заимствований в математической терминологии русского языка / Н.Г.Ищенко // Тези доповидей Республіканськоі конференціі: Науково-технічний прогрес і проблемі терминологіі. – Киів: Наукова думка, 1980 – С. 96-97.

59. Іўковіч, І.А. Кавалевіч З.М. Беларуская і англійская мовы: шляхі кантактнага вывучэння / І.А.Іўковіч, З.М.Кавалевіч // Роднае слова. – 2001. – № 1. – С. 84-88.

60. Кавалёва, Л.Я. Адлюстраванне англіцызмаў у тэрміналагічных слоўніках 1926-1927гг. / Л.Я.Кавалёва // Слово и словарь Vocabulum et Vocabularium: сб. науч. тр. по лексикографии. – Гродно, 2002. – С. 145-147.

61. Кавалёва, Л.Я. Адлюстраванне беларускіх фанетычных працэсаў у тэрмінаадзінках-англіцызмах / Л.Я.Кавалёва // Веснік ГрДУ імя Я.Купалы. Сер.1. – 2004. – № 1 – С. 114-119.

62. Кавалёва, Л.Я. Англіцызмы ў беларускай тэрміналогіі транспарту / Л.Я.Кавалёва // Рэсп. Купалаўскія чытанні: матэрыялы Рэспубліканскай навук. канф. – Гродна, 2002. – С. 385-387.

63. Кавалёва, Л.Я. Англіцызмы ў сучаснай беларускай прэсе (на матэрыяле часопісаў і газет) / Л.Я.Кавалёва // Актуальныя праблемы выкладання мовы і літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе: матэрыялы Рэсп. навук. канф. – Гродна, 2003. – С. 395-397.

64. Кавалёва, Л.Я. Да праблемы лінейнай даўжыні тэрміна / Л.Я.Кавалёва // Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці: зб. навук. прац / пад рэд. С.Мусіенкі. – Гродна, 2003. – С. 273-275.

65. Кавалёва, Л.Я. Пра наменклатурныя адзінкі англійскага паходжання ў спецыяльнай лексіцы беларускай мовы / Л.Я.Кавалёва // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: материалы VIII Междунар. науч. конф. – Гродно, 2003. – С. 115-119.

66. Кавалёва, Л.Я. Тэрмінаэлементы з класічных моваў у англійскіх лексемах беларускай тэрміналогіі / Л.Я.Кавалёва // Веснік ГрДУ ім. Я.Купалы. Сер. 1. – 2003. – № 3 – С. 136-141.

67. Кавалёва, Л.Я. Тэрміны-англіцызмы ў «Слоўніку іншамоўных слоў» А.М.Булыкі / Л.Я.Кавалёва // Пятыя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу: матэрыялы навук. канф. – Гомель, 2001. – С. 69-71.

68. Кавалёва, Л.Я. Англіцызмы ў словаўтваральным працэсе сучаснай беларускай мовы / Л.Я.Кавалёва // Веснік ГрДУ імя Я.Купалы. Сер.1. – 2004. – №3 – С. 164 – 167.

69. Кавалёва, Л.Я. Суфіксацыя пры ўтварэнні назоўнікаў і дзеясловаў ад словаў англійскага паходжання / Л.Я.Кавалёва // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: матэрыялы Рэсп. навук. канф. – Гродна, 2003. – С. 321 – 324.

70. Кавалёва, М.Ц. Беларуская мова / М.Ц.Кавалёва, П.У.Сцяцко – Мн.: Выш. шк., 1970. – С. 10-34.

71. Какорина, Е.В. Иноязычное слово в узусе 90-х годов (социолингвистическое исследование) / Е.В.Какорина // Русский язык сегодня. – М., 2000. – С. 137-155.

72. Каладзінскі, А.М. Руска-беларускі фізічны слоўнік / А.М.Каладзінскі, Д.М.Карацінская., П.У.Сцяцко / Пад рэд. Л.М.Ківача. – Гродна: ГрДУ, 1999. – 498 с.

73. Калечыц, А.І. Фарміраванне і склад беларускай энтамалагічнай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.І.Калечыц. – Мн., 2002. – 17 с.

74. Каліценя, І.У. Словаўтваральны ланцужок як комплексная адзінка дэрывацыі / І.У.Каліценя // Беларуская лінгвістыка. – 2001 – Вып. 50. – С. 74-77.

75. Капанадзе, Л.А. О понятиях «термин» и «терминология» / Л.А.Капанадзе // Развитие лексики современного русского языка: сб. ст. / под ред. Е.А.Земской, Д.Н.Шмелёвой. – М.: Наука, 1965. – С. 75-85.

76. Кароткі эканамічны слоўнік / пад рэд. М.І.Платніцкага. – Мн., 1993. – 256 с.

77. Кобрин, Р.Ю. Опыт лингвистического анализа терминологии: автореф. дис.... канд. филол. наук / Р.Ю.Кобрин / Горьков. гос. ун-т им. Н.И.Лобачевского. – Горький, 1969. – 22 с.

78. Копанеў, П.І., Мархасёў І.Р. Тэрміны ці словы-назвы? / П.І.Копанеў, І.Р.Мархасёў // Беларуская лінгвістыка. – 1989. – Вып. 35. – С. 44-48.

79. Костюкович, Н.Н. Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов / Н.Н.Костюкович, В.В.Люштик, В.К.Щербин; под ред. Н.Н.Костюковича. – Мн.: БелЭн., 1995. – 512 с.

80. Кошчанка, У. Беларуская наменклатура ягад на фоне англійскай / У.Кошчанка // Тэрміналагічны бюлетэнь. – 1999. – Вып. 2. – С. 14-20.

81. Краевская, Н.П. Русско-белорусский словарь электротехнических терминов / Н.П.Краевская, Б.В.Гринберг, В.П.Красней. – Мн.: Выш. шк., 1993. – 145 с.

82. Красней, В.П. Белорусская филологическая терминология начала XX века: автореф. дис.... канд. филол. наук: 10.661 / В.П.Красней; Бел. гос. ун-т. – Мн.,1969. – 15 с.

83. Красней, В.П. Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі / В.П.Красней // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1995. – № 1. – С. 25-27.

84. Кручкова, Л.А. Іншамоўныя словы ў складзе беларускай спартыўнай лексікі / Л.А.Кручкова // Роднае слова. – 2004. – № 4. – С. 42-43.

85. Крыжановская, А.В. Актуальные проблемы упорядочения научной терминологии / А.В.Крыжановская, Л.А.Симоненко. – Киев: Наукова думка, 1987. – 164 с.

86. Кузьмин, Н.П. Нормативная и ненормативная специальная лексика: проблемы и методы нормализации лексики / Н.П.Кузьмин // Лингвистические проблемы научно-технической терминологии: материалы совещания, проведённого АН СССР в Ленинграде – М.: Наука, 1970. – С. 68-81.

87. Кузьмина, Н.Б. К определению специфики термина / Н.Б.Кузьмина // Тэзісы дакл. Рэсп. канф., прысвечанай 50-годдзю БССР і КПБ. – Мн., 1968. – С. 68-69.

88. Курышко, Г.Ф. Некоторые вопросы синонимии в медицинской терминологии немецкого языка / Г.Ф.Курышко // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1974. – №3. – С. 55-59.

89. Лапкоўская, А.М. З'явы сінаніміі, дублетнасці і варыянтнасці ў беларускай батанічнай тэрміналогіі / А.М.Лапкоўская // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1996. – №2. – С. 59-62.

90. Лапкоўская, А.М. Сістэмнасць беларускіх батанічных тэрмінаў / А.М.Лапкоўская // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1998. – №1. – С. 51-55.

91. Ларионова, Е.В. Спонсор и меценат / Е.В.Ларионова // Русская речь. – 1992. – № 5. – С. 122-125.

92. Лаўшук, Д.А. Аб сінаніміі ў беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі / Д.А.Лаўшук // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: матэрыялы навук. канф. – Гродна, 2002. – С. 307-312.

93. Лаўшук, Д.А. Лексічная аманімія ў сельскагаспадарчых тэрмінах / Д.А.Лаўшук // матэрыялы Міжнар. канф.: Пятыя навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу. – Гомель, 2001. – С. 112-114.

94. Лаўшук, Д.А. Структурна-семантычная характарыстыка сучаснай беларускай сельскагаспадарчай тэрміналогіі: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.02.01 / Д.А.Лаўшук. – Мн., 2003. – 20 с.

95. Левковская, К.А. Теория слова, принципы её построения и аспекты изучения лексического материала / К.А.Левковская. – М.: Высш. шк., 1962. – 296 с.

96. Лейчик, В.М. Дифференциация терминов-синонимов, вариантов и эквивалентов как способ разграничения научных и технических понятий / В.М.Лейчик // Психологические проблемы грамматики: сб. ст. / Акад. наук СССР. Ин-т языкознания; редкол.: Е.Ф.Тарасов [и др.]. – М.: НИИ общ. педагогики, 1979. – С. 86-100.

97. Лейчик, В.М. Оптимальная длина термина / В.М.Лейчик // Вопросы языкознания. – 1981. – №2 – С. 63-67.

98. Лексікалогія сучаснай беларускай мовы / пад рэд. А.Я.Баханькава. – Мн.: Навука і тэхніка, 1994. – 463 с.

99. Лёхина, И.В. Словарь иностранных слов / И.В.Лёхина, Ф.Н.Петров – М., 1949. – 807 с.

100. Лотте, Д.С. Вопросы заимствования и упорядочения иноязычных тэрминов и терминоэлементов / Д.С.Лотте. – М.: Наука, 1982. – 149 с.

101. Лотте, Д.С. Основы построения научно-технической терминологии / Д.С.Лотте. – М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1961. – 158 с.

102. Лотте, Д.С. Краткие формы научно-технических терминов / Д.С.Лотте. – М.: Наука, 1971. – 84 с.

103. Люшцік, У.В. Матэрыяльныя і змешаныя запазычанні ў тэрміналогіі нафта- і газаздабычы / У.В.Люшцік // Тэрміналагічны зборнік «87/88». – Мн.: Навука і тэхніка, 1993. – С. 5-8.

104. Люшцік, У.І. Словаўтваральная варыянтнасць прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у тэрміналогіі нафта- і газаздабычы / У.В.Люшцік // Тэрміналагічны зборнік «89/90». – Мн.: Навука і тэхніка, 1992. – С. 8-12.

105. Мачалава, А.А. З гісторыі беларускай лексікаграфіі / А.А.Мачалава // Слово и словарь Vocabulum et Vocabularium: сб. науч. тр. по лексикографии. – Гродно, 2002. – С. 117-119.

106. Медведев, А.Р. Синонимия терминов в различных видах научно-технических текстов / А.Р.Медведев // Функциональный стиль научной прозы: проблемы лингвистики и методики преподавания: сб. ст. / Акад. наук СССР. Каф. иностр. яз.; редкол.: М.Я.Цвиллинг (отв.ред.) [и др.] – М.: Наука, 1980. – С. 177-186.

107. Мостовой, Н.М. Детерминологизация в современном английском языке: автореф. дис.... канд. филол. наук: 10.663 / Н.М.Мостовой; Ордена Ленина ин-т языкознания им. А.А.Потебни АН УССР. Отд-ние лит., яз. и искусствоведения. – Киев, 1971. – 24 с.

108. Навічэнка, Н.М. Да пытання развіцця беларускай музычнай тэрміналогіі / Н.М.Навічэнка // Тэрміналагічны зборнік – 83. – Мн.: Навука і тэхніка, 1985. – С. 35-39.

109. Назовы жывёл. – Мн., 1927. – 76 с.

110. Натансон, Н.А. Требования, предъявляемые к научным и техническим терминам / Н.А.Натансон // Научно-техническая информация. – 1966. – № 1 – С. 23-26.
111. Новиков, Л.А. Антонимия в русском языке: автореф. дис.... доктора филол. наук: 10.02.01. / Новиков, Л.А.; АН СССР. Ин-т рус. яз. – М., 1974. – 36 с.
112. Палуян, А.М. Беларуская анатамічная тэрміналогія: аўтарэф. дыс.... канд. філал. навук: 10.02.01 / А.М.Палуян – Гомель, 2002. – 20 с.
113. Паўленка, М.А. Аб вытворнасці словаўтваральных афіксаў і інтэрфіксацыі / М.А.Паўленка // Тэзісы дакл. Рэсп. канф., прысвеч. 50-годзю БССР і КПБ. – Мн., 1968. – С. 97-98.
114. Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: матэрыялы першай нацыянальн. канф. – Мн., 1995. – 340 с.
115. Петрушина, В.М. Омонимы в лексике современного текстильного производства / В.М.Петрушина // Лексика русского языка: респ. сб. / Рязан. гос. пед. ин-т; отв. ред. В.Д.Бондалетов. – Рязань: Рязан. ГПИ, 1979. – С. 16-20.
116. Потапова, Ж.Е. Отличительные свойства синонимии в биологической и медицинской терминосистемах / Ж.Е.Потапова, В.М.Турчин // Вестн. Харьк. ун-та. – 1986. – № 290. – С. 79-80.
117. Реформатский, А.А. Введение в языковедение / А.А.Реформатский. – Изд. 4-е, испр. и доп. – М.: Просвещение, 1967. – С. 110-121.
118. Реформатский, А.А. Введение в языкознание / А.А.Реформатский. – М.: Учпедгиз, 1955. – С. 80-90.
119. Реформатский, А.А. Что такое термин и терминология– / А.А.Реформатский // Вопросы терминологии: материалы Всесоюзного терминологического совещания. – М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1961. – С. 46-54.
120. Розенталь, Д.Э. Справочник лингвистических терминов / Д.Э.Розенталь. – М.: Просвещение, 1972. – 495 с.
121. Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі / пад рэд. М.В.Бірылы, Г.У.Арашонкавай. – Мн.: Ураджай, 1994. – 560 с.
122. Русско-белорусский словарь: в 2-х т. / АНБССР, Ин-т языкознания / ред. К.К.Атрахович (Кандрат Крапива). – 3-е изд., испр. и доп. – Мн.: БелСЭ, 1991. – Т.2. – 622 с.; Т.2. – 646 с.
123. Русско-белорусский словарь: в 3-х т. / АНБССР, Ин-т языкознания им. Я.Коласа. – Изд. 4-е, испр. и доп. – Мн.: БелСЭ, 1993. – Т.1. – 735 с.; Т.2. – 783 с.; Т.3. – 800 с.

124. Руска-беларускі слоўнік спартыўнай тэрміналогіі. «Фізічная культура» / Гомельскі дзярж. ун-т / склад.: У.Л.Старчанка, М.Р.Кошман, Б.А.Царыкаш [і інш.] – Гомель, 1993. – 60 с.
125. Сіпліверя, Ж.С. Словаўтварэнне прыметнікаў ад іншамоўных назоўнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове / Ж.С.Сіпліверя // пад рэд. П.У.Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2000. – 101 с.
126. Слоўнік бухгальтэрскае тэрміналёгіі. – Мн., 1927. – 145 с.
127. Слоўнік граматычна-лінгвістычнае тэрміналёгіі. – Мн., 1927. – 72 с.
128. Слоўнік лясных тэрмінаў. – Мн., 1926. – 79 с.
129. Слоўнік матэматычнае тэрміналёгіі. – Мн., 1927. – 145 с.
130. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналёгіі. – Мн., 1926. – 100 с.
131. Смирницкий, А.И. Морфология английского языка / А.И.Смирницкий. – М., 1959. – 440 с.
132. Соколова, М.А. Теоретическая фонетика английского языка / М.А.Соколова. – 2-е издан. – М.: ВЛАДОС, 1996. – 286 с.
133. Станкевич, А.А. Лексика греко-латинского происхождения в современном белорусском языке (формально-семантическое освоение): автореф. дис.... канд. филол. наук: 10.02.02 / А.А.Станкевич. – Гомель, 1975. – 19 с.
134. Станкевіч, А.А. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках / А.А.Станкевич. – Гомель, 1996. – 255 с.
135. Степанов, Ю.С. Константы: Словарь русской культуры. Опыт исследования / Ю.С.Степанов – М.: Языки русской культуры, 1997. – 824 с.
136. Суперанская, А.В. К вопросу о терминах-омонимах / А.В.Суперанская, А.Х.Султанов. // Омосемия и омография в естественных и машинных языках: сб. науч. тр. / Акад. наук СССР, Дальневост. Науч. центр. Каф. иностр. яз.; редкол.: Б.И.Бартков (отв. ред.) [и др.] – Владивосток: ДВНЦ, 1986. – С. 77-81.
137. Суперанская, А.В. Общая терминология: Вопросы теории / А.В.Суперанская, Н.В.Подольская, Н.В.Васильева. – М.: Наука, 1989. – 246 с.
138. Сцяцко, П.У. Беларуская навуковая тэрміналогія ў другой палове 90-х гадоў XX ст. / П.У.Сцяцко // Роднае слова. – 2001. – №2 – С. 32-35.
139. Сцяцко, П.У. Культура мовы / П.У.Сцяцко. – Мн.: Тэхналогія, 2002. – 444 с.
140. Сцяцко, П.У. «Матэматычная энцыклапедыя» і ўвасабленне ў ёй тэрміналагічных і культурамоўных напрацовак / П.У.Сцяц-

ко // Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы. Сер.1. Гуманітарныя навукі. – 2002. – №2(10) – С. 133-135.

141. Сцяцко, П.У. Беларуская навуковая тэрміналогія: праблемы і кірункі спарадкавання / П.У.Сцяцко // Веснік ГрДУ імя Янкі Купалы. Сер.1. Гуманітарныя навукі. – 1999. – №2 – С. 80-85.

142. Сцяцко, П. Родная мова – мова навукі: праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі / П.Сцяцко // Роднае слова. – 1995. – №4 – С. 3-14.

143. Сцяцко, П. Праблемы ўдасканалення структуры тэрміналагічных адзінак нацыянальнай беларускай мовы / П.Сцяцко // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: матэрыялы першай нацыянальн. канф. – Мн., 1995. – С. 22-37.

144. Сцяцко, П. Да ўпарадкавання навуковай тэрміналогіі / П.Сцяцко // Полымя. – 1996. – №7 – С. 294-304.

145. Сцяцко, П.У. Уводзіны ў мовазнаўства / П.У.Сцяцко. – Гродна, 2001. – 228 с.

146. Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкі, Л.А.Антанюк. – Мн., 1990. – 111 с.

147. Сыракваш, М.І. Праблемы сінаніміі ў айчыным мовазнаўстве за 50 гадоў / М.І.Сыракваш // Тэзісы дакладаў Рэспубліканскай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю БССР і КПБ: праблемы беларускай філалогіі. – Мн.: Выдавецтва БДУ імя У.І.Леніна, 1968. – С. 123-125.

148. Таболіч, А.У. Лінгвістычныя асновы перадачы англамоўных геаграфічных назваў у беларускай мове / А.У.Таболіч // Vocabulum et Vocabularium: сборник научных трудов по лексикографии. – Вып. 5. – Гродно, 1998. – С. 37-39.

149. Тибэннам, П.Дж. Семантическое, стилистическое и экспрессивное восприятие новейших англицизмов в современном русском языке / П.Дж.Тибэннам // Интернет (международные связи). – 2004. – С. 241 – 245.

150. Тимофеев, К.А. Вариантные отношения в лексике / К.А.Тимофеев. – Новосибирск, 1986. – С. 3-13.

151. Тихонов, С.А. Словообразовательная цепочка как единица словообразовательной системы языка / С.А.Тихонов. – РЯШ, 1986. – № 2. – С. 46-52.

152. Тихоновская, Е. Неология английского происхождения: коммуникативно-функциональный аспект / Е.Тихоновская. – М., 2004. – С. 1 – 5.

153. Тлумачальны руска-англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы / пад рэд. М.К.Бузы. – Мн.: Выш. шк., 1994. – 167 с.

154. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск: БелСЭ, 1977-1984. – Т. 1, 1977. – 608 с.; Т. 2, 1978. – 768 с.; Т. 3, 1979. – 672 с.; Т. 4, – 1980. – 768 с.; Т. 5. Кн. 1, 1983; Т. 5. Кн. 2, 1984. – 608 с.

155. Толикина, Е.Н. Синонимы или дублеты? / Е.Н.Толикина // Исследования по русской терминологии: сб. ст. / отв.ред. В.П.Даниленко. – М.: Наука, 1971. – С. 78-89.

156. Тэрміналёгія грамадазнаўства. – Мн., 1927. – 71 с.

157. Тэрміналёгія права. – Мн., 1926. – 104 с.

158. Хлебникова, И.Б. Основы английской морфологии / И.Б.Хлебникова – М.: ЧеРо, 2001. – 127 с.

159. Цыхун, Г.А. Пра некаторыя пытанні тэрміналагічнай працы ў Беларусі / Г.А.Цыхун // Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі: матэрыялы першай нацыянальн. канф. – Мн.,1995. – С. 17-22.

160. Цыхун, Г.А. Шляхі ўладкавання беларускай тэрміналогіі / Г.А.Цыхун // Тэрміналагічны бюлетэнь. – 1997. – Вып. 1. – С. 43-49.

161. Чарняўская, Л. Беларуская тэрміналогія ў дзяржаўных стандартах / Л.Чарняўская // Тэрміналагічны бюлетэнь. – 1999. – Вып. 2. – С. 41-47.

162. Шакун, Л.М. Словаўтварэнне / Л.М.Шакун. – Мн.: Выш. шк., 1978. – 128 с.

163. Шанский, Н.М. Лексикология современного русского языка: учеб. пособие для пед. ин-тов по спец. «Рус. яз. и литература» / Н.М.Шанский. – М.: Просвещение, 1972. – 327 с.

164. Шкраба, І.Р. Мовазнаўчыя тэрміны ў аспекце сінанімічных і варыянтных адносін / І.Р.Шкраба // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1997. – №1 – С. 25-27.

165. Шчэрбін, В.К. Асноўныя этапы тэрмінатворчай дзейнасці / В.К.Шчэрбін // Тэрміналагічны зборнік «89/90». – Мн.: Навука і тэхніка, 1992. – С. 4-8.

166. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / пад рэд. В.У.Мартынава. – Мн.: Навука і тэхніка, 1978 – 1993. – Т. 1. – 440 с.; Т. 2. – 344 с.; Т. 3. – 408 с.; Т. 5. – 320 с.; Т. 6. – 287 с.; Т. 7. – 319 с.; Т. 8. – 272 с.

167. Юдко, А.М. Запазычванне музычных тэрмінаў і іх асваенне ў беларускай мове / А.М.Юдко // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні: матэрыялы навук. канф. – Гродна, 2002. – С. 298-299.

168. Vassilyev, V.A. English Phonetics: A theoretical course / V.A.Vassilyev. – Moscow: Higher school Publishing house, 1970. – 324 c.

# ДАДАТАК

## Рэестр тэрмінаў-англіцызмаў

### *Спартыўная тэрміналогія*

Аверарм (ад англ. over-arm – рука зверху) – спосаб плавання на баку.

Айсінг (ад англ. icing) – пракід шайбы праз усе зоны пры гульні ў хакей.

Акваланг (ад англ. agualung, ад agua – вада + lung – лёгкае) – апарат для дыхання чалавека пад вадой.

Драйв (ад англ. drive) – моцны і нізкі адбіўны ўдар па мячы пры гульні ў тэніс.

Аперкот (ад англ. upper-cut) – удар знізу ў тулава або падбародак пры гульні ў бокс.

Армрэстлінг (ад англ. armwrestling – упартая барацьба) – від барацьбы.

Аўт (ад англ. out) – становішча ў спартыўных гульнях, калі мяч або шайба выходзіць за межы спартыўнай пляцоўкі.

Аўтсайдэр (ад англ. outsider) – каманда, спартсмен, якія займаюць апошняе месца ў спаборніцтве.

Афсайд (ад англ. off-side – па-за гульнёй) – становішча па-за гульнёй у футболе, хакеі і інш.

Бадмінтон (ад англ. badminton, ад Badminton – назва горада ў Англіі) – 1. спартыўная гульня. 2. камплект прылад для такой гульні.

Баксёр (ад англ. boxer) – спартсмен, які займаецца боксам.

Баскетбол (ад англ. basket-ball, ад basket – кошык + ball – мяч) – спартыўная камандная гульня з мячом, які закідаюць рукамі ў падвешанае колца з сеткай.

Батэрфляй (ад англ. butterfly) – спосаб спартыўнага плавання на грудзях, пры якім грабок робіцца адначасовым вынасам абедзвюх рук на паверхню вады.

Бейсбол (ад англ. baseball, ад base – нізавы + ball – мяч) – спартыўная камандная гульня з мячом і бітай, якая нагадвае лапту.

Бекхенд (ад англ. back-hand) – удар злева пры гульні ў тэніс.

Бендзі (ад англ. bandy) – прынятая ў міжнароднай спартыўнай тэрміналогіі назва хакея з мячом на лёдзе.

Бобслей (ад англ. bob-sleigh) – 1. спартыўныя суцэльнаметалічныя сані з рулявым кіраваннем для скараснога спуску з гор па спецыяльна падрыхтаванай трасе. 2. скарасны спуск з гор на такіх санях.

Бокс (ад англ. box – удар) – від спорту.

Боўлінг (ад англ. bowling) – спартыўная разнавіднасць кегляў.

Буліт (ад англ. bullet – куля) – штрафны ўдар з ходу па варотах праціўніка пры гульні ў хакей з шайбай.

Бумеранг (ад англ. boomerang) – кідальная зброя аўстралійцаў у форме серпавіднай завостранай палкі, якая ў выпадку промаху вяртаецца да кідальніка.

Буцы (ад англ. boots) – чаравікі з шыпамі на падэшвах для гульні ў футбол.

Валейбол (ад англ. volley-ball, ад volley – адбіваць на ляту + ball – мяч) – спартыўная гульня з перакіданнем мяча цераз сетку ад адной каманды да другой.

Ватэрпола (ад англ. water-polo) – воднае пола.

Велабол (ад вела + англ. ball) – спартыўная камандная гульня з мячом на веласіпедах.

Віндсёрфінг (ад англ. windsurfing, ад wind – вецер + surfing – катанне на прыбойнай хвалі) – від воднага спорту, звязаны са слізганнем па хвалях, стоячы на коркавай або пенапластавай дошцы з рухомым поручам.

Галкіпер (ад англ. goalkeeper) – варатар у футболе, хакеі, рэгбі.

Гандбол (ад англ. handball) – камандная спартыўная гульня.

Гандыкап (ад англ. handicap) – спартыўныя спаборніцтвы, пры якіх слабейшаму праціўніку для ўраўнаважання шанцаў на поспех аддаецца перавага ва ўмовах, напр. змяншэнне дыстанцыі, нагрузкі.

Гейм (ад англ. game) – пэўны лік ачкоў у некаторых гульнях, напр. у тэнісе; частка спартыўнай гульні ў тэніс.

Гіт (ад англ. heat) – 1. прабег каня на кароткую дыстанцыю; мёртвы гіт – прыход коней да фінішу адначасова – галава да галавы. 2. адзіночны забег ці заезд на пэўную дыстанцыю.

Гол (ад англ. goal) – 1. забіты ў вароты мяч. 2. ачко.

Гольф (ад англ. golf) – гульня ў мяч.

Гунтэр (ад англ. hunter) – дужы верхавы конь, які выкарыстоўваецца для спартыўнага палявання і скачак з перашкодамі.

Джогінг (ад англ. jog – рухацца, падскокваць) – павольны бег, бег для здароўя.

Джолт (ад англ. jolt) – кароткі ўдар у тулава ў боксе.

Драйв (ад англ. drive) – моцны і нізкі адбіўны ўдар па мячы пры гульні ў тэніс.

Дрыблінг (ад англ. dribbling) – вядзенне мяча або шайбы іграком.

Дырэкт (ад англ. direct – прамы) – прамы ўдар у боксе.

Дэрбі (ад англ. derby, ад E.Derby – прозвішча англ. лорда) – спаборніцтвы для 3 і 4 гадовых скакавых рысістых коней.

Жакей (ад англ. jockey) – 1. прафесіянальны яздок на конных скачках. 2. спецыяліст па трэнінгу коней-скакуноў.

Інсайд (ад англ. inside – унутры) – гулец у футбольнай або хакейнай камандзе, які займае ў лініі нападу становішча паміж крайнім і цэнтральным гульцамі.

Інфайтынг (ад англ. infighting) – бой на блізкай дыстанцыі ў боксе.

Картынг (ад англ. carting) – спартыўная гонка на аўтамабілях тыпу карт, а таксама пляц для такіх гонак.

Кеды (ад англ. kads) – лёгкі спартыўны абутак з прарызіненай тканіны на мяккіх рабрыстых гумавых падэшвах.

Кемпінг (ад англ. camping) – спецыяльна абсталяваны лагер для аўтатурыстаў.

Кёрлінг (ад англ. curling) – спартыўная гульня, мэта якой трапіць пушчанай па лёдзе бітай у намаляваную на ім мішэнь.

Кетч (ад англ. catch – лавіць) – разнавіднасць прафесійнай спартыўнай барацьбы, якая дазваляе любыя сілавыя прыёмы.

Кікбоксінг (ад англ. kickbox) – від спорту, які аб’ядноўвае тэхніку і правілы боксу з прыёмамі ўсходніх адзінаборстваў – каратэ і тэквандо; бокс у спалучэнні з ударамі нагамі.

Кікс (ад англ. kicks) – няўдалы ўдар кіем па шары ў більярднай гульні.

Клінкер (ад англ. clinker) – вузкі доўгі човен для акадэмічнага спартыўнага веславання.

Клінч (ад англ. clinch – заціск) – узаемнае захопліванне баксёраў у працэсе бою, што з’яўляецца парушэннем правіл.

Корнер (ад англ. corner) – штрафны вуглавы ўдар у футболе.

Корт (ад англ. court) – пляцоўка для гульні ў тэніс.

Красмен (ад англ. cross-man) – удзельнік кросу.

Краўч (ад англ. crouch = схіляцца, прысядаць) – 1. стойка ў сагнутым становішчы ў боксе. 2. нізкая стойка пры спусках у лыжным спорце.

Кроль (ад англ. crawl) – самы хуткі спосаб спартыўнага плавання на грудзях з пераменнай работай рук і ног.

Крос (ад англ. cross – перасякаць, пераходзіць) – від спартыўнага спаборніцтва, спартыўны бег або гонкі па няроўнай мясцовасці.

Кросінг (ад англ. crossing) – забаронены прыём у забегу, заездзе, калі адразу пасля абгону рэзка перасякаецца шлях саперніку.

Круіз (ад англ. cruise) – марское турыстычнае падарожжа.

Крыкет (ад англ. cricket) – спартыўная камандная гульня з драўляным мячом і бітамі на поле.

Лайнсмен (ад англ. linesman) – памочнік суддзі ў спартыўных гульнях (футболе, тэнісе і інш.), які сігналізуе яму пра становішча мяча і гульцоў.

Лаўн-тэніс (ад англ. lawn-tennis) – прынятая ў міжнароднай спартыўнай тэрміналогіі назва тэніса.

Лідэр (ад англ. leader) – той, хто ідзе першым у спартыўным спаборніцтве.

Матч (ад англ. match) – спартыўнае спаборніцтва паміж дзвюма камандамі або двума праціўнікамі.

Накаўт (ад англ. knock-out) – стан спартсмена ў боксе, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, не можа падняцца на ногі на працягу 10 секунд і лічыцца пераможаным.

Накдаўн (ад англ. knock-down) – стан спартсмена, калі ён, збіты ўдарам праціўніка, можа на працягу 10 секунд падняцца на ногі і працягваць бой.

Пас (ад англ. pass = перадаваць) – перадача мяча, шайбы камунебудзь з ігракоў сваёй каманды ў спартыўнай гульні.

Пасаваць (ад англ. pass) – перадаваць адзін аднаму мяч, шайбу ў спартыўнай гульні.

Пенальці (ад англ. penalty) – штрафны ўдар па варотах праціўніка з адлегласці 11 метраў пры гульні ў футбол, з 12 м пры гульні ў хакей з мячом.

Пенчынгбол (ад англ. punching-ball) – надзімальны скураны мяч грушападобнай формы, падвешаны да платформы, які служыць баксёрам для трэніроўкі.

Пінг-понг (ад англ. ping-pong) – спартыўная гульня маленькім мячом, які перакідваецца ракеткай праз нацягнутую ўпоперак стала сетку; настольны тэніс.

Пласіраваць (ад англ. place – класці, размяшчаць) – накіроўваць мяч у час гульні ў тэніс або пінг-понг дакладна ў вызначанае месца.

Пола (ад англ. polo) – 1. спартыўная камандная гульня ў мяч клюшкай верхам на конях. 2. тое, што і ватэрпола.

Прэсінг (ад англ. pressing, ад press – ціснуць) – спосаб актыўнай абароны ў спартыўных гульнях з мячом (футболе, баскетболе, хакеі).

Пунктбол (ад пункт + англ. ball) – невялікі падвешаны скураны мяч, набіты конскім воласам, які служыць баксёрам для трэніроўкі.

Пушбол (ад англ. push-ball) – спартыўная камандная гульня з вялікім скураным мячом, які трэба прапіхнуць у вароты праціўніка.

Ралі (ад англ. rally) – спартыўныя спаборніцтвы на спецыяльна падрыхтаваных аўтамабілях або матацыклах паводле зададзенага рэжыму руху.

Раунд (ад англ. round – кола, круг) – трохмінутны перыяд у боксе, на працягу якога вядзецца бой.

Рокер (ад англ. rocker ¬ rock – гайдацца) – асабліва складаная фігура ў фігурным катанні на каньках.

Рынг (ад англ. ring) – абгароджаная канатам пляцоўка для боксу.

Рынк (ад англ. rink = каток) – тое, што і скетынг-рынк.

Рынк-хакей (ад англ. rink-hockey) – хакей з мячом на ролікавых каньках.

Рэгбі (ад англ. rugby, ад англ. Rugby = назва горада ў Англіі) – спартыўная камандная гульня накшталт футбола, у час якой дазваляецца браць мяч рукамі.

Рэкардсмен (ад англ. recordsman) – спартсмен, які ўстанавіў рэкорд.

Рэкорд (ад англ. record) – найлепшы вынік, дасягнуты ў якой-н. галіне, напр. у працы, спорце.

Рэслінг (англ. wrestling – спартыўная барацьба) – разнавіднасць прафесіянальнай барацьбы, у якой сумяшчаюцца прыёмы класічнай і вольнай барацьбы і дзюдо.

Свінг (ад англ. swing – ваганне, размах) – бакавы ўдар са значнай адлегласці ў боксе.

Сервер (ад англ. server, ад serve – падаваць мяч) – гулец, які ўводзіць мяч у гульню ў тэнісе і іншых спартыўных гульнях.

Сёрфінг (ад англ. surfing) – від воднага спорту, які заключаецца ў тым, што спартсмен на спецыяльнай дошцы, стоячы, слізгаціць па прыбойных хвалях.

Сінгл (ад англ. single) – гульня ў тэніс, калі кожны бок прадстаўлены адным гульцом.

Скейтборд (ад англ. scate-board) – 1. дошка на роліках. 2. катанне на дошцы з ролікамі.

Скелетан (ад англ. skeleton) – від скараснога спуску з гор на спецыяльных санках без рулявога кіравання.

Скетынг–рынг (ад англ. skating-rink) – пляцоўка з асфальтавым або драўляным пакрыццём для катання на ролікавых каньках.

Скутэр (ад англ. scooter) – аднамесная пласкадонная спартыўная лодка з рэданам 2 і падвясным маторам.

Слайд (ад англ. slide) – рухомае сядзенне для грабца ў гоначнай лодцы.

Смеш (ад англ. smash – удар) – удар па тэніснаму мячу, што ляціць над галавой, каб прызямліць яго на полі праціўніка.

Спартсмен (ад англ. sportsman) – той, хто сістэматычна займаецца спортам.

Спарынг (ад англ. sparring) – трэніровачны бой баксёраў перад спаборніцтвам; вольны бой.

Спідвей (ад англ. speedway) – мотагонкі на гаравым, земляным, травяным або ледзяным трэку.

Спікер (ад англ. speaker, ад англ. speak) – асоба, якая аб'яўляе гледачам рашэнне суддзяў на спаборніцтвах па боксу.

Спорт (ад англ. sport) – фізічныя практыкаванні з мэтай умацавання арганізма, дасягнення высокіх вынікаў у спаборніцтвах.

Спрынт (ад англ. sprint) – спаборніцтва на кароткія дыстанцыі ў атлетычным бегу, катанні на каньках, у веласіпедным спорце, плаванні і інш.

Спрынтэр (ад англ. sprinter) – спартсмен, які спецыялізуецца ў катанні на каньках, у веласіпедным спорце, плаванні і інш. на кароткія дыстанцыі.

Спурт (ад англ. spurt – рывок) – рэзкі, імклівы рывок перад фінішам у час бегу, плавання, катання на каньках, веласіпедных гонак і інш.

Стаер (ад англ. stayer – вынослівы чалавек) – 1. спартсмен, які спецыялізуецца ў бегу ці гонках на доугія дыстанцыі. 2. конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на доўгіх дыстанцыях.

Старт (ад англ. start) – 1. момант пачатку спартыўных спаборніцтваў або ўзлёту лятальнага апарата. 2. месца, з якога пачынаюцца спаборніцтвы па хадзьбе, бегу, плаванню і г.д.

Стопер (ад англ. stopper) – гулец абароны ў футболе і іншых спартыўных гульнях.

Стрэтчынг (ад англ. stretching – расцягванне) – комплекс фізічных практыкаванняў для расцягвання пэўных частак цела, пры якім чаргуюцца напружанне і расслабленне розных мышцаў.

Стыплер (ад англ. steepler) – конь, спецыяльна прывучаны для скачак з перашкодамі.

Стыпль-чэз (ад англ. steeplechase) – бег або скачкі на хуткасць з перашкодамі.

Стэк (ад англ. stick) – хлыст, які выкарыстоўваецца пры верхавой яздзе.

Сэт (ад англ. set) – партыя гульні ў тэніс, у якой неабходна выйграць мінімум 6 яе частак (геймаў), каб выйграць партыю.

Сэтбол (ад англ. set-ball) – становішча ў час гульні ў тэніс, калі аднаму боку не хапае толькі аднаго мяча, каб выйграць партыю.

Тайм (ад англ. time) – перыяд гульні ў футболе, хакеі і іншых спартыўных гульнях з мячом.

Тайм-аўт (ад англ. time-out) – прадугледжаны правіламі перапынак у спартыўнай гульні па просьбе каманды або яе трэнера.

Тандэм (ад англ. tandem) – двухмесны веласіпед, у якім сёдлы размешчаны адно за адным.

Тартан (ад англ. tartan) – сінтэтычны матэрыял, якім накрываюць бегавыя дарожкі, спартыўныя пляцоўкі.

Трот (ад англ. trot) – від алюру, кароткая рысь у каня.

Трэджэн (ад англ. trudgen) – спосаб плавання вольным стылем, які па тэхніцы нагадвае кроль.

Трэк (ад англ. track) – спартыўнае збудаванне з кругавой трасай для трэніровак і спаборніцтваў па веласпорце.

Трэнаж (ад англ. train = выхоўваць, павучаць) – трэніроўка, а таксама комплекс практыкаванняў для трэніроўкі.

Трэнер (ад англ. trainer ¬ train – выхоўваць, навучаць) – спецыяліст, які вучыць якому-небудзь віду спорту ці ўдасканальвае ў ім.

Трэнінг (ад англ. training) – трэніроўка, а таксама выкананне спецыяльнага трэніровачнага рэжыму.

Трэніраваць (ад англ. train – выхоўваць, навучаць) – 1. праводзіць сістэматычныя практыкаванні, каб навучыць каго-небудзь чаму-небудзь. 2. практыкуючы, развіваць што-небудзь.

Тэніс (ад англ. tennis) – спартыўная гульня ў мячык, які перакідваецца ўдарамі ракеткі на спецыяльнай пляцоўцы (корце), раздзеленай сеткай.

Фальстарт (ад англ. false start – няправільны старт) – старт, узяты кім-небудзь з удзельнікаў спаборніцтва раней, чым патрэбна.

Фініш (ад англ. finish) – 1. заключная частка спартыўных спаборніцтваў на хуткасць. 2. канечны пункт спартыўнага бегу на хуткасць. 3. некаторая адлегласць на дыстанцыі перад канечным пунктам.

Фляер (ад англ. flier) – конь, які дасягнуў на скачках найбольшай хуткасці на кароткіх дыстанцыях.

Фол (ад англ. foul – несумленны) – грубы, недазволены прыём у спартыўнай гульні.

Форвард (ад англ. forward) – ігрок нападзення ў футболе, хакеі; нападаючы.

Форсінг (ад англ. forcing, ад force – нагнятаць) – фарсіраваны бой у боксе, які характарызуецца безупыннымі атакамі.

Форхенд (ад англ. forehand) – удар у тэнісе, калі правая рука, якая трымае ракетку, звернута закрытай далонню ўперад.

Фрыстайл (ад англ. freestyle) – скарасны спуск на горных лыжах па ўзгорыстай трасе, спуск з гор з выкарыстаннем розных фігур, скачкі з 2 метровага трампліна з выкананнем сальта, піруэтаў.

Футбол (ад англ. football) – спартыўная камандная гульня з мячом на спецыяльнай пляцоўцы (полі) з варотамі, у якой кожная з каманд ударамі ног імкнецца забіць мяч у вароты праціўніка.

Хакей (ад англ. hockey) – спартыўная камандная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе або з мячом на траве.

Хаўбек (ад англ. half-back) – паўабаронца ў хакеі і футболе.

Хаўтайм (ад англ. halftime) – палавіна гульні (45 мін) у футболе і хакеі.

Хет-трык (ад англ. hat trick) – зрабіць хет-трык – тройчы ў адной гульні (хакеі, футболе) паразіць вароты праціўніка адным і тым жа гульцом.

Холдзінг (ад англ. holding) – парушэнне правіл у боксе, якое заключаецца ў захопліванні рук або тулава праціўніка.

Хулахуп (ад англ. hula-hoop) – 1. гімнастычны абруч, які круцяць вакол тулава. 2. фізічныя практыкаванні, кручэнне абруча вакол цела без дапамогі рук.

Шынгарды (ад англ. shin-guards) – 1. скураныя або брызентавыя шчыткі, якія надзяваюць у спартыўных гульнях на ногі для засцярогі іх ад магчымых удараў. 2. спецыяльныя рукавіцы без пальцаў, якія замяняюць баксёрскія бінты.

Яхтсмен (ад англ. yachtsman) – спартсмен, які займаецца водным спортам на яхтах.

## *Тэхнічная тэрміналогія*

Асдык (ад англ. asdic) – гідралакацыйны прыбор для вызначэння месцазнаходжання падводных аб'ектаў.

Аўтакары (ад аўта + англ. car – вазок) – самаходны вазок для перавозкі грузаў, багажу.

Аўтрыгер (ад англ. outrigger) – дадатковая апора, якая засцерагае ад перакульвання перасовачнае ўстройства, напр. пад'ёмны кран.

Багі (ад англ. buggy – кабрыялет) – адна- або двухмесцавы спартыўны аўтамабіль са здымным адкрытым кузавам і цвёрдай рамай, прызначаны для спаборніцтваў на перасечанай мясцовасці.

Багінг (ад англ. bug – насякомае, жук) – 1. падслухоўванне з дапамогай электронных сродкаў. 2. устройства мініяцюрных паме-

раў для падслухоўвання, якое тайна манціруецца ў жыллі або адзенні, «жучок».

Баласт (ад англ. ballast) – спецыяльны груз для забеспячэння правільнай пасадкі і ўстойлівасці судна, для рэгулявання вышыні палёту аэрастата.

Бампер (ад англ. bumper, ад англ. bump – сутыкацца) – аўтамабільны буфер.

Бафтынг (ад англ. buffeting) – трасенне самалёта пры аднясенні паветраных віхроў ад крыла на хваставое апярэнне.

Бельтынг (ад англ. belting – прывадны пас) – вельмі моцная тэхнічная тканіна палатнянага перапляцення, якая выкарыстоўваецца для вырабу прывадных пасаў, канвеерных стужак і інш.

Блакіратар (ад англ. block – замыкаць) – прыстасаванне, якое дае магчымасць выкарыстоўваць розныя тэлефонныя апараты на адной лініі.

Бленкер (ад англ. blinker, ад англ. blink – мігацець) – прыстасаванне на тэлефонным камутатары, пры дапамозе якога абанент выклікае тэлефаністку

Блінк-кампаратар (ад англ. blink – мігацець + кампаратар) – прыбор для параўнання дзвюх фатаграфій аднаго і таго ж участка неба, якія атрыманы ў розны час адным тэлескопам.

Блок (ад англ. block) – 1. прыстасаванне для пад’ёму грузаў у выглядзе кола з выемкай па акружнасці і перакінутым цераз яго канатам. 2. вузел машыны з некалькіх аднолькавых элементаў

Богхед (ад англ. boghead, ад англ. Boghead – назва мястэчка ў Шатландыі) – разнавіднасць выкапневага вугалю, што ўтварыўся з водарасцяў; выкарыстоўваецца для атрымання вадкага паліва і змазачных рэчываў.

Бойлер (ад англ. boiler) – апарат для падагравання вады парай, якая праходзіць па трубах унутры рэзервуара.

Бокс (ад англ. box) – металічная каробка, праз якую тэлефонны кабель уваходзіць у кабельную скрынку.

Бульдозер (ад англ. bulldozer) – 1. землярыйна–транспартная машына з адвалам, прызначаная для зразання, перасоўвання, разраўноўвання грунту. 2. гарызантальны прэс для гнуцця ў штампах сартавога і паласавога пракату.

Буфер (ад англ. buffer) – прыстасаванне ў паравозе, вагоне, у аўтамабіле і інш. для паслаблення сілы ўдару, штуршка пры сутыкненні.

Відэарэкордэр (ад англ. videorecorder, ад англ. лац. video – бачу + англ. record – запісваць, рэгістраваць) – прыбор для запісвання перадач тэлебачання на магнітную стужку.

Віліс (ад англ. willys, ад англ. J.Willys – прозвішча амер. уладальніка аўтамабільнага прадпрыемства) – легкавая аўтамашына маркі Віліс, выпускалася ў 1943 – 1963 гг.

Віндротар (ад англ. wind – вецер + ротар) – разнавіднасць ветранога рухавіка.

Газгольдэр (ад англ. gasholder) – металічны рэзервуар для захоўвання газу і рэгулявання яго падачы ў газаправодную сетку.

Гайдроп (ад англ. guide-rope) – канат, які скідаецца з дырыжабля або дэрастата для тармажэння пры спуску.

Гентэкс (ад англ. Gentex, ад англ. Generalized Teletype Exchange Service) – міжнародная тэлеграфная сетка агульнага карыстання, абсталяваная аўтаматычнымі тэлеграфнымі станцыямі прамых злучэнняў.

Грэйдэр (ад англ. grader) – 1. спецыяльная машына для выраўнівання палатна грунтавых дарог, планіроўкі адхонаў, пракладкі каналаў і інш. 2. грэйдэрная дарога.

Джып (ад англ. jeep) – марка легкавых і грузапасажырскіх аўтамабіляў павышанай праходнасці, што выпускаюцца ў ЗША з 1963 г.

Драга (ад англ. drag) – плывучая землечарпальная машына, прызначаная для паглыблення рэк і азер, а таксама для распрацоўкі рассыпных залежаў золата і плаціны.

Драглайн (ад англ. dragline) – экскаватар з падвешаным на канатах каўшом, а таксама коўш такога экскаватара.

Дрэгстэр (ад англ. dragster) – гоначны аўтамабіль.

Дрэна (ад англ. drain) – падземны штучны вадасцёк для асушэння грунту.

Дрэнаж (ад англ. drainage, ад англ. drain – труба) – асушэнне грунту з дапамогай сістэмы каналаў, труб.

Дрэнчар (ад англ. drencher, ад англ. drench – змочваць) – насадка-распырсквальнік на трубах проціпажарнай вадаправоднай сеткі.

Думпер (ад англ. dumper) – самазвальная машына для перавозкі сыпкіх рэчываў на кароткія адлегласці.

Дыгітайзер (ад англ. digitizer) – перыферыйная прылада ЭВМ для ўводу графічнай інфармацыі з неферамагнітных носьбітаў (карты і планы мясцовасці і г.д.).

Дынас (ад англ. Grain-y Dinas – назва скалы ва Уэльсе) – вогнетрывалая цэгла, у складзе якой не менш 93 % крэменязёму; выкарыстоўвецца пры пабудове плывільных печаў.

Дынгі (ад англ. dinghy) – маленькі гоначны швербот.

Дыскета (ад англ. diskette) – тонкі гнуткі пластмасавы дыск, пакрыты магнітным слоем з аднаго ці абодвух бакоў, носьбіт інфармацыі ў персанальных ЭВМ.

Дыспетчар (ад англ. dispatcher) – работнік, які рэгулюе рух транспарту або ход работы прадпрыемства з аднаго цэнтральнага пункта.

Дысплей (ад англ. display – паказваць, узнаўляць) – прыбор для візуальнага адлюстравання алфавітна-лічбавай і графічнай інфармацыі ў дыялогавым рэжыме работы чалавека з ЭВМ.

Дэрык (ад англ. derrick) – грузападымальны кран з паваротнай стралой.

Дэтэктафон (ад англ. detectaphone) – апарат са скрытым мікрафонам для падслухоўвання размоў.

Дэфрастацыя (ад дэ + англ. frost) – размарожванне харчовых прадуктаў.

Дэфростэр (ад англ. defroster) – 1. камера ў халадзільніку, якая мае ацяпленне і моцную цыркуляцыю паветра (для захавання яек). 2. прыстасаванне для абдзімання шкла аўтамабіля, каб не абмярзала.

Індэнтар (ад англ. indent – пакідаць адбітак) – наканечнік, уцісканнем якога вымяраюць цвёрдасць матэрыялаў.

Камбайн (ад англ. combine) – складаная машына, якая выконвае некалькі аперацый (напр. збожжаўборачны камбайн, горны камбайн).

Кампаўнд (ад англ. compound – састаўны) – паравая машына з двума цыліндрамі, у якіх пара працуе паслядоўна.

Камкордэр (ад англ. camcorder) – тое, што і відэакамера.

Канвеер (ад англ. conveyer) – устройства для бесперапыннага перамяшчэння вырабаў пры іх апрацоўцы або для транспарціроўкі грузаў.

Каністра (ад англ. canister – бляшанка) – невялікі плоскі бак для бензіну, змазачнага масла.

Кантролер (ад англ. controller – кіраўнік) – прыбор для рэгулявання работы электрарухавіка (у трамваях, тралейбусах і інш.).

Кантэйнер (ад англ. container) – спецыяльная скрыня для перавозкі грузаў без дадатковай апрацоўкі, для навуковай апаратуры, напр. на касмічным караблі.

Караванінг (ад англ. caravaning, ад англ. caravan – прычэп, фургон) – перасоўны будыначак для аўтатурыстаў.

Карт (ад англ. cart) – гоначны мікралітражны аўтамабіль з матацыклетным рухавіком і без кузава.

Картэр (ад англ. carter) – металічная каробка, якая засцерагае рухавік унутранага згарання ад пашкоджання і забруджвання.

Каўпер (ад англ. E.Cowper – прозвішча англ. інжынера і вынаходцы) – апарат для нагрэву паветра, што падаецца ў доменную печ.

Кікстартэр (ад англ. kickstarter) – прыстасаванне для запуску матацыклетнага рухавіка падштурхоўваннем педалі нагой.

Клаксан (ад англ. klaxon) – механічны сігнальны гудок аўтамабіля, трактара.

Клірэнс (ад англ. clearance) – адлегласць паміж найніжэйшымі пунктамі канструкцыі аўтамабіля і дарогай.

Кокс (ад англ. coke) – цвёрдае паліва, якое атрымліваецца з каменнага вугалю, або торфу ў выніку награвання іх без доступу паветра да 950 – 1050 –С.

Кульман (ад англ. Culman – назва фірмы) – прыстасаванне для чарчэння.

Кутэр (ад англ. cutter – рэзаць) – машына для тонкага здрабнення мяса, якая выкарыстохваецца ў каўбаснай вытворчасці.

Ліфт (ад англ. lift) – машына для падымання пасажыраў і грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах і інш.

Мемістар (ад англ. memistor) – электрычная кіруючая апора, здольная запамінаць пададзены на яе сігнал.

Міксер (ад англ. mixer) – механічны або электронны апарат для хуткага змешвання, збівання чаго-небудзь.

Мікшэр (ад англ. mixer) – электрычнае ўстройства для змешвання некалькіх сігналаў у сістэмах гукавога вяшчання або гуказапісу.

Мотаролер (ад англ. motoroller) – від матацыкла з коламі невялікага дыяметра.

Ніпель (ад англ. nipple) – металічная злучальная трубка з разьбой на канцах (у прыладах і механізмах)

Пікап (ад англ. pick-up) – 1. невялікі аўтамабіль, звычайна з адкрытым кузавам і адкіднымі сядзеннямі каля бартоў. 2. прыстасаванне ў камбайне для скошаных сцеблаў і транспартаванне іх у малацільны апарат.

Плунжэр (ад англ. plunger) – поршань у цыліндры высокага ціску.

Радар (ад англ. radar, ад англ. radio detection and ranging – выяўленне і вызначэнне адлегласці пры дапамозе радыё) – тое, што і радыёлакатар.

Радыёла (ад англ. radiola) – апарат, у якім спалучаны радыёпрыёмнік з электрапрайгравальнікам грампласцінак.

Ролер (ад англ. roller, ад англ. roll) – машына для скручвання чайных лістоў.

Рутэр (ад англ. rooter, ад англ. root – падкопваць) – машына для раздраблення камяністых і цвёрдых грунтаў.

Рыфлі (ад англ. riffle) – паглыбленні і выступы на якой-н. паверхні.

Рэкордэр (ад англ. recorder) – прыстасаванне ў гуказапісным апараце, якое ператварае электронныя ваганні разца, каб зафіксаваць гукі на гуканосьбіце.

Рэпітэр (ад англ. repeater) – прыбор, які ўзнаўляе на адлегласці паказанні асноўнага прыбора.

Рэсівер (ад англ. receiver – атрымліваць) – 1. рэзервуар для ўтварэння запасу газаў, пары або паветра, а таксама для выраўноўвання ціску іх у выпадку нераўнамернай растраты або папаўнення. 2. прыёмная частка тэлеграфнага апарата або тэлемеханічнага прыстасавання.

Сельсін (ад англ. selsyn, ад англ. self + гр. syn(chronos)) – самасінхранізавальная электрычная машына для перадачы на адлегласць інфармацыі аб вугле павароту вала другой машыны; выкарыстоўваецца ў сістэмах аўтаматыкі і тэлемеханіцы.

Сільфон (ад англ. sylphon) – металічная тонкасценная цыліндрычная абалонка з папярочнай гафрыроўкай бакавой паверхні, якая прымяняецца для гібкага злучэння трубапровадаў.

Скрубер (ад англ. scrubber, ад англ. scrub – скрэбсці) – 1. цыліндрычны апарат для ачысткі прамысловага газу шляхам прапускання праз распыленую вадкасць. 2. барабанная машына для прамывання карысных выкапняў.

Скрэпер (ад англ. scraper) – землярыйна-транспартная машына для дарожных работ.

Слайд (ад англ. slide) – фатаграфічны здымак на шкле, празрыстай плёнцы для праекцыйнага ліхтара.

Спідометр (ад англ. speed + -метр) – прыбор для вымярэння хуткасці руху транспартных машын і пройдзенай адлегласці.

Спрынклер (ад англ. sprinkler) – аўтаматычная водараспырсквальная прылада на трубаправодах сістэм пажарапарушэння.

Стакер (ад англ. stacker, ад англ. stack – нагрувашчваць) – перасоўны самаходны канвеер, пры дапамозе якога ўкладваюцца ў штабелі калоды, кароткія бярвёны і іншыя матэрыялы.

Стартэр (ад англ. starter) – 1. той, хто дае сігнал старту. 2. прыстасаванне для запуску рухавіка ўнутранага згарання.

Статар (ад англ. stator) – 1. нерухомая частка электрычнай машыны, у сярэдзіне якой верціцца ротар. 2. нерухомая частка паравой турбіны, кампрэса, гідрапомпы, гідраматора і г.д.

Стопар (ад англ. stopper – корак, затычка) – 1. прыстасаванне для фіксацыі рухомых частак механізма ў пэўным становішчы. 2. механізм для закрывання клапана ў сталеразліўных каўшах.

Строп (ад англ. strop – пятля, рэмень) – трос для падвешвання гандолы да дырыжабля, аэрастата, для ўтрымання чалавека або грузу на парашуце.

Стрэнер (ад англ. strainer) – фільтр для ачысткі ад пясчынак нафты, якая выпампоўваецца з глыбіні.

Таймер (ад англ. timer) – прыбор, які пасля сканчэння зададзенага прамежку часу аўтаматычна ўключае ці выключае апарат або сігналізуе аб наступленні моманту іх уключэння ці выключэння.

Таймограф (ад англ. timograph, ад англ. time – час + гр. grapho – пішу) – прыбор, які рэгіструе час узнікнення і працягласць працэсаў або з’яў; выкарыстоўваецца для кантролю часу работы машын, працягласці якой-н. аперацыі і інш.

Таймтактар (ад англ. timetactor) – кантактар з рэгулюемай вытрымкай часу ўключэння; выкарыстоўваецца ў схемах пуску электрычных рухавікоў.

Тандэм (ад англ. tandem) – размяшчэнне аднародных машын або іх частак у агрэгаце на адной восі, лініі.

Твістар (ад англ. twistor – паварочваць, выгінаць) – запамінальны элемент у аўтаматыцы і вылічальнай тэхніцы, адрэзак дроту з магнітнай паверхняй, намагнічванне якога праходзіць па вінтавой лініі.

Тосцер (ад англ. toaster) – прыстасаванне для прыгатавання тостаў.

Трак (ад англ. track) – звяно гусеніцы трактара, танка і інш.

Тралей (ад англ. trolley) – кантактны провад, па якім электрычны ток паступае ў цягавыя рухавікі электратранспарту, напр. трамваяў.

Тралейбус (ад англ. trolleybus) – гарадская пасажырская бязрэйкавая машына, якая прыводзіцца ў рух электрычным рухавіком, што бярэ энергію ад двух правадоў.

Тралейкар (ад англ. trolleycar) – самаходная бязрэйкавая грузавая павозка, электрарухавік, якой жывіцца ад падвесных кампактных правадоў.

Трамвай (ад англ. tramway) – гарадскі пасажырскі транспарт з аднаго-двух вагонаў, якія рухаюцца па рэйках з дапамогай электрычнага рухавіка, што бярэ энергію ад аднаго провада.

Транзістар (ад англ. transistor) – невялікі радыёпрыёмнік на паўправадніках.

Трап (ад англ. trap) – апарат для аддзялення нафты ад газу, калі яны выходзяць са свідравіны.

Трыгер (ад англ. trigger) – устройства, якое можа доўга знаходзіцца ў адным з двух станаў устойлівай раўнавагі і пераключацца з аднаго стану ў другі ў якасці элемента памяці ў лічбавых вылічальных машынах, у электроніцы і інш.

Трымер (ад англ. trimmer) – перасоўная пагрузачная машына для сыпкіх грузаў, якая адкідае іх убок на адлегласць да 30 м.

Трэйлер (ад англ. trailer) – 1. прычэп для перавозкі цяжкіх грузаў. 2. цягач з прычэпнымі вазкамі.

Тумблер (ад англ. tumbler) – механічны пераключальнік у электра- і радыётэхнічных прыборах.

Тэлекс (ад англ. telex, ад англ. tel(egraph) – тэлеграф + ex(change) – абмен) – 1. міжнародная сетка абаненцкага тэлеграфавання, абсталяваная аўтаматычнымі тэлеграфнымі станцыямі. 2. апарат, прызначаны для такой сувязі.

Тэлерэкордынг (ад тэле + англ. recording – запіс) – тэлевізійнае абсталяванне для запісу тэлевізійных праграм на кінастужку.

Тэлетайп (ад англ. teletype, ад гр. tele – далёка + англ. type) – літарадрукавальны апарат для прыёму і перадачы тэкстаў па тэлеграфных каналах сувязі.

Тэлетайпсетэр (ад тэлетайп + англ. setter – прыстасаванне для рэгуліроўкі) – прыстасаванне да наборнага радкоўаадліўнога аўтамата, якое забяспечвае перадачу набору ў выглядзе перфараванай стужкі па лініях тэлеграфнай сувязі.

Тэмплет (ад англ. templet) – плоская фотамадэль апарата, машыны канстукцыі, якая выкарыстоўваецца пры праектаванні складаных прамысловых установак, збудаванняў і інш.

Фарсунка (ад англ. force-pump – нагнятальная помпа) – прыстасаванне для распыльвання вадкасцей або парашкападобных матэрыялаў.

Фідэр (ад англ. feeder, ад англ. feed – жывіць) – прыстасаванне для аўтаматычнай падачы ў машыну сыравіны раўнамернымі порцыямі.

Фільматайп (ад англ. film – плёнка + type – адбітак) – фотанаборная машына з ручной устаноўкай шрыфтавага шаблону і фотаматэрыялу.

Фільмпак (ад англ. filmpack) – святлонепранікальная каробка з негатыўнай фотаплёнкай.

Фіцінг (ад англ. fitting, ад англ. fit – манціраваць) – фасонная дэталь (муфта, трайнік, ніпель і інш.), пры дапамозе якой злучаюцца на разьбе трубы.

Форд (ад англ. H.Ford – прозвішча амер. аўтамабільнага прамыслоўца) – марка легкавых і грузавых аўтамабіляў, якія выпускаюць заводы амерыканскай фірмы «Форд».

Фолдэр (ад англ. fold – складка) – фальцавальная машына.

Фотасетер (ад фота + англ. setter – рэгулюючае прыстасаванне) – фотанаборная машына, пабудаваная як радкаадлівальная машына інтэртып.

Фрызер (ад англ. freezer) – машына для ўзбівання і замарожвання сумесі паўфабрыкатаў у вытворчасці марожанага.

Хардтап (ад англ. hardtop) – закрыты кузаў легкавога аўтамабіля без бакавых стоек.

Хон (ад англ. hone) – інструмент у выглядзе металічнай галоўкі з абразіўнымі брускамі, якім ханінгуюць.

Цюбінг (ад англ. tubing) – металічная ці жалезабетонная пліта ў выглядзе сегмента, якая з’яўляецца часткай воданепранікальнага цыліндрычнага мацавання шахт і тунеляў.

Чызель (ад англ. chisel – долата) – цяжкі культыватар для глыбокага рыхлення глебы.

Шымі (ад англ. shimmy – кашуля) – самаваганне насавога кола трохколавага шасі самалёта пры руленні, разбегу.

Шэпінг (ад англ. shaping-machine) – папярочна-стругальны станок.

Эканамайзер (ад англ. economizer) – 1. прыстасаванне для награвання вады ў кацельных установках, паветра ў цеплаабменных апаратах цеплынёй дымавых газаў ці адпрацаванай парай. 2. прыстасаванне ў карбюратары рухавіка ўнутранага згарання, якое служыць для абагачэння гаручай сумесі пры максімальнай нагрузцы.

Эквалайзер (ад англ. equalizer) – радыёэлектроннае ўстройства ў высакакласных стэрэафанічных комплексах, рэгулятар частотных характарыстык гуку, тэмбру.

Экструдзінг-працэс (ад англ. extrude – выціскаць, прасаваць + працэс) – апрацоўка ціскам розных матэрыялаў, каб змяніць іх форму, надаць ім інш. механічныя ўласцівасці і г.д.

Эрліфт (ад англ. airlift) – устройства для пад’ёму вадкасці з дапамогай скампрэсаванага паветра, выкарыстоўваецца пры здабыванні нафты і вады з буравых свідравін.

## *Фізічна-матэматычная тэрміналогія*

Аверлэй (ад англ. overlay) – частка машыннай праграмы, якая ў ходзе выканання праграмы загружаецца ў памяць на месца нейкай папярэдняй інфармацыі.

Алгол (ад англ. algol – алгарытмічная мова) – адна з моў праграмавання для электронна-вылічальных машын.

Аперанд (ад англ. operand) – велічыня, над якой адбываецца аперацыя пры рэалізацыі праграмы ў электронна-вылічальнай машыне.

Ацылаваць (ад англ. acyl – кіслотны радыкал) – замяшчаць атамы вадароду ў арганічных злучэннях дапаўняльнікам карбонавай кіслаты.

Байт (ад англ. byte) – адзінка колькасці інфармацыі, якая ў электронна-вылічальнай машыне апрацоўваецца як адно цэлае.

Барн (ад англ. barn) – фізічная адзінка вымярэння эфектыўнага папярочнага сячэння атамных ядзер.

Барэль (ад англ. barrel – бочка) – мера ёмістасці і аб'ёму сыпкіх і вадкіх рэчываў у ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах, роўная для сыпкіх рэчываў 164,65 л, для вадкіх рэчываў 169 л.

Барэтэр (ад англ. barretter) – стабілізатар сілы току, прылада ў выглядзе запоўненага вадародам шклянога балона, унутры якога змешчаны тонкі жалезны дрот, выкарыстоўваецца ў радыёэлектронных прыборах.

Бел (ад англ. A.Bell – прозвішча амерыканскага вынаходцы (1847 – 1922)) – лагарыфмічная адзінка адносін дзвюх фізічных велічынь (энергій, магутнасцей токаў і інш.)

Біт (ад англ. bit, ад англ. binary – дваісты + digit – знак, лічба) – адзінка вымярэння колькасці інфармацыі ў двайчнай сістэме злічэння; адпавядае інфармацыі, якую атрымліваюць пры ажыццяўленні адной з дзвюх роўнаверагодных падзей.

Блокінг-генератар (ад англ. blocking – замыканне + генератар) – аднalямпавы генератар з трансфарматарнай зваротнай сувяззю, прызначаны для стварэння электрычных імпульсаў малой працяглаcці, якія перыядычна паўтараюцца.

Бокс (ад англ. box – скрынка) – герметычная або ізаляваная камера для работы з мікраарганізмамі, радыёактыўнымі рэчывамі і інш.

Бустэр (ад англ. booster, ад boost – падвышаць) – прыстасаванне для павелічэння магутнасці або хуткасці машыны, механізма ў момант асабліва вялікіх нагрузак (напр. стартавы паскаральнік у ракетнай тэхніцы)

Бушаль (ад англ. bushel) – мера ёмістасці вадкіх і сыпкіх рэчываў у Англіі, ЗША.

Бэйсік (ад англ. basic) – самая простая інфармацыйная мова праграмавання, створаная спецыяльна для навучання рабоце на ЭВМ.

Варактар (ад англ. var(iable) – зменлівы + act – дзеянне) – тое, што і варыкап.

Варыкап (ад англ. varicap) – паўправаднікова прыбор, ёмістасць якога залежыць ад прыкладзенага электрычнага напружання.

Варыконд (ад англ. varicond) – кандэнсатар з рэзка выражанай нелінейнай залежнасцю ёмістасці ад прыкладзенага электрычнага напружання.

Варыстар (ад англ. varistor) – паўправаднікова рэзістар, электрычнае супраціўленне якога нелінейна мяняецца ў залежнасці ад напружання.

Ват (ад англ. watt, ад англ. D.Watt – прозвішча англ. інжынера і вынаходцы (1736 – 1819)) – адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная магутнасці, пры якой за 1 с раўнамерна выконваецца работа ў 1 джоўль.

Галон (ад англ. gallon) – мера аб'ёму вадкіх і сыпкіх рэчываў у Англіі.

Генры (ад англ. J.Henry – прозвішча амер. фізіка) – адзінка індуктыўнасці ў Міжнароднай сістэме адзінак, роўная індуктыўнасці такога электрычнага контуру, у якім скорасць змены току ў 1 ампер за 1 с выклікае ЭДС самаіндукцыі ў 1 вольт.

Гетэр (ад англ. getter) – рэчыва, якое ўводзяць у электронную лямпу, каб выдаліць рэшткі газу; паглынальнік газу.

Гільберт (ад англ. W.Gilbert – прозвішча англ. фізіка) – адзінка магнітарухальнай сілы і розніца магнітных патэнцыялаў у СГС сістэме адзінак.

Глюоны (ад англ. glue – клей) – электрычна нейтральныя часціцы з нулявой масай спакою і спінам.

Грыдлік (ад англ grid – сетка + leak – ток) – вялікае супраціўленне ў спалучэнні з невялікім пастаянным кандэнсатарам у коле сеткі з электроннай лямпы.

Грэй (ад англ. S.Gray – прозвішча англ. вучонага) – адзінка паглынутай дозы выпрамянення, роўная энергіі ў 1 джоўль выпрамянення, перададзенага масе абмпрамененага рэчыва ў 1 кг.

Дайка (ад англ. dike – перагародка, каменная сцяна) – пластападобнае магматычнае цела (інтрузія), абмежаванае паралельнымі плоскасцямі.

Джоўль (ад англ. J.Joule – прозвішча англ. фізіка) – адзінка вымярэння работы, энергіі і колькасці цеплыні ў Міжнароднай сістэме адзінак.

Дыэлектрык (ад англ. dialectric, ад dia – праз + англ. electric – электрычны) – рэчывы, якія характарызуюцца малой электраправоднасцю, напр. шкло, фаянс, слюда.

Інтэрфейс (ад англ. interface) – сістэма уніфікаваных сувязей і сігналаў у вылічальнай тэхніцы, праз якія ўстройствы вылічальнай сістэмы злучаюцца паміж сабой.

Кандуктаметрыя (ад англ. conducti(vity) – электраправоднасць + -метрыя) – электрахімічны метад аналізу, які грунтуецца на вымярэнні электраправоднасці раствораў.

Кандуктомер (ад англ. conducti(vity) – элетраправоднасць + -метр) – прыбор для вымярэння электраправоднасці вадкасці або пары.

Квазар (ад англ. quasar, ад quasistellar radiosource – квазізоркавая радыёкрыніца) – зоркападобная крыніца касмічнага выпрамянення, якая сілай святла ў многа разоў пераўзыходзіць Сонца.

Кварк (ад англ. quark – нешта няпэўнае, містычнае – неалагізм ірландскага пісьменніка Дж.Джойса) – гіпатэтычная часціца, з якіх, як мяркуецца, складаюцца элементарныя часціцы.

Кельвін (ад англ. W.Kelvin – прозвішча англ. фізіка) – адзінка тэмпературы па тэрмадынамічнай шкале ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ), роўная 1/273,16 частцы тэрмадынамічнай тэмпературы трайнога пункта вады

Крэшэр (ад англ. crusher – давіць, таўчы) – металічны стрыжань, па дэфармацыі якога вызначаюць ціск газаў у час выбуху.

Лазер (ад англ. laser, ад Light Amplification by Stimulated Emission of Radiation – узмацненне святла ў выніку вымушанага выпрамянення) – прыбор для атрымання канцэнтраваных светлавых пучкоў.

Ліга (ад англ. league) – мера адлегласці, прынятая ў ЗША, Англіі, роўная 3 мілям.

Мазер (ад англ. maser, ад Microwave Amplification by Stimulated Emission of Radiation – узмацненне мікрахваляў пры дапамозе індуцыраванага выпрамянення) – прыбор для атрымання канцэнтраванага пучка мікрахвалевага электрамагнітнага выпрамянення.

Максвел (ад англ. J.Maxwell – прозвішча англ. фізіка (1831 – 1879)) – адзінка магнітнага патоку.

Меш (ад англ. mesh – клетка, ячэйка) – адзінка шчыльнасці перапляценняў драцяных сітаў, якая абазначае колькасць адтулін сіта на адрэзку ў адзін дзюйм; ужываецца ў ЗША, Велікабрытаніі і некаторых іншых краінах.

Міл (ад англ. mill – тысяча) – адзінка даўжыні ў сістэме англійскіх мер, роўная 0,0254 мм.

Нейл (ад англ. nail) – адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 5,715 см.

Непер (ад англ. D.Napier – прозвішча шатл. матэматыка (1550 – 1617)) – адзінка лагарыфмічнай адноснай велічыні.

Ніколь (ад англ. W.Nicol – прозвішча англ. фізіка) – прызма з ісландскага шпату, якая служыць для палярызацыі светлавых хваль.

Ньютан (ад англ. I.Newton – прозвішча англ. фізіка) – адзінка вымярэння сілы ў Міжнароднай сістэме адзінак (СІ).

Палм (ад англ. palm – далонь) – адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 7,62 см.

Паўндаль (ад англ. poundal) – адзінка сілы ў сістэме англійскіх мер, роўная 0,138255 ньютана.

Пентагрыд (ад пента + англ. grid – сетка) – электронная лямпа, якая мае 7 электродаў: анод, катод і 5 сетак.

Пермеаметр (ад англ. permea(bility) – пранікальнасць + метр) – прыбор для вымярэння магнітных характарыстык ферамагнітных матэрыялаў.

Перч (ад англ. perch) – адзінка даўжыні ў англ. сістэме мер, роўная 5,0292 м (сінонім – род (ад англ. rod))

Пінт (ад англ. pint) – мера вадкасцей і сыпкіх рэчываў у Англіі, ЗША і др. краінах.

Пінч-эфект (ад англ. pinch – сціскание + эфект) – сціскание плазмы, праз якую цячэ электрычны ток, магнітным полем, што ўтвараецца самім токам.

Планарны (ад англ. planar – плоскі); п-ная тэхналогія – высокавытворчы метад групавога вырабу паўправадніковых прыбораў і інтэгральных мікрасістэм.

Поль (ад англ. pole) – адзінка даўжыні ў англ. сістэме мер, роўная 5,0292 м.

Пульсар (ад англ. pulsar, ад Pulsating Sources of Radioemission – пульсіруючыя крыніцы радыёвыпраменьвання) – касмічныя крыніцы імпульснага электрамагнітнага выпрамянення.

Пупінізацыя (ад англ. M.Pupin – прозвішча амер. фізіка) – спосаб павелічэння дальнасці перадач па правадных лініях сувязі штучным узмацненнем іх індуктыўнасці.

Род (ад англ. rod) – адзінка даўжыні ў англ. сістэме мер, роўная 5,0292 м.

Роп (ад англ. rope – вяроўка) – адзінка даўжыні ў англійскай сістэме мер, роўная 6,096 м.

Руд (ад англ. rood) – адзінка плошчы ў англ. сістэме мер, роўная 1011,71 м$^2$.

Рэзерфард (ад англ. E.Rutherford = прозвішча англ. фізіка) – адзінка радыёактыўнасці, якую выцясняе кюры.

Рэзістыўны (ад англ. resistive) – які датычыць адпору; рэзістыўны узмацняльнік – прыстасаванне для ўзмацнення электрычных сігналаў, у якім нагрузкай актыўнага элемента з'яўляецца рэзістар.

Рэлей (ад англ. J.Rayleigh – прозвішча англ. фізіка) – адзінка ўдзельнага акустычнага супраціўлення, роўная ўдзельнаму акустычнаму супраціўленню асяроддзя.

Свіп–генератар (ад англ. sweep – бесперапынны рух + генератар) – генератар электрамагнітных ваганняў, частка якіх аўтаматычна змяняецца ў пэўных межах; прымяняецца ў вымяральнай апаратуры.

Свопінг (ад англ. swapping) – абмен старонкамі памяці; падпампоўванне дадзеных у памяць.

СІ (ад англ. SI, ад System International – міжнародная сістэма) – сістэма адзінак вымярэння фізічных велічынь, прынятая XI Генеральнай канферэнцыяй па мерах і вазе ў 1960 г.; Міжнародная сістэма адзінак.

Сінглеты (ад англ. single = адзіночны) – адзіночныя спектральныя лініі, абумоўленыя электроннымі квантавымі пераходамі паміж нерашчэпленымі ўзровямі квантавай сістэмы.

Скеніраваць (ад англ. scan) – бесперапынна паэлементна праглядваць прастору праменем радыёлакатара.

Скін-эфект (ад англ. skin – скура + эфект) – 1. неаднароднае размеркаванне пераменнага току і звязанага з ім электрамагнітнага поля па сячэнні правадніка: працяканне току высокай частаты не па усім сячэнні правадніка, а па яго паверхневым слоі. 2. узмацненне магнітнага поля ў паверхневых слаях целаў, што намагнічваюцца пераменным магнітным полем.

Скролінг (ад англ. scrolling) – вертыкальнае ці гарызантальнае перамяшчэнне відарысу ў акне экрана.

Скрэмблер (ад англ. scrambler) – кадавальная прылада ў лічбавым канале.

Слаг (ад англ. slug) – адзінка масы ў сістэме англійскіх мер, роўная 14,5939 кг.

Слэш (ад англ. slash) – скосая рыса «/», што выкарыстоўваецца ў якасці сімвала ці знака аперацыі ў ЭВМ.

Спін (ад англ. spin – вярчэнне) – уласны момант колькасці руху элементарнай часціцы (электрона, пазітрона, пратона і т.д.).

Спінар (ад англ. spin) – матэматычная велічыня, якая характарызуецца асабістым законам пераўтварэння ў выпадку пераходу ад адной сістэмы каардынат да іншай.

Спрайт (ад англ. sprite) – вызначаная карыстальнікам канфігурацыя відарысу, якую можна перамяшчаць па экране як адзінае цэлае.

Спулінг (ад англ. spooling) – адначасовае з выкананнем праграм чытанне ўваходнага ці запіс выходнага патока дадзеных на запамінальную прыладу з мэтай наступнай апрацоўкі.

Стокс (ад англ. J.Stokes – прозвішча англ. фізіка і матэматыка) – адзінка вымярэння кінематычнай вязкасці ў СГС сістэме адзінак, роўная кінематычнай вязкасці вадкасці шчыльнасцю 1 г/см$^3$.

Стон (ад англ. stone) – мера вагі ў англ. сістэме мер, роўная 6,35 т.

Стэк (ад англ. stack) – структура дадзеных, у якой новы элемент заўсёды запісваецца ў яе пачатак, адкуль забіраецца і першы патрэбны элемент.

Трамблёр (ад англ. trembler) – прыбор сістэмы запальвання карбюратарных рухавікоў унутранага згарання, які падае электрычны ток высокага напружання да свечак запальвання.

Транзістар (ад англ. transistor) – паўправадніковы прыбор, які служыць для ўзмацнення і пераўтварэння электрычных сігналаў.

Трыгатрон (ад англ. trigger – пускавое ўстройства + -трон) – трохэлектродны газаразрадны прыбор з халодным катодам і кіруемым іскравым разрадам, які выкарыстоўваецца ў якасці камп’ютэра ў розных устройствах.

Трымер (ад англ. trimmer) – электрычны кандэнсатар пераменнай ёмістасці, які выкарыстоўваецца для настройкі контураў высокай частаты ў радыёапаратуры.

Трэк (ад англ. track) – след, які пакідае зараджаная часціца ў рэчыве.

Тырыстар (ад англ. thyristor, ад англ. гр. thyra – дзверы + англ. (res)istor – супраціўленне) – кіруемы паўправадніковы вентыль.

Тэрмістар (ад терма- + англ. (res)istor – супраціўленне) – паўправадніковае супраціўленне, велічыня якога ў значнай ступені залежыць ад тэмпературы.

Тэсцер (ад англ. tester, ад test – выпрабоўваць, даследаваць) – універсальны вымяральны прыбор, пры дапамозе якога можна вызначыць розныя электрычныя велічыні (напр.: актыўнае супраціўленне, сілу электрычнага току або напружанне ў электрычных ланцугах), праверыць радыёлакацыйную станцыю і іншую высокачастотную апаратуру.

Файл (ад англ. file) – пайменаваная вобласць дадзеных у ЭВМ.

Фарада (ад англ. M.Faraday – прозвішча англ. фізіка) – адзінка вымярэння электычнай ёмістасці ў Міжнароданай сістэме адзінак

(СІ), роўная электроннай ёмістасці праваднiка, патэнцыял якога павялiчваецца на 1 вольт пры перадачы яму электрычнага зараду ў 1 кулон.

Фарадэй (ад англ. M.Faraday) – адзiнка колькасцi электрычнасцi, якая выкарыстоўваецца ў электрахiмii (роўная 9,65 x $10^4$ кулонаў).

Фартран (ад англ. for(mula) tran(slator)) – фармальная мова для апсiання алгарытмаў на электронна-вылiчальнай машыне.

Федынг (ад англ. fading, ад fade – паступова затухаць, замiраць) – кароткачасова неўпарадкаваная або перыядычна змяняльная iнтэнсiўнасць сiгналаў, якiя прымаюцца радыёпрыёмнiкам.

Фiдэр (ад англ. feeder, ад feed – жывiць) – провад, якi перадае электраэнергiю на сiлкавальныя пункты або злучае радыёперадатчык з антэнай.

Флiкер-эфект (ад англ. flicker – мiгцець + эфект) – нераўнамернае ў часе выпусканне электронаў нагрэтай металiчнай паверхняй у сувязi з трапленнем на яе пабочных атамаў.

Флоп (ад англ. flop) – адзiнка затрат, патрэбных для выканання матрычных i вектарных аперацый.

Фурлонг (ад англ. furlong) – адзiнка даўжынi ў англ. сiстэме мер, роўная 220 ярдам, або 201,168 м.

Фут (ад англ. foot – ступня) – англ. мера даўжынi, роўная 0,3048 м; ужывалася раней i ў некаторых iншых краiнах, напр. у Расii.

Хэнд (ад англ. hand) – адзiнка даўжынi ў англiйскай сiстэме мер, роўная 10,1 %.

Чып (ад англ. chip) – крышталь разам з нанесенай на яго iнтэгральнай схемай.

Чэйн (ад англ. chain) – адзiнка даўжынi ў англ. сiстэме мер, роўная 22 ярдам.

Шунт (ад англ. shunt – адгалiнаванне) – электрычны або магнiтны ланцуг, якi ўключаецца паралельна асноўнаму ланцугу вымяральнага прыбора для аслаблення току.

Электрэт (ад англ. electret) – дыэлектрык, даведзены да васковага стану i зацвярдзелы ў электрычным полi, якi здольны сам ствараць электрычнае поле i пасля спынення электрызацыi.

Янскi (ад англ. K.Jansky – прозвiшча амер. вучонага i вынаходцы) – адзiнка спектральнай шчыльнасцi струменю вылучэння, якая прымяняецца ў радыёастраномii.

Ярд (ад англ. yard) – адзiнка даўжынi ў англ. сiстэме мер, роўная 91,44 см

## *Марская тэрміналогія*

Атэртрал (ад англ. otter trawl) – рыбалоўная сетка, якая цягнецца за суднам на доўгім стальным тросе.

Аўрал (ад англ. over all) – тэрміновая работа на судне, у якой удзельнічае ўся каманда.

Аўтборт (ад англ. outboard) – падвесны матор, часам і сама лодка з падвесным маторам.

Аўтрыгер (ад англ. outrigger) – лодка з вынаснымі ўключынамі для вёсел, а таксама самі вынасныя ўключыны.

Баркенціна (ад англ. barquentine) – марское грузавое судна з трыма і больш мачтамі, з якіх пярэдняе мае рэі.

Батдэк (ад англ. boot-deck) – палуба пасажырскага судна, на якой размешчаны выратавальныя шлюпкі.

Бімс (ад англ. beams) – папярочныя бэлькі ў корпусе судна, якія падтрымліваюць палубу.

Блістэр (ад англ. blister – пузыр) – супрацьміннае патаўшчэнне корпуса карабля.

Блокшыў (ад англ. block-ship) – корпус старога судна, з якога знята абсталяванне і якое прызначана для плывучага складу або жылля.

Брыдж (ад англ bridge-deck ← bridge = мосцік + deck = палуба) – верхняя палуба грамадзянскіх суднаў, дзе размешчаны штурманская і рулявая рубка.

Брыдэль (ад англ. bridle – аброць) – ланцуг для ўтрымання судна на рэйдзе, прымацаваны адным канцом да якара, а другім да плывучай бочкі.

Брэкватэр (ад англ. breakwater, ад англ. break – развіваць + water – вада) – каменная загарода для абароны марской гавані ад хваль; хвалярэз.

Ваер (ад англ. wire) – стальны трос для буксіравання трала.

Ватэрвейс (ад англ. waterway) – тоўстая дошка драўлянага палубнага насцілу уздоўж борта судна.

Вельбот (ад англ. whale-boat) – лёгкая веславая шлюпка з вострым носам і кармой, якая выкарыстоўваецца на марскіх промыслах.

Вельсы (ад англ. wales – рубцы) – дошкі абшыўкі судна, размешчаныя пад ватэрлініяй; надводны борт.

Гайдроп (ад англ. guide-rope) – канец сталёвага троса, які дапамагае ўтрымліваць прыдонную частку трала на зададзенай глыбіні.

Гельмпарт (ад англ. helmport) – адтуліна ў карманнай частцы корпуса судна, праз якую праходзіць вось руля.

Гіг (ад англ. gig) – шасці- або васьмівёславая карабельная шлюпка з нізкімі бартамі.

Докер (ад англ. docker) – партовы грузчык, рабочы дока.

Донка (ад англ. donkey-engine – дапаможны рухавік) – поршневы паравы насос на судне.

Драга (ад англ. drag) – спецыяльная сетка для здабывання з дна глыбокіх вадаёмаў жывёл і раслін.

Дрыфтэр (ад англ. drifter, ад англ. drift – дрэйфаваць) – марское рыбапрамысловае судна, аснашчанае плывучымі сеткамі, здольнымі захопліваць рыб, якія да іх дакранаюцца.

Дыптанк (ад англ. deep-tank – глыбокая цыстэрна) – цыстэрна на транспартных суднах для вадзянога баласту ці вадкага паліва.

Дыспач (ад англ. dispatch) – прэмія за датэрміновую пагрузку або разгрузку судна.

Дэдвейт (ад англ. deadweight) – поўная грузапад’ёмнасць судна, якая ўключае сумарную вагу грузаў, пасажыраў, экіпажа, паліва, вады і інш. неабходных для плавання запасаў.

Дэйдвуд (ад англ. deadwood) – насавая або кармавая падводная частка судна ў месцы спалучэння кіля з з фарштэўнем.

Дэк (ад англ. deck) – навясная палуба на пасажырскіх суднах.

Дэмерэдж (ад англ. demurrage) – штраф за прастой судна ў час пагрузкі звыш абумоўленага дагаворам тэрміну.

Камендор (ад англ. commander) – матрос-артылерыст у рускім флоце (да 1917 г.) і флотах некаторых іншых дзяржаў.

Канцэлінг (ад англ. cancelling – скасаванне) – крайні тэрмін прыбыцця зафрахтаванага судна ў порт для пагрузкі, пасля якога фрахтавальнік мае права скасаваць кантракт.

Катэр (ад англ. cutter) – 1. невялікае самаходнае судна для розных мэт. 2. ваенна-марская парусна-грабная шлюпка.

Кафердам (ад англ. coffer-dam) – адсек на гандлёвых суднах паміж танкамі і іншымі карабельнымі памяшканнямі.

Квартэрдэк (ад англ. quater-deck) – прыўзнятая частка верхняй палубы ў кармавой частцы судна.

Кеч (ад англ. ketch) – невялікае двухмачтавае парусная судна.

Кільблок (ад англ. keelblock) – падпора ў выглядзе брусоў, накладзеных адзін на адзін, на якую становіцца судна ў пошуку будавання.

Кільсан (ад англ. keelson) – падоўжаная бэлька на судне, якая размешчана зверху шпангаўтаў паралельна кілю.

Кінгстон (ад англ. kingston) – клапан у падводнай частцы судна для набірання або вылівання вады.

Кліпер (ад англ. clipper) – 1. быстраходнае марское паруснае судна з трыма мачтамі. 2. быстраходнае парусна-маторнае прамысловае судна.

Кліф (ад англ. cliff) – абрыў марскога берага, які ўтвараецца пад уздзеяннем прыбою.

Кокпіт (ад англ. cockpit) – адкрытае памяшканне для рулявога і пасажыраў на катэры або паруснай яхце.

Комінгс (ад англ. coamings) – дашчанае або металічнае абрамленне люкаў у палубе судна.

Крэнгельс (ад англ. cringles) – колца, якое ўстаўляецца ў адтуліны паруса для прадзявання канцоў вяровак.

Кутэр (ад англ. cutter – рэзаць) – аднамачтавае паруснае судна з касымі парусамі.

Кэт (ад англ. cat) – аднамачтавае судна з адным парусам.

Лайнер (ад англ. liner) – буйное марское пасажырскае судна або шматмесны самалёт, якія робяць рэгулярныя рэйсы па пэўным маршруце.

Лідэр (ад англ. leader) – вядучы карабель у караване суднаў.

Ловердэк (ад англ. lower deck) – ніжняя палуба на судне.

Мічман (ад англ. midshipman) – воінскае званне або першы афіцэрскі чын у флоце некаторых краін.

Нотыс (ад англ. notice) – 1. апавяшчэнне аб поўнай гатоўнасці судна да пагрузкі або разгрузкі. 2. апавяшчэнне аб пастаўцы рэальнага тавару паводле біржавага кантракту.

Параван (ад англ. paravane ← гр. para = пры, каля + англ. vane = лопасць вінта) – прыстасаванне тыпу трала для засцярогі карабля ў час руху ад мін.

Пілерс (ад англ. pillars ← pillar = слуп, падпора) – вертыкальная стойка для падтрымкі палубы судна.

Планшыр (ад англ. plankaheer) – закругленены брус, які праходзіць па верхняму краю борта шлюпкі або паверх сталёвага фальшборта ў вялікіх суднаў.

Порт (ад англ. port, port-hole) – адтуліна ў борце судна для гарматных ствалоў у даўніх ваенных суднах або для пагрузачна-разгрузачных работ у транспартных суднах.

Пяртнерс (ад англ. partners) – адтуліна ў палубе, праз якую праходзіць ніжні канец мачты.

Рудэрпіс (ад англ. rudder-piece) – вертыкальная частка рулявой рамы, да якой мацуецца плоскасць руля судна.

Рудэрпост (ад англ. rudder-post) – вертыкальны брус кармавога канца судна, на які навешваецца руль.

Румб (ад англ. rhumb) – 1. дзяленне на крузе компаса, якое адпавядае 1/32 частцы гарызонта. 2. вугал паміж дадзеным напрамкам і геаграфічным мерыдыянам.

Санар (ад англ. so(und) na(vigation) and r(anging) – гукавая навігацыя і вызначэнне дальнасці) – 1. тое, што і гідралакацыя. 2. тое, што і гідралакатар.

Сегарсы (ад англ. segars) – драўляныя або металічныя колцы, што свабодна рухаюцца па мачце і служаць для прывязвання касых парусоў.

Сейнер (ад англ. seiner, ад англ. seine – кашальковы невад) – марское рыбалоўнае судна невялікіх памераў.

Скіф (ад англ. skiff) – доўгая вузкая гоначная лодка з рухомым сядзеннем і гладкай абшыўкай.

Сліп (ад англ. slip – коўзаць) – 1. збудаванне ў выглядзе нахіленай пласкасці для спуску суднаў на ваду або пад'ёму іх на бераг. 2. спуск у кармавой частцы прамысловага судна для пад'ёму на палубу здабытых кітоў або трала з уловам.

Спардэк (ад англ. spar-deck) – верхняе палуба на трохпалубных суднах X–X і пачатку XX ст. або палуба сярэдняй пабудовы на суднах сучаснай канструкцыі.

Спінакер (ад англ. spinnaker) – дадатковы трохвугольны парус на спартыўных парусных лодках.

Строп (ад англ. strop – пятля, рэмень) – найпрасцейшае прыстасаванне ў выглядзе каната з крукамі для пад'ёму грузаў.

Стрынгер (ад англ. stringer) – падоўжны брус цвёрдай абшыўкі корпуса судна або самалёта, які з'яўляецца апорай і надае ўстойлівасць.

Стэпс (ад англ. steps) – паглыбленне на палубе судна для ўмацавання мачты.

Сюрвеер (ад англ. surveyor) – інспектар замежных класіфікацыйных таварыстваў па тэхнічнаму нагляду над суднамі.

Тайм-чартэр (ад англ. time-charter) – дагавор аб арэндзе марскога судна на пэўны тэрмін.

Тайм-шыт (ад англ. time-sheet) – суднавы дакумент на пагрузачныя аперацыі, які складаюць у замежных портах.

Танкер (ад англ. tanker – цыстэрна) – наліўное судна для перавозкі вадкіх грузаў – нафты, кіслот і інш.

Топтымберс (ад англ. toptimbers) – верхняя ачыстка шпагата на драўляным судне.

Трал (ад англ. trawl) – 1. вялікая конусападобная сетка для лоўлі рыбы з суднаў. 2. гідраграфічная прылада для даследавання паверхні марскога дна, яго флоры і фауны.

Трамп (ад англ. tramp) – судна, якое перавозіць грузы ў любым напрамку, не на пэўнай лініі.

Транец (ад англ. transom) – плоскі зрэз кармы некаторых караблёў, яхт, шлюпак.

Траўлер (ад англ. trawler) – марское прамысловае рыбалоўнае судна, забяспечанае глыбокаводнымі невадамі-траламі.

Трысель (ад англ. trysail) – косы трохвугольны або чатырохвугольны парус, які ставіцца ззаду мачты.

Тэндэр (ад англ. tender) – невялікая аднамачтавая яхта з 2-3 касымі парусамі.

Фіш (ад англ. fish) – снасць на судне, пры дапамозе якой падымаецца якар.

Флартымберс (ад англ. floor-timber) – ніжняя частка шпангаўта на драўляным судне.

Флор (ад англ. floor) – папярочная бэлька на дне судна, да канцоў якой мацуюцца шпангаўты.

Футакс (ад англ. futtock) – састаўная частка шпангаўта драўлянага судна.

Хачбот (ад англ. hatch-boat) – невялікае парусное грузавое судна з люкамі і палубай, якую пры патрэбе можна разбіраць.

Цвіндэк (ад англ. tween-deck) – памяшканне паміж дзвюма палубамі судна, прызначанае для каманды, пасажыраў, грузаў.

Чартэр (ад англ. charter) – дагавор паміж уладальнікамі судна і тым, хто яго фрахтуе, на арэнду ўсяго судна або яго часткі на пэўны рэйс або тэрмін.

Чыксы (ад англ. cheeks) -прыстасаванні на верхняй частцы мачты, якія служаць для падтрымлівання канцоў стаячага такелажу.

Шхуна (ад англ. schooner) – парусное судна з косымі парусамі.

Шырстрэк (ад англ. sheer-strake) – верхні пояс бартавой абшыўкі корпуса судна.

Шэльтэрдэк (ад англ. shelter-deck) – навясная лёгкая палуба на судне, размешчаная вышэй верхняй палубы.

## *Эканамічна-фінансавая тэрміналогія*

Авердрафт (ад англ. overdraft) – форма кароткатэрміновага крэдытавання, якая практыкуецца банкамі.

Аверсолд (ад англ. oversold) – сітуацыя рэзкага зніжэння цэн на які-небудзь тавар у выніку паступлення яго ў вялікай колькасці на рынак.

Алігапсонія (ад англ. oligopsonia) – сітуацыя на рынку, пры якой даволі абмежаванай колькасці пакупнікоў процістаіць вялікая колькасць прадаўцоў.

Андэррайтынг (ад англ. underwriting) – 1. размяшчэнне каштоўных папер па публічнай падпісцы праз пасрэднікаў, функцыі якіх звычайна выконваюць інвестыцыйныя банкі. 2. падпіска на акцыі. 3. прыём нерухомасці на страхаванне.

Андэррайтэр (ад англ. underwriter) – асоба, якая прымае на сябе абавязак па размяшчэнню і рэалізацыі каштоўных папер на рынку.

Аўрал (ад англ. over all) – неабходна спешная работа калектыву, выкліканая адсутнасцю планамернасці ў працы.

Аўтрайт (ад англ. outright – прамы, поўны) – простая тэрміновая валютная здзелка, якая прадугледжвае плацяжы па форвардным курсе ў строга вызначаны тэрмін.

Аўтсайдэр (ад англ. outsider) – прадпрыемства або кампанія, якая не ўваходзіць у манапалістычнае аб’яднанне.

Афшор (ад англ. offshore – *літар.* у далечыні ад берага) – від кампаніі, якая створана або зарэгістравана на тэрыторыі замежнай, галоўным чынам невялікай дзяржавы, і карыстаецца падатковымі льготамі.

Банкноты (ад англ. banknotes) – папяровыя грошы, якія ўжываюцца замест металічных і павінны забяспечвацца золатам і іншымі каштоўнымі металамі.

Бартэр (ад англ. barter) – натуральны абмен аднаго тавару або паслугі на другі тавар або паслугу; абменны гандаль.

Бенефіцыяр (ад англ. beneficiary) – 1. асоба, якая атрымлівае даходы ад сваёй маёмасці пры перадачы яе другой асобе на даверанай падставе (пры здачы ў арэнду, наём). 2. той, хто атрымлівае грошы паводле акрэдытыва або страхавога полісу.

Біг-бізнес (ад англ. big business) – вялікая камерцыйная справа, маштабная гандлёвая здзелка, буйное прадпрымальніцтва.

Бізнес (ад англ. business) – 1. камерцыйная, біржавая або прадпрымальніцкая дзейнасць, накіраваная на атрыманне прыбытку; 2. дзелавое жыццё, эканамічная дзейнасць наогул у адрозненне ад іншых сфер жыццядзейнасці: культуры, палітыкі, адукацыі і інш.

Бізнесмен (ад англ. businessman) – дзялок, прадпрымальнік, камерсант.

Бракераж (ад англ. brokerage) – праверка адпаведнасці якасці тавару і яго афармлення ўмовам здзелкі або прынятым стандартам.

Брокер (ад англ. broker) – асоба або фірма, якая спецыялізуецца на пасрэдніцкіх біржавых аперацыях за плату ў форме пэўнага працэнта ад сумы здзелкі.

Букмекер (ад англ. book-maker) – асоба, якая збірае і запісвае грашовыя стаўкі на конных скачках.

Бум (ад англ. boom) – паскораны рост вытворчасці, цэн і іншых эканамічных паказчыкаў.

Бэквардэйшн (ад англ. backwardation) – сітуацыя, пры якой цэны на наяўны тавар вышэйшыя, чым каціроўкі па здзелках на тэрмін, а цэны на тавар з бліжэйшымі тэрмінамі пастаўкі вышэйшыя, чым на тавар з аддаленымі тэрмінамі пастаўкі.

Варант (ад англ. warrant – паўнамоцтва, правамоцтва) – 1. пасведчанне, якое выдаецца таварнымі складамі аб прыняцці тавару на захоўванне. 2. дадатковае пасведчанне, якое выдаецца разам з каштоўнай паперай і дае яе ўладальніку права на дадатковыя льготы па сканчэнні пэўнага тэрміну.

Варыабельны (ад англ. variable – зменлівы) – 1. здольнасць мець, утвараць варыянты. 2. зменлівы, непастаянны, няўстойлівы.

Ваўчар (ад англ. voucher) – 1. пісьмовая распіска, паручыцельства, гарантыя або рэкамендацыя. 2. сертыфікат, які дае права на атрыманне стандартных адукацыйных паслуг. 3. індывідуальны прыватызацыйны чэк. 4. талон, які выкарыстоўваецца для аплаты тавара і паслуг.

Венчур (ад англ. venture – адважвацца, рызыкаваць) – заснаваны на рызыцы разлік, намер, накіраваны на выкарыстанне якіх-н. магчымасцей у пэўных карыслівых мэтах; венчурны бізнес – дробнае прадпрыемства доследнага тыпу, якому ўласціва большая, чым звычайна, ступень рызыкі.

Грант (ад англ. grant – падарунак, ахвяраванне) – 1. мэтавыя сродкі ў грашовай або матэрыяльнай форме, якія даюцца дзяржавай фізічным і юрыдычным асобам на конкурснай аснове для правядзення навуковых даследаванняў, а таксама датацыя творчым калектывам, спартыўным камандам і інш. з дзяржаўнага або мясцовага бюджэту. 2. стыпендыя. 3. аднаразовае выдзяленне грашовай сумы або падараванне абсталявання, памяшкання культурным, навуковым і іншым установам і арганізацыям.

Гудвіл (ад англ. goodwill) – умоўная вартасць дзелавых сувязей фірмы, грашовая ацэнка прэстыжу гандлёвай маркі, кіраўнічых, арганізацыйных і тэхнічных рэсурсаў.

Дайм (ад англ. dime) – сярэбраная, а з 1965 г. меднанікелевая манета ЗША, роўная 1/10 долара.

Джобер (ад англ. jobber) – біржавы маклер, камісіянер, які ажыццяўляе аперацыі за ўласны кошт, уступае ў здзелкі з брокерамі і іншымі дзелавымі людзьмі.

Дылер (ад англ. dealer – гандляр) – 1. юрыдычная або фізічная асоба, якая з'яўляецца членам фондавай біржы і выконвае аперацыі з каштоўнымі паперамі. 2. супрацоўнік банка, які займаецца аперацыямі з валютай. 3. асоба або фірма, якая перапрадае тавары.

Дылінг (ад англ. dealing) – памяшканне, у якім супрацоўнікі банка або кампаніі ажыццяўляюць здзелкі з валютай, дэпазітамі, каштоўнымі паперамі.

Дысконт (ад англ. discount) – крэдытная аперацыя куплі банкам вэксаляў да заканчэння іх тэрміну, а таксама працэнт, які ўтрымліваюць пры гэтай аперацыі.

Дыстрыб'ютар (ад англ. distributor) – незалежны аптовы пасрэднік, які займаецца закупкай прадукцыі з мэтай продажу рознічным фірмам і магазінам.

Дэмпінг (ад англ. dumping – скідванне) – продаж тавараў на замежным рынку па зніжаных цэнах з мэтай выцяснення канкурэнтаў.

Еўрадолары (ад англ. Eurodollar) – часовыя свабодныя рэсурсы ў доларах ЗША, пакладзеныя арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў еўрапейскія банкі, якія выкарыстоўваюць іх для прадастаўлення крэдытаў.

Еўракард (ад англ. Eurocard) – міжнародная крэдытная картка з правам карыстання ёю у любой краіне, якая з'яўляецца ўдзельніцай еўрапейскай банкаўскай сістэмы.

Імідж (ад англ. image) – фарміраванне ўстойлівага станоўчага ўражання аб тавары, паслузе прадпрыемства, якое вырабляе або рэалізуе тавар.

Інсайдэр (ад англ. insider) – фізічная асоба, якая мае інфармацыю аб справах (стане дзейнасці) фірмы, прадпрыемства (дырэктар, мененджэр, бухгалтар і інш.)

Каверынг (ад англ. covering) – водкуп прададзеных раней каштоўных папер, кантрактаў, тавараў для спынення абавязацельстваў па здзелках на тэрмін, заключаны біржавымі спекулянтамі.

Камбізм (ад англ. cambizm) – стратэгія валютных аперацый, сутнасць якіх заключаецца ў пошуку найбольш эфектыўных метадаў пераводу сродкаў у іншую краіну.

Кансалцінг (ад англ. consalting – кансультаванне) – 1. парады спецыялістаў, кансультаванне. 2. эканамічная работа спецыяльных

кампаній па кансультаванню вытворцаў, гандляроў, пакупнікоў у галіне экспертнай, тэхнічнай і эканамічнай дзейнасці.

Кансолі (ад англ. consols, ад англ. consolidated annuities – кансалідаваная рэнта) – аблігацыі доўгатэрміновых або бестэрміновых дзяржаўных пазык, выпушчаных у Англіі.

Кантролінг (ад англ. controlling) – улік і кантроль на прадпрыемстве.

Канцэрн (ад англ. concern) – адна з складаных формаў манапалістычных аб'яднанняў, якая ўключае прадпрыемствы прамысловасці, транспарту, гандлю і банкаўскай сферы.

Каф (ад англ. caf, ад англ. cost + freight – вартасць і фрахт) – від знешне-гандлёвага дагавору, калі ў цану тавару ўключаецца яго вартасць і вартасць марскіх перавозак да порта прызначэння.

Кейнсіянства (ад англ. Keynes – прозвішча англ. эканаміста) – эканамічная тэорыя, якая абгрунтоўвае неабходнасць актыўнага ўмяшальніцтва дзяржавы ў гаспадарчую дзейнасць для забеспячэння бесперапыннага працэсу грамадскай вытворчасці.

Клеймс (ад англ. claims) – прэтэнзіі, патрабаванні пакупніка да прадаўца ў сувязі з дрэннымі якасцю або станам пастаўленага тавару.

Клірынг (ад англ. clearing – ачышчаць, уносіць яснасць) – сістэма безнаяўных разлікаў за прададзены тавар або выкананую работу, якая ажыццяўляецца праз банк.

Корнер (ад англ. corner – скупляць тавар са спекулятыўнай мэтай) – кароткатэрміновы дагавор з мэтай авалодаць рынкам шляхам скупкі акцый, тавараў, катрактаў на біржах і перапродажу іх па манапольных цэнах.

Лаг (ад англ. lag) – разрыў у часе паміж дзвюма з'явамі або працэсамі, якія знаходзяцца ў прычынна-выніковай сувязі (напр., у эканоміцы час ад моманту ўкладання сродкаў ад атрымання аддачы).

Лэйбл (ад англ. label) – невялікая фірменная метка на адзенні, від тАварнага знака, які мае таксама дэкаратыўнае значэнне.

Лімітэд (ад англ. limited – абмежаваны) – абмежаваная адказнасць кампаніі па абавязацельствах (у межах уласнай маёмасці)

Маркетынг (ад англ. marketing) – арганізацыя вытворчасці і збыту прадукцыі на аснове вынікаў інтэнсіўнага вывучэння і прагназавання попыту, цэн, шырокага выкарыстання рэкламы.

Менеджмент (ад англ. management) – сукупнасць метадаў, сродкаў і формаў кіравання вытворчасцю, якія прымяняюцца з мэтай павышэння эфектыўнасці вытворчасці і павелічэння прыбытку.

Мененджэр (ад англ. manager) – 1. спецыяліст па арганізацыі і кіраванню ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, які вало-

дае пэўнай адміністрацыйна-гаспадарчай самастойнасцю. 2. асоба, якая арганізуе публічныя выступленні артыстаў, спартсменаў.

Менеджэрызм (ад англ. managerism) – сучасная тэорыя кіравання ў сферах вытворчасці, збыту і абслугоўвання, заснаваная на ўліку найноўшых навукова-тэхнічных дасягненняў.

Мерчэндайзінг (ад англ. merchandising) – комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб стварыць спрыяльную сітуацыю для пакупніка, забяспечыць максімальную верагоднасць куплі тавару.

Пенс (ад англ. pence, ад penny = пені) – 1. разменная манета Англіі. 2. старадаўняя англа-саксонская сярэбраная манета.

Перформер (ад англ. performer) – акцыя, якая мае поспех, г.зн. такая акцыя, якая, валодаючы максімальна магчымым дывідэндам, рэалізуецца з найбольшай розніцай паміж рыначнай і намінальнай іх вартасцямі на фондавай біржы.

Прасператы (ад англ. prosperity – працвітанне) – фаза ў цыклічным развіцці капіталістычнай гаспадаркі, якая характарызуецца ўздымам эканомікі.

Пул (ад англ. pool – агульны кацёл) – адна з форм манаполій, пры якой прыбытак паступае ў агульны фонд і размяркоўваецца паміж удзельнікамі прапарцыянальна памеру іх укладаў.

Раяльці (ад англ. royalty) – чарговыя плацяжы за купленыя ліцэнзіі, вынаходствы, што выплочваюцца на працягу пэўнага перыяду, вызначанага ў ліцэнзійным пагадненні.

Рынг (ад англ. ring) – каротка-часовы дагавор паміж прадпрымальнікамі з мэтай атрымаць прыбытак шляхам скупкі тавару на рынку і наступнага продажу яго па больш высокіх цэнах.

Рэнтынг (ад англ. renting) – форма фінансавання капіталаўкладання пры кароткачасовай арэндзе.

Свінг (ад англ. swing – ваганне, размах) – мяжа аўтаматычнага ўзаемнага крэдытавання бакамі двухбаковага плацёжнага клірынгу.

Світч (ад англ. switch) – 1. перанос тэрміну пастаўкі з аднаго месца на іншае. 2. ліквідацыя абавязацельстваў у адных каштоўных паперах або валютах і заключэнне здзелак у другіх. 3. перадача трэцяму баку рэшткі на клірынгавым рахунку па курсе са скідкай супраць афіцыйнага.

Своп (ад англ. swap – абмен) – аперацыя па абмену валюты на замежную з абавязацельствам зваротнага абмену праз пэўны тэрмін, якая ажыццяўляецца паміж цэнтральнымі банкамі.

Сіф (ад англ. cif, ад c(ost) – цана + i(nsurance) – фрахт) – умова продажу тавару, паводле якой у цану ўключаюцца выдаткі па страхоўцы і перавозцы.

Спліт (ад англ. split) – драбленне нерэалізаваных акцый карпарацыі на большую колькасць пры захаванні прапарцыянальнасці іх размеркавання сярод акцыянераў.

Спонсар (ад англ. sponsor) – 1. асоба (арганізацыя, прадпрыемства), якая фінансуе якое-н. мерапрыемства, арганізацыю; 2. фірма, якая заказвае радыё- або тэлепраграму ў рэкламных мэтах.

Спот (ад англ. spot) – біржавая здзелка на наяўны тавар з неадкладнай аплатай.

Стандарт (ад англ. standard) – 1. узор, мадэль, эталон, якім павінна адпавядаць што-н. сваім памерам, формай, якасцю і г.д. 2. прыняты за аснову від вырабаў, які адпавядае ўсім патрабаванням, што прад'яўляюцца да яго.

Стэрлінг (ад англ. sterling) – 1. сярэднявечная англійская сярэбраная манета, якая чаканілася з XII ст. 2. прыняты законам стандарт пробы англійскіх залатых і сярэбраных манет.

Супермаркет (ад англ. supermarket, ад лац. super + англ. market) – буйны магазін самаабслугоўвання па гандлю таварамі паўсядзённага попыту, пераважна спажывецкага; універсам.

Травелерсчэк (ад англ. travellers cheque) – дарожны чэк, па якім за мяжой можна атрымаць грошы ў любым пункце, дзе ёсць банк.

Траст (ад англ. trust) – 1. даверанасць на вядзенне аперацый у гаспадарчай і іншай сферах дзейнасці. 2. аб'яднанне, фонд.

Трыплікат (ад англ. triplicate) – трэці экземпляр гандлёвага распарадчага дакумента.

Трэйдэр (ад англ. trader) – 1. прадстаўнік брокера, які прымае заказы ад імя фірмы на продаж і куплю. 2. работнік брокерскай фірмы, які непасрэдна выконвае заказы кліента на куплю-продаж акцый у гандлёвай зале біржы.

Трэнд (ад англ. trend) – трывалая, працяглая тэндэнцыя змены эканамічных паказчыкаў у эканамічным прагназаванні.

Трэст (ад англ. trust) – 1. адна з форм арганізацыі прадпрыемстваў, звязаных аднароднасцю прадукцыі або рознымі стадыямі перапрацоўкі сыравіны. 2. манапалістычнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пад адным кіраўніцтвам.

Тэндэр (ад англ. tender) – форма выдачы заказаў на пастаўку тавараў або падрадаў на выкананне пэўных работ на падставе прапаноў некалькіх пастаўшчыкоў або падрадчыкаў з мэтай забеспячэння найбольш выгадных камерцыйных або іншых умоў здзелкі для арганізатараў гандлю.

Фарфейтынг (ад англ. forfeiting) – прадастаўленне банкам у часовае карыстанне часткі ўласнага або прыцягненага капіталу.

Фоб (ад англ. fob ¬ free on board = свабодна на борце) – знешнегандлёвы дагавор, звязаны з марской перавозкай тавараў, калі прадавец абавязаны за ўласны кошт даставіць груз на судна, пасля чаго ўсе затраты пераносяцца на пакупніка.

Фрытрэдэры (ад англ. free trade – свабодны гандаль) – прыхільнік фрытрэдэрства.

Ф'ючэрс (ад англ. futures) – від біржавых аперацый па куплі-продажу з агаворкай аб пастаўках на наступны тэрмін па курсу на момант заключэння кантракта.

Хайрынг (ад англ. highring) – адна з формаў сярэднетэрміновага крэдытавання экспарту без перадачы права ўласнасці на тавар арандатару.

Хедж (ад англ. hedge) – тэрміновая здзелка, заключаная для страхоўкі ад магчымага змянення цэн.

Чэк (ад англ. check) – 1. дакумент, у якім даецца распараджэнне банку выдаць ці пералічыць прад'яўніку пэўную суму грошай з бягучага рахунку асобы, што падпісала гэты дакумент. 2. квітанцыя касы аб прыёме грошай ад пакупніка, якая прад'яўляецца прадаўцу для атрымання тавару.

## *Грамадска-палітычная тэрміналогія*

Андэграунд (ад англ. underground – метрапалітэн, падполле) – падпольны, нелегальны рух у палітыцы, мастацтве.

Байкот (ад англ. baycott, ад C.Boycott – прозвішча адміністратара маёнтка (1832 – 1897)) – 1. спосаб палітычнай і эканамічнай барацьбы, калі спыняюцца адносіны з якой-н. асобай, арганізацыяй, дзяржавай. 2. разрыў адносін з кім-н. як знак незадавальнення яго паводзінамі.

Байскаўт (ад англ. boy-scout) – член скаўцкай арганізацыі хлопчыкаў.

Біль (ад англ. bill) – праект закона, унесенага ўрадам або членам парламента ў ЗША, Англіі і некаторых іншых краінах.

Бітнік (ад англ. beat) – удзельнік стыхійнага анархічна-бунтарскага руху моладзі ў ЗША, Англіі і іншых краінах у 50 – 60 гг. ХХ ст., якая выражала пратэст супраць рэчаіснасці парушэннем нормаў супольнага жыцця людзей.

Блакада (ад англ. blockade) – сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на ізаляцыю якой-небудзь дзяржавы, каб прымусіць яе выканаць пэўныя ўмовы, патрабаванні.

Блок (ад англ. block) – аб’яднанне дзяржаў, партый, груповак для дасягнення агульнай мэты.

Брыфінг (ад англ. briefing – інструктаж) – кароткая нарада прадстаўнікоў друку, на якой спецыяльна ўпаўнаважанымі асобамі паведамляецца пазіцыя ўрада па пэўным пытанні.

Брэйн-дрэйн (ад англ. brain-drain, ад англ. brain – мозг + drain – уцечка) – адток спецыялістаў з краін, дзе адносна нізкі ўзровень жыцця, у краіны з больш высокім узроўнем; уцечка мазгоў.

Брэйншторм (ад англ. brainstorm – бліскучая ідэя) – метад прапановы творчых ідэй у працэсе распрацоўкі навуковай або тэхнічнай праблемы.

Вігі (ад англ. whigs) – члены палітычнай партыі ў Англіі (XIX ст.), якая выражала інтарэсы гандлёвай і фінансавай буржуазіі і з’явілася папярэдніцай англ. ліберальнай партыі.

Гарвізм (ад англ. M.Garwey – прозвішча ідэолага нацыяналістычнага руху ў ЗША) – буржуазна-нацыяналістычны рух у ЗША пачатку XX ст. за перасяленне неграў у Афрыку.

Гомруль (ад англ. Home Rule – самакіраванне) – праграма аўтаноміі Ірландыі ў сістэме Брытанскай імперыі, высунутая ў 70-я гады XIX ст.

Гомстэд (ад англ. homestead) – зямельны надзел, які атрымліваў грамадзянін ЗША ў XIX ст. паводле гомстэд-акта.

Грынбекеры (ад англ. greenbackers, ад greenbacks – зялёныя спінкі) – удзельнікі фермерскага руху ў ЗША ў першыя дзесяцігоддзі пасля грамадзянскай вайны 1861 – 1865 гг., якія выступалі супраць скасавання папяровых грошай зялёнага колеру.

Грэйнджэры (ад англ. grangers, ад grange – ферма) – удзельнікі фермерскага руху ў ЗША.

Дархардаўцы (ад англ. diehard – стойкі, нязломны) – назва найбольш рэакцыйнай часткі англійскай партыі кансерватараў. 2. цвёрдалобыя.

Джон-буль (ад англ. John Bull – Джон-бык) – іранічная назва англ. буржуа, якая падкрэслівае яго ўпартасць, карыслівасць, абмежаванасць, дробязнасць.

Джымкраўізм (ад англ. Jim-Crowizm, ад англ. Jim Crow – пагардлівая назва неграў у ЗША) – сістэма расісцкіх прыёмаў, накіраваная на сегрэгацыю негрыцянскага насельніцтва.

Джынга (ад англ. jingo) – назва англ. ваяўнічых шавіністаў.

Джынгаізм (ад англ. jingoizm) – крайне шавіністычныя погляды.

Джэрымендэрынг (ад англ. gerrymandering ¬ E.Gerry = прозвішча амер. губернатара + sala(mander) = саламандра) – метад ут-

варэння выбарчых акруг, калі ў акругі ўваходзіць розная колькасць выбаршчыкаў, чым парушаецца прынцып роўнага прадстаўніцтва.

Дыксікрат (ад англ. dixiecrat, ад Dixie – гутарковая назва поўдня ЗША + (demo)crat – дэмакрат) – прадстаўнік паўднёвых штатаў у правым крыле дэмакратычнай партыі ЗША.

Імпічмент (ад англ. impeachment – асуджэнне, ганьбаванне) – асобы парадак і ўстаноўленая працэдура прыцягнення да адказнасці вышэйшых службовых асоб дзяржавы (прэзідэнта).

Інжынірынг (ад англ. engineering) – сфера дзейнасці па распрацоўцы аб’ектаў прамысловасці, інфраструктуры і інш. перш за ўсё ў форме прадастаўлення на камерцыйнай аснове розных інжынерна-кансультацыйных паслуг.

Істэблішмэнт (ад англ. establishment) – 1. прывілеяваныя групы насельніцтва ў ЗША, Англіі, а таксама высокі ўзровень іх прыбыткаў. 2. трывалае, устойлівае становішча ў грамадстве.

Кангрэсмен (ад англ. congressman) – член кангрэса.

Клуб (ад англ. club) – грамадская арганізацыя, якая праводзіць культурна-асветніцкую, спартыўную і інш. работу ў населеным пункце, на прадпрыемстве, а таксама памяшканне такой арганізацыі.

Кроперы (ад англ. Cropers, ад англ. crop – збіраць ураджай) – арандатары-здольнікі ў ЗША, якія атрымліваюць ад землеўласніка не толькі зямлю, але і рабочую жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар, насенне.

Крофтэр (ад англ. crofters – прысядзібны ўчастак) – дробныя фермеры ў Шатландыі.

Ку-клукс-клан (ад англ. Ku-Klux-Klan) – тайная расісцкая тэрарыстычная арганізацыя ў ЗША (створана ў 1965 г.), якая вядзе барацьбу супраць неграў.

Лабелістыка (англ. label – наклейка, этыкетка) – калекцыянаванне этыкетак, якія наклейваюцца на чамаданы у гатэлях падчас турысцкіх падарожжаў.

Лабізм (ад англ. lobbism, ад англ. lobby) – сістэма кантор, агенцтваў буйных банкаў і манаполій пры заканадаўчых органах некаторых краін, якія ўплываюць на заканадаўцаў з мэтай прыняцця або адхілення законаў.

Лабіст (ад англ. lobbist, ад англ. lobby) – агенты кантор і агенцтваў.

Лакаўт (ад англ. lock out) – закрыццё прадпрыемстваў і масавае звальненне рабочых як адна з форм класавай барацьбы капіталістаў супраць рабочага класа.

Лаяліст (ад англ. loyalist) – прыхільнік метраполіі у час вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы ў 1775 – 1783 гг.

Левелеры (ад англ. leveller) – радыкальна-дэмакратычная палітычная групоўка ў Англіі ў перыяд буржуазнай рэвалюцыі ў XVII ст., якая выступала за ўстанаўленне рэспублікі, правядзенне сацыяльных рэформ.

Лейбарыст (ад англ. labourist, ад англ. labour – праца) – член рабочай партыі ў Англіі, Ірландыі, Аўстраліі і некаторых іншых краінах, якая праводзіць палітыку класавага супрацоўніцтва з буржуазіяй.

Лендлардызм (ад англ. landlordism, ад англ. landlord) – сістэма буйнога землеўладання ў Англіі, заснаваная на манаполіі на зямлю лендлордаў.

Лендліз (ад англ. lend-lease) – сістэма перадачы ЗША у пазыку або арэнду зброі, боепрыпасаў, сыравіны, харчавання краінам антыгітлераўскай кааліцыі ў час 2-й сусветнай вайны.

Лендлорд (ад англ. landlord) – буйны землеўладальнік у Англіі, які здае зямлю ў арэнду фермерам-прадпрымальнікам і атрымлівае зямельную рэнту.

Лідэр (ад англ. leader) – кіраўнік палітычнай партыі, грамадска-палітычнай арганізацыі.

Лінч (ад англ. lynch, ад англ. Lynch – прозвішча амер. палкоўніка-расіста) – самасуд над неграмі і палітычнымі дзеячамі ў ЗША; суд Лінча.

Лорд (ад англ. lord) – 1. спадчынны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі. 2. састаўная частка афіцыйных назваў некаторых вышэйшых пасад у Англіі (напр. лорд-канцлер, лорд-мэр).

Лорд-канцлер (ад англ. Lord Chancellor) – адна з высокіх службовых асоб у Англіі – член урада і старшыня палаты лордаў, які выконвае функцыі міністра юстыцыі, кіраўніка Вярхоўнага суда.

Макартызм (ад англ. J.McCarthy – прозвішча амер. сенатара (1909 – 1957)) – палітычная плынь у ЗША ў 50-я гг. XX ст., звязаная з прыняццем антыдэмакратычнага заканадаўства, з узмацненнем «халоднай вайны».

Мальтузіянства (ад англ. T.Malthus – прозвішча англ. эканаміста (1766 – 1834)) – тэорыя народанасельніцтва, згодна з якой становішча працоўных вызначаецца не сацыяльнымі ўмовамі, а хуткім ростам колькасці насельніцтва.

Мармон (ад англ. mormon, ад Mormon – імя ізраільскага прарока) – член рэлігійнай секты, якая была заснавана ў ЗША Дж.Смітам.

Мінітмэн (ад англ. minute-man) – член адной з прафашысцкіх арганізацый у ЗША.

Мітынг (ад англ. meeting) – мнагалюдны сход для абмеркавання палітычных або іншых важных надзённых пытанняў.

Нонканфарміст (ад англ. nonconformist) – член англійскай царкоўнай арганізацыі, якая не прызнае вучэння і абрадаў дзяржаўнай англіканскай царквы.

Ольдэрмен (ад англ. olderman – старэйшына) – член гарадскога самакіравання ў Англіі і ЗША.

Оруэлізм (ад англ. orwellizm, ад. D.Orwell – прозвішча англ. пісьменніка, аўтара рамана-ўтопіі «1984») – маніпуліраванне фактамі або іх перайначванне, скажэнне праўды, падача яе ў ілжывым святле ў мэтах прапаганды; тэрмін выкарыстоўваецца ў адносінах да грамадства, якое поўнасцю кантралюецца ўладамі.

Оуэнізм (ад англ. R.Owen – прозвішча англ. палітычнага і грамадскага дзеяча (1771 – 1852)) – тэорыя ўтапічнага сацыялізму, распрацаваная Р.Оуэнам і яго паслядоўнікамі.

Палісмен (ад англ. policeman) – паліцэйскі ў Англіі і ЗША і некаторых іншых краінах.

Панк (ад англ. punck, ад англ. punck rock – форма музыкі, якая нагадвае ранні рок-н-рол) – малады чалавек з вольнай манерай паводзін, у стракатым, крыклівым і неахайным адзенні, са стылізаванай прычоскай.

Праймерыз (ад англ. primeries) – 1. пярвічныя сходы выбаршчыкаў у ЗША для вылучэння кандыдатаў на выбарныя пасады. 2. выбары дэлегатаў на партыйны з’езд у ЗША.

Рурбанізацыя (ад англ. ru(tal) – вясковы + урбанізацыя) – працэс пашырэння гарадскіх форм і ўмоў жыцця на сельск. мясцовасць.

Рэйд (ад англ. raid) – нечаканая рэвізія, якая праводзіцца групай актывістаў па заданню грамадскіх арганізацый ці друку.

Рэйтынг (ад англ. rating – ацэнка, клас, разрад) – індывідуальны лікавы каэфіцыент ацэнкі палітычнай, грамадскай, культурнай і іншай дзейнасці як розных арганізацый, так і асобнага чалавека.

Саміт (ад англ. summit – вяршыня) – 1. сустрэча або нарада кіраўнікоў дзяржаў. 2. дыпламатыя на вышэйшым узроўні.

Світынг (ад англ. sweating – паценне) – надзвычай цяжкая форма эксплуатацыі работнікаў у прыватным доме.

Сэтльмент (ад англ. settlement – пасяленне) – асобы раён горад, не падначалены юрысдыкцыі мясцовых улад, які стварыўся ў залежных краінах іншаземцаў для пражывання сваіх падданых.

Скаўт (ад англ. scout) – член скаўцкай арганізацыі.

Скаўтызм (ад англ. scout) – адна з форм дзіцячага і юнацкага руху, якая ўзнікла ў Англіі ў 1907 г. з мэтай выхавання моладзі ў духу патрыятызму і рэлігійнасці.

Сноб (ад англ. snob) – 1. прадстаўнік буржуазнага дваранства, які слепа трымаецца моды, густаў і манер. 2. чалавек, які беспадстаўна прэтэндуе на вытанчаны густ, манеры, асобую інтэлектуальнасць і інш.

Спікер (ад англ. speaker, ад англ. speak) – старшыня парламента ці яго ніжняй палаты.

Спонсар (ад англ. sponsor) – дзяржава або палітычны дзеяч, якія прапанавалі праект рэзалюцыі па міжнародным пытанні.

Трайбалізм (ад англ. tribalism) – племянны або этнічны сепаратызм у грамадстве, дзе ёсць перажыткі рода-племяннога падзелу.

Трэд-юніёны (ад англ. trade-union) – прафсаюзы ў Англіі, якія на падставе калектыўнага членства ўваходзяць ў лейбарысцкую партыю.

Трэд-юніянізм (ад англ. trade-unionism) – плынь у рабочым руху, якая лічыць сваёй задачай барацьбу за ажыццяўленне эканамічных патрабаванняў рабочых, не закранаючы асноў капіталізму.

Трэнд (ад англ. trend) – пераважная накіраванасць развіцця грамадскай думкі, стылю ў модзе і г.д.

Тытэстар (ад англ. tee-tester) – спецыяліст па дэгустацыі чаю.

Тэйларызм (ад англ. F.Taylor – прозвішча амер. інжынера) – сістэма арганізацыі працы на прадпрыемствах, заснаваная на рацыяналізацыі вытворчасці, павелічэнні эфектыўнасці выкарыстання тэхнікі, павышэнні інтэнсіўнасці працы рабочых.

Фабіянізм (ад англ. Fabian society – фабіянскае таварыства) – рэфармісцкі рух канца X–X ст. у Англіі, які адмаўляў класавую барацьбу і прапаведваў мірнае паступовае пераўтварэнне буржуазнага грамадства ў сацыялістычнае шляхам рэформ.

Хіпі (ад англ. hippie) – групы моладзі ў некаторых краінах, якія адмаўляюць існуючыя маральныя асновы, грамадскія нормы паводзін і вядуць валацужніцкае жыццё.

Чартызм (ад англ. chartism) – масавы рэвалюцыйны рух англ. рабочых у 30 – 40 гг. X–X ст. за палітычныя правы і паляпшэнне эканамічнага становішча.

Чартыст (ад англ. chartist) – удзельнік чартысцкага руху, прыхільнікі чартызму.

Шоп-сцюарды (ад англ. shop-stewards) – фабрычныя старасты ў Англіі, выбарныя прадстаўнікі рабочых на прадпрыемствах; выконваюць значную ролю ў арганізацыі эканамічнай і палітычнай барацьбы рабочага класа.

Шэрыф (ад англ. sheriff) – службовая асоба ў Англіі, ЗША і Ірландыі, якая выконвае ў сваёй акрузе адміністратыўныя і судовыя функцыі.

## *Біялагічная тэрміналогія*

Баксёр (ад англ. boxer) – парода спартыўных сабак, у якіх круглая галава, кароткая морда, жоўтая шэрсць.

Бекрос (ад англ. backcross) – скрыжоўванне гібрыда першага пакалення з адной з бацькоўскіх форм.

Блек-рот (ад англ. black rot = чорная гніль) – грыбковая хвароба вінаграду.

Блювал (ад англ. blue whale) – блакітны кіт.

Броўнаўскі (ад англ. Brown – прозвішча англ. батаніка) – хаатычны рух дробных часцінак, завіслых у вадкасці ці газе; абумоўлены сутыкненнем часцінак з малекуламі навакольнага асяроддзя.

Бруцэлы (ад англ. D.Bruce – прозвішча англ. бактэрыёлага) – род дробных шара- або палачкападобных бактэрый, якія выклікаюць бруцэлёз.

Бульдог (ад англ. bulldog) – парода сабак з тупой мордай.

Бультэр’ер (ад англ. bulldog + тэр’ер) – парода свойскіх сабак, выведзеная ў Вялікабрытаніі.

Валін (ад англ. valine) – адна з жыццёва неабходных амінакіслот, якая ўваходзіць у склад бялкоў і ўплывае на рост, функцыянаванне нервовай сістэмы.

Велінгтонія (ад англ. A.Wellington – прозвішча англ. свяшчэнніка) – секвоядэндрон.

Вельштэр’ер (ад англ. Wales + тэр’ер) – парода паляўнічых сабак, з падоўжанай мордай, выведзеная ў Вялікабрытаніі для палявання на лісоў і трусоў.

Вілт (ад англ. wilt – вянуць) – хвароба раслін, якая выклікаецца грыбамі вертыцыламі і фузарыямі.

Гемлак (ад англ. hemlock) – вечназялёнае хвойнае дрэва сям. сасновых, пашыранае ў Паўночнай Амерыцы.

Гібон (ад англ. gibbon) – самая малая чалавекападобная малпа з вельмі доўгімі пярэднімі канечнасцямі.

Грызлі (ад англ. grizzly) – шэры мядзведзь, які водзіцца на Алясцы.

Грэйпфрут (ад англ. grapefruit) – вечназялёнае цытрусавае дрэва сям. рутавых.

Гупі (ад англ. guppy) – рыба атрада карпазубых.

Дарвінізм (ад англ. Ch.Darwin – прозвішча англ. біёлага) – вучэнне аб эвалюцыйным развіцці жывых арганізмаў на зямлі шляхам натуральнага адбору.

Дог (ад англ. dog – сабака) – парода спартыўных сабак з кароткай шэрсцю.

Дынга (ад англ. dingo) – драпежнік сям. воўчых, які водзіцца ў Аўстраліі.

Імпрынтынг (ад англ. imprinting) – спецыфічная форма навучання жывёл, фіксацыя ў іх памяці адрознівальных прыкмет аб’ектаў, некаторых прыроджаных актаў паводзін.

Інтрагрэсія (ад англ. introgression) – пранікненне генетычнага матэрыялу аднаго віду пры аддаленай гібрыдзізацыі.

Інтрон (ад англ. intron, ад англ. intervening sequence – прамежкавая паслядоўнасць) – участак гена эўкарыётаў, які, як правіла, не нясе генетычнай інфармацыі, што адносіцца да сінтэзу бялку.

Кларкія (ад англ. W.Clark – прозвішча амер. падарожніка) – травяністая расліна сям. скрыпневых з падоўжана-авальным лісцем і чырвонымі, ружовымі, белымі, фіялетавымі кветкамі.

Колі (ад англ. collie) – парода службовых сабак; шатландская аўчарка.

Кросінгавер (ад англ. crossing-over) – узаемны абмен участкамі паміж гамалагічнымі храмасомамі ў выніку разрыву і злучэння ў новым парадку іх ніцей (храматыдаў).

Лістэр (ад англ. M.Lister – прозвішча англ. урача) – расліна сям. архідных, якая расце ва ўмераным клімаце Паўн. паўшар’я.

Мангравы (ад англ. mangrove): м-выя лясы – зараснікі вечназялёных дрэў і кустоў на затопленых прылівам трапічных набярэжных акіянаў і мораў.

Марганізм (ад англ. T.Morgan – прозвішча амер. біёлага) – кірунак у генетыцы, паводле якога крыніцай зменнасці арганізмаў з’яўляюцца мутацыі генаў або змены іх становішча.

Міксбордэр (ад англ. mixborder) – шматрадковая пасадка кветкава-дэкаратыўных раслін, падбор якіх забяспечвае бесперапыннае цвіценне ад ранняй вясны да позняй восені.

Мільдзью (ад англ. mildew) – паражэнне раслін грыбамі сям. пераназпоравых.

Мімікрыя (ад англ. mimicry) – прыпадабненне некаторых жывёл і раслін да навакольнага асяроддзя па форме і колеру з мэтай самаахвовы.

Ньюфаўндленд (ад англ. Newfoundland – назва вострава) – парода буйных службовых сабак з доўгаю чорнай шэрсцю.

Пінчэр (ад англ. pinscher) – парода невялікіх сабак з кароткай шэрсцю.

Палікрос (ад палі + англ. cross – скрыжоўваць) – метад скрыжоўвання, які выкарыстоўваецца ў селекцыі раслін, для выяўлення

найбольш прадукцыйных форм і заключаецца ў шматразовым пераапыленні раслін.

Пейсмекер (ад англ. pacemaker) – спецыялізаваныя клеткі, здольныя генерыраваць і падтрымліваць выданні, якія перадаюцца па праводных шляхах і ўцягваюць іншыя клеткі ў біялагічныя рытмы.

Пойнтэр (ад англ. pointer) – парода вялікіх паляўнічых сабак з кароткай гладкай поўсцю.

Поні (ад англ. pony) – конь нізкарослай пароды, выведзены ў Англіі; выкарыстоўваецца ў парках для катання дзяцей.

Прайд (ад англ. pride) – устойлівая група з 6 – 12 асобін у папуляцыі льва.

Рыбоза (ад англ. ribose) – просты цукар, які выступае як састаўная частка некаторых біялагічна важных злучэнняў, напр. нуклінавых кіслот, вітамінаў.

Рыкетсіі (ад англ. C.Ricketts – прозвішча амер. вучонага) – група дробных унутрыклетачных хваробатворных бактэрый, паразітаў, членістаногіх, млекакормячых, птушак.

Сасафрас (ад англ. sassafras) – дрэўная расліна сям. лаўровых, пашыраная ў прыатлантычнай частцы Амерыкі.

Сейвал (ад англ. seiwhale) – воднае млекакормячае сям. паласацікаў даўжынёй да 18 м; івасёвы кіт.

Сенега (ад англ. senega) – травяністая расліна сям. крапінцовых, выкарыстоўваецца ў медыцыне як адхарквальны сродак.

Спорт (ад англ. sport) – парастак, які рэзка адрозніваецца ад іншых парасткаў той жа расліны (лістамі, памерам).

Сэтэр (ад англ. setter) – парода паляўнічых даўгашэрстных сабак.

Топкрас (ад англ. top crossing) – скрыжоўванне мужчынскай асобіны з неаднароднай па сваім складзе матачнай папуляцыяй як адзін з метадаў селекцыі.

Турнэпс (ад англ. turnips) – расліна сям. крыжакветных, пашыраная ва ўмераных зонах, караняплоды якой ідуць на корм жывёле, кармавая рэпа.

Хомінг (ад англ. home = вяртаецца дамоў) – прыроджаная рэакцыя жывёл (інстынкт), якая абумоўлівае вяртанне іх на свой участак жыхарства, туды, дзе яны нарадзіліся.

Цік (ад англ. teak) – дзікарослае дрэва сям. вербенавых з моцнай драўнінай, якое расце ў лясной паласе Індыі.

Ямс (ад англ. yams) – травяністая расліна з багатымі на крухмал клубнямі, якая расце ў тропіках і субтропіках.

## *Тэрміналогія культуры і мастацтва*

Ап-арт (ад англ. op-art – аптычнае мастацтва) – напрамак абстрактнага мастацтва, паслядоўнікі якога выкарыстоўваюць аптычную ілюзію і ствараюць формы, далёкія ад рэчаіснасці.

Банджа (ад англ. banjo) – струнны шчыпковы музычны інструмент амерыканскіх неграў.

Бастон (ад англ. Boston – назва горада ў ЗША) – танец павольнага тэмпу.

Бібоп (ад англ. bebop) – стыль так званага сучаснага джаза, які склаўся напачатку 1940-х гадоў у ЗША.

Бітл (ад англ. beatl, ад англ. beat) – удзельнік бітлза.

Бітлз (ад англ. the Beatles) – англійскі маладзёжны вакальна-інструментальны квартэт 60-х гадоў ХХ ст., а таксама утвораны на яго ўзор ансамбль у Заходняй Еўропе і Амерыцы.

Блюз (ад англ. blues, ад англ. blue devils – меланхолія, журба) – 1. песня або танец амерыканскіх неграў, якія выконваюцца ў павольным тэмпе. 2. форма джазавай музыкі ў рытме і манеры выканання гэтай песні (танца).

Бугі-вугі (ад англ. boogie-woogie) – 1. стыль джазавай музыкі. 2. амерыканскі парны бальны танец свабоднай кампазіцыі, эмацыянальна напружаны па характары з умерана хуткім тэмпам; узнік у канцы 30-х гг. ХХ ст.

Веджвуд (ад англ. D.Wedgwood – прозвішча англ. кераміка) – разнавіднасць англійскага фарфору з белымі рэльефнымі фігурамі на каляровым фоне.

Верджынел (ад англ. virginal) – клавішны музычны інструмент, англ. разнавіднасць клавесіна.

Вестэрн (ад англ. western) – фільм, п’еса, аповесць на тэму аб жыцці паўночнаамерыканскіх заходніх штатаў другой пал. ХІХ ст.

Гіперрэалізм (ад англ. hyperrealism) – плынь у амерыканскім і заходнееўрапейскім мастацтве 70-х гг. ХХ ст.

Джаз (ад англ. jazz) – 1. від прафесійнай, пераважна танцавальнай музыкі з характэрнай для яе імправізацыйнасцю, што зарадзіўся ў ЗША ХІХ – ХХ ст. 2. аркестр з духавых, ударных і шумавых інстументаў для выканання такой музыкі.

Джаз-банд (ад англ. jazz-band) – тое, што і джаз 1.

Джаз-рок (ад англ. jazz-rock) – адзін з кірункаў джаза, які вылучыўся ў канцы 1960 г. у выніку спалучэння некаторых формаў сучаснага джаза і джазавых аранжыровак з элементамі рокавай рытмікі і інструментоўкі.

Джыга (ад англ. jig) – даўні англ. парны танец кельцкага паходжання, які ў XVII ст. стаў салонным.

Дызайн (ад англ. design) – мастацкае праектаванне эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў, прадметнага асяроддзя і інш.

Дызайнер (ад англ. designer) – мастак-канструктар, спецыяліст па мастацкім праектаванні эстэтычнага выгляду прамысловых вырабаў.

Дыксіленд (ад англ. dixieland, ад англ. Dixie-land – краіна Дыксі) – назва амерыканскіх джазавых ансамбляў.

Дынер – тэатр (ад англ. dinnertheater, ад англ. dinner – абед + theater – тэатр) – тэатр за вячэрай; рэстаран, дзе ў час вячэры і пасля яе адбываюцца тэатральныя прадстаўленні для гасцей, якія сядзяць за сталамі.

Імідж (ад англ. image) – 1. паказ, адлюстраванне; узор. 2. мысленны вобраз, уяўленне.

Інвайранмент (ад англ. environment – акружэнне, наваколле) – від сучаснага мастацтва, які спалучае твор і адначасова мастацкае дзеянне, скіраваныя на арганізацыю прасторы, што дае магчымасць гледачу адчуць сябе арганічна ўключаным у дзею праз аўдыавізуальныя, кінетычныя і іншыя сродкі ўздзеяння і сувязі.

Кантрданс (ад англ. country-dance – сялянскі танец) – даўнейшы танец, які выконваўся чатырма, шасцю парамі, а таксама музыка да гэтага танца.

Квікстэп (ад англ. quickstep – хуткі крок) – разнавіднасць хуткага факстроту, парны танец.

Кекуок (ад англ. cakewalk) – танец амерыканскіх неграў, які ўвайшоў у моду ў пачатку XX ст. у Амерыцы і Еўропе.

Кліп (ад англ. clip = стрыгчы, рабіць выразкі) – кароткі музычны нумар, зняты на відэаплёнку часта на фоне дэкарацыі, ландшафту, вуліцы.

Мапетс (ад англ. muppets – лялькі) – група лялек, што прыводзяцца ў рух рукамі акцёраў і паказваюць тыпы жывёл і людзей.

Мэдысан (ад англ. madison) – грунтавы бальны танец амерыканска-канадскага паходжання з разнастайнымі фігурамі напружана-экспрэсіўнага характару.

Мюзікл (ад англ. musical – музычны) – 1. музычна-сцэнічны твор, пераважна камедыйнага характару, пабудаваны на выкарыстанні элементаў аперэты, балета, оперы і эстрады. 2. кінафільм такога характару.

Мюзік-хол (ад англ. musical-hall) – эстрадны тэатр, у якім выконваюцца тэматычныя эстрадныя агляды і праграмы.

Піянола (ад англ. pianola) – 1. пнеўма-механічны інструмент для ігры на піяніна без піяніста. 2. раяль, піяніна з такім інструментам.

Плеер (ад англ. play) – кампактны магнітафон з навушнікамі, у асноўным для ўзнаўлення музычных запісаў.

Поп-арт (ад англ. pop-art – папулярнае мастацтва) – фармалістычная мастацкая плынь, якая ўзнікла ў др. пал. XX ст. у ЗША і Англіі; прадстаўнікі гэтай плыні выкарыстоўваюць стыль рэклам і коміксаў.

Рырпраекцыя (ад англ. rear – задні + праекцыя) – спосаб камбінаванай кіназдымкі, калі аб’ект здымаецца на фоне раней знятага адлюстравання, што праектуецца на экран.

Рэгтайм (ад англ. ragtime) – 1. танцавальная музыка амерыканскіх неграў, папярэднік джазу. 2. амерыканскі бальны танец.

Слаўфокс (ад англ slowfox – марудны факстрот) – парны танец свабоднай кампазіцыі з доўгімі лёгкімі слізгаючымі крокамі і нахіламі корпуса, адна з форм факстрота.

Сонг (ад англ. song) – надзённая сатырычная песенька, якая выкарыстоўваецца ў сучасных нямецкіх, амерыканскіх і англійскіх камічных операх, аглядах.

Суінг (ад англ. swing – рытм) – стыль джазавай музыкі, характэрнай асаблівасцю якога з’яўляецца сольная імправізацыя, складаны акампанемент, вялікая колькасць выканаўцаў.

Твіст (ад англ. twist) – 1. парны танец амерыканскага паходжання з характэрнымі рухамі бёдраў. 2. музыка, песня ў рытме гэтага танца.

Трылер (ад англ. trill – хваляванне) – кніга, радыё- або тэлеперадача, кінафільм, мэта якіх зрабіць эфект моцнага хвалявання, страху.

Тустэп (ад англ. two-step) – бытавы парны танец амерыканскага паходжання з двухдольным памерам, які быў пашыраны ў пач. XX ст. у Еўропе.

Уанстэп (ад англ. one-step – адзін крок) – хуткі маршападобны танец амерыканскага паходжання, які ўзнік на аснове спрошчаных танцавальных рухаў тустэпа.

Факстрот (ад англ. foxtrot) – бальны, умерана хуткі рытмічны танец, які ўзнік з рэгтайма, тустэпа і ўанстэпа ў ЗША і распаўсюдзіўся ў Еўропе, а таксама музыка да гэтага танца.

Халі-галі (ад англ. hully-gully) – групавы амерыканскі бальны танец, які мае шматлікія варыянты кампазіцый, а таксама музыка да гэтага танца.

Хэпенінг (ад англ. happening – якое здараецца) – від сцэнічнага дзеяння, што зарадзіўся ў 1950-я гады ў ЗША, для якога харак-

тэрны парадаксальнасць і наўмысная бязмэтавасць, разлік на шырокую імправізацыю.

Чарльстон (ад англ. charleston, ад англ. Charleston – назва горада ў ЗША) – амерыканскі бальны танец, разнавіднасць хуткага факстрота, а таксама музыка да гэтага танца.

Шымі (ад англ. shimmy – кашуля) – бальны танец амерыканскага паходжання, падобны на факстрот.

Шэйк (ад англ. shake) – сучасны англ. бытавы танец імправізацыйнага характару, распаўсюджаны ў многіх краінах.

## *Сельскагаспадарчая тэрміналогія*

Айршыры (ад англ. Ayrshire – назва графства ў Шатландыі) – малочная парода кароў.

Акр (ад англ. acre) – зямельная мера ў Англіі.

Араўрут (ад англ. arrowroot) – сарты крухмалу, якія атрымліваюцца з карэнішчаў раслін роду маранта, клубняў куркумы і некаторых іншых трапічных відаў класа аднадольных.

Арпінгтон (ад англ. Orpington – назва паселішча ў графстве Кент) – парода курэй, выведзеная ў Англіі.

Аўстралорп (ад англ. Australia + orp) – мяса-яечная парода курэй, выведзеная ў Аўстраліі на аснове арпінгтонаў.

Аўтбрыдзінг (ад англ. outbreeding – спарваць) – скрыжоўванне жывёл або раслін, якія не знаходзяцца ў роднасных адносінах.

Беркшыры (ад англ. Berkshire – назва графства ў Англіі) – парода скараспелых свіней, выведзеная ў Англіі ў XVIII ст.

Бройлер (ад англ. broiler, ад broil – смажыць, пячы) – кураня, ва ўзросце 60 сутак, якое важыць 1,4 – 1,6 кг.

Брудэр (ад англ. brooder, ад brood – выседжваць куранят) – апарат для абагравання выведзеных у інкубатары птушанят свойскіх птушак.

Брудэргауз (ад англ. brooder + house) – памяшканне для абагравання выведзеных у інкубатары птушанят свойскіх птушак.

Брыдэр (ад англ. breeder – вытворца) – разнавіднасць рэактара–размнажальніка.

Букер (ад англ. bucker) – шматкорпусны плуг для паверхневай апрацоўкі глебы.

Віндроўэр (ад англ. windrower) – уборачная машына, якая косіць збажыну, укладвае яе ў рады для далейшага дасыхання і даспявання.

Гемпшыры (ад англ. Hempshire – назва графства ў Англіі) – парода мяса-воўнавых авец, выведзеная ў XIX ст. ў Англіі.

Герэфорды (ад англ. Herefordshire – назва графства ў Англіі) – парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку.

Інбрыдзінг (ад англ. inbreeding) – скрыжоўванне жывёл або раслін, якія знаходзяцца ў блізкароднасных адносінах у межах адной папуляцыі арганізмаў.

Інкрасбрыдынг (ад англ. incrossbreeding) – скрыжоўванне дзвюх добра спалучальных інбрэдных ліній розных парод жывёл для атрымання высокапрадукцыйнага патомства.

Інкросінг (ад англ. incrossing) – скрыжоўванне дзвюх інбрэдных добра спалучальных ліній адной пароды жывёл для атрымання высокапрадукцыйнага патомства.

Йаркшыр (ад англ. Yorkshire – назва графства ў Англіі) – парода скараспелых свіней, якая вызначаецца вялікай вагой і высокай пладавітасцю.

Камбайнер (ад англ. combiner) – механізатар, які працуе на збожжаўборачным камбайне.

Каўбой (ад англ. cowboy) – конны пастух у стэпах Паўночнай Амерыкі.

Клейдэсдалы (ад англ. Clydesdale – назва даліны ракі Клайд у Шатландыі) – парода коней-цяжкавозаў, выведзеная ў Шатландыі.

Кросбрыдзінг (ад англ. crossbreeding) – разнавіднасць аўтбрыдзінгу, метад развядзення сельскагаспадарчых жывёл, пры якім скрыжоўваюцца жывёлы розных парод.

Легорн (ад англ. leghorn, ад англ. Leghorn – Ліворна) – парода яйцаносных курэй з белым апярэннем.

Мульча (ад англ. mulch – прэлая салома) – матэрыял для мульчыравання (гл. мульчыраваць).

Мульчыраваць (ад англ. mulch) – пакрываць паверхню глебы тарфяной крошкай, перагноем, апалым лісцем, каб палепшыць умовы росту раслін і захаваць структуру і вільготнасць глебы.

Нью-гемпшыр (ад англ. New Hampshire – назва штата ў ЗША) – мяса-яечная парода курэй, выведзеная ў ЗША.

Плімутрок (ад англ. Plimouth Rock) – парода яйцаноскіх і мясных курэй рознага апярэння, выведзеная ў паўночнаамерыканскім горадзе Плімут.

Пул (ад англ. pool – агульны кацёл) – кааператыўная арганізацыя фермераў Канады, ЗША і Аўстраліі для збыту сельскагаспадарчай прадукцыі, асабліва пшаніцы.

Райграс (ад англ. rye grass – жытняя трава) – травяністая расліна сям. злакавых з вузкім лісцем і мяцёлкавым коласападобным суквеццем, пашыраная на лугах; кармавая культура.

Род-айланд (ад англ. Rhode Island – назва штата ў ЗША) – парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведзеная ў Х–Х ст.

Ромні-марш (ад англ. Romney Marsh – назва раўніны ў графстве Кент у Англіі) – парода скараспелых авечак, выведзеных у ХІХ ст. у Англіі.

Санта-гертруда (ад англ. Santa Gertrudis – назва фермы) – парода буйной рагатай жывёлы мяснога напрамку, выведзеная ў штаце Тэхас у ХХ ст.

Сусекс (ад англ. Sussex – назва графства ў Англіі) – парода курэй мяса-яечнага напрамку, выведезная ў Англіі.

Суфолкі (ад англ Suffolk – назва графства ў Англіі) – парода коней-цяжкавозаў, выведзеная ў Англіі.

Хакі-кемпбел (ад хакі + англ. campbell, ад англ. Campbell – прозвішча англ. птушкавода) – парода качак мяса-яечнага напрамку прадукцыйнасці, выведзеная ў Англіі.

Тамасшлак (ад англ. S.Thomas – прозвішча англ. металурга + шлак) – шлак, які ўтвараецца пры спецыяльнай перапрацоўцы чыгуну ў сталь; выкарыстоўваецца як багатае на фосфар угнаенне.

Хедар (ад англ. header) – рабочая частка збожжаўборачнага камбайна.

Хескер-пікер (ад англ. husker-picker) – сельскагаспадарчая машына для ўборкі на полі спелых пачаткаў кукурузы.

Хескер-шрэдэр (ад англ. husker-shredder) – машына для апрацоўкі кукурузы – вылушчвання сцёблаў у так званае кукурузнае сена.

Шайры (ад англ. shire) – парода буйных цяжкавозных коней, выведзеная ў Англіі.

Шортгарн (ад англ. shorthorn) – парода буйной рагатай жывёлы мяснога і мяса-малочнага напрамкаў прадукцыйнасці, выведзеная ў Англіі ў XV—— ст.

Шрапшыры (ад англ. Sropshires) – парода мясных кароткавоўнавых авец, выведзеная ў Х–Х ст. у графствах Шрапшыр і Стафардшыр у Англіі.

## *Хімічная тэрміналогія*

Абеліт (ад англ. F.Abel – прозвішча англ. хіміка ХІХ ст.) – выбуховая сумесь з амоніевай салетры, дынітрабензолу і кухоннай солі.

Адамсіт (ад англ. R.Adams – прозвішча амерыканскага хіміка) – атрутнае рэчыва, якое раздражняльна дзейнічае на верхнія дыхальныя шляхі, выклікае рвоту і галаўныя болі.

Аквадаг (ад лац. аква + англ. dag = графітавы пыл) – сумесь графіту з вадою, якая выкарыстоўваецца для пакрыцця ўнутранай паверхні электравакуумных прыбораў.

Антыфрызы (ад англ. antifreeze) – водныя растворы некаторых рэчываў, якія не замярзаюць пры нізкіх тэмпературах.

Берклій (ад англ. Berkeley – назва горада ў Каліфорніі) – штучна атрыманы радыёактыўны хімічны элемент сямейства актыноідаў.

Блістр (ад англ. blister) – неачышчаная медзь, якая змяшчае 1,5 – 2 % прымесяў.

Бутэн (ад англ. butene) – тое, што і бутылен (арганічнае злучэнне аліфатычнага рада, газ з характэрным пахам, які змяшчаецца ў прадуктах нафтаперапрацоўкі.

Бутэнін (ад англ. butene – бутылен) – тое, што і вінілацэтылен (вініл + ацэтылен) – арганічнае злучэнне, ненасычаны вуглевадарод, газ, які лёгка ператвараецца ў бясколерную вадкасць; выкарыстоўваецца пры вырабе сінтэтычных каўчукаў, лакаў.

Газойль (ад англ. gasoil) – фракцыя нафты, якая выкарыстоўваецца як паліва для дызеляў і як сыравіна для каталітычнага крэкінгу.

Гапкаліт (ад англ. hopcalite) – сумесь вокіслаў марганцу і медзі, а таксама серабра і кобальту, якая паскарае акісленне атрутнага вокіслу вугляроду кіслародам паветра і ператварае яго ў неатрутны вуглекіслы газ.

Гідраформінг (ад гідра + англ. forming – фармаванне) – адзін з відаў рыформінгу (ад англ. reforming) – спосаб перапрацоўкі нафты для атрымання высокаякасных бензінаў і іншых каштоўных прадуктаў).

Графтсупалімеры (ад англ. graft – прывіўка + супалімеры) – супалімеры, макрамалекулы якіх маюць разгалінаваную будову.

Дальтаніды (ад англ. J.Dalton – прозвішча англ. хіміка і фізіка (1766 – 1844)) – хімічныя злучэнні пастаяннага саставу.

Дуст (ад англ. dust – пыл) – хімічнае рэчыва ў выглядзе парашку, якое выкарыстоўваецца для знішчэння шкодных насякомых.

Кампаўнд (ад англ. compound – састаўны) – 1. сумесь рэчываў, якая не з’яўляецца хімічным злучэннем. 2. ізаляцыйны матэрыял з асфальтавых і парафіністычных рэчываў і масел.

Кампаўндаваць (ад англ. compound) – змешваць два або некалькі масел, відаў паліва, каб атрымаць спецыяльныя прадукты зададзеных якасцей.

Кек (ад англ. cake – зацвердзяваць) – слой цвёрдых часцінак, які застаецца пасля фільтрацыі суспензій, або нерастваральныя рэшткі пасля вышчалачвання каштоўных кампанентаў з руды.

Кенэль (ад англ. cennel (coal)) – разнавіднасць сапрапеліту, якая змяшчае вялікую колькасць мікраспораў.

Кларк (ад англ F.Clarke – прозвішча амерыканскага геахіміка) – кларкі элементаў – колькасныя паказчыкі змяшчэння хімічных элементаў у зямной кары, гідрасферы, атмасферы, горных пародах, касмічных аб'ектах і інш.

Кластэр (ад англ. cluster) – група малекул, якія вылучаюцца сярод іншых падобных малекул і аб'ядноўваюцца ва ўстойлівыя ўтварэнні.

Крэкінг (ад англ. cracking) – перапрацоўка нафты для атрымання маторнага паліва і сыравіны для хімічнай прамысловасці.

Лаўрэнсій (ад англ. E.Lawrence – прозвішча амер. фізіка) – штучна атрыманы радыёактыўны хімічны элемент сям. актыноідаў.

Ліграін (ад англ. ligroine) – адзін з гаручых прадуктаў перагонкі нафты; выкарыстоўваецца як дызельнае паліва.

Люізіт (ад англ. lewisite, ад W.Lewis – прозвішча амер. хіміка) – стойкае атрутнае рэчыва, арганічнае злучэнне мыш'яку, які выклікае нарывы на скуры.

Мальтоза (ад англ. maltose) – цукрыстае рэчыва, якое атрымліваецца пры ўздзеянні соладу на крухмал; змяшчаецца ў насенні, пылку і нектары некаторых раслін.

Нейлон (ад англ. nylon) – сінтэтычнае поліаміднае валакно, а таксама тканіна з такога валакна.

Ніяцын (ад англ. niacin) – тое, што і ніяцымід (+ амід) – нікацінавая кіслата.

Пінк (ад англ. pink) – ружовая фарба, у склад якой уваходзяць вокісы волава і хрому.

Рэзарцын (ад англ. resorcin) – арганічнае злучэнне, двухатамны фенол, цвёрды бясколерны крышталічны прадукт, выкарыстоўваецца ў медыцыне як сродак дэзінфекцыі, пры вырабе фарбавальнікаў, палімераў і інш.

Сарбіт (ад англ. H.Sorby – прозвішча англійскага прыродазнаўцы) – структурная складовая сталі, сумесь цэменту і ферыту, што ў адрозненне ад перліту мае больш тонкую будову.

Скорчынг (ад англ. scorching) – узаемадзеянне каўчуку з вулканізуючымі агентамі на стадыях тэхналагічнага працэсу вытворчасці гумы, якія папярэднічаюць уласна вулканізацыі.

Смокен-шыт (ад англ. smoken sheet) – тып натуральнага каўчуку.

Табун (ад англ. tabun) – атрутнае рэчыва, бясколерная вадкасць, што паражае цэнтральную нервовую сістэму.

Тэрылен (ад англ. terylene) – назва ў Англіі сінтэтычнага валакна і тканіны з яго, якія на Беларусі называюцца лаўсанам.

Тэфлон (ад англ. teflon) – сінтэтычны палімер, цвёрды белы прадукт; выкарыстоўваецца для вырабу валакна і тканін, электраізаляцыйнага матэрыялу, абалонак кабелю і інш.

Уайт-спірыт (ад англ. white spirit) – лакавы бензін, нафтавая фракцыя, бясколерная вадкасць з нярэзкім пахам, сярэдняй лятучасці; выкарыстоўваецца як растваральнік лакаў і фарбаў.

Фіберглас (ад англ. fiberglass) – пластычны матэрыял, які складаецца з шкловалакністага напаўняльніка, змацаванага сінтэтычнай смалой, і вызначаецца трываласцю і лёгкасцю.

Фларыдзін (ад англ. Florida – назва паўвострава ў ЗША) – гліна з прымессю вокісаў кальцыю, магнію, шчолачы; выкарыстоўваецца пры ачышчэнні нафтапрадуктаў і перапрацоўцы тлушчаў.

Флінтглас (ад англ. flintglass) – гатунак аптычнага шкла з высокім паказчыкам праламлення.

Фоліевы (ад англ. folium – ліст); ф-а кіслата – водарастваральны вітамін, які ў якасці каферманта ўдзельнічае ў рэакцыях сінтэзу азоцістых злучэнняў, у працэсе крываўтварэння.

## *Мінералагічная тэрміналогія*

Айкініт (ад англ. Aykin – прозвішча англійскага геолага) – рэдкасны мінерал.

Англезіт (ад англ. Anglesey – назва вострава) – мінерал класа сульфатаў.

Бадэліт (ад англ. Y.Baddeley – прозвішча англ. мінеролага + -літ.) – мінерал, двухвокіс цырконію, які з’яўляецца крыніцай для атрымання цырконію.

Бенітаіт (ад англ. San-Benita – назва акругі ў штаце Каліфорнія ЗША) – мінерал, тытанасілікат барыю белага, сіняга колеру або бясколерны, выкарыстоўваецца як паўкаштоўны камень.

Бентаніт (ад англ. Benton – назва мясцовасці ў ЗША) – разнавіднасць адбельвальных глін, якая складаецца ў асноўным з монтмарыланіту.

Бранерыт (ад англ. J.Branner – празвішча амер. геолага) – мінерал, уранавая, торыевая і іншыя солі тытанавых кіслот; руда урану.

Брукіт (ад англ. K.Brooke = прозвішча англ. мінералога (1771 – 1857)) – мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў жоўтага, бурага або чорнага колеру, які з’яўляецца сыравінай для атрымання ферататану.

Брусіт (ад англ. A.Bruce – прозвішча амер. мінеролага) – мінерал класа вокіслаў і гідравокіслаў белага або зеленаватага колеру, празрысты; з’яўляецца сыравінай для атрымання магнію.

Вад (ад англ. wad) – мінерал групы псіламелану, сумесь зямлістых і сажыстых агрэгатаў аксідаў і гідраксідаў марганцу чорнага або цёмнакарычневага колеру; руда марганцу, кобальту і нікелю.

Вівіяніт (ад англ. vivianite, ад англ. J.Vivian – англ. мінеролаг XIX ст.) – мінерал класа фасфатаў, водны фасфат двухвалентнага жалеза блакітнага колеру.

Вітэрыт (ад англ. W.Withering – прозвішча англ. мінеролага) – мінерал класа карбанатаў, вуглекіслы барый белага або жаўтаватага колеру.

Гастынгсіт (ад англ. Hastings – назва радовішча ў Канадзе) – мінерал, манаклінны кальцыевы амфібол сінявата-зялёнага або чорнага колеру са шкляным блескам.

Гібсіт (ад англ. G.Gibbs – прозвішча амер. мінеролага) – мінерал класа гідравокіслаў белага колеру з рознымі адценнямі са шкляным бляскам; выкарыстоўваецца для атрымання алюмінію.

Глей (ад англ. gley) – адклады на дне вадаёмаў, у склад якіх уваходзяць найдрабнейшыя часцінкі мінеральных і арганічных рэчываў.

Даўсаніт (ад англ. Dowson – прозвішча канадскага геолага) – аўтагенны нізка-тэмпературны мінерал з групы двайных карбанатаў алюмінію з аднавалентнымі металамі, бясколерны, са шкляным бляскам.

Джэспіліты (ад англ. jasper – яшма + -літы) – жалезістыя кварцыты, якія складаюцца з магнетыта-гематытавых і кварцавых праслоек.

Імпактыты (ад англ. impact) – асобны клас адносна рэдкіх шклаватых або абломкава-шклаватых горных парод, якія ўтварыліся ў прыпаверхневай зоне зямной кары ў выніку ўдарна-выбуховых працэсаў, што адбываюцца пры падзенні на Зямлю буйных метэарытаў.

Калеманіт (ад англ. Coleman – прозвішча ўладальніка) – мінерал, вода-змяшчальны барат кальцыю, бясколерная крышталічная маса; руда для атрымання бору.

Калумбіт (ад англ. Columbia – назва акругі ў ЗША) – тое, што і ніабіт.

Каэсіт (ад англ. Coes – прозвішча амер. хіміка) – мінерал з групы кварцу, адна з найбольш шчыльных паліморфных мадыфікацый крэмнязёму.

Кімберліт (ад англ. Kimberley – назва горада ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы) – магматычная горная парода чорнага колеру з сінім або зялёным адценнямі, алмазаносная.

Лабрадор (ад англ. Labrador – назва паўвострава ў паўночна-ўсходняй Канадзе) – мінерал групы палявых шпатаў, бясколерны, шэры або зеленаваты; выкарыстоўваецца ў будаўніцтве.

Мілерыт (ад англ. W.Miller – прозвішча англ. мінеролага) – мінерал класа сульфідаў, латунна-жоўтага колеру, які ўваходзіць у склад меднанікелевых руд.

Нек (ад англ. neck – шыя) – магматычнае цела слупападобнай формы, утворанае вулканічнымі пародамі, якое першапачаткова запаўняла жарало вулкана і агалілася ў выніку дэнудацыі прылеглых парод.

Пентландыт (ад англ. J.Pentland – прозвішча англ. натураліста і падарожніка (1797 – 1873)) – жалезанікелевы калчадан, мінерал класа суфльфідаў светла-бронзавага колеру.

Пойнт (ад англ. point) – пустацелы стальны цыліндр для адтайвання парай мёрзлых парод.

Сіліманіт (ад англ. B.Sylliman – прозвішча амер. мінеролага) – мінерал класа сілікатаў шэрага, светла-бурага і бледна-зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца ў керамічнай вытворчасці, для атрымання сілуміну.

Смітсаніт (ад англ. J.Smithson – прозвішча англ. мінеролага) – мінерал класа карбанатаў белага колеру з зеленаватым, буравытым або шараватым адценнямі; руда цынку.

Тэнантыт (ад англ. S.Tennant – проазвішча англ. хіміка) – мінерал падкласа складаных сульфідаў шэра-стальнога колеру.

Эпсаміт (ад англ. epsomite, ад англ. Epsom – назва англ. горада) – мінерал класа сульфатаў белага колеру, часам бясколерны, які выкарыстоўваецца ў медыцыне, хімічнай прамысловасці для атрымання магніевых прэпаратаў; горкая соль.

## ***Металургічная тэрміналогія***

Аўстэніт (ад англ. W.Roberts-Austen – прозвішча англ. металурга) – структурная частка жалезавугляводзістых сплаваў, цвёрды раствор вугляроду або легіравальных элементаў у гамажалезе.

Бабіт (ад англ. I.Babbit – прозвішча амерыканскага вынаходцы) – металічныя сплавы на свінцовай або алавяннай аснове з нізкім каэфіцыентам трэння; выкарыстоўваецца для вырабу падшыпнікаў і рухомых частак машын.

Бейніт (ад англ. E.Bain – прозвішча амерыканскага металурга (1891 – 1978)) – структурная састаўляючая сталі, якая ўтвараецца ў выніку так званага прамежкавага ператварэння аўстэніту.

Бесемер (ад англ. H.Bessemer – прозвішча англійскага інжынера (1813 – 1898)) – сталь, атрыманая з вадкага чыгуну шляхам прадзімання яго паветрам у канвертары.

Блюм (ад англ. bloom) – стальная загатоўка, атрыманая са зліткаў пракаткай на блюмінгу.

Блюмінг (ад англ. blooming) – пракатны стан для абціскання стальных зліткаў вялікага папярочнага сячэння масай да 12 т і больш у блюмы.

Ватэржакет (ад англ. water-jacket) – шахтавая печ для выплаўкі медзі, нікелю, свінцу, сценкі якой складзены з пустацелых стальных каробак, што ахалоджваюцца вадой.

Гардэніт (ад англ. harden – загартоўваць) – разнавіднасць структуры загартаванай сталі – мартэнсіту.

Крып (ад англ. creep – паўзці) – павольная пластычная дэфармацыя матэрыялаў пад уздзеяннем пастаяннай нагрузкі; паўзучасць металаў.

Міксер (ад англ. mixer) – ёмістасць для прыёму вадкага чыгуну з доменнай печы.

Мунц-метал (ад англ. G.Muntz – прозвішча англ. металазнаўцы (памёр у 1857 г.) + метал) – меднацынкавы сплаў з прымесямі свінцу; выкарыстоўваецца для вырабу труб, дроту.

Пермалой (ад англ. permalloy) – сплаў нікелю з жалезам, часам з дабаўкай медзі, хрому, малібдэну, марганцу.

Пермендзюр (ад англ. permendur) – магнітна-мяккі сплаў жалеза з кобальтам.

Пермінвар (ад англ. perminvar) – магнітна-мяккі сплаў нікелю з жалезам і кобальтам.

Пудлінгаваць (ад англ. puddling, ад англ. puddle – перамешваць) – апрацоўваць чыгун у зварачнае жалеза ў асобных печах.

Рэфракталой (ад англ. refractory – вогнетрывалы + alloy – сплаў) – гарачаўстойлівыя сплавы нікелю, кобальту, хрому і жалеза з дабаўленнем іншых элементаў; служаць для вырабу розных дэталей рэактыўных рухавікоў.

Сендаст (ад англ. sendust) – магнітнамяккі высокапранікальны сплаў жалеза з крэмніем і алюмініем.

Скрап (ад англ. scrap) – металалом або адходы вытворчасці, прызначаныя для пераплаўкі.

Сляб (ад англ. slab – пліта, пласціна) – стальная пліта, якая з’яўляецца загатоўкай для пракаткі ліставой сталі.

Слябінг (ад англ. slabbing) – магутны пракатны стан, прызначаны для абціскання стальных зліткаў у слябы.

Стрыпер (ад англ. stripper) – машына для вымання стальных балванак са зложніцы.

Стылометр (ад англ. steel – сталь + -метр) – прыбор для колькаснага спектральнага аналізу саставу сталей і сплаваў..

Суперфініш (ад англ. superfinish, ад англ. лац. super – над + англ. finish – апрацоўка) – тонкая апрацоўка паверхні дэталей брускамі з абразіўных матэрыялаў.

Трансферкар (ад англ. transfercar) – самаразгружальны электраматорны вагон, які выкарыстоўваецца на металургічных заводах для падачы руды і коксу да доменных печаў

Штрыпс (ад англ. strips) – стальная паласа, якая з'яўляецца загатоўкай для вырабу зварных труб.

Шэвер (ад англ. shaver) – металарэзны інструмент для шэвінгавання ў выглядзе зубчастага кола з рэзальнымі кантамі на зубцах.

## *Паліграфічная тэрміналогія*

Аптайп (ад англ. optype) – аўтаматычная машына для фотанабору радкоў, якія аказаліся прапушчанымі наборнапішучай машынай.

Афсет (ад англ. offset) – спосаб друку, пры якім фарба перадаецца з друкарскай формы на гумавую паверхню, а з яе на паперу.

Баскервіль (ад англ. baskerville, ад англ. J.Baskerville – прозвішча англ. друкара XVIII ст.) – друкарскі шрыфт выразнага малюнку, які выкарыстоўваецца пераважна для кніжнага набору.

Блок (ад англ. block) – сшытыя лісты кнігі, падрыхтаваныя для пераплёту.

Брысталь (ад англ. Bristol – назва англ. горада) – кардон, атрыманы склейваннем аркушаў паперы высокіх гатункаў.

Ватман (ад англ. J.Whatman – прозвішча ўладальніка англ. папяровай фабрыкі XVIII ст.) – вышэйшы гатунак паперы для чарчэння і малявання.

Верытайпер (ад англ. varytyper) – наборна-друкарская машына для стварэння тэксту ў выглядзе адбітка падабраных на зададзены фармат радкоў.

Гауч-прэс (ад англ. gauge-press) – прэс для выціскання вады з папяровага палатна, калі яно рухаецца ў сетачнай частцы папяровай машыны.

Кангрэў (ад англ. Kongrreve – прозвішча англ. канструктара

XIX ст.) – рэльефнае цісненне на пераплёце кніг, радзей на шчыльнай паперы.

Летэрфот (ад англ. letterphoto) – фотанаборная машына для набору загалоўкаў.

Лудлоў (ад англ. Ludlow – прозвішча амер. канструктара) – наборная падковаадліўная вялікакегельная машына з ручным наборам матрыц.

Люмітайп (ад лац. lumen – святло + англ. tipe – адбітак) – электронная аднаапаратная літарапраекцыйная лагічная машына; забяспечвае атрыманне фотанабору.

Мікрапрынтаванне (ад мікра + англ. print – друк) – паліграфічнае праяўленне мікраадлюстраванняў.

Прынтэр (ад англ. printer – друкар) – друкарскае ўстройства электронна-вылічальнай машыны для вываду літарна-лічбавай інфармацыі.

Прэпрынт (ад англ. preprint) – адбітак тэксту навуковага даклада ці артыкула, надрукаваны сродкамі так званай аператыўнай паліграфіі невялікім тыражом для хуткага азнаямлення з ім вузкага кола спецыялістаў.

Ратапрынт (ад англ. rotaprint, ад лац. rota (кола) + англ. print (друк)) – малафарматная друкарская машына для друкавання афсетным спосабам.

Рэпрынт (ад англ. reprint) – рэпрадуктаванне тэкстаў, чарцяжоў электрычным спосабам.

Скенатрон (ад англ. scan – уважліва разглядаць + -трон) – прыбор, прызначаны для колера-падзельнай карэктуры.

Стэнсель (ад англ. stencil – шаблон, трафарэт) – друкарская форма ў выглядзе прамавугольнай пласцінкі, якая служыць для нанясення адбітка паштовага адраса на часопісах і газетах, друкавання суправаджальных дакументаў і інш.

Суперселеры (ад англ. superseller) – кнігі тыпу бестселераў, выдадзеныя ў дарагім мастацкім афармленні.

Флат (ад англ. flat) – друкарская папера ў лістах, а не ў рулонах.

Фолдэр (ад англ. fold – складка) – нясшытая кніжачка, буклет, брашура, часцей за ўсё рэкламная.

Хедлайнер (ад англ. head-liner) – фотанаборная машына з ручной установкай шрыфтавых шаблонаў і фотаматэрыялу.

Юз (ад англ. D.Hughes – прозвішча амерык. вынаходцы) – літарадрукавальны тэлеграфічны апарат.

## *Тэрміналогія СМІ*

Асемблер (ад англ. assembler) – агульнапрынятая назва транслятара з аўтакода.

Брэйн-рынг (ад англ. brain-ring) – тэлевізійная гульня-спаборніцтва, пераможцам у якой становіцца той чалавек або каманда, якія выяўляюць больш шырокую эрудыцыю і хуткасць рэакцыі ў адказах на пытанні вядучага.

Вакодэр (ад англ. vocoder, ад англ. voice – голас + code – код) – від тэлефоннай сувязі з перадачай інфармацыі ў закадзіраваным выглядзе.

Дальтан-план (ад англ. Dalton – назва горада ў ЗША + план) – сістэма арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу ў школе, які грунтуецца на прынцыпе індывідуальнага навучання.

Інтэлсат (ад англ. Intelsat, ад англ. International Telecommunication Satellites – мінародныя сувязныя спадарожнікі) – міжнародная арганізацыя па стварэнні і эксплуатацыі глабальнай камерцыйнай спадарожнікавай сувязі.

Інтэрв'ю (ад англ. interview – сустрэча, спатканне) – 1. прызначаная для друку (радыё, тэлебачання) гутарка карэспандэнта з якім-н. дзеячам па пытаннях, якія цікавяць грамадскасць. 2. газетны артыкул, які выкладае змест такой гутаркі.

Інтэрв'юер (ад англ. interviewer) – журналіст, які бярэ ў каго-н. інтэрв'ю.

Інтэрфакс (ад англ. Interfax) – расійскае незалежнае інфармацыйнае агенцтва, заснаванае ў 1989.

Каледж (ад англ. college) – вышэйшая або сярэдняя навучальная ўстанова ў ЗША (на Беларусі ствараюцца з 1990 г.)

Кантэнт–аналіз (ад англ. content – змест + аналіз) – метад выяўлення і ацэнкі спецыфічных характарыстык тэкстаў і іншых носьбітаў інфармацыі.

Квіз (ад англ. quiz) – радыё- або тэлевізійная гульня ў пытанні і адказы на розныя тэмы з прызамі для пераможцаў, літаратурная, музычная ці якая-н. іншая віктарына.

Красворд (ад англ. cross-word) – задача–гульня, у якой фігуру з перакрыжаванымі радамі клетак трэба запоўніць адзіна магчымымі словамі.

Морзе (ад англ. S.Morse – прозвішча амер. вынаходцы (1791 – 1872)) – тэлеграфны код, дзе кожнай літары алфавіта адпавядае вызначаная камбінацыя кропак і працяжнікаў; выкарыстоўваецца для перадачы інфармацыі на адлегласць; азбука М.

Ноў-хаў (ад англ. know-how) – 1. сукупнасць тэхнічных ведаў і вопыту, неабходных для ажыццяўлення якога-н. вытворчага працэсу. 2. камерцыйная, тэхнічная, тэхналагічная інфармацыя ў выглядзе спецыяльнай тэхнічнай дакументацыі, вытворчага вопыту.

Пабліісіці (ад англ. publicity – галоснасць, рэклама) – 1. вядомасць, папулярнасць. 2. спрыяльныя камерцыйныя паведамленні, прэзентацыі або звесткі аб таварах, паслугах або фірмах, якія перадаюцца праз сродкі масавай інфармацыі, але не аплочваюцца зацікаўленай асобай (канкрэтным спонсарам).

Плотэр (ад англ. plotter – нанясенне на паперу дыяграм) – устройства для вываду інфармацыі; прыбор, які выдае інфармацыю ў выглядзе графікаў.

Прэс-бюро (ад англ. press-bureau) – 1. бюро друку, інфармацыйны аддзел у пасольствах, прадстаўніцтвах. 2. рэдакцыйны апарат абслугоўвання прэсы, створаны на перыяд работы з’ездаў канферэнцый, нарад.

Прэс-канферэнцыя (ад англ. press-conference) – сустрэча дзяржаўных, палітычных, грамадскіх ці навуковых дзеячаў з прадстаўнікамі друку для паведамлення якіх-н. звестак.

Прэс-рэліз (ад англ. press-release – выпуск для прэсы) – спецыяльныя бюлетэні для работнікаў органаў масавай інфармацыі.

Рэпартаж (ад англ. report – паведамляць) – інфармацыя па радыё, тэлебачанні, паведамленне ў газеце аб мясцовых здарэннях, падзеях.

Рэпарцёр (ад англ. reporter) – работнік газеты, радыё, тэлебачання, які дастаўляе рэдакцыі звесткі аб падзеях і здарэннях мясцовага жыцця.

Тайпатрон (ад англ. type – адбітак, адлюстраванне + -трон) – электронна-прамянёвая трубка для адлюстравання інфармацыі і запісвання яе на спецыяльнай паперы.

Тэлерэкордынг (ад тэле + англ. recording – запіс) – запіс тэлевізійнай перадачы.

Уфалогія (ад англ. UFO, ад англ. Unknown Flying Object – неапазнаны лятаючы аб’ект + -логія) – збор, сістэматызацыя і аналіз матэрыялаў аб неапазнаных лятаючых аб’ектах.

## *Тэкстыльная тэрміналогія*

Аверлок (ад англ. overlock) – краеабкідальная швейная машына.

Бастон (ад англ. Boston – назва горада ў ЗША) – высокаякасная тонкая баваўняная тканіна для касцюмаў.

Ватэр (ад англ. water, ад англ. water-machine – прадзільная машына) – тое, што і ватэрмашына – машына для прадзення бавоўны, ільну, воўны.

Ватэрпруф (ад англ waterproof – воданепранікальнасць) – тканіна, якая не прапускае ваду, а таксама вырабы з яе (адзенне, палаткі).

Вельвет (ад англ. velvet – аксаміт) – мяккая баваўняная ці сінтэтычная тканіна з густым ворсам, падобная на аксаміт.

Вельвецін (ад англ. velvet – аксаміт) – мяккая баваўняная тканіна, падобная на вельвет, з якой шыюць спартыўнае адзенне.

Дакрон (ад англ. dacron) – разнавіднасць сінтэтычнага валакна, падобнага да лаўсану, якое вырабляецца ў ЗША

Джыгер (ад англ. jigger) – ролікавы апарат для фарбавання тканіны.

Джэрсі (ад англ. jersey, ад англ. Jersey – назва вострава ў праліве Ла-Манш) – трыкатажная тканіна.

Каверкот (ад англ. covercoat) – сорт шарсцяной або паўшарсцяной тканіны для верхняга адзення.

Камбрык (ад англ. cambric, ад англ. Cambrai – назва горада ў Францыі) – тонкае празрыстае палатно, падобнае да батысту.

Кірза (ад англ. kersey) – шматслойная баваўняная тканіна, насычаная асобым саставам для засцярогі ад вільгаці; выкарыстоўваецца як заменнік скуры.

Корт (ад англ. cord) – баваўняная тканіна атласнага перапляцення для рабочага і спартыўнага адзення.

Ласцік (ад англ. lasting – трывалы) – лёгкая баваўняная тканіна атласнага перапляцення, якая ўжываецца звычайна на падкладку.

Ліберці (ад англ. liberty) – бліскучая шаўковая тканіна, з якой шыюць блузкі, сукенкі.

Малескін (ад англ. moleskine) – шчыльная баваўняная тканіна, з якой шыюць рабочае і спартыўнае адзенне.

Манчэстэр (ад англ. Manchester – горад у Англіі) – аксамітная тканіна, разнавіднасць вельвету.

Мерсерызацыя (ад англ. J.Mercer – прозвішча англ. хіміка) – апрацоўка пражы або баваўнянай тканіны растворам едкага натру для надання ёй бляску, мяккасці і трываласці.

Мюль-машына (ад англ. mule + машына) – машына для вырабу ваўнянай пражы.

Нартроп (ад англ. Northrop – прозвішча англ. інжынера) – аўтаматычны ткацкі варштат.

Цвін (ад англ. twine – кручаная нітка) – паўшарсцяная тканіна з кручанымі ніткамі асновы для жаночых летніх паліто.

Цік (ад англ. tick) – шчыльная льняная або баваўняная тканіна, звычайна паласатая, якая ўжываецца для абіўкі мэблі, для пашыўкі чахлоў і інш.

Шавіёт (ад англ. cheviot, ад англ. Cheviot – назва нагор'я ў Англіі) – лёгкая, мяккая, крыху варсістая шарсцяная ці паўшарсцяная тканіна, з якой шыюць верхнюю вопратку.

## *Медыцынская тэрміналогія*

Афіляцыя (ад англ. affiliate – далучацца, устанаўліваць сувязі) – імкненне чалавека быць сярод людзей; павялічваецца ў час небяспекі.

Біхевіярызм (ад англ. behaviourism, ад англ. behaviour – паводзіны) – кірунак у амерыканскай псіхалогіі, які лічыць прадметам псіхалогіі паводзіны.

Блакада (ад англ. blockade) – выключэнне функцыі якога-небудзь органа або сістэмы ў арганізме.

Бокс (ад англ. box) – адгароджаная частка памяшкання ў лячэбных установах для ізаляванага ўтрымання хворага

Гаймарыт (ад англ. N.Highmore – прозвішча англ. анатама) – запаленне слізістай абалонкі гаймаравай поласці носа.

Дальтанізм (ад англ. J.Dalton) – асаблівасць зроку, якая выражаецца ў няздольнасці адрозніваць некаторыя колеры, пераважна чырвоны, зялёны.

Допінг (ад англ. doping, ад англ. dope – даваць наркотыкі) – сродкі, якія штучна ўзбадзёрваюць арганізм, стымулююць на кароткі час фізічную і нервовую дзейнасць; выкарыстоўваюцца ў ветэрынарыі.

Дрэнаж (ад англ. drainage, ад англ. drain – труба) – вывядзенне з раны гною, вадкасці з дапамогай спецыяльнай трубкі.

Кафеін (ад англ. coffee) – рэчыва, якое змяшчаецца ў зярнятах кофе, чайным лісці; выкарыстоўваецца ў медыцыне як стымулятар дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы.

Кетгут (ад англ. catgut) – ніці з кішак дробнай рагатай жывёлы, якія выкарыстоўваюць пры хірургічных аперацыях для ўнутраных швоў і перавязкі сасудаў.

Круп (ад англ. croup) – запаленне гартані і трахеі, якое суправаджаецца ўскладненнем дыхання (удушшам і кашлем).

Лабэктамія (ад англ. lobe – доля, частка + ektos) – аперацыйнае выдаленне часткі чалавечага органа (напр. палавіна лёгкага).

Медыцынбол (ад англ. medicineball – лячэбны мяч) – скураны мяч з мяккай набіўкай для практыкаванняў у штурханні і кіданні.

Паркінсанізм (ад англ. Parkinson – прозвішча англ. урача) – хваравіты стан, звязаны з паражэннем глыбокіх аддзелаў галаўнога мозгу пры энцыфаліце, атэрасклерозе сасудаў мозгу і інш.

Скенаграма (ад англ. scan – уважліва разглядаць + -грама) – графічны паказ пухліных утварэнняў, які атрымліваецца на скенеры.

Скенер (ад англ. scanner) – прыбор, які выкарыстоўваецца для выяўлення злаякасных пухлін шляхам назірання над размеркаваннем радыёнуклідных ізатопаў, уведзеных у арганізм чалавека.

Скеніраваць (ад англ. scan) – выяўляць злаякасную пухліну у якім-н. органе чалавека з дапамогай скенера.

Спру (ад англ. sprue) – хранічная хвароба чалавека з паносамі, глістамі, анеміяй, знясіленнем, якая пашырана ў зонах трапічнага і субтрапічнага клімату.

Стрэс (ад англ. stress – напружанне) – стан напружання арганізма, які ўзнікае пад уплывам моцных уздзеянняў (холаду, голаду, псіхічных і фізічных траўм).

Транс (ад англ. trance) – павышанае нервовае ўзбуджэнне са стратай самакантролю, а таксама зацямненне свядомасці пры гіпнозе, экстазе і інш.

Эмуляцыя (ад англ. emulation – акружэнне) – саперніцтва, імкненне перасягнуць у чым-небудзь адзін аднаго.

## *Вайсковая тэрміналогія*

Базука (ад англ. bazooka) – лёгкая супрацьтанкавая безадкатная гармата, якую абслугоўвае адзін чалавек.

Блакада (ад англ. blockade) – акружэнне войск праціўніка (горада, крэпасці) для знішчэння ці паланення.

Блістэр (ад англ. blister – пузыр) – купалападобны выступ з празрыстай пластмасы на фюзеляжы самалёта для паляпшэння агляду і размяшчэння зброі і прыцэльных прыстасаванняў.

Браўнінг (ад англ. browning, ад англ. J.Browning – прозвішча амерыканскага канструктара) – аўтаматычны пісталет асобай сістэмы.

Бярданка (ад англ. K.Berdan – прозвішча амер. канструктара) – адназарадная стрэльба, якая была на ўзбраенні еўрапейскіх армій у канцы XIX ст.

Дрэдноут (ад англ. dreadnought) – буйны браняносец з магутнай артылерыяй, папярэднік сучаснага лінкора.

Камандас (ад англ. commandos) – 1. спецыяльны атрад узброеных сіл Вялікабрытаніі, якія прызначаны для разведвальна-дыверсійных дзеянняў. 2. атрады апалчэнцаў у арміі бураў у час англабурскай вайны.

Кардыт (ад англ. cordite) – порах на аснове нітрацэлюлозы: выкарыстоуваецца для вырабу боепрыпасаў

Максім (ад англ. maxim ¬ H.Maxim – прозвішча амер. канструктара) – станкавы кулямёт, які быў на ўзбраенні многіх армій да другой сусветнай вайны.

Напалм (ад англ. napalm) – гаручая сумесь для бомб, агнямётаў.

Рэйд (ад англ. raid) – пранікненне і рух мотамеханізаваных, кавалерыйскіх вайсковых або партызанскіх груп па тылах праціўніка.

Рэйдэр (ад англ. raider, ад англ. raid – нападаць) – ваенны карабель, які мае заданне самастойна весці баявыя аперацыі, галоўным чынам знішчаць варожыя судны.

Рэйнджэрсы (ад англ. rangers) – падраздзяленні ў арміі ЗША, прызначаныя для дыверсійна-разведвальных дзеянняў у тыле праціўніка.

Снайпер (ад англ. sniper, ад англ. snipe – страляць з укрыцця) – асабліва меткі стралок.

Снайперскоп (ад англ. sniper + скоп) – прыбор начнога бачання, прызначаны для прыцэльнай стральбы з карабіна ноччу.

Снайпінг (ад англ. sniping, ад англ. snipe – страляць з укрыцця) – звышметкая снайперская стральба.

Танк (ад англ. tank) – 1. баявая гусенічная бранявая машына. 2. спецыяльна абсталяваны бак, цыстэрна для захоўвання і транспарціроўкі вадкасцей.

Танкетка (ад англ. tankette) – невялікі быстраходны танк, узброены адным або некалькімі кулямётамі.

Трал (ад англ. trawl) – прыстасаванне для вылоўлівання і знішчэння падводных і наземных мін.

Фрэнч (ад англ. french, ад англ. French – імя англ. генерала) – куртка ваеннага пакрою з чатырма накладнымі кішэнямі.

Шрапнель (ад англ. shrapnel, ад англ. H.Shrapnel – прозвішча англ. вынаходцы) – артылерыйскі снарад, набіты круглымі кулямі, якія прызначаны для паражэння жывой сілы праціўніка.

## *Прыродна-метэаралагічная тэрміналогія*

Анемарумбограф (ад лац. анема + англ. rhumb) – прыбор для бесперапыннай аўтаматычнай рэгістрацыі хуткасці і напрамку ветру.

Афтэршокі (ад англ. aftershock) – падземныя штуршкі, якія ідуць за землетрасеннем.

Апвелінг (ад англ. upwelling – хлынуць) – падыманне водаў з глыбіні вадаёма, калі вецер зганяе паверхневыя воды ў бок мора, возера.

Бадленд (ад англ. bad lands) – рэзка расчлянёны рэльеф пустынных і паўпустынных раёнаў з заблытанай сеткай лугоў і вузкіх грабянёў, што робіць яго непрыгодным для земляробства.

Бенч (ад англ. bench) – марская або азёрная тэраса, створаная абразіяй у карэнных пародах ля асновы кліфа.

Бліцард (ад англ. blizzard) – назва ў ЗША і Англіі мяцеліцы, якая суправаджаецца моцным ветрам і нізкай тэмпературай паветра.

Гайоты (ад англ. A.Guyot – прозвішча амер. географа і геолага) – ізаляваныя плоскавяршынныя падводныя горы вулканічнага паходжання.

Геарыфтагеналь (ад геа + англ rift – цясніна + гр. gennao – нараджаю) – адзін з асноўных тэтанічна рухомых структурных элементаў зямной кары, які адпавядае асявым часткам сярэднеакіянскіх хрыбтоў і ўпадзінам тыпу Чырвонага мора.

Глей (ад англ. gley) – слой глебы светлай афарбоўкі, які ўтвараўся пад уплывам жыццядзейнасці анаэробных бактэрый.

Друмліны (ад англ. drumlins) – выцягнутыя ўзгоркі, утвораныя марэннымі адкладамі.

Крык (ад англ. creek) – перасыхаючая рэчка або ручэй ў Аўстраліі, які ў засушлівы перыяд года распадаецца на шэраг асобных вадаёмаў.

Масконы (ад англ. mass con(centration) – канцэнтрацыя масы) – вобласці над т.зв. месячнымі морамі, у якіх назіраюцца змены гравітацыйнага поля Месяца (дадатковыя анамаліі сілы цяжару).

Масміны (ад англ. mass mini(fication) – памяншэнне масы вобласці аслаблення гравітацыйнага поля Месяца, якія заўважаюцца над шэрагам месячных кратэраў.

Пак (ад англ. pack – мяса) – шматгадовы дрэйфуючы марскі лёд у палярных водах.

Пілаў-лава (ад англ. pillow + лава) – лава, якая вылілася пераважна ў ваду, мае форму шароў, эліпсоідаў са шкляной паверхняй.

Рыфт (ад англ. rift – разрыў) – выцягнутая на некалькі соцень кіламетраў ровападобная ўпадзіна на зямной паверхні, якая ўзнікла ў выніку расцяжэння зямной кары.

Тыліты (ад англ. tillite) – выкапнёвыя марэныя адклады старажытных зледзяненняў Зямлі.

Шквал (ад англ. squall) – нечаканы моцны парыў ветру, часцей за ўсё пры навальніцах.

Шэльф (ад англ. shelf) – прыбярэжная частка дна Сусветнага акіяна, мацерыковая водмель.

## *Будаўнічая тэрміналогія*

Бар (ад англ. bar) – невялікі рэстаран, у якім наведвальнікаў абслугоўваюць за стойкай.

Батэнсы (ад англ. battens) – дошкі шырынёй 10-20 см і таўшчынёй 5-10 см.

Блок (ад англ. block) – 1. штучна зробленая з бетонай сумесі будаўнічая пліта. 2. комплекс будынкаў, якія маюць адпаведнае прызначэнне, а таксама частка якой-н. пабудовы.

Бруталізм (ад англ. brutal) – кірунак у архітэктуры, прадстаўнікі якога імкнуцца падкрэсліць важкасць архітэктурных формаў.

Вакзал (ад англ. Vauxhall = забаўляльная ўстанова каля Лондана ў XV— ст.) – будынак для пасажыраў і службовага персаналу на чыгуначнай станцыі, на прыстані і інш.

Дансінг (ад англ. dancing) – спецыяльнае месца для танцу ў рэстаране або кавярні.

Дансінг-хол (ад англ. dancing-hall) – танцавальная зала.

Дылены (ад англ. deal-ends) – рэшткі ад распілоўвання піламатэрыялаў на экспартныя дошкі.

Дыльсы (ад англ. deals) – дошкі пэўных размераў, прызначаныя для экспарту.

Дыскаўнтэр (ад англ. discounter) – магазін у прамыслова развітых краінах, які гандлюе таварамі працяглага карыстання па зніжаных цэнах без прадстаўлення якіх-н. дадатковых паслуг.

Камфартабельны (ад англ. comfortable) – утульны, з камфортам (напр.: камфартабельная гасцініца).

Канкорс (ад англ. concourse) – размеркавальная зала пасажыраў на вакзалах, станцыях метрапалітэна.

Катэдж (ад англ. cottage) – невялікі жылы дом у прыгарадзе, звычайна з мансардай і зямельным участкам.

Лінолеум (ад англ. linoleum) – тоўстая цвёрдая тканіна, пакрытая непрамакальным саставам, якая ўжываецца для пакрыцця падлогі.

Макадам (ад англ. J.Mac Adam – прозвішча шатландскага інжынера XVIII ст.) – дарожнае пакрыцце з двух пластоў шчэбню рознай зярністасці.

Матэль (ад англ. motel) – гасцініца для аўтатурыстаў са станцыяй тэхнічнага абслугоўвання, гаражамі, стаянкамі і інш. відамі паслуг.

Паркінг (ад англ. parking) – вызначанае месца стаянкі механічных сродкаў перамяшчэння.

Портланцэмент (ад англ. Portland – назва паўвострава ў ЗША + цэмент) – самы пашыраны від цэменту, які складаецца ў асноўным з сілікату кальцыю.

Пропс (ад англ. props – падпорка) – круглая ачышчаная ад кары калода пэўнай даўжыні.

Эндсы (ад англ. ends – канцы) – абрэзкі дошак да 2,4 м даўжыні.

## *Гістарычная тэрміналогія*

Вудленд (ад англ. woodland – лясная мясцовасць) – назва апошняга з трох археалагічна выяўленых перыядаў гісторыі насельніцтва ўсходніх раёнаў Паўночнай Амерыкі.

Дэвон (ад англ. Devon – назва англ. графства) – чацвёрты па парадку перыяд палеазойскай эры ў гісторыі зямлі, які пачаўся 410 млн гадоў назад і цягнецца каля 60 млн гадоў.

Ёменры (ад англ. yeomanry) – 1. лейб-гвардыя англ. караля. 2. даўнейшая англ. добраахвотная тэрытарыяльная конніца, што складалася з дваран і землеўласнікаў.

Ёмены (ад англ. yeomen) – заможнае і сярэдняе сялянства ў Англіі XIV – XVIII стст.

Капігольд (ад англ. Copyhold, ад англ. copy – копія + hold – валоданне) – асноўная форма феадальна залежнага сялянскага валодання ў Англіі XV – XVII стст., на права якога селяніну выдавалі копію з судовага пратакола.

Капігольдэры (ад англ. copyholders) – феадальна залежныя арандатары памешчыцкай зямлі ў Англіі XV – XVII стст.

Кембрый (ад англ. Cambria – даўняя назва правінцыі Уэльс у Англіі) – першы перыяд палеазойскай эры геалагічнай гісторыі Зямлі, які распачаўся каля 570 млн гадоў, а таксама пласты горных парод, якія ўтварыліся ў той час.

Кембрыйскі (ад англ. Cambria – даўняя назва правінцыі Уэльс у Англіі); кембрыйскі перыяд – тое, што і кембрый.

Котэры (ад англ. cotters) – слой феадальна залежнага сялянства ў сярэднявечнай Англіі.

Лізгальд (ад англ. leasehold) – форма зямельнай арэнды ў сярэднявечнай Англіі.

Лізгольдэры (ад англ. leaseholders) – арэндатары ў Англіі позняга сярэднявечча, якія арэндавалі зямлю ў лэндлордаў.

Лудзіты (ад англ. luddites, ад англ. N.Ludda – прозвішча рамесніка, які, згодна з паданнем, першым разбіў свой вязальны варштат у знак пратэсту супраць самавольства гаспадара) – удзельнікі стыхійных рабочых хваляванняў у Англіі ў другой палове XV—— – X–X стст., супраць прымянення машын, якія павялічвалі колькасць беспрацоўных.

Мінітмэн (ад англ. minute-man) – салдат народнай міліцыі ў час вайны Паўн. Амерыкі з Англіяй за незалежнасць у 1775 – 1783 гг.

Педжэнт (ад англ. pageant) – перасоўная сцэна ў выглядзе вялікай павозкі ў сярэднявечным тэатры.

Рыбаніты (ад англ. ribbon – вузкая стужка) – члены тайных сялянскіх арганізацый у Ірландыі ў XIX ст., якія змагаліся супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту.

Рыпілеры (ад англ. repeal – разрыў) – члены ірландскіх арганізацый сярэдзіны XIX ст., якія выступалі за разрыў англа-ірландскай уніі 1801 г.

Торы (ад англ. tory) – члены палітычнай партыі ў Англіі ў XVII–XIX стст., якая выражала інтарэсы буйных землеўладальнікаў і вышэйшага духавенства і на аснове якой склалася партыя кансерватараў.

Тэны (ад англ. thegn) – служылая знаць, дружыннікі караля ў Англіі ранняга сярэднявечча.

## *Юрыдычная тэрміналогія*

Атарней (ад англ. attorney) – паверанны або прадстаўнік іншай асобы ў судзе англамоўных краін.

Афідэвіт (ад англ. affidavit) – пісьмовае паказанне пад прысягай у англасаксонскім праве.

Баратрыя (ад англ. barratry) – наўмысныя дзеянні капітана або каманды, каб прычыніць шкоду судну або грузу.

Барыстэр (ад англ. barrister) – званне адваката ў Англіі.

Бейліф (ад англ. bailiff) – памочнік шэрыфа ў англамоўных краінах.

Бутлегер (ад англ. bootlegger) – асоба, якая займаецца забароненым увозам і продажам спіртных напіткаў.

Гангстэр (ад англ. gangster, ад англ. gang – шайка) – член бандыцкай арганізацыі.

Гангстэрызм (ад англ. gangster) – бандытызм.

Капірайт (ад англ. copy-right) – аўтарскае права, прававая норма, якая рэгулюе ўзаемаадносіны, звязаныя са стварэннем і выкарыстаннем твораў літаратуры, навукі і мастацтва; для абароны выдавецкіх правоў публікацыя суправаджаецца спецыяльным знакам.

Кіднэпінг (ад англ. kidnapping) – выкраданне людзей (часцей дзяцей), каб атрымаць выкуп.

Коранер (ад англ. coroner) – судовы следчы ў Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах, які праводзіць расследаванне ў выпадках смерці, што здарылася пры нявысветленых абставінах або раптоўна.

Масакра (ад англ. massacre) – забойства, павальнае знішчэнне, бойня.

Місдымінар (ад англ. misdemeanor) – катэгорыя дробных крымінальных злачынстваў у англасаксонскім праве.

Рэкет (ад англ. racket, ад англ. rack – мучыць, катаваць) – буйны шантаж, вымагальніцтва шляхам пагроз і насілля.

Рэкецір (ад англ. racketeer) – злачынец, які займаецца рэкетам, шантажыст.

Салісітар (ад англ. solicitor) – 1. адвакат ніжэйшага рангу ў Англіі, які не мае права весці справы ў вышэйшых судах. 2. спецыяльная юрыдычная пасада пры ўрадах або дэпартаментах некаторых краін.

## *Філалагічная тэрміналогія*

Байранізм (ад англ. G.Byron – прозвішча англійскага паэта (1788 – 1824)) – літаратурная плынь пачатку XIX ст., якая ўзнікла пад уздзеяннем творчасці Дж.Байрана і характарызавалася рамантычным індывідуалізмам, расчараванасцю ў жыцці.

Бестселер (ад англ. bestseller) – ходкая, выдадзеная вялікім тыражом кніга на сенсацыйную тэму або ходкі тавар у шэрагу замежных краін, асабліва ў ЗША і Англіі.

Бэйсік-інгліш (ад англ. basic English – базавая англ. мова) – спрошчаная англ. мова, якая складваецца з 850 слоў, а таксама некалькі граматычных правіл (апрацавана англ. вучоным Ч.Орданам).

Валапюк (ад англ. world-speak) – штучная міжнародная мова, якую стварыў у 1978 г. Й.Шлеер.

Глайд (ад англ. glide) – слізганне, прамежкавы гук.

Дайджэст (ад англ. digest – кароткі выклад) – 1. выданне, якое змяшчае адаптаваны выклад мастацкага твора. 2. перыядычнае выданне, якое передрукоўвае (часта скарочана) матэрыялы з іншых выданняў. 3. скарочаны варыянт любой кнігі ў перыядычным друку.

Джэнтры (ад англ. gentry) – пашыранае ў еўрапейскай навуковай літаратуры абазначэнне кітайскага феадальнага саслоўя шэньшы.

Імажызм (ад англ. imagism, ад англ. image – вобраз) – дэкадэнцкая плынь у англ. і амер. паэзіі XX ст., якая імкнулася да перадачы суб'ектыўных уражанняў, штучнага аб'яднання метафар і вобразаў.

Імажынізм (ад англ. imagism, ад англ. image – вобраз) – дэкадэнцкая фармалістычная плынь у рускай і беларускай паэзіі 1920-х, якая сцвярджала вызваленне формы, вобраза ад зместу, ідэі.

Кластэр (ад англ. cluster) – паслядоўнасць, ланцужок моўных элементаў, напр. гукаў, часцін мовы.

Кокні (ад англ. cockney) – назва дыялекта, на якім гавораць прадстаўнікі ніжэйшых сацыяльных слаёў насельніцтва Лондана.

Комікс (ад англ. comics) – серыя малюнкаў з кароткімі суправаджальнымі тэкстамі, што ўтвараюць закончанае апавяданне.

Лекісты (ад англ. lake) – група англ. пісьменнікаў сентыментальна-рамантычнага кірунку, якая выступала супраць псеўдакласіцызму.

Памфлет (ад англ. pamphlet) – мастацка-публіцыстычны твор сатырычнага характару, накіраваны супраць якой-н. асобы, палітычнай з'явы, грамадскага ладу.

Піджын-інгліш (ад англ. Pidgeon-English) – гутарковая мова, якая атрымліваецца з кантактаў паміж еўрапейцамі і мясцовым насельніцтвам, асабліва ў Афрыцы і Азіі.

Скетч (ад англ. sketch – эскіз) – невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу.

Сленг (ад англ. slang – жаргон) – жаргонныя словы або выразы ў англ. вуснай мове, характэрныя для людзей пэўных прафесій, напр. маракоў, мастакоў і інш.

## *Горназдабыўная тэрміналогія*

Авершот (ад англ. overshot) – інструмент для захоплівання бурыльных труб, што засталіся ў свідравіне.

Бар (ад англ. bar) – рабочая частка машыны або горнага камбайна, якая ўгрызаецца ў пароду.

Віпер (ад англ. whipper, ад англ. whip – перакідаць) – прыстасаванне для перакульвання рудных ваганетак.

Дэкавілька (ад англ. Decauville – прозвішча англ. інжынера) – ваганетка, якая выкарыстоўваецца на пераноснай вузкакалейнай жалезнай дарозе ў горным і лясным промыслах.

Кросінг (ад англ. crossing) – вентыляцыйны праход у шахце для раздзялення перасякальных струменяў паветра.

Пакер (ад англ. packer – ушчыльняць) – прыстасаванне, якое спускаецца ў буравую свідравіну на трубах для размежавання пласта з пазатрубнай прасторай.

Сіл (ад англ. sill – парог) – пластападобны інтрузіў, які застыў у тоўшчы гарызантальна размешчаных горных парод.

Скіп (ад англ. skip) – самаразгрузачная скрыня для падымання сыпкіх грузаў, напр. карысных выкапняў з шахты.

Стопер (ад англ. stopper) – машына для бурэння свідравін, накіраваных уверх.

Стопінг (ад англ. stoping) – камера ў горных пародах, у якой абвальваюць з уступаў руду.

Турнадозер (ад англ. turn – змяненне напрамку + dozer) – машына для перасоўвання рэйкавых пуцей і лентачных канвеераў, якая выкарыстоўваецца ў кар’ерах.

Флатацыя (ад англ. flotation – плаванне) – метад абагачэння карысных выкапняў, заснаваны на ўсплыванні здробненых частак выкапня, у той час калі пустая парода асядае на дне абагачальнага прыстасавання.

Хопер (ад англ. hopper, ад англ. hop – скакаць) – самаразгружальны вагон з кузавам у выглядзе бункера для перавозкі вугалю, руды і іншых сыпкіх грузаў.

## *Філасофская тэрміналогія*

Беркліянства (ад англ. G.Berkeley – прозвішча англ. філосафа (1685 – 1753)) – разнавіднасць суб’ектыўнага ідэалізму, прадстаўнікі якога адмаўлялі існаванне матэрыяльнага свету і сцвярджалі, што рэчы ўяўляюць сабой толькі сукупнасць адчуванняў.

Віктарыянізм (ад англ. Victoria – імя англ. каралевы) – кірунак маралі, які заключаецца ў пурытанска-аскетычных адносінах да палавога жыцця, адмаўленні значэння пачуццёвасці ва ўзаемаадносінах мужчыны і жанчыны.

Гамлетызм (ад англ. Hamlet – імя персанажа трагедыі У.Шэкспіра «Гамлет») – бясконцыя разважанні, меркаванні, няздольнасць намерыцца на які-н. учынак.

Інвайранменталізм (ад англ. environmentalism) – кірунак геаграфічнага дэтэрмінізму, які адводзіць геаграфічнаму асяроддзю вырашальную ролю ў развіцці грамадства і грамадскай вытворчасці.

Інсайт (ад англ. insight – разуменне) – акт непасрэднага зразумення ў інтуівістычнай тэорыі пазнання.

Труізм (ад англ. truism) – агульнавядомая, збітая ісціна, банальнасць.

Эматывізм (ад англ. emotive) – этычная тэорыя лагічнага пазітывізму, якая сцвярджае, што маральныя суджэнні і паняцці не з’яўляюцца ні ісцінымі, ні лжывымі, а служаць толькі для выражэння эмоцый.

Энвіроніка (ад англ. environs) – комплекс навукова-тэхнічных ведаў пра ўплыў навакольнага асяроддзя на чалавека і абарону ад яго.

Юмізм (англ. D.Hume – прозвішча англ. філосафа) – суб’ектыўна ідэалістычнае вучэнне аб пачуццевым вопыце, прынцыпах агнястыцызму, створаная Д.Юмам і яго паслядоўнікамі.

## *Чыгуначная тэрміналогія*

Баласт (ад англ. ballast) – верхні слой чыгуначнага палатна з шчэбеню, гравію, які надае ўстойлівасць рэйкавай каляі.

Баластэр (ад англ. ballast) – машына для пакрыцця баластам чыгуначнага палатна.

Бленкер (ад англ. blinker, ад англ. blink – мігацець) – чыгуначны аўтаматычны сігнальны прыбор на камутатарах блакіровачных сістэм.

Вагон (ад англ. waggon – павозка) – транспартны сродак (самаходны або несамаходны) для перавозкі пасажыраў і грузаў па рэйкавых дарогах.

Дэкавілька (ад англ. F.Decauville – прозвішча англ. інжынера) – пераносная вузкакалейная жалезная дарога на промыслах.

Пульман (ад англ. G.Pulman – прозвішча англ. інжынера) – тып вялікага пасажырскага або таварнага вагона.

Стокер (ад англ. stoker) – механічны падавальнік вугалю з тэндэра ў топку паравознага катла.

Трансбордэр (ад англ. transborder) – прыстасаванне для перамяшчэння сродкаў рэйкавага транспарту з адной каляі на другую, паралельную ёй.

Тэндэр (ад англ. tender) – прычапная частка паравоза, дзе знаходзяцца запасы вугалю і вады.

# ЗМЕСТ

